## ЗМЕСТ



Мар'ян ДУКСА

# БУДЗЬ МІЛАСЭРНАЙ, ПУГА БОЛЮ!

* * *

Няма жаданага спакою.
Як часта — па спіне мароз…
Бо кожны дзень над галавою
вісіць дамоклаў меч нябёс.
Мільёны зыркіх іншасветаў
глядзяць пранізліва на нас.
Хвасты агністыя каметы
нам выстаўляюць напаказ.
Нясецца дзікі астэроід,
каб развярэдзіць страх людскі.
Дасюль ніводзін гуманоід
публічна не падаў рукі.
А знаўцы, знаўцы занябесся —
за што чапляюцца яны?
У іх ажно калода версій —
тасуюць версіі адны.
Ах ты, пранырлівасць людская…
Бяжы, мой люд, уверх, бяжы.
Нас Бог высока не пускае —
не лезе ў агарод чужы!

---

*__Дукса Мар'ян Мікалаевіч__ нарадзіўся 5 красавіка 1943 года на хутары каля вёскі Каракулічы Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Свірскае вучылішча механізацыі (1960), філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1969). Працаваў у калгасе, настаўнічаў у Сольскай сярэдняй школе на Смаргоншчыне.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Спатканне» (1967), «Станцыя» (1974), «Забытыя словы» (1979), «Твая пара сяўбы» (1985), «Заснежаныя ягады» (1989), «Горн прымірэння» (1993), «Прыйсці да алтара» (2003), «Птушка вечнасці — душа» (2015) і інш., кніг для дзяцей «Зялёны акварыум» (1980), «Світаюць сосны» (1987), «Працавітае сонца» (1994), «Нябесны карнавал» (1998), «Паэтычны каляндар» (2003).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1990).*

* * *

Майдан быў значна раней —
у часе імперыі Рымскай.
Кіпеў аж натоўп-ліхадзей
на плошчы Іерусалімскай.
Такое калісьці было —
нянавісць вірыла патопам,
калі стагалосае зло
вылазіла з нетраў натоўпу…
Натоўп, ты зусім не падрос.
Ты ёсць, як і быў самазваны,
калі непадсудны Хрыстос
быў крыкам тваім лінчаваны.
Іерусалім ці Парыж —
не ведаеш Божага страху,
ты некага цягнеш на крыж,
кідаеш нявінных на плаху.
Ці гэта французскі кароль,
ці цар з яго хворым Алёшам —
ты іх акунаеш у боль,
падкідваеш катам найгоршым.
Дарма спадзявацца на цуд —
што могуць твае небаракі?..
О, плошчаў затлумлены люд,
ты сейбіт усё-ткі ніякі.
Твой тупат, твой гул альбо грук —
усё гэта з д’яблам братанне.
А зерне, што кінеш на брук,—
хіба яно коласам стане?

* * *

Адкуль ён — парыў недарэчны?
Як можна ўвесь жах схаваць —
аўтамабіль сустрэчны
раптоўна пацалаваць.
І што засталося ад страху —
страх нават жыў у вайну, —
каб так з усяго размаху
сваю разбамбіць вясну?
Няўжо свет з душой ветрагона?
Няўжо гэткі час настае,
калі растарможаны гонар
спідометру волю дае?
З табой, чалавек асцярожны,
што сталася — кінуў Алах? —
нацягваеш пояс бязбожны,
трацілам заціснуўшы страх?

* * *

З пароды забойцаў рэдкіх,
настырныя, як шакалы,
гуляюць па нашых клетках
свабодныя радыкалы.
Не даючы тлумачэнняў
адносна прычын анікому,
прыносяць яны знішчэнне
нявіннаму целу людскому.
Вось робяць чорную справу —
няўжо ў іх натура такая?
Ды ёсць і на іх управа —
іх гібель таксама чакае.
Чаму ж, хоць занятак нячысты,
сябе пачуваюць трывала
унутраныя тэрарысты —
свабодныя радыкалы?

* * *

Куды ты гоніш, пуга болю,
нас падымаючы з канапы?
І выпрабоўваючы волю,
кіруеш зноў да Эскулапа.
Ах, як ты хрысціш, пуга болю,
шліфуеш кволае цярпенне.
І парушаеш мімаволі
наш сон дрымотнага сумлення.
Не пераходзь мяжы ніколі,
каб кожны табе быў удзячны…
Будзь міласэрнай, пуга болю —
не праганяй у свет нябачны.

* * *

Мінулае ў крыві людской не стыне,
яно не пераходзіць у дзірван.
І родны край наш — не пясок пустыні,
дзе выпадковы крочыў караван.
Багаты ён садамі і лясамі,
прыродай лапушыстаю сваёй.
І поўніцца былымі галасамі,
падстаў душу — і ажывуць у ёй.
Схапі, адчуй у цішы шматгалоссе
сваім чуллівым сэрцам немалым —
спяванне птушак, ціхі звон калосся,
якія нарадзіліся ў былым.
Калі ты ўсё ж былым зачараваны,
як продкаў скарб, яго ў душу прымі…
Наш родны край наўсцяж сasледаваны

і шчодрымі, і добрымі людзьмі.
Ах, колькі іх забытых, паўзабытых
паціхеньку сышло за небакрай.
Ах, колькі іх, людзей таленавітых,
за доўгі час пабачыў родны край!
Усіх сваіх ад Бога самародкаў
ці здольныя мы ўсё ж пералічыць?
У гонар іх, усіх вялікіх продкаў
хай жаўранка айчынны спеў гучыць.

* * *

Тут пагуляла бура ці хунта?
У небыццё праваліўся мой хутар.
Дзе мае яблыні, грушы, таполі?
Чыстае поле.
Ну і куды вось маглі праваліцца
вокны і лаўкі, сталы і паліцы?
І ад чаго гэта — думка не стукне —
высахла студня?
Як жа, ў які гэта ціхі закутак
мой пакаціўся родны падмурак?
Трызну над ім святкавалі ўрачыста
два трактарысты.
Так што, пакуль я вучыўся ў сталіцы,
хаты маёй перасохлі крыніцы.
Стаўлю на месцы разбураных печак
некалькі свечак.

* * *

Ніколі не хацеў я, быў не рад,
як піць занадта горкае лякарства,
гісторыя, заходзіць у твой спрат,
у цёмнае і скрушлівае царства.
Лістаць твае старонкі не любіў,
усведамляць твае былыя справы.
Бо попелам пыліцца твой архіў
і літары ўсе свецяцца крывава.
Грувасціцца папер і кніжак стос.
У іх за рух твой выстаўлена плата…
Калі б яшчэ не стрымліваў Хрыстос,—
якія б тут ляжалі экспанаты!
Які б тут задыхаўся страшны гад,
якая б панавала ўсюды скруха.
Адзін набат бяды, адзін набат
тут ловіць наша сённяшняе вуха.
Гісторыя, хавай свае куты,
твой досвед непрыемны і няўцешны.
Гісторыя, быць пеклам любіш ты,
таму што людству…
хочацца быць грэшным.



**Уладзімір САЛАМАХА**

# КАЛІ ЎПАДЗЕ АДЗІН...*

*Аповесць*

## Частка 2

### 1

Усім траім, Нікадзіму, Івану і Васілю, як ніколі ў жыцці было страшна і жудасна. Хацелася крычаць: «Мама, ратуй!..» Але не крычалася. Не хапала паветра, з грудзей вырываўся стогн. Ва ўсіх трох. Кожнаму з іх здавалася, яшчэ крок і павалішся на зямлю, больш ніколі не падымешся.

Але яны не падалі, трымаліся з апошніх сіл і ўсё далей і далей беглі па лесе ад чыгункі, адтуль, дзе нямецкія самалёты на досвітку разбамбілі эшалон.

Гэта быў іх эшалон. Ён вёз іх з такімі ж, як яны, сотнямі нававбранцаў некуды далей ад вайны, дзе хлопцы павінны былі нечаму навучыцца, каб потым увайсці ў яе сапраўднымі байцамі.

Васіль, Нікадзім і Іван не ведалі, як далёка адбегліся ад таго жахлівага месца за ракой, дзе палаў іх эшалон. Перад тым, калі ўбачылі полымя над вагонам, у якім ехалі, яго нечакана спыніла нейкая неймаверная сіла, падкінула ўверх, з грукатам апусціла на насып, затым з трэскам вырвала дашчатую бакавіну, выкінула хлопцаў на зямлю, і яны пакаціліся па доўгім пахілым адхоне, пакуль не спыніліся на роўным пад кустамі.

Як ляжалі на паліцах побач у вагоне, так побач і каціліся па зямлі.

Спыніліся, падхапіліся, агледзеліся. Рукі падрапаны, твары быццам не пашкоджаны, глянулі на насып, а там — жах… Над тым, што яшчэ нядаўна было эшалонам, клубамі коціцца полымя, над зямлёй сцелецца чорны дым, нешта трашчыць, скрыгоча, зверху чуюцца кулямётныя чэргі, з аглушальным шумам нізка-нізка праносяцца самалёты…

Здавалася, полымя, дым, кулямётныя чэргі і самалёты праз імгненне абрынуцца на іх, як нешта адно, маналітнае, і раструшчаць. Але, убачыўшы, што ламаючы кусты паўз іх бягуць у лес тыя, з кім ехалі, таксама кінуліся туды, шукаючы паратунку.

Нікадзім, Іван і Васіль, як былі разам да гэтага, так цяпер разам і беглі, баючыся згубіць адзін аднаго. Беглі, іх нехта абганяў, ад іх нехта адставаў, а ззаду яшчэ доўга чуліся стрэлы, крыкі, і, здавалася, полымя ўсё пячэ ў плечы, а над зямлёй, чапляючыся за дрэвы, плыў едкі дым, выядаў вочы.

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 5, 2017 г.

Чым далей беглі, тым слабей чуліся стрэлы, крыкі сціхлі, а неўзабаве знік дым, хаця, здавалася, у спіны па-ранейшаму пякло, быццам на хлопцах тлелі гімнасцёркі.

Беглі ўжо ўтрох. Іхнія таварышы недзе зніклі. Праз нейкі час навокал стала зусім ціха, але хлопцы не заўважалі гэтага. Яны яшчэ доўга абміналі дрэвы, кусты, пні, перабягалі сцежкі, праносіліся праз паляны, пакуль раптам не ўляцелі ў балота, дзе густы лазняк перагарадзіў ім шлях.

Ускочылі па калена ў ваду, пырскі акрапілі разгарачаныя твары, тады быццам ахалонелі: куды ж нясёмся…

Доўга стаялі сагнуўшыся, трымаючыся рукамі за жываты. Доўга цяжка дыхалі, ніхто не мог вымавіць слова, гулка тахкалі сэрцы, калола пад бакі, пот засціў вочы…

Калі хто перажыў такі жах як хлопцы: смерць была побач, але ты выслізнуў, першае, што прыходзіць у свядомасць — жывы… Гэта быццам выдыхаецца паволі і доўга, у скроні тахкае, яснее зрок, вяртаюцца навакольныя гукі, знікае страх, млявасць…

Так было з кожным з іх. І Нікадзім, і Іван, і Васіль, спыніўшыся, адчуўшы на тварах асвяжальныя пырскі вады, быццам абудзіліся ад жахлівага сну, з нейкай трывожлівай заспакойлівасцю зразумелі: жывыя, жывыя…

Пазіраючы адзін на аднаго, доўга моўчкі стаялі па калена ў вадзе. Адчуванне рэальнасці мацавалася: навокал спявалі птушкі, за лазняком даволі высока ў блакітным небе бачылася касматае сляпучае сонца, твань паціху засмоктвала ногі.

Васіль, нарэшце аддыхаўшыся, сагнуўся, зачэрпнуў прыгаршчы вады, спаласнуў твар, страсянуў галавой, прамовіў:

— Што ж мы нарабілі…

— А што? — спытаў Нікадзім.

— Што, што, самавольна збеглі ад эшалона.

— Дэзерціры? — сумеўся Іван.

— Адкуль я ведаю? Можа, і так.

Вось яно што!.. Зразумелі хлопцы, у якое становішча трапілі. З імі ж ехалі камандзіры, якім яны павінны былі ва ўсім падпарадкоўвацца і выконваць іхнія каманды. Калі ехалі, а ў дарозе былі двое сутак, дык падпарадкоўваліся свайму камандзіру, маладому лейтэнанту. На станцыях з вагона, звычайнай цяплушкі, не выходзілі. Па камандзе атрымлівалі паёк, па камандзе клаліся спаць, па камандзе падымаліся, праўда, толькі адзін раз, учора. Сёння ж каманды «Пад'ём!» не было, да яе наляцелі нямецкія самалёты. Але ж і не было каманды: «Бягом, далей ад эшалона!» Наогул не было ніякай каманды. Ды і свайго камандзіра, калі каціліся па адхоне да кустоў, а потым беглі па лесе, не бачылі. Можа, загінуў? Можа, таксама збег? Але ж былі і іншыя камандзіры, і нават быў камандзір эшалона. А што з імі?.. Толькі, што б ні было, а трэба вяртацца.

Але лёгка сказаць, вяртацца. А куды ісці? У які бок?

Нікадзім і Іван таксама спаласнулі твары рудой балотнай вадой, затым прагна выпілі яе па колькі прыгаршчаў, наталяючы смагу, з цяжкасцю выцягнулі ногі з твані, выйшлі на цупкае. Знялі боты, вылілі ваду, выкруцілі анучы, і Нікадзім, пачакаўшы пакуль гэтак зробіць Васіль, сказаў:

— Канешне, інакш і быць не можа. Трэба хутчэй вяртацца назад, бо сапраўды нас палічаць за дэзерціраў. А так — пабеглі спалохаўшыся… Дык жа ўсе беглі… А потым апомніліся і вярнуліся. Можа, камандзіры нават сварыцца не будуць.

Але перш чым вяртацца, трэба было вызначыць, дзе знаходзяцца. Вядома адно: далёка ад эшалона, доўга ж беглі. І яшчэ: ён ішоў на ўсход, сонца толькі ўставала, промні скоса прабіваліся ў вагон, гэта хлопцы бачылі, не спалі. А вось у якім яны цяпер кірунку ад чыгункі — на ўсходзе, на поўдні, або поўначы — невядома. Толькі дакладна вызначыўшы гэта, будзе зразумела, куды ісці.

І так, поезд ішоў на ўсход. Значыць, у тым кірунку ён і знаходзіцца, або тое, што ад яго засталося. Там іхнія таварышы і камандзіры, канешне, калі хто застаўся жывы. Туды, напэўна, вярнуліся і тыя, хто разам з імі ўцякаў у лес.

Цяпер сонца (яго, калі выйшлі з балота, не было бачна з-за густых елак), адчувалася амаль прама перад імі, хаця наўскос, злева. А мох на дрэвах быў з супрацьлеглага боку. Між ім і сонцам утвараўся вялікі, амаль прамы вугал. Поўнач там, дзе мох. Усё проста і зразумела, зараз недзе гадзін адзінаццаць раніцы, сонца блізіцца да зеніту. Атрымліваецца, калі стаць спінай на поўнач, ды трэба бегчы строга туды, куды паказвае левае плячо, гэта і будзе на ўсход, дзе застаўся іхні поезд.

Гэтай бясхітраснай навукай, як вызначыць у лесе месца свайго знаходжання, калі раптам заблудзішся, валодалі ўсе трое. Зрэшты, яны гэтаксама ведалі, як увогуле арыентавацца на любой мясцовасці, калі няма сонца. Праўда, днём, ноччу ж, нават зорнай — не.

Яны ведалі, як выжыць у лесе, на рацэ, у лузе, калі холадна, ідзе дождж, гуляе завіруха, або ўсё навокал гарыць. І нічога тут дзіўнага не было: вясковыя мужчыны спрадвеку вучаць гэтаму хлапчукоў і падлеткаў. Галоўнае — не панікаваць, засяродзіцца, выйсце знойдзецца з любой сітуацыі.

І яшчэ многа чаму вучылі іх бацькі і аднавяскоўцы, а вось таму, што трэба рабіць, калі трапіш пад бамбёжку, ды пад кулямётны агонь — ніхто не вучыў, хаця некаторыя гуднянскія і забродзенскія мужчыны ўжо ваявалі. Хто ваяваў у так званую імперыялістычную, як казалі «з немцам», хто прайшоў грамадзянскую, а хто нават панюхаў пораху і на фінскай.

Не вучылі, бо ніхто не думаў, што будзе *гэтая.* А калі і думаў, дык даўно было зразумела: мы ворага закідаем шапкамі… І так, калі арыентавацца па сонцы, ды ўявіць, колькі хлопцы маглі прабегчы, пакуль яно ўзыходзіла, атрымлівалася, што да эшалона кіламетраў дзесяць, не менш.

— Ну і драпака мы далі, — роспачна сказаў Васіль, паглядаючы ў прасветліну паміж вяршынямі дрэў.

«Драпака» азначала, што спалохаліся і беглі куды вочы глядзяць. Звычайна гэтае слова ўжывалі ў Гудзе і Заброддзі, калі з-за чаго-небудзь між сабой біліся хлопцы, і раптам нехта не вытрымаў, збаяўся і ўцёк.

Нікадзім і Іван згадзіліся з ім: што яны маглі сказаць у сваё і ў яго апраўданне…

Паступова неяк атрымалася, што Васіль Кечык станавіўся як бы галоўным у іх невялікай групе. А калі так, то ён гэтым самым браў на сябе адказнасць за іх, хлопцаў з суседняй вёскі, з якімі разам ішоў на вайну.

Васіля Нікадзім і Іван ведалі даўно. Падлеткамі пачалі хадзіць гуляць у Заброддзе, вялікую суседнюю вёску за ракой. Да яе з Гуды, калі праз Дубасну, праз лугі, усяго вярсты чатыры. Калі ж плысці на лодцы па рацэ, то будзе кіламетраў восем. У Заброддзі быў сельсавет. Туды правялі электрычнасць. У вёску з райцэнтра нават прывозілі кінаперасоўку, і Нікадзім з Іванам хадзілі туды часта. Там сустракаліся з Васілём, з іншымі забродзенскімі хлопцамі, а з ім нават сябравалі. Яго бацька Лявонцій Кірэевіч Кечык і іхні Яўхім Міхайлавіч Баравец, сталася так, зналіся яшчэ з маладосці. Таму няма нічога дзіўнага, што лад быў і між іхнімі сынамі.

А ўвогуле, Васіля апошнім часам вельмі паважалі і забродзенскія хлопцы, так бы мовіць, свае, і гуднянскія, з суседняй вёскі. Яшчэ б! Калгас накіраваў яго на курсы трактарыстаў, адзінага з усёй акругі. Васіль скончыў іх, вярнуўся ў Заброддзе з трактарам, дакладней, прыехаў на колавым трактары: першы хлопец на вёсцы…

Паважалі яго не толькі за гэта. Паважалі яшчэ і за тое, што ён цяпер, як і раней, носу не задзіраў, з усімі быў просты, катаў на «жалезным кані» хлопцаў і дзяўчат, і нават старых.

Васіль часта даваў пакруціць руль трактара Нікадзіму і Івану, навучыў іх не толькі ездзіць, а нават араць. Словам, ашчаслівіў хлопцаў. І калі ў ваенкамаце спыталі, хто ўмее ездзіць на трактары, назваліся Нікадзім і Іван, сказалі, што ўмеюць, хоць дакументаў на гэта ў іх няма. Хлопцаў паставілі ў адзін строй з Васілём і іншымі трактарыстамі, павезлі на ўсход. Казалі, быццам падвучыць на танкістаў.

І вось сталася так, што яны і ў войску, і не ў войску, на вайне і не на вайне.

— А раптам поезд паехаў, ды без нас? — сказаў Іван, калі абуліся, і, накруціўшы на ногі вільготныя анучы, наважыліся бегчы назад. — Што тады будзе?

— Наўрад ці ён паедзе, — мовіў Васіль. — Яго ж, напэўна, ушчэнт разбіла. Ды і чыгунка разбурана. Але як бы ні было, трэба хутчэй вяртацца, пакуль яшчэ не позна.…

Чаму «пакуль не позна» Васіль не сказаў. Хаця і так цяпер, супакоіўшыся, ўсе разумелі, чаму: камандзіры могуць падумаць, што яны дэзерціры. А калі вернуцца, дык якія дэзерціры? Было, проста збаяліся…

— Наперад! — скамандаваў Васіль, павярнуўся налева і пабег не на сонца, якое ўсё хутчэй і хутчэй заслізгала справа між вяршынь елак, а туды, дзе па іх меркаванні быў усход, дзе застаўся эшалон.

Хлопцы прабеглі невядома колькі, як у небе з захаду, ён быў ззаду, пачуўся цяжкі, агідны, прыглушаны гул. Ён нарастаў, набліжаўся. І вось ўжо, здавалася, ускалыхнуў вяршыні дрэў, голле, у якім, нібы ў сетцы, затрапятала касматае сонца. І хоць раней хлопцы ніколі не чулі такога гулу, зразумелі: самалёты. І ляцяць яны, напэўна, туды, дзе іхні эшалон. Хаця, можа, і не да яго, а да моста праз раку, які пераехалі незадоўга да бамбёжкі.

І вось самалёты, ледзь не зразаючы крыламі вяршыні дрэў (у страху вочы вялікія, і новы прыліў страху авалодаў хлопцамі), аглушаючы іх, праслізнулі над лесам.

Хлопцы ўпалі на зямлю, Васіль нават не паспеў даць каманду, і пакуль ляжалі, самалёты недзе недалёка развярнуліся, ляцелі назад.

Лежачы на паляне, нават не паспеўшы здагадацца, што трэба схавацца ў гушчар, убачылі, што цяпер самалёты ляцелі ўжо высока. І раптам ад іх пачалі сыпацца нейкія чорныя кропкі, над якімі амаль адразу ж успыхвалі белыя купалы.

— Парашутысты, — прашаптаў Васіль. — Мабыць, кідаюць на мост, хочуць яго захапіць цэлым.

— Эх, падабрацца б туды, ды рвануць яго! — сказаў Іван.

— Ага, рвануць… Чым? — спытаў Нікадзім. — Глядзі, тут можна трапіць у лапы ворагу. У нас нават няма ніякага пугача, не тое, што чым рвануць. Што ж рабіць?..

— Трэба ўсё ж ісці да эшалона, — прагаварыў Васіль. — Там будзе бачна. Ад моста да эшалона, можа, кіламетр, а то і больш. Тут, галоўнае, не натрапіць на дысант.

— А мы асцярожна, — сказаў Васіль. — Можа, там хлопцы ўжо рыхтуюцца да бою. Ва ўсялякім разе, у камандзіраў былі пісталеты.

Наіўны дзівак, зрэшты, як і Ваня з Нікадзімам. Ён бачыў у кіно, як чырвонаармейцы смела абясшкоджвалі ворага на граніцы, як няшчадна білі белых у грамадзянскую вайну. Бачыў, што вораг заўсёды калі не зусім дурны, дык камічны, а чырвонаармейцы смелыя і кемлівыя. Верыў, што так і ёсць. І хаця нацярпеўся страху, уцякаючы ад эшалона, які разбамбілі немцы, так-сяк супакоіўшыся, не жадаючы прызнацца сабе ў тым, што баяўся, раптам асмялеў.

— Ды нашы там ужо ваююць, б'юць гадаў, — чаканячы кожнае слова прагаварыў Нікадзім. — Трэба ісці, нельга марудзіць ні хвіліны.

Нікадзім, старэйшы на год за Івана, здаецца, быў больш рашучы. Ён заўсёды выказваў свае меркаванні хутка, не задумваючыся над тым, правільныя яны, або не: уявіў, значыць, так і павінна быць, і хто табе можа запярэчыць.

Не запярэчылі, вядома, б'юць…

Хлопцы зноў рушылі на ўсход. Толькі ўжо не беглі, як раней, а ішлі даволі хутка, уважліва паглядаючы па баках, асцерагаючыся засады.

Апрануты яны былі ў чырвонаармейскую форму. Яе ім выдалі перад тым. як пасадзіць у эшалон. Прысягу хлопцы яшчэ не паспелі прыняць, так што байцы і — не байцы. Але тым не менш яны лічылі сябе чырвонаармейцамі з той хвіліны, калі яшчэ ў райцэнтры апранулі вайсковую форму. Так што — воіны!.. І цяпер гэтыя «байцы» зноў, як і раніцой, калі ўцякалі ад палаючага эшалона, былі напалоханыя і разгубленыя. Яшчэ б: адрэзаныя ад сваіх, без камандзіраў, не падрыхтаваныя да вайны, наогул да сутычкі з ворагам, яны ў любую мінуту маглі натрапіць на ўзброенага і спрактыкаванага ў ваеннай справе праціўніка. Дык, што тады? Здавацца ў палон? Іншага ж выйсця ў іх няма: інакш застрэляць, і ніхто не будзе ведаць, дзе.

Бравада, маўляў, была б у нас зброя, далі б бой парашутыстам, вядома ж, была ўяўнай і пустой. Словам, адны і ёсць адны… Так што — да сваіх, туды, дзе разбамбілі іхні эшалон.

І яны рухаліся на ўсход, арыентуючыся па сонцы. Дзень быў ясны, сонца не знікала ні на хвіліну. Калі ішлі або беглі па густым лесе, яно яркай расплывістай плямай слізгала ў вершалінах дрэў. Калі ж траплялі на паляну, то было добра бачна — асляпляла так, як і павінна асляпляць летняе дзённае сонца: на імгненне глянеш на яго, і зажмурышся…

Невядома колькі прайшлі і прабеглі, як раптам наперадзе пачулі сухія гучныя стрэлы. Адразу ж пападалі на зямлю. Доўга ляжалі, баючыся паварушыцца: страляюць па нас?..

Аказалася, што стралялі не па хлопцах, бо ніхто да іх не набліжаўся, ніхто не падаваў ніякіх каманд.

— Там, мабыць, наш поезд, — Васіль нарэшце прыўзняў галаву і паказаў рукой наперад. — Дымам пахне.

Ён пацягнуў носам раз, другі, мабыць, каб пераканацца, што не памыліўся.

Прынюхаліся і Нікадзім з Іванам. Сапраўды, вецер даносіў сюды пах дыму і гары.

Васіль асцярожна падняўся, стаў за дрэвам, паглядзеў наперад, па баках, назад.

— Нікога няма, — ціха сказаў ён. — Ну што, пойдзем?

Усталі і Нікадзім з Іванам.

— Пойдзем, — прамовіў Іван. — Набегаліся.

Хлопцы прайшлі, можа, з паўкіламетра, як выйшлі з лесу ў невялікі сасоннік, што ўзбягаў на ладны пагорак, парослы высокай травой. Толькі пры-

гнуліся, як зноў пачуліся частыя, чэргамі, стрэлы, але ўжо зусім блізка — за пагоркам.

Зноў упалі на зямлю і стаіліся. Зразумелі, што стралялі не па іх.

— Мабыць, нашы ловяць парашутыстаў, — сказаў Васіль. — І страляюць не інакш, як з аўтаматаў.

— Канешне, нашы, — сказаў Нікадзім. — Пакуль немцы спускаліся на парашутах, нашы сачылі за імі. Немцы — гоп на зямлю, а нашы іх тут жа цёпленькіх: «Рукі ўгору!»

— А хто не здаўся, або дзе спусціўся далей, таго зараз і ліквідуюць, — мовіў Іван, і дадаў: — Трэба быць вельмі пільнымі, можа, які немец уцёк, дык мы яго павінны скруціць, ды прывалачы да нашых.

— Вядома, — згадзіўся з ім Васіль. — Калі што, не ўпусцім. Галоўнае — знянацку напасці, адабраць зброю. І браць толькі жы…

Ён раптам нібы спатыкнуўся, асекся, мабыць, хацеў аддаць каманду браць ворага жывым, упаў у траву. За ім, яшчэ нічога не разумеючы, паваліліся Ваня і Нікадзім.

— Немцы, — нарэшце прашаптаў Васіль, хуценька адпаўзаючы назад.— Там, наперадзе, каля моста.

Здаецца, хлопцаў не заўважылі. Затаіўшыся, яны нейкі час ляжалі моўчкі, не ведаючы, што рабіць. Потым Іван, прыклаўшы палец да вуснаў, асцярожна папоўз наперад, на вяршыню пагорка. За ім — Нікадзім і Васіль.

Зноў было вельмі страшна. Здавалася, што за кожным кустом наперадзе цябе чакае немец. Здавалася, яшчэ крыху, і грымне стрэл…

Але хлопцы не спыняліся, паўзлі і паўзлі. Тым самым яны паступова перамагалі страх, што цяпер для кожнага з іх было вельмі важна: станавіліся байцамі, хоць яшчэ не разумелі гэтага.

Дапоўзшы да вяршыні пагорка, спыніліся за малліннікам. Асцярожна рассунуўшы яго, скаланудіся: перад імі быў не эшалон, а мост праз Дубасну. Доўгі, металічны, на чатырох бетонных апорах, ён быў бачны, як на далоні: чатыры немцы, узброеныя аўтаматамі, хадзілі па ім.

Немцы былі і каля моста, на насыпе. Многа немцаў…

І ўсё гэта бачылася праз лёгкі празрысты туман. Чаму ён узняўся такою яшчэ не вечаровай парой, незразумела. Хаця, можа, туман уяўляўся, яго не было?.. Як сказаць…

Да моста было метраў трыста, можа, крыху больш. Паспрабуй дакладна вызначыць, калі сэрца калоціцца, а дыханне частае-частае і гарачае, і нейкая невядамая сіла ўціскае цябе ў зямлю. Ды так, што не падняцца, не адпаўзці. Зноў страшна… Але ўжо не так. Страх, калі разумееш, што баішся, іншы. А калі разумееш гэта, то адчуваеш, што можаш саўладаць з ім. І няхай туманіцца зрок, няхай не хапае паветра, але ўсё адно ты можаш разважліва дзейнічаць.

Паступова кожны з іх вяртаўся ў нармальны стан, але і гэтага было дастаткова, каб кантраляваць сябе, бачыць побач з сабой іншых, разумець іх, прадбачваць тое, што яны будуць рабіць далей. Калі ты ў такім стане, то шанец выжыць нават у самай складанай сітуацыі ёсць…

Паступова туман рассейваўся (а можа, гэта туманіўся зрок, і ніякага туману не было?). І вось ужо акрамя ракі, моста, фігурак немцаў на ім, хлопцы заўважылі на насыпе вялікі натоўп людзей, якіх акружылі аўтаматчыкі. Палонныя…

Напэўна, гэта іхнія, Васіля, Нікадзіма і Івана таварышы па эшалоне: яго ж разбамбілі неўзабаве пасля таго, як пераехалі мост… Значыць, і яны, браты Бараўцы, і іхні сябра Васіль Кечык, калі б не забеглі так далёка ў лес, былі б тут.

— Нашы, — прашаптаў Васіль і ад здзіўлення неабачліва прыўзняўся.

— Ага, — адказаў Іван, таксама прыўзнімаючыся.

— Эх, было б чым пальнуць па немцах, — роспачна прагаварыў Нікадзім, паглядаючы наперад.

Раптам ад ахоўнікаў аддзяліўся аўтаматчык, кінуўся праз насып сюды, да пагорка, на якім былі Васіль, Нікадзім і Іван, прабег колькі крокаў, спыніўся, наставіў на іх зброю і выпусціў доўгую чаргу.

І адразу ж побач з імі ў некалькіх месцах кулі ўпіліся ў зямлю.

— Лажыся! — закрычаў Васіль, і першым упаў на зямлю. Праз імгненне ён, уцягваючы галаву ў плечы, закрываючы яе рукамі, заўважыўшы, што Нікадзім і Іван таксама ляжаць у малінніку, дадаў: — Адпаўзаем! Паднімаемся, бяжым у лес у тым кірунку, адкуль прыбеглі! Бяжым і бачым адзін аднаго.

Хлопцы таропка адпаўзлі на некалькі метраў ад пагорка, які закрываў іх ад немцаў, узняліся і, не губляючы адзін аднаго з поля зроку, кінуліся да сасонніку, а мінуўшы яго — у гушчар лесу.

Стрэлы ззаду чуліся яшчэ доўга, і доўга па лесе кацілася сухое рэха.

## 2

Недзе праз тыдзень хлопцы зразумелі, што да родных вёсак ім зусім не далёка…

А тады, уцякаючы ад немцаў, якіх наогул бачылі ўпершыню, беглі і разумелі, што вораг зусім не такі, якім яны яго ўяўлялі. Не, ён не дурны. Ён не будзе стаяць і чакаць, пакуль яго закідаюць шапкамі такія, як Васіль, Нікадзім і Іван, або іхнія таварышы па эшалоне, што трапілі ў палон. Ён прыйшоў сюды гаспадарыць і забіваць. І, можа, не доўга будзе цырымоніцца з іхнімі таварышамі: навошта яму палонныя ў тыле. І тое, што хлопцам удалося ўцячы, не трапіць у палон, у кожнага з іх пакідала дваякае пачуццё.

Першае: пашанцавала… Другое: што скажам сваім, калі прыйдзем да іх…

Скажам, што збеглі ад эшалона, калі яго разбамбілі нямецкія самалёты?.. Адразу ж спытаюць: «Каманда ўцякаць была?»

Вядома, такой каманды ніхто не даваў. Але ж уцякалі не адны яны, многа хто бег куды вочы глядзяць, толькі б не загінуць.

Многія?.. Панікёры! З-за вас, з-за вашай баязлівасці столькі людзей трапіла ў палон. Па законе ваеннага часу…

Што можа быць з кожным адпаведна з гэтым паняццем хлопцы ведалі. У першы ж дзень, калі апранулі вайсковую форму, камандзір, маладзенькі лейтэнанцік, пастроіўшы іх каля эшалона, ратлумачыў тое-сёе з таго, як трэба паводзіць сябе ў падобных сітуацыях. І пра паніку ў баі гаварыў, і пра дэзерцірства, і пра самавольства. А таксама — пра адказнасць за ўсё гэта.

Вось толькі тады, калі ўцякалі ад ахопленага полымем эшалона, пра гэта забыліся. Ды наогул тады ні аб чым не думалі, акрамя аднаго: як ўратавацца. Хаця, можа, і пра гэта не думалі: страх гнаў...

Цяпер жа, калі ўцякалі ад немцаў, якія па іх стралялі, беглі ўжо ўсведамляючы, што трапілі ў іншую складаную сітуацыю, але і ў ёй могуць кантраляваць сябе. Разумелі, што ўратуюцца: пагорак закрые ад куль, лес схавае ад ворага, і той наўрад ці асмеліцца бегчы следам.

Таксама разумелі, што трэба трымацца адзін аднаго, бо калі раптам што з кім здарыцца, астатнія ў бядзе не пакінуць.

Праз нейкі час спыніліся ў гушчары. Стрэлаў ужо не было чуваць. І страху асаблівага не было. Аддыхаўшыся, вырашылі дачакацца надвячорка, затым пайсці да ракі. Але не да моста, а пад вуглом між захадам і поўначчу. Такім чынам, як меркавалі, выйдуць да яе справа ўжо далёка ад моста. Потым, пакуль зусім не сцямнее, пакуль будзе хоць крыху бачна стужка ракі — зорнай ноччу яна быццам свецiцца, краем лесу скіруюцца супраць цячэння дадому: Дубасна ж працякае каля іхніх вёсак. Пакуль іншага выйсця са свайго становішча яны не бачылі…

## 3

Амаль тыдзень, трымаючыся Дубасны, хлопцы ішлі туды, дзе жылі іхнія бацькі. Нікадзім і Іван — у Гуду, Васіль — у Заброддзе.

Ім пакуль шанцавала, немцаў нідзе не бачылі. Рака цякла сярод лясоў, найбольш па забалочаным. Месцамі трапляліся сенажаці і палі. Каля іх, далей ад ракі, бачыліся вёсачкі. Калі прыслухацца, можна было пачуць, як брэшуць сабакі, кукарэкаюць пеўні, стукаюць сякеры. Чалавечыя галасы да хлопцаў не далятали, а вось час ад часу было чутна, як недзе, хаця і вельмі далёка за ракой, за тым яе берагам, цяжка грукочаць эшалоны. Сумненняў не было: канешне ж нямецкія.

У вёскі не заходзілі, баяліся натрапіць на ворага. А што ён тут можа быць, ніхто не сумняваўся. Па-першае, тыя ж эшалоны, што недзе далёка за ракой ідуць па чыгунцы на ўсход сведчаць пра гэта. Па-другое, па некалькі разоў за дзень з захаду на ўсход высока ў небе ляцелі нямецкія самалёты, а вярталіся гадзіны праз дзве-тры. Значыць, бамбілі недзе далёка. Ляцела туды іх шмат, часам нават цяжка было злічыць, і назад, здаецца, вярталася столькі ж. Словам, было зразумела, што на гэтай зямлі гаспадарыць вораг.

Ночы былі цёплыя, дажджы не пракідаліся. Калі ішлі па высокім, пад нагамі патрэсквалі галінкі. Начавалі далей ад вады. Ноччу з ракі цягнецца волкі туман, сырасць. На высокім лажыліся пад які вываранень, падаслаўшы пад сябе яловыя лапкі, а паверх іх накідвалі бярозавае голле. Укрывацца не трэба, калі знізу не цягне. Спалі апранутыя. Агонь раскладвалі рэдка, Васіль курыў, у яго былі запалкі. Курыў раней. Апошнюю самакрутку выкурыў яшчэ ў эшалоне вечарам перад адбоем. А раніцой у вагоне застаўся рэчмяшок з капшуком з тытунём, запалкі ж былі ў кішэні штаноў.

Раскладвалі цяпло вечарам. Перад гэтым у затоках даставалі з нор рыбу, затым смажылі на ралцах. Рыбай і харчаваліся. Таксама елі суніцы і яшчэ не зусім спелыя чарніцы. Хацелася як хутчэй дабрацца дадому, каб уволю пад'есці, адпачыць, а потым ужо думаць, што рабіць далей.

Сапраўды, што?.. Дзе знаходзяцца нашы, было невядома. Ды і дзе немцы — таксама. Можа, яны і ў Гудзе, і ў Заброддзі. Як тады быць?.. Адказу на гэтае пытанне не было. Ніхто не ведаў, што чакае іх наперадзе.

Ці не на шосты дзень свайго паходу пад вечар хлопцы набрылі на затравелую сцежку, што выходзіла з лесу да ракі.

Бераг тут быў цупкі, невысокі. Вада амаль кранала вузкі, калёсам развярнуцца, лужок, але даўгаваты, метраў сто. На лужку пры вадзе, уздоўж берага заўважылі масток. Шырокі, у тры доўгія плашкі, з яго добра закідваць вуду. Крыху воддаль ад мастка, бліжэй да лесу — абнесенае каменнем кастрышча. Чорнае, добра выгаралае, з патухлым вуголлем і галавешкамі. Над ім — тоўстыя, глыбока ўвагнаныя ў зямлю дзве рагаціны, на якіх ляжаў жалезны прут.

Крыху воддаль, ужо пры самым лесе — будан. Счарнелы, з прасеўшымі бакамі, адразу бачна, што мінулагодні. Будан быў вялікі, чалавекі на чатыры.

— Дык гэта ж Дарашкевічава Стража, — здзіўлена сказаў Васіль, аглядаючы бераг. — Мы з бацькам тут неяк былі. Нам трэба была ліпа. Лазню новую рабілі. Якая ж лазня, калі паліцы і лаўкі не з ліпы? У нашых лясах ліпы няма, а ў Дарашкевіча яе шмат. Цэлы гай каля яго сядзібы. Не ведаю, ці сам вырас, ці ён некалі пасадзіў. І борцей у старога было шмат. Адсюль да Стражы, можа, з гадзіну хады.

— А да Гуды? — спытаў Іван.

— Да Гуды? — перапытаў Васіль. — Ракой супраць цячэння, можа, дзеньпаўтара. Па дарозе ад сядзібы, калі подбегам — з паўдня. А вы што, ніколі не былі тут?

— Не, — адказаў за сябе і за Івана Нікадзім. — Раней, да вайны, не былі. Нам зручней было хадзіць у раён тым шляхам, што ад нас да шашы, чым гэтым. Каля сядзібы былі толькі тады, калі ішлі на вайну. Бачылі хату, пабудовы, але асабліва на іх не засяроджваліся. А ў ваенкамат гэтай дарогай пайшлі, бо старыя раілі. Помню, казалі, што на вайну трэба ісці ўсім разам, і нам, гуднянцам, і вам, забродзенцам. І вось чаму: як не параскідае вайна, але ўсё адно зямляк з земляком будзе. Так лягчэй.

— Можа, пераначуем у будане? — прапанаваў Іван.

— Не, — сказаў Васіль. — Лепш зайсці на сядзібу. Напэўна, дзядзька Дарашкевіч успомніць мяне. Думаю, гаспадары пакормяць. Ды і крыху адпачнём, далей ісці сілы няма.

Тое, што абяссілілі, было праўдай. І маладыя, ды здаровыя, прайшоўшы столькі, сілы патрацяць нямала. Ды і пастаянная нервовая напруга вымотвае.

Іван прапаноўваў пераначаваць тут не толькі дзеля таго, каб сёння не ісці далей. Чым бліжэй былі да вёскі, тым больш хваляваўся: што скажа бацька? Можа, нават на парог не пусціць: «Людзі на вайну пайшлі, а сыны Яўхіма Бараўца дадому прыбеглі!»

Вельмі хацелася дадому, і разам з тым было боязна. Хай, з бацькам з часам можна будзе паразумецца. А людзям што скажаш? Будзеш ад іх хавацца ў запечку? Да якога часу? Пакуль нашы прыйдуць? А тады што?.. Ды і іншае палохала: у вёсцы могуць быць немцы. Прыйшоў, ды адразу ў палон?..

Неяк не па-людску ўсё гэта. І калі Васіль прапанаваў ісці на сядзібу, Іван узрадаваўся: пераначуем, а там будзе бачна.

Нікадзім таксама згадзіўся з Васілём. Да вёскі яшчэ далёка. Сапраўды выбіліся з сіл. Згаладаліся. Чаму б крыху не адпачыць… А тады трэба вырашаць, што рабіць далей.

— Стары Дарашкевіч нейкі дзіўнаваты, — казаў Васіль. — Бацьку майго добра ведае, але чамусьці абыходзіў яго. Абое ж леснікі. Ліпы даў, не адмовіў. Помню, яны тады вось тут, каля будана, нават па чарцы ўзялі. Калі бацька дастаў бутэльку, той выняў з кішэні сваю маленькую чарку. З яе і піў.

— Можа, стараабрадзец, — сказаў Нікадзім. — Мы ж для іх паганцы. Яны з намі з аднаго посуду не п'юць і не ядзяць. Вера ў іх такая.

— Не, ніякі не стараабрадзец. Бацька казаў, што Дарашкевіч, як і ён, партыйны. У раёне на партсходах сустракаліся. Амаль землякі, але і туды ехалі кожны на сваіх калёсах, і назад.

— Дык, можа, не прывеціць нас? — спытаў Іван.

— І такое можа быць. Але пойдзем. З неядзі падаем, — мовіў Васіль, і дадаў: — Хай не прывеціць, але даведаемся, ці ёсць паблізу немцы. А то ідзём дадому і нічога не ведаем.

Пачынала вечарэць. Сонца зайшло за той бераг. На захад. Здавалася, спынілася там над лесам, густым і ўжо цемнаватым знізу, ад зямлі. Промні скоса слізгалі над вяршынямі дрэў, асвятлялі левы бераг, дзе на затравелай сцежцы каля лесу стаялі хлопцы.

Над рачной плынню, перасыпанай жоўтымі бліскаўкамі, пачынаў уздымацца лёгкі, яшчэ празрысты шызы туман. Ён ляніва поўз на бераг, чапляўся за лазняк, высокую траву, скочваўся назад, апускаўся на ваду, пагойдваўся на ёй, згушчаўся.

Птушкі яшчэ спявалі, недзе стукаў дзяцел, каля берага пачынала гуляць рыба, на стрыжні разы са два гучна бухнуў жэрах: так, глушачы здабычу, б'е толькі ён, быццам дошкай, плашмя.

Малюнак быў зусім не ваеннага часу, а таго, мірнага, калі чалавеку на прыродзе ні пра што кепскае не думаецца: як жа хараша жыць…

…Праз нейкі час хлопцы падышлі да сядзібы. Спыніліся на ўскраіне лесу. Трэба было паглядзець, ці ёсць хто на падворку. А раптам там немцы…

Стаіліся за прыдарожным кустоўем. Да падворка было метраў пяцьдзясят. Абнесены счарнелым ад часу высокім частаколам, вароты ад дарогі з таго боку сядзібы, што ішла з Заброддзя ў горад, былі шырока адчынены. Ля варот стаяла вялікая сабачая будка, няйнакш для ваўкадава. Але сабакі не было бачна, брэху не чутна. Васіль ціха сказаў: «Мабыць, дзе з гаспадаром у лесе, гэта добра, а так нарабіў бы шуму на ўсю акругу».

Уважліва разглядалі сядзібу. Ладная старая хата. Сенцы выходзяць на падворак. Дзверы ў сенцы адчынены, але што там — не відаць. У праёме цёмна. Ганак невысокі. На ім стаяць кошык, вялізны чыгун, вядро. Недалёка ад ганка, бліжэй да дарогі — калодзеж, журавель высокі, мабыць, вада глыбока. Насупраць ганка кроках у дзесяці — хлеў, доўгі, крыты цёсам, з двума варотамі. І адны, і другія дзверы адчынены. На падвору каля хлява, каля карыта, рохкае двое ладных свінчакоў. Ля іх з вядром завіхаецца старая, відаць, прынесла поліўкі. На двары — ніякіх калёс, ні машыны ці матацыкла.

Зразумелі, што немцаў там няма.

— Ну што, падыдзем? — сказаў Васіль.

Нікадзім і Іван моўчкі кіўнулі: давай...

Каб увайсці на падворак, трэба было адчыніць вароты, з якіх і пачыналася дарога з сядзібы да ракі.

Вароты былі з жэрдак, доўгія, праехаць возам з сенам. Трымаліся яны на дзвюх вялікіх каваных петлях, прыладжаных да шула. З другога боку на жэрдку і на другое шула была накінута сырыца. Знялі яе, асцярожна пацягнулі на сябе вароты. Яны працяжна зарыпелі: дзіўна, што ў такога гаспадара, ды не змазаны.

Старая выпусціла пустое вядро, яно бразнулася аб зямлю, павярнулася да варот, прыставіла казырком руку над вачамі: вечаровае сонца біла ёй у вочы.

Хлопцы нерашуча зайшлі на падворак, зрабілі некалькі крокаў, спыніліся, чакаючы, што будзе далей.

— Чаго ж сталі, дзеткі? — сказала старая і апусціла руку. — Калі ўвайшлі, дык ідзіце далей. Не бойцеся. Нікога старонняга тут няма. Ні тых, ні гэтых. (Не сказала каго). А я гляджу, думаю, можа, мае сыночкі ідуць. Ажно не. Іх у мяне таксама трое, таму і падумала, што яны. Здалёку, дзеткі, куды?

— Здалёку, маці, — сказаў Васіль і роспачна махнуў рукой на ўсход: — Адтуль. — Памаўчаў, быццам раздумваючы, ці казаць канкрэтна куды ідуць, потам паказаў на захад: — Туды… Кажаце, каб заходзілі.

— А чаму ж не? — шчыра здзівілася старая. — Мабыць, здарожыліся. (Паглядзела на іхнюю брудную вопратку).

— Крыху ёсць, — сумеўся Васіль. Сумеліся і Нікадзім з Іванам.

— Адпачніце. Можа, зараз і мае хлопцы вось так да некага прыбіліся. Яны з пачатку вайны туды пайшлі. (Паказала рукой на ўсход). А што цяпер з імі — адзін Бог ведае. Толькі… толькі і немец ужо туды пайшоў. А вы заходзьце. І пакармлю, ёсць пакуль у мяне чым, і вады папіце. Ды, кажу, пераначуйце, калі далёка ісці, у мяне тут ціха, адна я. А там…

Змоўкла, не дагаварыла. Што яна мела на ўвазе, сказаўшы пра сыноў, ды «а там…», хлопцы не задумаліся: хацелася есці, адпачыць. Да ўсяго бачылі, што немцаў тут няма, і нават калі раптам яны будуць ехаць, дык здалёк пачуюць. Уцячы тут прасцей простага: кругом лес, яшчэ які. Ды і неўзабаве насунуцца прыцемкі. Вунь сонца ўжо нябачна, хаця промні яшчэ слізгаюць па вяршынях дрэў, што за дарогай з Заброддзя ў горад.

— Кажаце, адна, — сказаў Васіль. — А гаспадар дзе?

— Памёр. Перад вайной. Як памёр, і сабака сышоў. Таму адна.

— Даруйце…

— Нічога, а вы — смялейшымі будзьце.

Хлопцы зрабілі яшчэ колькі крокаў у глыб двара. Спыніліся. Маўчалі, не ведаючы, як сябе паводзіць. Старая, мабыць, зразумела гэта, сказала:

— Што ж вы такія нясмелыя? А яшчэ салдаты.

— Ат, якія, цётка, мы салдаты? — роспачна мовіў Іван, і дадаў: — Атрымалася так. Вось і ідзём да до…

Ён раптам запнуўся, зразумеўшы, што кажа не тое.

— Салдаты не салдаты, але ж пры форме, — сказала старая.

Іван, стараючыся апраўдацца за тое, што так атрымалася, прамовіў:

— Вы не думайце, мы не… уцекачы якія. Кажу, так атрымалася.

— Будзе, будзе табе, — быццам супакоіла яго старая. — Усё яшчэ зладзіцца. Усякае бывае. Ідзіце за мной у хату. Перакусіце, супакойцеся, паспіце ноч, а там — Бог бацька.

Вось гэтае «будзе, будзе табе» крыху супакоіла хлопцаў. Так заўсёды і ў Гудзе, і ў Заброддзі казалі жанчыны, калі хто пакрыўдзіць іхняе дзіця, і яно, зарумзанае, прыбягае да хаты: «Будзе, будзе табе». Гэта азначае, хопіць, нарумзаўся. Тут суцяшэнне і спагада. І адразу ж павеяла нечым родным… І так захацелася дадому…

…Пасля вячэры, калі хлопцы, падзякаваўшы гаспадыні, сабраліся выходзіць з-за стала, яна, глянуўшы на іх, сказала:

— Пагаліліся б крыху, пазарасталі. Ёсць чым, свяжэйшыя будзеце, ды і вайсковае знялі б, дужа ж бруднае яно ў вас. Заадно і сподняе здыміце. Я прасцірну і тое, і гэта. Да раніцы высахне, ночы цёплыя, вецярок, а не — дык папрасую, печ прапалю, вуголле будзе. І вады нагрэю. А вам апратку сыноў маіх дам. І споднее дам. Яно ж чыстае, іх чакае, а тут вы. Во і спатрэбілася.

Дома хлопцы ўжо галіліся, ды і ў цягніку. У Нікадзіма і Івана шчэць была густая, цёмная. За той час, што ішлі, зараслі добра, сталі падобнымі на старых, узрост выдавалі вочы, паставы. Васілёў твар зарос менш, шчэцце яго было рэдкае, светлае. Канешне, пагаліцца не пашкодзіла б, прыйдзеш дадому, як беглы катаржнік.

— Неяк няёмка, — пацiснуў плячамі Іван. — Ды і ісці нам ужо недалёка.

— А што тут няёмкага? — нібы не зразумела яго старая. — Далёка, або недалёка, а ў чыстым лаўчэй. А я сваім хлопцам пасля прасцірну, як вы пой-

дзеце. Скончыцца вайна, вернуцца, пераапрануцца. Казала ж, трое ў мяне сыноў, і дзве дачушкі ёсць. Дачушкі старэйшыя за хлопцаў. Дачушкі яшчэ да фінскай вайны ў горад адляцелі. Замуж там выйшлі. А хлопцы тут, пры нас з бацькам былі. А вайна пачалася, пайшлі на фронт. Можа, хто з вас з імі дзе сустракаўся. Дарашкевічы іх прозвішчы. Ляксей, Юрка і Грышка. Высокія такія.

Хлопцы паціснулі плячыма, маўляў, не сустракалі.

— Але, не бачылі, — прамовіла старая, праводзячы хлопцаў да хлява. — Свет вялікі. І паўсюль людзі. Хоць і розныя яны, але цяпер усе заадно. І тыя, каго ўлада крыўдзіла, і тыя, каго яна лашчыла. І тыя, хто між сабой не знаўся, і тыя, хто знаўся. А як жа, вораг адзін на ўсіх. А калі дзе сустрэнеце маіх сыноў, яны ж зараз там, дзе ўсе людзі, тады скажыце, што бачылі вашу маці. Скажыце, што чакае, мацуецца. Скажыце, казала, што праз ваш двор шмат розных людзей прайшло і на захад, і на ўсход. Але ўсё больш туды, дзе ваюющь. (Махнула рукоў на ўсход). Скажыце, кожнага прывячала, і тых, і гэтых. Мала што з чалавекам бывае, калі страшна.

Старая гаварыла з хлопцамі так, быццам разумела, што яны ідуць з вайны дадому, каб там схавацца ад яе. Гаварыла і паступова падводзіла іх да таго, што нельга ім гэта рабіць, хаця і не даводзіла, чаму. Але сыны яе там, дзе ўсе людзі… Выходзіць…

Хлопцам было непрыемна: павучае. Толькі яшчэ невядома, дзе б цяпер былі яе сыны, калі б трапілі ў такую калатнечу, як яны. Можа, першыя пабеглі б… Можа, здаліся б у палон, або ўжо дома былі б. Васіль, Нікадзім і Іван перад ворагам рукі ўверх не паднялі. А маглі б. Так што, бабуля, гаварыць можна рознае, калі нічога не ведаеш.

Пагаліліся яны ў хаце. Перад невялікім люстэркам, умураваным у печ каля прыпечка. Паглядзелі адзін на аднаго, быццам і непрывычна ўжо… Зноў выглядаюць хлопцамі, мабыць, такімі ж, як ішлі ў ваенкамат, пагаліўшыся, у чыстай вопратцы. Праўда, тады вопратка ў іх была цывільная, а цяпер яны апрануты ў бруднае, закарэлае.

Пакуль пераапраналіся ў хляве, старая прынесла і паклала на сена каля лесвіцы тры стосы вопраткі і выйшла на падворак. Васіль сказаў, што, мабыць, трэба ўсё ж пераапрануцца ў цывільнае, бо калі раптам заявяцца немцы, дык мы — не вайскоўцы, а сыны старой. Можа, на ўсялякі выпадак папрасіць яе, каб падцвердзіла гэта. А што?

— Сыны, сыны, — нібы перакрывіў яго Нікадзім. — Яны ж вайсковае наша заўважаць. І наогул, навошта нам было пераапранацца? Пабяжым уцякаць, а яны яе — за гіталы: «Дзе чырвонаармейцы?»

— Ды не будзе тут ніякіх немцаў! — чамусьці амаль закрычаў Іван. — Адзін: пераапранацца — не пераапранацца, а другі… Бабуля хоча як лепш, каб у чыстым прыйшлі да…

Недагаварыў, асекся, зніякавеў: што гэта я? Гэта куды ісці? Хаця, вядома куды: дадому. Як ні мяркуй, а ўсё скіроўваецца да аднаго: які фронт? Дзе ён? Бач, на ўсходзе. Але дзе канкрэтна? Колькі да яго дабірацца? І як ісці невядома куды, калі дом зусім блізка, да яго, можа, нейкіх трыццаць кіламетраў? За дзень дадому можна зайсці, а вось ці дойдзеш яшчэ да таго фронту. Забіць могуць, у палон можна трапіць. Ды ці мала што можа з табой здарыцца? А дом — ёсць дом. Ды зразумеюць бацькі, схаваюць ад немцаў пакуль прыйдуць нашы, а потым… Хай і так, але што будзе потым?

Вось яно страшнае, жахлівае, *што* паміж «потым…» і «тады…» Што для кожнага з іх асабіста і разам будзе ў гэтым «абмежаванні»? І што пасля таго, калі «тады?..»

Здрада?.. Хто вы такія, або хто ты такі? Дэзерціры, дэзерцір. А гэта…

Ды калі браць Нікадзіма і Івана, то не трэба спадзявацца, што бацька пазлуе, ды зразумее іх. Маці будзе шкадаваць, як шкадавала заўсёды, заступацца за іх перад бацькам.

Помнілі хлопцы, як праводзячы іх на вайну, бацька спыніўся на мосце за вёскай, стаў на калені, перахрысціў, затым мовіў, што няма ім без перамогі дарогі назад. Гэтым самым быццам вароты на дарозе дадому зачыніў. Пякло гэта зараз іхнія душы. Надта ж смылела там: нездарма, не проста так сказаў тыя словы, бацька проста так нічога не кажа.

Многае бачылася сынам Яўхіма Міхайлавіча Бараўца за гэтымі ягонымі словамі. Хаця, здавалася б, словы і ёсць словы. Іх можна не пачуць. На іх можна не звярнуць увагі. Тады ідзіце дадому Нікадзім і Ваня, верагоднасць застацца жывымі ўзрастае. Але ведайце, шмат хто на вайне загіне, мала хто з тых, што з вамі туды ішлі, вернецца. Сустрэнецеся некалі вы з імі ў Гудзе, што скажаце. І што тады ваш бацька скажа тым, хто ваяваў?..

Цяжка ўсё гэта ўявіць. Хаця, можна. І ўяўляецца. І жудаснае, і нібыта ўсцешнае… Але чамусьці ні на тым, ні на гэтым засяроджвацца не хочацца. Так, помняцца бацькавы словы, у скроні стукаюць часта-часта. І сэнс іх не ў ягонай забароне, а ў тым, што на вас, сыны мае, — адказнасць за нас з маці, за людзей нашых, за сваю зямлю. Не малыя ўжо, разумець павінны.

Як жа шкада сябе ў такі час, калі так думаеш!

Васілю шкада сябе, Івану сябе, Нікадзіму сябе… І кожнаму па-свойму. Кожны за гэтыя некалькі дзён вайны нацярпеўся такога страху, што хоць ты пад зямлю схавайся ад ўсяго таго, што бачыў, што перажыў. Але ж нікуды не схаваешся, дзе б ты ні быў, яна цябе не абміне. Гэта пакуль слізгае паўз цябе, быццам і не зачапіла так, як іншых, а ўсё адно абпальвае. Ды так, што паратунку няма, нават тут, недалёка ад дому, на гэтым гарышчы, на пыльным леташнім сене, дзе, здаецца, нішто рэальна табе не пагражае, а калі і будзе пагражаць, дык старая папярэдзіць. Яна не спіць, чутна як плюхае ў карыце вада, мабыць, бабулька мые вопратку хлопцаў.

Часам на падворку становіцца ціха. Напэўна, старая прыслухоўваецца да наваколля, чуюцца яе лёгкія крокі па цупкім ад хлява да дарогі. Там заціхаюць на хвіліну, затым набліжаюцца сюды.

А крокі такія ж лёгкія, як у маці, калі ходзіць па двары, баючыся патрывожыць сон сыноў: спяць на гарышчы на сене, позна прыйшлі з гулянкі з Заброддзя.

Толькі не чутна гучнага бацькавага з ганка:

— Ужо вярнуліся, жаніхі?

Эх, бацька, ды ніякія яны не жаніхі. Няма ў іх яшчэ дзевак, прыглядаюцца то да адной, то да другой, нават танцуюць з дзяўчатамі, здараецца, дахаты праводзяць, а пакуль яшчэ ні адна не прыкіпела да сэрца. Канешне, вельмі хочацца каторую абняць, пацалаваць, прыціснуць да сябе, бо кіпіць юная кроў, але ж не атрымліваецца, цяжка, вельмі цяжка зрабіць гэта, калі дзяўчына сама да цябе не горнецца. Можа, і ёй хочацца тваёй ласкі, але, як кажуць, «блюдзе» сябе для таго, хто мужам стане.

— Вярнуліся. Ціха, Яўхім, не крычы. Дай ім паспаць.

— Якое паспаць? Касіць трэба, а яны тухнуць. Выгуляюцца яшчэ! Пайду падніму!

— Не чапай. Сам жа быў малады. Ці помніш?

Ахалоньваў бацька:

— Помню. Хай паспяць.

Бацька замаўкаў. А лёгкія крокі маці яшчэ доўга чуліся на двары, такія прыемныя, дарагія, незабыўныя…

Як яны там, маці з бацькам…

Няпростая была гэтая ноч для хлопцаў…

## 4

Раніцою, так і не вырашыўшы як быць: ісці дадому, або на ўсход, Васіль, Нікадзім і Іван спусціліся з гарышча.

Толькі-толькі пачынала світаць. На ўсходзе над лесам на густой сіняве слаба страпянулася чырвовая намітка, прабегла па ёй лёгкай хвалькай. А праз нейкі час сінява паблякла, апусцілася за лес і паступова знікла. Над ім вымаляваліся ружовыя палоскі, пасвятлелі вяршыні дрэў, павышэла неба, занялося жоўта-чырвоным полымем.

Лес вакол хутара абудзіўся, ажыў. Лёгкі ветрык прабег па голлі дрэў, ускуёўдзіў вяршыні. Заспявалі птушкі на розныя галасы.

Якая вайна?! Дзе яна? Прыснілася ўсё тое, што было з хлопцамі, ці наяве…

Не прыснілася. Наяве. Вунь з сенцаў са стосам іхняй салдацкай вопраткі выходзіць старая. Моўчкі падае яе ім: пераапраніцеся.

Бяруць чыстую і адпрасаваную, быццам святочную, вайсковую форму. Ідуць назад у хлеў. Моўчкі пераапранаюцца… Не дома, на чужой сядзібе, на чужым хутары, які на ноч даў ім прытулак.

Старая яшчэ вечарам казала, што яе хутар немцы пакуль абміналі: навошта ён ім? І дарога гэтая ім наўрад ці патрэбна. Лясная, глухая…

Пераапрануліся хлопцы. Цывільнае, бабульчыных сыноў, паклалі на сена. Адным стосам.

Пачулі з ганка: «Спаласніце твары, ды ідзіце ў хату».

Сапраўды, трэба спаласнуць твары. Цяжкая ноч выпала хлопцам. Думная яна была для кожнага з іх. Ціха шмат пра што гаварылі. Усё зводзілася да аднаго: што рабіць далей, як быць… Да родных хат зусім блізка. Як жа цягне дадому!.. Асабліва цяпер, калі начавалі быццам дома, калі ўчора павячэралі, як вячэралі дома, калі адзенне чыстае, нібы маці вымыла.

Зноў пачулі з ганка:

— Хлопцы, хто там з вас старшы? Здаецца, Васіль? (Мабыць чула, што Нікадзім і Іван часта да яго звярталіся, ды па імені). Кажу, снедаць ідзіце. Стыне ж.

— Дзякуй, мамаша, — адказаў Васіль. — У нас старшых няма.

— Як жа так? Вы ж салдацікі…

Не адказалі. Моўчкі выйшлі з хлява. Ужо добра развіднела. Дзень абяцаў быць сонечным, светлым. Над лесам, над дарогай узышло сонца. Пакуль яшчэ вялікае, але ўжо сляпучае.

— Мамаша, — сказаў Васіль, — вашу апратку там пакінуць?

Мамашай называў старую Васіль, чуў, як іхні камандзір, лейтэнанцік, на станцыях так звяртаўся да жанчын, якія прыходзілі да эшалона, прыносілі салдацікам хлеб, малако, а то і сала…

— Хай там, калі яна ўжо больш вам не патрэбна.

— Дзякуй, не трэба.

— Дома ў сваё пераапранецеся? А то бярыце, ці мала што…

— Не трэба, — сказаў Нікадзім. — У форме пойдзем.

— Ну добра, калі не патрэбна, — бабулька шырэй расчыніла дзверы ў сенцы. — Кажу, у хату заходзьце. Паснедаеце, а тады і ідзіце, куды вам трэба.

Старая першай накіравалася ў хату.

**5**

Здаецца, учора, пакуль гаспадыня хутара карміла іх вячэрай, пакуль сядзелі за сталом пры акне на дарогу, фіранкі на ім не было, хата выглядала шэрай, чужой. Звычайная вясковая хата. Не дужа вялікая і не дужа малая для такой сям'і, якая некалі тут жыла: гаспадар і гаспадыня, ды пяцёра дзяцей. Такая ж, як і ў іх вёсках. Без перагародак. З печчу справа, адразу як пераступіш парог. З палацямі каля сцен. З заўсёдным кіславатым пахам рошчыны… І яшчэ многа з чым іншым, без чаго не абысціся гаспадыні: чыгуны і чыгункі каля печы на абабітай бляшанкай падлозе, вілы і ёмкі ў куце, гладышкі, міскі на палічках на сцяне. І вядома ж, у левым дальнім куце — абраз у ручніках.

Учора хлопцаў у хаце цікавіў толькі стол, і што на ім. Доўгі, дашчаны, пры сцяне злева, пры акне без фіранак, якое глядзіць на дарогу. А на стале, нарэзанае ладнымі брускамі сала, вялізная патэльня з яешняй, гладыш малака і духмянае кола свайго хлеба, які ў добрай гаспадыні ніколі не пераводзіцца.

Учора, калі галодныя прагна елі, вочы ад акна не адводзілі. Баяліся, мала што, побач жа дарога…

А зараз, раніцою, нібы асвоіліся. У акно паглядалі рэдка. Ды і старая казала, каб не баяліся. Маўляў, дзверы адчынены, далёка чуваць.

Яна зноў нечым кожнаму з іх нагадвала маці...

Васілю бачылася свая. Невысокая, маленькая, сухенькая, з пасівелымі валасамі, як у гэтай бабулькі. Вось толькі маці не ўяўлялася такой старой, як гэтая жанчына. Здавалася, на твары ягонай маці не было столькі маршчын, як у яе. І наогул, ягоная маці была маладзейшая. І вочы ў яе былі не выцвілыя. Вочы ў ягонай маці цёмна-блакітныя. Але помніў, што колер іх мяняўся ў залежнасці ад настрою. Калі радасна — ажно свяціліся. Калі была нечым заклапочана — цямнелі. Але заўсёды ў іх адчуваецца дабрыня. Вядома, найперш да сваіх дзяцей, да дачкі і сына. І, канешне ж, да людзей…

Помніцца, ні адзін чалавек не выйшаў з іхняй хаты, не прысеўшы за стол…

Пакуль Васіль сядзеў з хлопцамі за сталом у чужой хаце, уяўлялася яму і сястра Варка. Вечна няўрымслівая, на два гады маладзейшая за яго. Бачылася зусім малая, калі заступаўся за яе на вуліцы — большыя дзеці часта крыўдзяць меншых… Ледзь што, румзаючы, бяжыць да яго: «Брацік…»

Бачыцца старэйшая, калі клапацілася аб ім, браце: у халад палошча ў драўляным карыце на падворку яго механізатарскую вопратку. Пракіпяціла ў чыгуне ў печы, а цяпер даводзіць да ладу. І абураецца, што раптам прыгледзіць брата (яна заўсёды так яго звала) якая гарадская «бязлепіца», дык нагаруецца ён за ёй. А што? Гэтыя гарадскія лахудры, Васіль жа вучыцца ў горадзе на курсах трактарыста, толькі і глядзяць, каб надзець хамут якому працавітаму вясковаму хлопцу. А калі ён яшчэ і такі прыгожы, як яе брацік, дык тыя кралі свайго не ўпусцяць. Адкуль ведае? Чула, што так кажуць забродзенскія дзяўчаты, якія ўладкаваліся ў горадзе.

Няхай толькі каторая завабіць брацiка, дык яна, Варка, той нягегліцы ўсе валасы павыдзірае! Яна ёй пакажа!..

Бачыцца і ўжо нявестай. Да яе перад самай вайной падлабуньваўся сын Іосіфа Кучынскага з Гуды, яго, Васілёў, аднагодак, Стас. Быццам хлопец як хлопец, хадзіў са сваёй вёскі ў Заброддзе на танцы, усё ля Варкі круціўся.

Васіль бачыў гэта. Стас яму чамусьці не падабаўся. Ды і Варка яго пазбягала. А аднойчы Васіль Стасу за Варку нюхаўку расквасіў… Прыйшоў Васіль з танцаў дадому, правёўшы Нюрку з другога канца вёскі, залез у хляве на гарышча, дзе ўсё лета спаў на сене, ляжаў, глядзеў праз шчыліны ў страсе на зорнае неба, ды пачуў трывожнае:

— Брацік! Васька!.. Ой, ой, пусці!..

Быццам жарам сыпанулі ў твар Васілю. Кінуўся ён на вуліцу пад старую бярозу, што расла каля хаты, убачыў у месячным святле пад ёй на зямлі валтузню: белая сукенка і чорная куча на ёй.

— Брацік…— ужо слаба, здушана, калі заціскаюць рот, клікала сястра.

Коршакам наляцеў Васіль на Стаса, адарваў таго ад Варкі, кінуў на плот, ды так, што ажно затрашчалі жэрдкі. Потым прыўзняў нягодніка, хацеў даць поўху, але той вывернуўся, пабег да ракі. Васіль за ім. Не дагнаў, спіхнуў Стас лодку з берага, доўга і часта шлёпалі вёслы па вадзе, пабліскваючы ў месячным святле.

Хацеў Васіль спіхнуць у ваду сваю лодку, але павісла сястрычка ў яго на шыі, не пусціла. Потым ужо прызналася: баялася, што брацік заб'е Стаса.

Абараніў Васіль сястрычку ад поскудзі, збярог яе гонар, не дазволіў раструшчыць тую цнатлівую пяшчоту, якая, ведаў, напаўняла яе душу. І потым, пакуль Васіль не пайшоў на вайну, вока з сястрычкі не спускаў, аберагаў яе. Падставы былі, нейкімі брыдкімі станавіліся хлопцы, асабліва чужыя, якія вялі электрыку да Заброддзя і кватаравалі ў вёсцы.

Што цяпер з ягонай сястрычкай? Ад каго яе зараз трэба бараніць? Свае, ды і чужыя, што вялі электрыку, чый узрост падпадаў пад мабілізацыю, ведаў, усе як адзін таксама падаліся на вайну.

Хто цяпер аберагае яе ад ворага? Бацька? Ён калі што, у крыўду не дасць…

І бацька бачыўся, усё ў адным малюнку. Бачыўся, як на вайну праводзіў: маўклівы, разгублены, быццам і не мужчына. А ў яго ж за плячамі была грамадзянская вайна. На ёй у тыле не адседжваўся, куля наскрозь грудзі прабіла, ледзь выжыў. І пасля яму хапала. Лесніком служыў, не раз і не два пастрэльвалі ў яго бандыты, здаецца, ніколі нікога і нічога не баяўся, а як праводзіў сына на вайну, дык сам не свой быў. Неяк за адзін дзень не тое што знікавеў, а быццам усох, асунуўся. Казаў нібы сам сабе: «Эх, дзеці-дзеці, гэта ж усё на вашы плечы… Як жа вы адужаеце, такія маладыя ды нявопытныя…»

Сусед дзед Гардзей, які ваяваў яшчэ з германцам у 1914 годзе і які тады недзе пад Смаргонню, як казаў, глытнуў нямецкага атрутнага газу, але выжыў, хаця вельмі моцна кашляў, таксама праводзячы Васіля на вайну — сваіх дзяцей у старога з яго Полькай не было, пракашляўшыся, мовіў:

— Куды ж ім, такім нявопытным, ваяваць. Лепш бы нас узялі, мы ведаем, што па чым. Але хто нас туды возьме? — І, звяртаючыся да Васіля, груба, па-мужчынску абдымаючы яго, казаў далей: — Там галоўнае галавой думаць. Усё будзе: і страх, і паніка, і адчай. Але з акопа ўцякаць нельга: таварышы не даруюць. І па-дурному наперад кідацца нельга: пад кулю адразу трапіш. Я ведаю. І ты павінен ведаць, Васіль. І таварышам, якія там будуць у цябе, гэта скажы. Ды адзін аднаго падтрымлівайце. А калі хто пабяжыць назад, ворага спалохаецца, лічы, загубіць сябе ні за нюх табакі: свае парашаць. А гэта ўжо ого якая ганьба!

— Што ты дзіцёнку вярзеш? — накінулася тады на старога бабуля Полька. — Не на пагулянку ідзе, а ты яго вунь чым палохаеш!

— Не палохаю, а праўду кажу. Бо ведаю, куды ідзе. І ніякі ён ні дзіцёнак, воін!

Хто ведае, колькі слёз у той дзень было выплакана і ў Заброддзі, і ў Гудзе. Хто ведае, колькі яшчэ будзе выплакана за вайну і пасля яе. І як зараз таму ж Васілю вяртацца туды, адкуль пайшоў бараніць маці, бацьку, сястрычку, суседзяў, аднавяскоўцаў? Да ўсяго не адзін пайшоў, а разам з тымі мясцовымі хлопцамі і мужчынамі, хто зараз там, на фронце. І, вядома ж, пайшоў крок у крок з Нікадзімам і Іванам, з якімі паспеў ужо і страху нацярпецца, і асмялець.

Можа, у соты раз думалася адно і тое ж: дадому прыйдзеш, там і застанешся, як адрэжаш сябе ад усяго, што робіцца з людзьмі.

Сядзеў Кечык разам з братамі Бараўцамі за чужым сталом у чужой хаце, нібы праз туман бачыў сваю хату, маці, бацьку і сястрычку, і хоць, здаецца, яшчэ ноччу, калі ляжаў на гарышчы на мулкім леташнім сене вырашыў, *куды* ісці, зноў разгубіўся, зноў не ведаў куды. А жыць хочацца. Як немцы бамбілі эшалон, не адну чужую смерць, калі не бачыў, дык адчуў: крыкі, стогн, ды нерухомыя целы на адхоне. Сваёй цудам пазбег, а яна, можа, усё адно недзе падсцерагае. Быў бы яшчэ хлопчыкам, прытуліла б маці да сябе, ад бяды сабой закрыла, але ж дарослы, мужчына, яе саму яму ад жаху закрыць трэба.

І гэтая старая жанчына, паўз хату якой раней ён не аднойчы хадзіў у горад і назад, адзін і з бацькам, а таксама з мужчынамі, калі кіраваўся на вайну, сапраўды падалася яму нечым падобным на яго маці, якую і любіў, як кожны з нас любіць сваю, і за якую цяпер баяўся: што з ёй, як яна там? А што з бацькам, з сястрычкай… А з Нюркай што?..

Так, ён хадзіў з Нюркай. Здаецца, і любіў, і не любіў яе: падабалася хадзіць з дзяўчынай, усе хлопцы яго ўзросту хадзілі. Можа, ажаніўся б Васіль на ёй, каб, пакуль вучыўся на трактарыста, не звёў Нюрку чужы хлопец Жорык. Той разам з іншымі цягнуў электрыку спачатку ў Заброддзе, а потым далей, у іншыя вёскі.

Аднойчы прыйшоў Васіль з горада, пачаў збірацца на танцы, а сястрычка — шморг яго за рукаў: «Не хадзі! Нюрка з Жорыкам любіцца».

Не помніў Васіль, ці ёкнула тады ў яго сэрца. Мабыць не ёкнула. Хаця, помніцца, неяк крыўдна стала: гулялі ж… Можа, з паўгода. І за рукі трымаліся, і ночы напралёт ля якога дрэва прастойвалі. Як так?

— Чаму не хадзіць? — здзівілася тады маці. — Хіба яму дзевак не будзе? Мабыць, гуляць гулялі, а не любіліся. Нюрка не Васілёва, і Васіль не яе. Што тут такога? Дачушка, будзе яму яго дзеўка, як і табе твой хлопец. А калі гулялі, дык хай гулялі, маладыя ж. А што Нюрка свайго знайшла, а Жорык сваю, дык дабра ім!

Пайшоў тады Васіль на гулянку. Нюрку не сустрэў, напэўна, дома была. Жорыка сустрэў, той сам да яго падышоў. Руку падаў. Павіталіся. Адвёў Васіля Жорык, сказаў:

— Дзякуй табе, Васіль.

— За што?.

— Не крануў ты Нюрку. Добра пра цябе кажа. Гулялі вы.

— Гулялі.

— Мы з ёй жывём. У яе бацькоў. У мяне ж сваёй хаты няма, сірата я, дзетдомавец. Яна мне люба, я ёй.

— Жывіце. Што я табе скажу?

— Затое я табе скажу: добры ты хлопец, калі ўсё так. Восенню вяселле гуляць будзем. Прыйдзеш? Мы з Нюрай ужо ўсё абгаварылі. Як брат каля мяне сядзеш?

— Сяду.

Да гэтага пашчымлівала Васілёва сэрца: бач, Нюрка нейкага прыблуднага ахламона выбрала, а не яго. Хаця ён з ёй нават ні разу не пацалаваўся. А вельмі ж хацелася. Хацелася адчуць, што гэта такое, пацалавацца з дзяўчынай. Ён і зараз не ведае смаку пацалунка. Цікава, а Іван і Нікадзім ужо цалаваліся, ці не…

Ат, знайшоў калі пра гэта думаць.

А на вяселлі ў Нюркі і Жорыка не гуляў, і за брата ў яго не быў: на восень па вясковай звычцы вяселле гуляць меліся.

Што цяпер з Нюркай? У вёсцы яна, у бацькоў. А з бацькамі яе што? А што з Васілёвымі суседзямі?

У вёсцы, з мужчын, мабыць, засталіся толькі старыя, хлапчукі ды падлеткі. Усе дарослыя на фронт пайшлі. Цікава, ці вярнуўся хто з іх дадому? Напэўна, той-сёй, як і ён з Нікадзімам і Іванам, зараз прабіраецца да бацькоў.

Не да сняданку было Васілю. Не хацелася есці і хлопцам. І яны думалі пра маці і бацьку, пра дом свой, дзе заўсёды, колькі сябе помнілі, ім было добра і бесклапотна.

І яны бачылі вобразы маці і бацькі. Гаварылі з імі ў думках, кожны пасвойму. Шкадавала маці сваіх сыноў, абдымала, прыціскала да грудзей, трымала моцна-моцна, не адпускала ад сябе.

І бачылі бацьку Нікадзім і Іван. Вельмі ж суровы ён быў. Паглядаў на іх з-пад ілба, зацята маўчаў, а ў іхніх вушах чулася адно і тое ж: «…І няма вам дарогі назад без перамогі».

Сяк-так перакусілі, падзякавалі старой, якая ўвесь гэты час зажураная моўчкі стаяла каля печы, падняліся з лаўкі, пайшлі ў сенцы.

Старая падалася ўслед за імі. У сенцах падышла да лаўкі, на якой стаяла вядро з вадой і вялікая конаўка, накрытая драўляным кружочкам, побач ляжала важкая торбачка, мовіла:

— Сыночкі, пачакайце крыху.

Спыніліся хлопцы: што яшчэ…

— Вазьміце ў дарогу. Можа, спатрэбіцца?

Узяла торбачку, падала ім. Але ніхто не працягнуў руку, каб узяць. Яна сумелася, нібы спахапілася: не тое раблю… Трымаючы ў адной руцэ торбачку, зноў падышла да лаўкі, другой зняла з конаўкі кружочак, узяла яе, падала хлопцам:

— З гэтай конаўкі пілі мае дзеці. А калі Ляксей, Юрка і Грышка ішлі на вайну, я дала ім з яе вады. Можа, і вы, калі не гідзіцеся, глыніце. Па тры глыткі. Пашаптала я на яе, каб добра вам у дарозе было. Вада з нашай студні. Чыстая-чыстая.

Хлопцы сумеліся: пашаптала... І што?.. Ёсць такая завядзёнка ў вёсках, загаворваюць ваду бабулькі на ўсе выпадкі жыцця. Прымхі, напэўна. Іхнія маці ваду ім не загаворвалі, хаця, адпраўляючы ў дарогу, перахрысцілі сыноў.

Старая, заўважыўшы, што хлопцы разгубіліся, мовіла:

— Як умела, так і пашаптала. Быццам сыноў сваіх у дарогу выпраўляю. Мне лягчэй будзе вас праводзіць, хоць прыгубіце.

Нікадзім рашуча ўзяў конаўку. Зрабіў тры глыткі. За ім — Іван і Васіль. Не хацелі крыўдзіць бабульку.

Васіль, падаў ёй конаўку. Не ўзяла, сказала:

— А конаўку пакладзіце ў торбачку. Як жа без яе? Можа, дарога будзе доўгай, піць захочацца, а пад рукамі няма ніякага посуду. Во і будзе чым ваду чэрпнуць. Калодзеж рэдка ў дарозе трапляецца. Рэчка будзе, крынічка, лужына. Не цяжкая конаўка, з гэтай, як яе, з той, што ад снарада…

— З гільзы? — спытаў Васіль, гледзячы на пазелянелую медзь.

— З яе. Неяк сыночкі, калі яшчэ малымі былі, знайшлі ў кустах пры дарозе снарад. Тут яшчэ ў грамадзянскую абозы з гарматамі праходзілі. Стралялі. Хлопцы прыбеглі да бацькі: «Тата, тата, цацка нейка цяжкая, прынясі!»

Пайшоў мой чалавек глянуць на тую цацку. А як глянуў, дык дзяцей ад сябе далей адагнаў: «Снарад!»

Кулю тую вялікую выкруціў, порах высыпаў, конаўку зрабіў. Казаў, жалеззе добрае, зносу яму няма. Бярыце, спатрэбіцца. Дарога ж...

Узяў Іван. Спачатку ўзяў у старой торбачку, развязаў яе, потым паклаў туды конаўку. Затым павярнуўся, праз расчыненыя з сенцаў дзверы доўгім працяглым позіркам акінуў хату. Сапраўды, падобная на іхнюю. Такая ж вялікая, без перагародак. І печ справа каля сцяны, таксама пабеленая. Такія ж доўгія палаці каля сцен, такая ж чыстая падлога, як і ў іх дома. Мабыць, старая, як і іхняя маці кожную суботу мыла і шаравала падлогу. Таксама, як і ў іх у хаце — у левым кутку ікона, аздобленая ручніком.

Доўга глядзеў туды, старая заўважыла гэта, сказала:

— Багародзіца. Даўно яна ў мяне, як яшчэ дзеўкай была, ды за свайго замуж збіралася, маці дала. Мой спачатку не хацеў і блізка яе бачыць. Дужа ж партыйны быў яшчэ з маладых гадоў. У войску яшчэ царскім служыў ажно ў сталіцы. Не верыў, а я верыла. Ікону ад яго хавала, сыноў украдне хрысціла, крыжык нацельны насіла, не сарваў. А пасля таго, як дзеці снарад знайшлі, сам палічку зрабіў. Во як.

Ён паганым не быў, як людзі пра яго казалі. Нялюдны быў, што праўда то праўда. Дык жа як інакш? На сухоты дужа хварэў. Не хацеў, каб іншыя хварэлі. Яшчэ як з войска прыйшоў хварэў. Мы з ім з адной вёскі. Далёка яна адсюль, ажно з-за горада. Маладымі гулялі мы з ім. Я яго з войска дачакалася. За яго і пайшла. Ён упарціўся, мауляў, нашто я табе такі. А я была бойкай дзеўкай: «Які ёсць, такі і патрэбны. Мой! Бяры, кажу табе!» Узяў. Параілі яму ў лесе жыць, каб паветра было гаючае. Леснікову пасаду далі. Гэтае месца падказалі. Спадабалася яно нам. Дарога побач, рака недалёка. Ліпняк цвіў, дужа салодка пах. Потым ён яго тут рассаджваў, борці ставіў, цяпер няма, у фінскую, у маразы, вымерзлі пчолы. Ну і жылі мы. Хату паставілі. Дзяцей нарадзілі, нічога, усе здаровыя, дзякуй богу. Во, сыны, як і вы, — на вайне. Можа, дзе з імі ўбачыцеся. Казала, і яшчэ раз скажу: Дарашкевічы яны, Ляксей, Юрка і Грышка. Калі сустрэнеце, дык скажыце, што маці ваша жывая і здаровая. Конаўку пакажыце, калі не згубіцца, яны пазнаюць яе. Бачылі, з чаго бацька зрабіў. Асцерагаў малых: «Знойдзеце дзе яшчэ такую ляльку, не чапайце. Побач галінку — тырк, ды дадому. А я потым ужо з лялькі гэтай джала вырву». Умеў, у войску вучылі.

Тады лялек гэтых тут хапала. І сам знаходзіў, і яны знаходзілі. Ён і вырываў джала тое. Потым жалеззе адвозіў на калёсах у раён, а конаўну толькі адну зрабіў, гэтую.

— Сустрэнем, абавязкова скажам, — паабяцаў старой Васіль.

Падзякаваўшы бабульцы за ўсё, хлопцы паціху выйшлі з сенцаў. Праз расчыненыя вароты нетаропка прайшлі па падворку да дарогі. Спыніліся. Доўга моўчкі стаялі на ёй. Ранішні ветрык круціў горкі пылок. Шапацела лісце дрэў, над калодзежам суха парыпваў журавель, на якім пагойдвалася цяжкое драўлянае вядро. Недзе за хатай закрычаў крумкач.

Іван паглядзеў на неба, шукаючы драпежніка, але таго не было відаць. Патаптаўся на месцы, ціха мовіў:

— Пайшлі.

Ён павярнуўся направа і рашуча пакрочыў на ўсход, у супрацьлеглы бок ад Гуды і Заброддзя. Калі адышоў крокаў пяць, крануліся з месца і Нікадзім з Васілём, подбегам сталі даганяць яго.

— Госпадзі! Сахрані і памілуй рабоў тваіх воінаў. Даруй, не ведаю ўсіх траіх іх імёнаў. Аднаго ведаю: Васіль...

Хлопцы ішлі, а жанчына яшчэ доўга стаяла на дарозе, глядзела ім услед і шаптала сасмяглымі вуснамі: «Сахрані і памілуй…» Затым, калі яны зніклі за павароткай, пачала чытаць іншую малітву. Тую, якую зімой сорак трэцяга года ў горадзе на вакзале чуў Іосіф Кучынскі, калі быў сведкам сустрэчы двух братоў-воінаў: адзін знявечаны вяртаўся з вайны дадому, а другі малады і здаровы ехаў на фронт…

Тады, калі старая малілася за салдаціка, які ехаў на фронт, разам з іншымі словамі, з якімі звярталася да Усявышняга, каб збярог воіна, былі і такія словы: «Дай яму зброю і святы хрэст…» Цяпер маліла за ўсіх траіх, і замест слова «яму» з яе вуснаў гучала «ім».

Там, на вакзале, ніхто не ведаў яе імя, і Іосіф Кучынскі — таксама. І хлопцы не ведалі яе імя…

Нікадзім, Іван і Васіль другі раз за некалькі дзён ішлі на вайну гэтай лясной дарогай, не ведаючы, што чакае іх наперадзе. Розніца была толькі ў тым, што першы раз ішлі з дому, ішлі разам са сваімі аднавяскоўцамі, цяпер жа — з чужой хаты. З дому хлопцаў праводзілі бацькі, цяпер жа — невядомая ім жанчына.

## 6

…Рака хутка несла лодку з Яўхімам і Валікам усё далей і далей ад Гуды. Вёска ўжо даўно знікла за шматлікімі павароткамі, за лесам, што пачынаўся амаль адразу за дамбай.

Даўно ўжо не было бачна і Заброддзя, што ляжала з левага берага Дубасны. Даўно ўжо за лясамі з таго боку схаваліся лугі, а з імі дарога, што ішла ад вёскі ў райцэнтр.

Яўхім, калі праплывалі каля Заброддзя, паказаўшы на дарогу, што падымалася ад вёскі ў лугі, сказаў:

— Бачыш дарогу, вельмі старая яна. Шмат рознага люду прайшло па ёй. І чужога, і нашага. Хто з дому ішоў, хто дадому, хто з дабром, а хто і са злом. І я па ёй некалі ў Гуду прыйшоў. Да гэтага шмат пахадзіў па зямлі. Дарога гэтая мяне да сваёй сям'і прывяла, да людзей, з якімі жыў і жыву, да цёткі Каці з Пятрыкам, да тваіх бацькоў, да цябе са Светкай. Я ж нікога-нікога і нічога свайго не помніў: ні бацькоў, ні братоў і сясцёр, ні дома свайго. Ты ж гэта ведаеш.

Па гэтай дарозе пайшлі на вайну нашы мужчыны. Мае сыны пайшлі, твой бацька ішоў, Кацін Пятро, многа хто пайшоў, вось толькі пакуль мала хто вярнуўся. Дай бог, каб жа вярнуліся, часу столькі мінула, а іх няма. Хай бы хоць хто прынёс мне пэўную вестачку пра маіх Нікадзімушку і Ванюшу, лягчэй бы паміраць было.

Сказаўшы так, змоўк стары, задумаўся.

Валік не ведаў, што сказаць яму на гэта. Разумеў, што стары не патрабаваў адказу, казаў быццам сам сабе.

Хлопец нядоўга маўчаў, прамовіў:

— Дзеда, прыйдуць дзядзька Нікадзім і дзядзька Іван. Многа хто вернецца, пра каго звестак няма.

— На тое і дарога, каб людзі па ёй ішлі і вярталіся, — сказаў Яўхім, потым перавёў на іншае: — Мяркую, да заходу сонца даплывём да Дарашкевічавай Стражы. Недалёка яна ад ракі. Да вайны пару разоў плаваў туды. Ліпа мне патрэбна была. Падказаў Лявонцій Кірэевіч Кечык: «На Стражу, да Дарашкевіча плыві, дасць». Даў, капейкі не ўзяў: трэба — бяры, мая асабістая, не бойся. А казалі — круты! І потым, калі спілаваў, дапамог разам са свамі хлопцамі пагрузіць на калёсы. Тыя мацакі, хоць і дарослыя ўжо былі, але яшчэ пры бацьку з маці жылі. Хадзяйку яго не бачыў. Казалі людзі, прыветлівая кабета.

А ліпу ў Гуду па дарозе на калёсах вёз. Шлях доўгі, конік ледзь за дзень прыцёгся. А вот каб па рацэ, ды па цячэнні, а то…

Але, чаго гэта я… Саўка ж казаў, быццам на Стражы ў пачатку вайны нейкія акружэнцы начавалі. Быццам родам яны былі аднекуль з нашых месцаў. Можа, гэта былі мае хлопцы з Васілём, сынам Лявонція Кірэевіча Кечыка.

— Дык давай спынімся, сходзім.

— Не, потым. Як назад будзем плысці. Разам з Іосіфам сходзім. Яго мае хлопцы, як малыя былі, любілі. Ён іх любіў. А калі падраслі, ды не зладзілі з ягоным Стасам, дык рэдка забягалі да Іосіфа. Цяпер зайсці, ды назад? Там трэба колькі дзён там пабыць.

Паходзім, паглядзім, з гаспадыняй пагавару, што яна ўспомніць, а што я. Адразу, спехам, можна і не вызначыць, ці яны былі там.

Трэба, каб яна ўспомніла, як тыя хлопцы хадзілі, што гаварылі. Можа, успомніць, якія яны з твару. А то Саўка: быццам двое цёмных, як я, а адзін светлы, як Лявонцій Кірэевіч. Ды які я цяпер цёмны, Валік? І ці мала цёмных людзей?.. Ды і Лявонцій Кірэевіч даўно ўжо не светлы, таксама сівы. Пойдзеш са мной?

— Дзеда, ты яшчэ пытаеш! Канешне, пайду. Помню я і Нікадзіма, і Івана. Малы быў, а помню: дужыя, падкідвалі мяне, а я смяяўся. А вот твараў не помню.

Валік змоўк. Дзед зноў задумаўся, перашкаджаць яму не трэба. Добра ведаў хлопец старога, можа, як ніхто з гуднянцаў. Яшчэ б, лічы ўвесь вольны час побач з ім. З маленства, з пасляваеннай пары, пакуль не прыйшоў бацька з вайны — з дзедам Яўхімам. Калі б Валік не помніў свайго роднага дзеда Нічыпара, лічыў бы родным Яўхіма.

Дзед Нічыпар і бабуля Наста ў Гудзе загінулі ў вайну разам з усімі, каго немцы зачынілі ў клубе... Маміны бацькі. Тата не адсюль, з далёкай лясной вёскі Чарнічка, што ажно за Дзямкамі. Татавы бацька і маці таксама вайну не пеpажылі, немцы расстралялі іх за сувязь з партызанамі. Дзеда звалі Нупрэй, а бабу Жэня... І хто ведае, што было б з Валікам і Светкай, з іхняй мамай, з цёткай Кацяй, калі б тады на досвітку дзед Яўхімам не павёў іх у маліны. Хаця, вядома што: абеліск сярод вёскі падказвае… Шмат прозвішчаў Валікавых аднавяскоўцаў выбіта на ім, нямала розных, ёсць адны і тыя ж. Знікалі цэлыя чалавечыя роды. Помніць Валік усё, што тады здарылася, часам начамі сняцца жахі, прачнешся, стан такі, быццам праз полымя прабег... Доўга тады не можаш супакоіцца…

Вось толькі не ведае Валік, што скажа дзеду Іосіфу, калі прыплывуць да яго.

Валік не помніць твару Іосіфа Кучынскага. Помніць толькі вобраз: стары, разгублены чалавек, сумныя вочы... У яго, у гэтага чалавека, калісьці ён, хлап-

чук, кідаў лядзяш. Уяўляў, што расстрэльвае... Здаецца, лядзяш той і зараз пячэ далонь, прапальвае яе. Здаецца, з далоні на снег капае не вада, а расплаўлены свінец. Здаецца, чуе Валік, як цётка Каця крычыць на яго, хлапчука: «Што-о ж ты-ы ро-о-біш?..» Ды: «І хто цябе гэтаму навучыў?..»

Каб на цяперашні розум, канешне, не кідаў бы, не чыніў бы сваю расправу над старым чалавекам, хоць той бацька паліцая. На цяперашні розум знайшоўся б што адказаць: «Цётка Каця, тое, што пражыў, навучыла мяне гэтаму… Тое, што вочы засіла, калі мы са Светкай, з мамай, з табой і дзедам убачылі на месцы вёскі, вярнуўшыся з лесу… І яшчэ многае, што і цяпер трывожыць.

Запярэчыш, што дзед Іосіф тут ні пры чым, што ён за сына не адказвае, дык цяпер, можа, і зразумела. І не толькі таму, што так афіцыйна лічыцца, а таму, што адчуваю: не вінаваты дзед Іосіф, ён нікому нічога кепскага не зрабіў. Вось толькі часам усё ж цяжка суаднесці афіцыйнае з тым, што ў памяці, што на сэрцы, а трэба. Асабіста мне трэба, бо ты зразумела, мама мая зразумела, бацька, людзі, Светка зразумелі трагедыю гэтага старога чалавека, а я — не да канца. Але змагу. Хаця, напэўна, ужо змог: з дзедам Яўхімам па дзеда Іосіфа плыву».

Можа, не паплыў бы, калі б усё тычылася толькі яго, Валіка. Так, хутчэй за ўсё, не паплыў бы. Навошта? Хто ён яму стары Кучынскі? Ну, было, пакрыўдзіў. І што? Ды мала хто каго крыўдзіў. Забыў даўно, хаця часам успамінаецца, як гарэла рука, трымаючы лядзяш, як злосць распірала грудзі, калі ўбачыў дзеда Іосіфа з вядром вады — ішоў ад Кацінага калодзежа да сваёй хаты. Бацька паліцая!.. Эх!..

Кінуў. Адзін раз. Не патрапіў. Аб дзверы на драбнюткія друзачкі разбіўся лядзяш. Злосць на старога яшчэ больш уз’юшылася. Замахнуўся другі раз: рука цёткі Каці запясце перacіснула.

Добра, што так атрымалася…

Сястрычка, Светка, воддаль стаяла. Стаілася, чакала, што будзе. Не спыніла брацiка. Хаця бачыў, што супраць гэтага была. Вочкі заплюшчыла, вушкі ручкамі закрыла, мабыць, чакала, што нехта з іх закрычыць. Можа, думала, стары на Валіка кінецца, яна таксама лічыла Кучынскага злыднем, баялася яго. А вось пайшла з Валікам падпільнаваць дзеда Іосіфа, каб нешта кепскае яму зрабіць. Невытлумачальна і цяпер усё гэта.

Цяпер Валіку, лічы, ужо дарасламу, цяжка вярнуцца ў той дзіцячы, поўны нянавісці да Іосіфа Кучынскага стан душы, каб самога сябе, малога, да канца зразумець. Ды, мабыць, жыццё пражывеш, а не зразумееш. І хто ведае, што было б з ім, калі б цётка Каця не спыніла, а наадварот падштурхнула: «Бі яго, Валічак, бі!..» Якім бы вырас? Жорсткім да іншых, вінаватых і не вінаватых?..

Мабыць, не яму судзіць іншых. Вось помніць Валік выпадак, калі хлопцы, праўда, ужо амаль сённяшнія яго равеснікі, накінуліся на такога ж старога, як тады быў Іосіф...

У Дубасне гэта здарылася. Адсядзеў сваё, вярнуўся ў вёску нехта Сямён. Ці то сапраўды паліцай быў, ці то іхні прыхвасцень, дакладна ў Гудзе ніхто не ведаў. Ва ўсякім разе, кепскі чалавек, калі пасля вайны асудзілі. Але вярнуўся. Пажылы ўжо. На людзей воўкам глядзеў. Жонка яго адразу пасля вайны сышла з вёскі. Прывёў з сабой нейкую гаротную адзінокую жанчыну. Здзекаваўся з яе, з сінякамі хадзіла. Піў і біў яе.

Аднойчы так рымставаў, так біў жанчыну, што суседскія падлеткі, якія былі на вуліцы, пачуўшы, як яна крычыць, забеглі ў двор. Адцягнулі жанчыну ад Сямёна, накінуліся на яго, нечым стукнулі, і …

Галасілі жанчыны, рукі заломвалі, нічога не маглі зрабіць, забрала міліцыя хлопцаў. Жанчына тая крычала: «Навошта ж так было, дзеткі? Хай бы

ён лепш мяне забіў, а вы двор абмінулі...» Людзі шапталіся, чалавечая кроў на руках Сямёна яшчэ з вайны не высахла, з дзяцей, гэтых хлопцаў, здзекаваўся. Атрымаў сваё… Людзям што, дзеці не іхнія, суседскія. А як быць бацькам тых, хто забіў Сямёна…

«Не дзецям трэба было яго судзіць, — казаў дзед Яўхім. — А калі так атрымалася, дык тых суддзяў, якія Сямёна судзілі. А калі ў іх ёсць сумленне, дык хай самі сябе судзяць, а не дзяцей».

Мудрона сказаў, адразу не зразумееш, Саўка нават пальцам дзеду паківаў: «Маўчы, Яўхім Міхайлавіч, каму каго судзіць — не наша справа. Судзяць па законах, а не па сумленні».

І яшчэ помніцца, праз колькі часу спытаў стары ў Саўкі, ці ведае той, што з хлопцамі з Дубасны, якія прытаўклі паліцая. Зморшчыўся Касмановіч, роспачна рукой махнуў…

Успомнілася цяпер гэта Валіку. Але Іосіфа з Сямёнам не параўноўваў, Кучынскі бяскрыўдны быў, толькі чаму людзі так доўга не даравалі яму за сына? А што нарэшце даравалі, учора зразумеў, калі дзед Яўхім сказаў, што паплыве да яго.

Каб не даравалі, адгаварылі б плысці. І Валіку бацькі не дазволілі б сесці ў лодку. Вось дзе заслонка, не ведае Валік, што яна закрывае, ці адкрывае ў душах дзеда Яўхіма, цёткі Каці, бацькі і маці, зрэшты, усіх гуднянцаў. Ды і тых, хто пасля вайны прыехаў у вёску, пажыўшы тут, ужо добра ведае, што ў вайну было ў Гудзе.

Часам Валіку вельмі хочацца разабрацца ва ўсіх чалавечых адносінах, ва ўсім, што чуе і бачыць вакол сябе. Асабліва ў тым, што тычыцца дзеда Яўхіма і дзеда Іосіфа.

Шмат што не зразумела Валіку ў лёсах гэтых людзей, якія, ведае, некалі маладымі сябравалі, потым сталі ворагамі. Павінна ж быць нейкая рыса, якая развяла іх. За ёй павінна быць нейкая яснасць, а не толькі гэта: бацька паліцая, бацька воінаў… Маўляў, гэта іх і развяло. Але ж нарэшце дзед Яўхім першым кінуўся да свайго нібыта ворага, як толькі пачуў, што таму недзе ў адзіноце, мабыць, вельмі блага…

І вось плывуць на нейкі невядомы Валіку хутар Кашару, закінуты ў нейкім гіблым месцы. Плывуць, каб забраць адтуль Кучынскага, ураваць яго, бо чалавек можа загінуць — нямоглы, вельмі стары. Значыць, ведае дзед, ведаюць людзі пра дзеда Іосіфа нешта такое, што выклікае да яго спагаду.

А ці ёсць вось такая ўжо вельмі адкрытая спагада ва ўсіх да самаго дзеда Яўхіма? Ён жа столькі гадоў чакае сыноў з вайны. І хай гэта жорстка гучыць, але невядома, ці прыйдуць.

Спагада ў тым, што ніхто не асмельваецца яму гэта сказаць?.. Ці ў тым, што таксама верыць: прыйдуць…

Як жа ўсім хочацца, каб прыйшлі, і Валіку — таксама. Як жа хочацца, каб стары дачакаўся іх!.. Ніхто не ведае да канца, што было на душы ў дзеда Яўхіма ўсе гэтыя сем гадоў, як скончылася вайна. І невядома, што зараз у яго на душы, калі падплываюць да Стражы, дзе па меркаванні ўчастковага Савелія Касмановіча ў пачатку вайны маглі быць сыны Яўхіма Міхайлавіча Бараўца.

Вунь з левага берага ўжо бачны лужок, пра які гаварыў стары, рэшткі мастка, нешта счарнелае, падобнае на будан, а крыху воддаль ад яго ў лес уваходзіць парослая маладняком дарога.

— Дзеда, — звярнуўся Валік да старога, які ціха сядзеў на папярэчцы і ўважліва паглядаў на бераг, — здаецца, дарожка на Стражу?

— Туды, Валік, туды, — сказаў стары. — Але як зарасла… А была ж добрая дарога.

## 7

Дарогі зямлі нашай…

Хто ведае, з чыіх першых крокаў пачалася тая, або гэта сцяжынка, дарога, шлях… Калі і дзе яны ўпершыню перапляліся, зліліся, як зліваюцца рэкі… І колькі людзей са сваімі радасцямі, смуткам і горам прайшлі па іх…

І хто ведае, ступіўшы на вядомую, або невядомую яму сцежку, што чакае яго наперадзе праз крок, два, тры, гадзіну, дзве, тыдзень…

Гэтая дарога, па якой ішлі на ўсход Нікадзім, Іван і Васіль, туды, дзе недзе павінен быць фронт, дзе біліся з ворагам тысячы і тысячы такіх жа, як яны, хлопцаў, таксама была пракладзена невядома кім і калі.

Складалася яна з дзвюх дарог. Адна пачыналася ў Заброддзі, з яго доўгай вуліцы, што ішла за вёску паўз раку Дубасну, у луг. Другая — з Гуды, таксама з доўгай, і адзінай там да вайны вуліцы.

У лузе недалёка ад Заброддзя яны сыходзілася ў адну, больш шырокую, месцамі ў чатыры каляіны, каб раз’ехацца і калёсам, і машынам. Дарога назвы не мела, адно — шлях у горад.

Спачатку ішла яна па лузе, недалёка ад ракі, потым узнімалася на вышэйшае, уваходзіла ў змешаны стары лес, які цягнуўся на многія вёрсты, хаваючы ў сваіх нетрах шматлікія паляны, балоты, рачулкі, звярыныя і чалавечыя сцежкі.

Сцярожкая, таямнічая і непрадказальная была і гэтая дарога, на якой ішлі хлопцы. Асабліва цяпер, калі Стража засталася ззаду, калі ўвайшлі ў густы лес, які жыў сваім спрадвечным жыццём.

Здаецца, у ім таксама, як і ў іхніх лясах, спяваюць птушкі. Гэтаксама вецер шуміць у бярозах, соснах, дубравах… І сонца, здаецца, свеціць так, як над іхнімі лясамі, толькі сваё і ёсць сваё, а гэты — чужы. І дарога тут чужая, ва ўсякім выпадку для Нікадзіма і Івана, і хоць Васілю яна добра знаёмая, а ўсё адно не свая.

Было бачна, што па гэтай дарозе апошнім часам ніхто не хадзіў: сляды гуднянцаў і забродзенцаў, якія прайшлі тут крыху больш як тыдзень таму, зацягнуліся ў каляінах, а прымятая трава ўзбоч іх выпрамілася. Каляіны на сухім былі пакрыты пылам, падобным на прасеены попел. На ім — ні чалавечага следу, ні адбіткаў ад калёс фурманак, ці ад колаў машын. І там, дзе каляя спускалася ў лужыны, таксама няма ніякага следу. Да ўсяго, у лужынах, а яны сустракаліся часта, вада была пацягнута цёмнай пацярухай, што падала з дрэў, а дзе і зеленаватай раскай.

Так, усё на дарозе было нечапаным. А здавалася, што яшчэ ўчора Васіль, Нікадзім і Іван разам з іншымі мужчынамі з Заброддзя і Гуды ішлі па ёй на вайну. Ішлі і нават жартавалі: кампанія вялікая, дарога няблізкая, вядома ж, знойдзецца жартаўнік, які будзе паднімаць настрой і сабе, і іншым.

Тады такім жартаўніком быў Ігнат Сапёрскі, мужчына крыху старэйшы за хлопцаў, жанаты, бацька дваіх дзяцей, хлопчыка і дзяўчынкі, блізнят, якія нарадзіліся незадоўга да вайны.

І калі старэйшыя мужчыны, многія з якіх ужо даўно адслужылі сваё, як кажуць, пабачылі і людзей, і свет былі панурыя і задуменныя, а дзевятнаццаці-дваццацігадовыя — насцярожаныя і спалоханыя (вайна, забіць могуць), дык ён гыгыкаў: «Не дрэйф! Мы немца шапкамі закідаем!»

Ігнат паспеў ужо адслужыць. Дык жа ў мірны час. Дзіўны ён быў чалавек, заўсёды вясёлы, ніколі ні на што не скардзіўся, у меру паблажлівы да маладзейшых за сябе. І калі бывалыя адганялі яго ад сябе прэч: «Адыдзі, не сарамаціся, не блазнюк!», дык хлопцы былі радыя: разганяе смутак.

Падышоў ён тады да Васіля і Нікадзіма з Іванам. Хлопцы ішлі апошнімі ў вялікім натоўпе. Шмаргануў Івана за рукаў, выскаліў зубы:

— Што, суседзе, порткі ацяжэлі?

І зарагатаў неяк нервова, роблена. Паглядзелі на яго хлопцы: вусны ў Ігната скрыўлены, шчокі торгаюцца, вочы шкляныя.

— Чаго ты да хлопцаў чэпішся? — сказаў нехта з мужчын. — Гаўкаеш, як цуцык. Нябось, у самога порткі да азадку прыкарэлі, вось і кідаешся ад страху туды-сюды. Баішся?

Ахалонеў Ігнат, быццам сцюдзёнай вады лінулі яму ў твар, не знайшоўся, што адказаць.

— А хто ж не баіцца, — сказаў Хведар Жаўлак, брыгадзір з Заброддзя. Ведалі, Хведар, як і некалькі іншых мужчын, паспеў на фінскай пабыць. Здаецца, яму вайна — не навіна. — І я баюся. Толькі дурань не баіцца. А дурасць да дабра не давядзе.

Зашумеў, загаманіў натоўп. Кожнага быццам па жывым паласнулі Хведаравы словы. А ён далей, ужо звяртаючыся і да Васіля, і да Івана з Нікадзімам, і да Ігната, і, мабыць, да ўсіх, хто яшчэ не ведаў, што такое вайна, і не спазнаў сапраўднага страху, сказаў:

— Лепш цяпер перабаяцца, чым тады, калі ворага ўбачаш. Ты зараз пабойся, пабойся, страх выцісні з сябе: хай вораг цябе баіцца на тваёй зямлі. Хай ведае, што яна пад ягонымі нагамі будзе гарэць, а не пад тваімі. Тады і пра страх свой забудзеш. Тады і сіла ў цябе неймаверная з'явіцца. Тады зразумееш самае простае, але такое патрэбнае: калі не ты заб'еш ворага, дык ён заб'е цябе… Так некалі нас вучылі нашы бацькі, якія яшчэ тую германскую прайшлі. А іх гэтаму вучылі іхнія бацькі. Зрэшты, гэта перадаецца з пакалення ў пакаленне невядома з якіх часоў: людзі колькі жывуць на зямлі, столькі і б'юцца паміж сабой, быццам няма ім іншага занятку. — І, ужо звяртаючыся да Сапёрскага: — У цябе, Ігнаце, як памятаю, двое малых?

— Двое.

— Дык зараз перабойся, каб там ад страху не ашалець, каб галаву не страціць, каб дамоў прыйсці. Лепш цяпер сам сабе, каб ніхто ні чуў, «мама» пракрычаць, чым тады, калі трэба будзе з акопа выскачыць.

Спыніліся мужчыны, слухалі бывалага. Не было тут такога чалавека, хто не баяўся.

— Цьфу, — скалануўся і сплюнуў Ігнат. — Па твойму, я ўжо такі баязлівец, што абавязкова маці ўспомню, калі немца ўбачу? Ды я, каб ты ведаў, у войску ўжо служыў.

— Ведаю. Чаму толькі ты павінен маці ўспомніць? — нібы дзівіўся Жаўлак. — Усе ўспомняць. Усе будуць «мама» крычаць. Вось толькі не ўсе ўслых, ды ні з кожнага страх вывернецца. Будуць і такія, хто пабяжыць. А гэта самае страшнае на вайне.

— А ты не закрычыш?

— Крычаў ужо, і не раз. Але так, каб ніхто не чуў. І маці зваў. І хрысціўся-маліўся, рука не адсохла. І твая не адсохне, калі перахрысцішся. І быў такі адчай і злосць, што мог, ні пра што не думаючы, кінуцца пад кулі. Ажно не, нейкі як пробліск успыхваў: глупства не рабі, а думай, ды бі яго, бі… І я закрычу.

— Што гэта за пробліск такі? — спытаў асцярожна нехта.

— Як табе сказаць? Ну, гэта такі міг, калі ў душы ўсё сціснута ў камяк. Ды так там баліць, што, здаецца, трываць немагчыма. А ты тады раптам маці

і бацьку ўспомніш, сястрычак і брацікаў, людзей, сярод якіх жыў, дом свой і рэчку, і вось гэтую дарогу, па якой мы зараз ідзём, і як пробліск нейкі з’явіцца. І лягчэй табе стане. Словамі я не магу гэта растлумачыць, адчуванне такое ёсць тады. А ты, Ігнаце, канешне ж, найперш успомніш дзяцей і жонку. Вось табе і пробліск: ты ж за іх любому ворагу глотку перагрызеш, калі раптам зброі ў руках не будзе. Перагрызеш, так?

— Ну ты даеш, — сказаў Ігнат. — Ды я за іх, ды я… — Ён схапіўся рукамі за каўнер сарочкі, здавалася, разарве яе.

— А вось гэта лішняе. Кажу, ахалонь. Вось так і спячыся можна. А як ты кажаш, «даеш», маўляў, не тое пляту, дык, што тут даваць? Усе мы аднолькавыя. І такія, як я, баязлівыя, і такія, як ты, смелыя.

Хведар выказаўся, змоўк і толькі цяпер заўважыў, што ўсе спыніліся, акружылі яго. А ўбачыўшы бліжэй за ўсіх каля сябе Івана, Нікадзіма і яго, Ігната, дадаў няпэўнае:

— А, хлопцы?..

Яны нічога на гэта не адказалі. Ды і невядома было, пытаў, або проста так сказаў, да слова.

Не ўяўлялі тады хлопцы, што такі міг, пра які казаў Хведар, міг з пробліскам у душы, можа быць і ў кожнага з іх.

## 8

Амаль цэлы дзень ішлі не спыняючыся. Спяшаліся. Так, Васіль ведаў гэтую дарогу. Шмат разоў хадзіў і ездзіў па ёй пешшу, а таксама ездзіў на калёсах хлопцам, падлеткам, юнаком. Калі малым быў, дык з бацькам. Як вучыўся ў горадзе на трактарыста — сам. За дзень спаўляўся толькі ў які адзін канец.

Ён ведаў тут кожную паваротку, кожную лужыну. Ведаў, дзе і адкуль выходзяць да дарогі сцежкі. Часам яму здавалася, што мог бы з завязанымі вачамі весці па ёй хлопцаў, як вёў зараз, пільна паглядаючы па баках.

Спачатку ішлі асцярожна. Потым, калі дарога заглыбілася ў лес, смела: якія немцы палезуць сюды? Навошта ім гэтая глухамань?

Ішлі, ціха перагаворваліся аб нязначным, хоць кожнага трывожыла думка: ці дойдзем да сваіх. А калі і дойдзем, дык што скажам, і што з намі будзе… А што, калі прыпішуць дэзерцірства?

Хаця, калі паразважаць, непавінны. Яны ж на фронт прыйшлі, самі ў войска вярнуліся, якое тут дэзерцірства?

Вось толькі б дайсці, бо дзе цяпер нашы, ніхто не ведаў. Таксама не ведалі, дзе цяпер немцы. Навокал лес, спяваюць птушкі, чалавечых галасоў не чутна, таксама не чутна стрэлаў, шуму матораў. І калі яшчэ ўчора такою парою бачылі ў небе нямецкія самалёты, што ляцелі на ўсход, а затым гадзіны праз дзве назад, дык цяпер не бачылі ні аднаго самалёта. Ні нашага, ні чужога. Хаця нашых самалётаў яны наогул не бачылі: пазналі б па чырвоных зорках на крылах, а то ўсё крыжы ды крыжы.

Ужо недзе пад вечар, калі, як сказаў Васіль, да шашы, дзе ёсць указальнік, што налева яна ідзе на Маскву (адтуль да сталіцы крыху больш за семсот кіламетраў), заставалася з гадзіну хады, вырашылі папалуднаваць. Звярнулі ў лес, заглыбіліся ў яго. Знайшлі сонечную палянку, селі кругам пад арэхавым кустом.

Васіль паклаў на траву торбачку, якую дала ім старая, развязаў. Дастаў хлеб, сала, цыбулю, вараныя яйкі. Пачалі есці.

Раптам Іван і Нікадзім, яны сядзелі спінамі да лесу, тварамі да дарогі, заўважылі, што Васіль, ён сядзеў насупраць іх, папярхнуўся і здрыгануўся. Ягоны твар імгнення наліўся чырванню, затым збялеў. Не выпускаючы з адной рукі хлеб, з другой сала Васіль стаў паволі падымаць іх.

— Хэндэ хох! — ціха і патрабавальна прагучала за спінамі Нікадзіма і Івана.

— Хэндэ хох! — прагучала ўжо грамчэй.

Іван сяк-так змог падняць амярцвелыя рукі. Нікадзім не змог. Ды і не паспеў: яго нечым стукнулі па патыліцы, ды так, што страціў прытомнасць…

Калі Нікадзім ачнуўся, то не адразу зразумеў, што з ім здарылася. Зразумеў толькі, што яго ногі валочацца па зямлі, што Васіль і Іван некуды цягнуць яго, трымаючы пад пахі.

Заўважыў, што наперадзе іх ідзе мужчына ў такой жа форме, у якой хлопцы бачылі немцаў каля моста. Павярнуў галаву назад, таксама заўважыў за сабой немца. Зразумеў, што трапілі ў палон.

Гэта было жахліва і страшна. Як так магло здарыцца? Усё, мільганула думка…

Неймаверна балела патыліца. У роце было салёна. Адчувалася ежа, якую не паспеў праглынуць. Паглядзеў на хлопцаў, тыя былі панурыя. Маўчалі. Маўчалі і немцы.

Сяк-так сплюнуў ежу. Паспрабаваў стаць на ногі. Яны падкасіліся. Ледзь не ўпаў, пацягнуўшы за сабой Івана і Васіля. Тыя, цяжка сапучы, прыпыніліся на хвілінку, каб падтрымаць яго.

— Шнэль, шнэль! — азлобіўся немец, які ішоў ззаду.

Было зразумела, што патрабаваў, каб ішлі хутчэй: нямецкую мову хлопцы вучылі ў школе, такія словы ведалі.

Нікадзім зноў хацеў спытаць, што здарылася, быццам не разумеў, але немец, які ішоў наперадзе, павярнуўся і патрос зброяй.

Убачылі зблізку твар. Не голены колькі дзён, шчэцце рэдкае, рудое, у вачах застыла нянавісць.

— Шнэль, шнэль!.. Фэрштэйн? — немец патрос аўтаматам. Зброя кароткая, роўны ражок для куль. Выраз твару ў немца такі, што можа стрэліць, і ўсё тут.

— Ком, ком, — прасіпеў той, што ішоў ззаду і, звяртаючыся да таго, які быў спераду, сказаў: — Бачыш, Пятро, а форма ў іх чысценькая. Дэсант. Прышыць бы на месцы, і клопату няма.

— Нельга, Гаўрыла, — мовіў другі. — Камандзір казаў, што толькі ў крайнім выпадку. Тым больш, што дэсант. Колькі іх? Камандзір дапросіць, ён і вырашыць, што з імі рабіць. А лішні шум нам не патрэбны.

Ты, здаецца, па іхняму шпрэхаеш. Спытай, дзе астатнія. А то яшчэ на тых наткнёмся.

— Ну ты даеш, — сказаў Пятро. — Так ужо і шпрэхаю! Кажу, што са школы помню. Хаця, калі дэсант, дык яны па-руску не горш, чым мы з табой разумеюць. Іх жа, мабыць, вучаць. Шпіёны. Чуў пра такіх?

— Чуў, чуў, — незадаволена прамовіў Гаўрыла, і ўтаропіўся ў хлопцаў, спытаў: — Шпрэхэн рускі, нямчура?

У іншай сітуацыі, да вайны, калі б хто так спытаў у хлопцаў на якой гулянцы, смяяліся б: ну і дае!.. Але паспрабуй зараз засмяяцца, яшчэ невядома, што будзе. І хто гэта? Бач, нямчура…

— Рускія мы, — прагаварыў Іван. — Беларусы. Мясцовыя.

— Іш, мяс-цовы-я… Ведаем мы вас, такіх мясцовых. А ну кажыце, адкуль канкрэтна? — Пятро яшчэ бліжэй падышоў да хлопцаў, паглядзеў у твары, дадаў: — Чысценькія, паголеныя, ведаю, чуў, немцы парадак любяць.

— Ды мы не немцы, — сказаў Васіль. — Я з Заброддзя, гэта там, (махнуў галавой на захад) — кіламетраў сорак адсюль. А яны — з Гуды, на другі бераг ракі, суседняя вёска.

Пятро і Гаўрыла пераглянуліся.

— Ёсць такія вёскі ў маім раёне, — раптам прамовіў Пятро. — Я ж з райцэнтра. Чуў пра такія, хоць і не быў там. Добра ж вас падкоўваюць перад тым, як заслаць у тыл. Ладна, каму трэба, разбярэцца. Хаця, можа, і так, адчуваецца наша гаворка. Можа, дэзерціры? Пайшлі, давай, давай!

Гаўрыла таўхнуў аўтаматам Нікадзіма ў плечы.

Хлопцы рушылі ўслед за Пятром. З'явілася надзея, што там, куды іх прывядуць, нехта сапраўды разбярэцца. Зразумее, што яны свае. Ды і не дэзерціры. Здаецца, нават Пятро сумняваецца ў тым, што яны ворагі. А што трапілі да сваіх, было зразумела.

Хлопцаў вялі не да дарогі, а далей ад яе — у гушчар. Ледзь прыкметна пачынала вечарэць.

## 9

…Пройдзе яшчэ нямала дзён, і гэтыя пяцёра маладых хлопцаў, апранутых у форму чырвонаармейцаў, але ўжо ў забруджаную, з васьмю такімі ж, як і яны, пад камандаваннем таго, хто павінен быў «разабрацца» з Васілём, Нікадзімам і Іванам, трапяць у сітуацыю, якая нікому з іх не магла прысніцца нават ў самым страшным сне…

А тады гэтыя двое ўзброеных, ды яшчэ ў нямецкай форме, неўзабаве прывялі Нікадзіма, Івана і Васіля да паляны, дзе іх ужо чакала група чырвонаармейцаў, узброеных нямецкімі і нашымі аўтаматамі і вінтоўкамі. Сярод іх быў і мужчына гадоў пад трыццаць, апрануты ў нашу афіцэрскую форму, з пятліцамі малодшага палітрука.

Прозвішча яго было Груздзеў. Ён быў з кагорты тых вялікіх, не па званні, а па душэўных якасцях савецкіх афіцэраў, для якіх вайскоўцы — не бязлікая маса, а людзі, за лёс якіх адказваеш перад іхнімі бацькамі, жонкамі, дзецьмі, у рэшце рэшт, перад сваім сумленнем.

На першым і апошнім допыце малодшы палітрук Груздзеў зразумеў, каго да яго прывялі.

Яшчэ здаля, глянуўшы на Нікадзіма, Івана і Васіля, затым зблізку, убачыўшы, якія яны разгубленыя і зніякавелыя, зразумеў, што гэта звычайныя вясковыя хлопцы. Спытаў дакументы.

Дакументаў у іх не было. Сказалі, што засталіся ў іхняга камандзіра. Расказалі ўсё, што з імі здарылася з таго моманту, калі немцы разбамбілі эшалон і да таго, пакуль Пятро і Гаўрыла не ўзялі іх у палон.

Груздзева найбольш цікавіў дэсант. Спытаў колькі прыблізна немцаў яны бачылі. Паціснулі плячамі: не лічылі. Але самалётаў было некалькі.

Таксама пацікавіўся, чаму не пайшлі дадому, калі былі так блізка ад яго.

Разумеючы, што знаходзяцца сярод чырвонаармейцаў, Іван з запалам выпаліў:

— Мы ж таксама чырвонаармейцы!

— Прысягу прымалі? — спытаў малодшы палітрук.

— Не паспелі.

Вось па гэтым, што яны чырвонаармейцы, хоць не паспелі прыняць прысягу, Груздзеў зразумеў, што хлопцы могуць стаць сапраўднымі байцамі. Так, не кожны, трапіўшы ў іхняе становішча, знаходзячыся побач з домам, зможа павярнуць у другі бок, пайсці да фронту, нават дакладна не ведаючы, дзе ён. (Пятро таксама не пайшоў дадому, хоць быў да яго бліжэй, чым Васіль, Нікадзім і Іван. Да ўсяго, у яго дома засталіся маці, жонка, чатырохгадовая дачушка. Ягоную маці летам сорак трэцяга немцы на вачах жонкі і дачушкі спаляць жывой. Потым будуць няшчадна здзекавацца з Пятровай жонкі і дачушкі. Яны будуць прымушаць маці атруціць хворую дзяўчынку, дадуць жанчыне таблеткі, якія яна ўкіне сабе ў рот, і толькі тады, з рогатам, адпусцяць, не сказаўшы, што так правяралі, якая яна маці, што таблеткі не былі атрутнымі…)

— Форму гаспадыня хутара памыла? — выслухаўшы хлопцаў чамусьці перапытаў Груздзеў.

— Ага, — кіўнуў галавой Васіль.

Груздзеў доўга маўчаў. Маўчалі і яго байцы, а Васіль, Іван і Нікадзім чакалі, што будзе далей. Было, спачатку, калі іх палонілі, чакалі смерці, цяпер цеплілася надзея, што, можа, абыдзецца…

Не многім людзям выпадае трапляць у такое становішча, калі чалавек разумее, што знаходзіцца на мяжы жыцця і смерці. І, мабыць, кожны, хто трапіў у такую сітуацыю, успрымае гэта па-свойму. І хоць Васіль, Нікадзім і Іван не чыталі Дастаеўскага, які ў сваім рамане «Ідыёт» апісаў такія пачуцці чалавека, які чакае смерці (сам перажыў), нешта падобнае адчуваў і кожны з іх, хоць сітуацыі былі розныя. У Дастаеўскага — рэальная хвіліна смерці, у хлопцаў — калі быццам падышлі да мяжы, за якой яна, бо яшчэ не было канчатковага прысуду…

Жахлівым было яшчэ і тое, што людзі, якія акружалі малодшага палітрука, як здавалася хлопцам, толькі і чакалі прысуду, каб неадкладна выканаць яго. Іхняя варожасць да Васіля, Івана і Нікадзіма была бачна настолькі выразна, што ажно ледзяніла нутро.

Збялелыя Васіль, Нікадзім і Іван стаялі перад тым, хто павінен быў вынесці ім прысуд, і ў кожнага зноў цеплілася надзея: не расстраляюць, мы ж свае, нашы…

Тым часам малодшы палітрук, ужо ўсё ведаючы пра гэтых хлопцаў, чамусьці спытаў, паглядаючы на Івана, на выгляд маладзейшага за Васіля і Нікадзіма (ён і быў маладзейшы на год), худога, змарнелага падлетка, няйнакш:

— Уцяклі ад эшалона, бо страшна было?

— Але, — кіўнуў галавой Іван.

— А як жа вы ваяваць збіраецеся, калі там спалохаліся? — спытаў малодшы палітрук.

— Усе ваююць, — роспачна прагаварыў Васіль. — І мы зможам.

Малодшы палітрук разумеў, што ваяваць яны змогуць, але варта іх таксама, як і гэтых ягоных байцоў, навучыць.

Разумеў, што яны перамаглі ўжо сябе, свой страх перад ворагам, перад усімі ўжо вядомымі і невядомымі ім жахамі вайны — ідучы дадому, каб схавацца ад яе, раптам павярнулі туды, дзе, як сказаў адзін з іх: «Усе ваююць».

Малодшы палітрук паглядзеў на яго, на Нікадзіма і Івана, і загадаў:

— Стаць у строй!

Па многіх дарогах пад камандаваннем малодшага палітрука Груздзева пройдуць Васіль Кечык, Нікадзім і Іван Бараўцы, чырвонаармейцы, якія не паспелі нават прыняць прысягі.

На гэтых дарогах да фронту, быццам бы далёкіх ад вайны (ворага група абыходзіла) хлопцы знойдуць новых сяброў-таварышаў, зблізяцца з імі, асабліва з Пятром і Гаўрылам, якія ўзялі іх у палон, і будуць ім ўдзячны за гэта.

Па гэтых дарогах раней іх на ўсход, туды дзе фронт, а таксама пазней вялікімі механізаванымі калонамі, малымі групамі пройдуць нямецкія танкі і аўтамашыны. Гэтыя дарогі будзе няшчадна таптаць бот чужынца. На гэтых дарогах многія акружэнцы, такія ж, як байцы Груздзева, уступяць у бой з ворагам, хто ў свой апошні, а хто ў чарговы раз. На гэтых дарогах многія палягуць, і не ўсіх іх пахаваюць таварышы і людзі. На гэтых дарогах і па сёння нямала безыменных магіл, ад якіх не паўсюль засталіся грудкі, і пра якія мы не ведаем і не здагадваемся…

На гэтых дарогах, дзе палеглі воіны, ужо многа гадоў іх дзеці, унукі, праўнукі, і не толькі родныя, будуць адшукваць іхнія магілы, каб даведацца, якія прозвішчы былі ў гэтых байцоў, каб навечна ўшанаваць іх памяць.

Таксама на гэтых дарогах, таксама ўжо многа гадоў іншыя дзеці, унукі і праўнукі, быццам краты, будуць раскопваць іхнія магілы з іншай мэтай: людзі назавуць іх «чорнымі капальнікамі», або «черными копателями»…

Шмат разоў чырвонаармейцы пад камандаваннем Груздзева будуць трапляць у тыл немцаў — ваенныя дарогі не даюць дакладных межаў: тут мы — там вораг, наглядаць за ім, вывучаючы яго паводзіны і звычкі, але не будуць уступаць у бой.

На гэтых дарогах, на месцах нядаўніх баёў яны будуць знаходзіць і нашу, і нямецкую зброю, без якой на вайне няма чаго рабіць. На гэтых дарогах не раз і не два яны будуць аддаваць зямлі астанкі загінуўшых байцоў, сваіх равеснікаў, не ведаючы, што пасля вайны іхнія бацькі, жонкі і дзеці атрымаюць горкія дакументы: «Без вести пропал».

На гэтых дарогах паступова не толькі чырвонаармейцы-акружэнцы Груздзева, а і тысячы іншых такіх жа акружэнцаў ператворацца ў сапраўдых воінаў…

Малодшы палітрук Груздзеў, наглядаючы за падначаленымі, бачыў, як адбываецца станаўленне кожнага з іх. Груздзеў ужо быў вопытным камандзірам, і тую спрадвечную праўду вайны, якую ведае кожны, хто ваяваў, і якая перадаецца з пакалення ў пакаленне, маўляў, калі ты не заб'еш ворага, то вораг заб'е цябе, яшчэ з фінскай, так бы мовіць, пашырыў для сябе. А менавіта: вораг заб'е не толькі цябе, ён заб'е тваіх бацькоў, родных і блізкіх, суседзяў, знаёмых і незнаёмых людзей, урэшце, знішчыць твой народ, Айчыну. І тут «ты» ён разумеў, як усе мы, а «цябе» — як усіх нас. А таксама разумеў, што адзін ты можаш загінуць, забіўшы, або не забіўшы ворага, вось толькі дзеля чаго, з якой мэтай, чым гэта будзе апраўдана. Так што, сярод многіх праўдаў вайны ёсць і такая: «Гінуць ні за што нельга»…

Вайна заспела Груздзева недалёка ад граніцы. У першы ж дзень часць, у якой ён служыў, трапіла пад бамбёжку і фактычна была разбіта. Ацалелі не многія… І вось ужо колькі дзён Груздзеў з двума байцамі з роты, у якой служыў (засталіся жывымі, не збеглі, не трапілі ў палон, як іншыя), ды з тымі, каго падабраў па дарозе, рухаўся на ўсход.

Паход іх быў цяжкі і бяспечны. Даводзілася абыходзіць немцаў. Рызыкуючы, прыходзілася заходзіць у вёскі, прасіць ежу, распытваць дарогу. Людзі давалі, што маглі. Падказвалі, куды ісці. Бяспекі хапала, але пакуль ім шанца-

вала. Ды і самі асцерагаліся, больш ішлі лясамі і пералескамі. Перад кожным прывалам выстаўлялі ахову, збіраючыся ісці далей наперад, высылалі разведку. Найчасцей у яе хадзілі Пятро і Гаўрыла. Іх Груздзеў добра ведаў, яны служылі з ім ужо другі год.

Пятро і Гаўрыла, ідучы ў разведку, апраналі нямецкую форму. Раздабылі яны яе яшчэ ў пачатку свайго паходу да лініі фронту, «зняўшы» ноччу двух вартавых нямецкага абоза каля нейкай спаленай датла пустой вёсачкі.

Пятро, як і яго сябра Гаўрыла, яшчэ да войска быў шафёрам. Кемлівы, калі трэба, напорысты, гарачы, тым не менш ён мог стрымліваць сябе, каб дзейнічаць разважліва. Таварышаў заўсёды падтрымліваў, здавалася, нічога не баяўся.

Груздзеў ведаў, што такія ніколі не падводзяць, першыя кідаюцца туды, дзе страшна. Чужая бяда для такіх — свая. Гэтаму навучыцца цяжка. З гэтым трэба нарадзіцца.

Гаўрыла быў крыху мякчэйшы, чым Пятро. Але таксама таварысцкі. Калі трэба, апошняе аддасць таварышу. Груздзеў яшчэ да вайны заўважаў гэта за Гаўрылам, тым больш цяпер. Бачыў, як той на прывалах нібы неўзаметку падсоўваў сваю бульбіну, ці лустачку хлеба Івану, Нікадзіму, або Васілю — навічкам няпроста прывыкаць да такога жыцця, якім жыла група.

Гаўрыла па натуры быў фарсістым. Але ягоная фарсістасць з гумарам, з самаіроніяй. Гэта ўсім падабалася. Казаў, што да вайны, вывучыўшыся на шафёра, у сваім пасёлку перавазіў усіх нявест.

Калі пыталі, куды, адказваў: «Куды, куды, да іхніх жаніхоў! Не да сябе ж у хату!» І смяяўся: «А вы, сабакі, думалі куды».

«Сабака» было ягонае любімае слоўца. Пры настроі надзяляў ім кожнага, канешне, апрача камандзіра. Укладваў у гэтае слова свой асаблівы сэнс: лёгкая іронія, пахвала, і нават абурэнне.

Ніхто на яго за гэта не крыўдаваў. У войску і мяно ў яго такое было: Гаўрыла-сабака…

І на яго Груздзеў ускладваў асаблівыя надзеі: крэмень! Часам, гледзячы на Пятра і Гаўрылу ўспамінаў, як ужо за Бабруйскам, па дарозе на Доўск (а там шлях на Маскву, гэта кожны афіцэр і без карты ведае), каля вёскі Перасека ўбачылі ў кювеце пакінутую машыну. Палутарку.

Пятро і Гаўрыла завялі яе, хлопцы выштурхнулі на шашу: цяпер паедзем!.. Груздзеў ужо наважыўся даць каманду: «У машыну!», як заўважылі ззаду, можа, за кіламетр, нямецкія машыны.

І адкуль яны з’явіліся!.. Ішлі паўз дарогу, нікога не бачылі. А тут…

Груздзеў загадаў адыходзіць. Улева, лясок недалёка. Праз лужок. Заенчыў, як дзіця, Гаўрыла: «Таварыш малодшы палітрук! Вы адыходзьце, а я машыну павяду. Дарогу ўлева знайду, сустрэнемся».

Пятро падтрымаў Гаўрылу:

— Дазвольце і мне.

— Назад! За мной! — загадаў Груздзеў.

Падпарадкаваліся. Разам з усімі кінуліся да ляска. Крыху адбегліся — свіст у паветры… І адразу ж гарачая хваля апякла хлопцаў, аглушыў выбух. А машына — ушчэнт!.. Побач з хлопцамі падала тое, што ад яе засталося, секла зямлю.

Калі ўжо дабеглі да ўзлеску, Груздзеў, заўважаючы, што ўсе тут, сказаў:

— Ну што, Гаўрыла?

— Ат, таварыш камандзір. Мы з Пятром машыну ўратавалі б.

— Як?

— Я — за рулём, ехаў бы зігзагам: паспрабуй пацэль. А Пятро з падножкі крычаў бы: «Снарад злева!.. Снарад справа!..»

— А потым ты з Пятром — уверх! — сказаў нехта. — Было б вам, снарад злева, снарад справа. Гэта табе не чужых нявест вазіць.

— Но! Но! — узняў руку ўверх Гаўрыла. — Сабака!.. Жыцця не бачыў. А я… А мы…

Калона праехала па шашы, не спынілася, пагоні не было. Заглыбіліся ў лес, Груздзеў выставіў дазор, двух байцоў накіраваў да лугу. Загадаў адпачыць, паглядаючы на Гаўрылу, які, мабыць, так і не зразумеў, што магло б здарыцца з ім і Пятром, калі б не пакінулі машыну, сказаў:

— Гаўрыла, вось не пабеглі б вы з Пятром, дык хто б пасля вайны ў тваім пасёлку хлопцам нявест вазіў бы?

Сказаў не як камандзір, як таварыш. Здараюцца такія моманты на вайне, калі камандзіру трэба быць таварышам сваім байцам.

— Увогуле так, — зняўшы пілотку, выціраючы пот з ілба, прамовіў Гаўрыла. — У пасёлку, ды і на ўсю акругу больш такіх, як я, шафёраў няма. Ёсць, праўда, шафёры, але ж не такія. Я ж магу машынай кіраваць, стоячы адной нагой на падножцы. Сабака!

— Гэта хто? — спыталі хлопцы.

— Хто, хто… Я!

— А сабе хоць нявесту прывёз?

— Не. Адкуль? Малая яшчэ была мая нявеста. Суседская Зінка. Во такая (правёў рукой каля грудзей). Але катаў яе. Усё пра яе думаю. Як яна там… Можа, немцы наш пасёлак ужо занялі.

— Як усе, — сказаў нехта. — Нават калі занялі.

Груздзеў абнадзеіў:

— Не думаю, што да Смаленска фронт дойдзе. А Зінку сваю пасля вайны да сябе прывязеш.

Сказаў і ўсміхнуўся, уявіўшы Гаўрылу жаніхом: на галаве замест заношанай пілоткі — шапка з кветкай.

— Цяпер маёй Зінцы сямнаццаць, — працягваў Гаўрыла. — Вярнуся, і прывязу. А што?

— Канешне, прывязеш, — зноў абнадзеіў яго Груздзеў. — І ўсіх нас на вяселле запросіш.

— Таварыш малодшы палітрук, — сказаў нехта. — Ён жа пажмоціцца, не запросіць. Хіба вас.

— Я?! — абурыўся Гаўрыла. — Ды я за кожным з вас з Зінкай на машыне прыеду!

— Па ўсім Саюзе?

— А што? Я — смаленскі. Мы такія…

Засмяяліся.

(Шмат разоў пасля вайны, прайшоўшы палон, а потым адбыўшы тэрмін у лагеры на сваёй зямлі, Гаўрыла захоча праехаць па ўсім Саюзе, каб наведаць сваіх баявых сяброў. Але па «ўсім Саюзе» не атрымаецца. Прыедзе ён са сваёй Зінкай толькі ў Беларусь, у вёскі Гуду і Заброддзе на беразе Дубасны, бо запомніць «адрасы» толькі трох гэтых сваіх баявых таварышаў, якіх разам з Пятром браў у палон, як немцаў.)

Груздзеў глядзеў на хлопцаў. Настрой такі, нібы і не было вайны. Падумаў, ведае, як кажуць, чым кожны дыхае. Эх, хлопцы, хлопцы… Калі яшчэ вайна скончыцца? Праз год, два, тры…

Груздзеў добра ведаў, што такое вайна. На фінскай кампаніі пабыў не госцем. Мёрз у акопах разам з байцамі і іншымі камандзірамі. Першым падні-

маўся ў атаку, між іншым, як сапраўдны палітрук. Многіх сваіх саслужыўцаў пахаваў. Але помніў усіх. І тых, хто застаўся жывым — таксама.

Ведаў, што ўсе гэтыя ягоных байцы, акрамя Пятра, халасцякі. Зрэшты, як і ён сам. Разумеў, калі каму давядзецца легчы ў зямлю, ягонага атожылка не застанецца. Ведаў, што і ягоны род, род Груздзевых, калі загіне, на гэтым скончыцца. Вось і яшчэ адна жахлівая праўда вайны…

Адпачывалі. Дарога да фронту невядомая, цяжкая. І хто скажа, дзе зараз фронт. Адно вядома: на ўсходзе, нямецкія калоны ідуць туды.

**10**

І яшчэ колькі дзён і начэй малодшы палітрук Груздзеў вёў сваіх байцоў на ўсход. Каля Доўска звярнулі налева, на Маскву. А да Масквы, калі фронт недзе там, яшчэ ісці і ісці. Афіцэр, хоць і палітрук, а ў гэтым паходзе паводзіў сябе і як страявы камандзір: ёсць баявы вопыт.

Часам думаў, што фронт павінен быць бліжэй. Што б ні было, а нашы да Масквы адступаць не будуць. Касцьмі лягуць, а ворага да яе не дапусцяць. Можа, каля Смаленска фронт. А можа, на мяжы Расіі з Беларуссю. Хаця пакуль не чутна, што ён блізка. І ў вёсках, куды наведвалася разведка, пра фронт нічога не чуваць. Адно паказваюць на ўсход.

Што ішлі па Беларусі і без карты было зразумела. Па мове. Своеасаблівая, але зразумелая. Але з кожным днём, калі заходзілі ў вёскі, гаворка прыкметна мянялася, з’яўляліся рускія словы. Значыць, усё бліжэй і бліжэй да Расіі.

І вось ужо Расія. А што яна, даведаліся, сустрэўшы ў лесе дзядка, які нечакана выйшаў з гушчару да іх на паляну, дзе яны спыніліся на прывал.

Хлопцы, хто сядзеў, прытуліўшыся да дрэва, хто ляжаў у цяні. Грудзеў нават не выставіў дазор, палічыўшы, што ў такой глухамані ім нішто не пагражае.

Заўважылі старога толькі тады, калі ён вырас перад імі нібы з-пад зямлі. Сівабароды, у лапленай світцы, у лапцях, з сякерай за поясам, спачатку кіўнуў галавой, затым прагаварыў:

— Ну так что, сыновья, здорова? — І не чакаючы адказу, дадаў: — Дозор-то, командир, выставить надобно. Немец, он и здесь хаживает. И колоннами, и так. Да и летает. Вчерась постреливал с воздуха.

Ускочылі хлопцы, глядзяць на Груздзева. Нехта клацнуў затворам.

— Не дури, малец, еще настреляешься! — прыкрыкнуў на яго стары. — И не пугай! Не из пугливых, я этого добра (паказаў на вінтоўку) еще в империалистическую навидался.

— Здорово, отец, — падышоў да яго Груздзеў. — За совет — спасибо. Выставлю.

— Издалека?

— Здалёку.

— Здалёку, кажаш, — стары, быццам спачуваючы ўздыхнуў, і таксама перайшоў на беларускую мову. — Цяпер усе здалёку ідуць, а то і бягуць. Напэўна, ужо час спыніцца. А яны ўсё ідуць ды бягуць, па адным, групамі, сёння адны, заўтра другія. Здараецца, адны другіх баяцца. А трэба было б, каб разам. Як у нас кажуць, разам і бацьку лацвей біць.

І адкуль, калі не сакрэт, ідзяце?

— Амаль ад самай граніцы, — сказаў Груздзеў.

— Ого!

— А чаму, баця, так смела ходзіш, калі немец побач? Ды яшчэ адзін. А цяпер — прама на нас выйшаў. А раптам мы — немцы.

— Немцы на маёй зямлі, ды яшчэ ў маім лесе мяне не заўважаць. Сам жа я да іх, як да вас, не выйду. Немцы яны… Якія вы немцы? Говар выдае: нашы хлопцы, рускія, беларусы, здаецца, іншыя нацыі ёсць. Чуў. А таксама бачыў, як ідзяце. Стаміліся, растаптанымі ботамі па зямлі ледзь шаркаеце. Голодныя, ягаду на хаду хапаеце.

— Есть маленько, отец, — Груздзеў перайшоў на рускую мову, дапытліва паглядзеў на старога. — Говоришь, надо бы вместе. Вот и идем к своим, чтобы вместе. Ты лучше скажи, отец, где мы? Фронт далеко, не слыхал?

Стары не спяшаўся з адказам. Уважліва паглядзеў на кожнага з хлопцаў, быццам лічыў. Можа, і лічыў. З Груздзевым іх было чатырнаццаць.

Паглядзеў, чым узброены: аўтаматы нямецкія, некалькі вінтовак, і нават у некаторых гранаты за поясам. Нашы, з насечкамі, і нямецкія, з доўгімі ручкамі. А ў Груздзева, як і трэба, на баку тапырыцца кабур.

— Спрашиваешь, фронт где… Как тебе ответить, командир? Оружие в бою взяли?

— Не совсем. Боев у нас не было. По дороге нашли.

— Говоришь, не было… Вот вы все к Москве идете, да спрашиваете, где фронт. Знать, под ее, Москвы-та, крылышко спрятаться наровите. А что будет, коли все побегут? Да все под крылышко?

Груздзеў маўчаў.

— Фронт… А хто яго ведае? — ужо больш спакойна, па-беларуску, працягваў стары. — Хаця чуткі пра фронт далёка разносяцца, а паспрабуй дакладна вызначыць, дзе ён. А вось тое, што наша зямля пад чужым ботам стогне, дык бачна. А фронт… Чулі такі горад, Крычаў?

— А як жа? Пазаўчора абышлі яго. Немцы там.

Груздзеў зноў пачаў гаварыць па-беларуску.

— А как ему не быть, когда все мимо идут?.. Шоссе не далеко от города есть: Москва—Варшава. Я по шоссе этому на империалистическую в четырнадцатом шел. И назад — тоже.

— Дык мы правільна на Маскву ідзём? Не на Варшаву?

— Погодь… Сказывают, там солдатик, вроде твоих, тоже совсем мальчишка, вражескую колонну расколошматил. Много машин и танков пожег, да и немало немца положил[1].

— Няўжо адзін?

— Сказывают, один. С пушечкой маленькой… Так вот, долго бой держал, и сам лёг. Немцы его, врага-то своего, потом с почестями похоронили. Даже местный люд согнали, дескать, воин какой. Вот и решай, где для него фронт был.

Стары змоўк. Паклаў руку на сэрца. Крыху патрымаў яе на грудзях, быццам прыслухоўваючыся, як яно б'ецца, потым рэзка апусціў яе, махнуў.

Груздзеву здалося, што пры гэтым стары грэбліва паглядзеў на яго.

— Але, — зняў фуражку Груздзеў.

Гледзячы на малодшага палітрука, знялі з галоў пілоткі і яго салдаты.

---

[1] Подзвіг старшага сяржанта-артылерыста Мікалая Сірацініна, які 17 ліпеня 1941 года, прыкрываючы адыход таварышаў каля в. Сакольнічы пад г. Крычавам адзін уступіў у бой з варожай калонай. Па афіцыйных звестках у гэтым баі ён знішчыў 11 танкаў, 7 бронемашын, вялікую колькасць жывой сілы праціўніка. Пахаваны там жа ворагам з воінскімі ўшанаваннямі.

— Ты вось што, баця. Не судзі мяне вельмі ўжо строга. Так атрымалася. Калі б я быў адзін, можа, таксама, як той воін, ужо даўно дзе-небудзь лёг бы. А паваяваць я паспеў. Не на гэтай, на іншай вайне. За спіны байцоў не хаваўся. Каб хаваўся, сам ведаеш, свае шлёпнулі б.

— Ведаю, — раптам па-беларуску сказаў стары, — не крыўдуй.

— Ёсць сярод іх, — Груздзеў кіўнуў на хлопцаў, — і тыя, хто служыў. Абучаныя. Праўда, толькі двое. Астатніх па дарозе сустрэў. Хлапчукамі былі, нават прысягі не паспелі прыняць. А зараз — воіны. А той, пра якога кажаш, мабыць, някепска абучаны быў, калі з гарматай.

— Напэўна.

— Да сваіх прыйдзем, і — у бой! А трэба будзе — і раней. Здаецца, пакуль патрэбы такой не было.

— Дай бог, калі так, — сказаў стары. — Ну што ж, тады ты правільна робіш, камандзір. Беражы іх. А да фронту, калі не за дзень-два, усё адно дойдзеце. А пакуль выдзелі мне пару-тройку хлопцаў. Са мной пойдуць. Па дарозе расталкую ім, як вам далей ісці. У вёсцы харч дадзім. Што старая мая збярэ, што людзі. Вёсачка наша невялікая, яна адсюль недалёка, у лесе. Я чаму за вамі ішоў. Хто ведае, які цяпер люд па лясах ходзіць. Мы вас яшчэ здаля заўважылі. Да вёскі вы ішлі. А я скіраваўся насустрач, каб вас адвесці ад яе, ажно вы самі звярнулі. Дорогу да нас мы лаўжамі завалілі, маўляў, далей ходу няма. Глухамань вакол.

— Чым, чым? — спытаў Груздзеў.

— Лаўжамі, кажу. Жонка мая — беларуска, гэта слова яе. Я — рускі. Лаўжы па-руску — валежник.

— Вось яно што, — сказаў Груздеў, — бачылі лаўжы. Да іх і за імі па дарозе ёсць след ад машыны. Трэба было б замесці, калі ўжо такая маскіроўка.

— Іш ты, заўважыў. Замяцём. Ёсць яшчэ каму, хоць старыя засталіся ў вёсцы, а мацуемся. Усе нашы хлопцы і мужчыны адразу пайшлі ў раён, як даведаліся, што вайна. У першы ж дзень пайшлі: прыбегла мая ўнучка з раёна, яна там дзесяцігодку скончыла, крычыць: «Вайна!»

А калі так, то ваяваць пайшлі ўсе, хто мог. А мне куды? Гады… Так што мой фронт цяпер там, дзе я. Гэта не я прыдумаў, так людзі кажуць, тыя, што ўзняліся супраць ворага не на фронце, а ў тыле. Думаю, што і я яшчэ спатрэблюся. Можа, вам, можа, іншым, калі нашы яны. А, можа, і вораг спазнае мяне. Ну што ж, а пакуль не першых вас такіх сустракаю, і не апошніх. І вайскоўцы ідуць, і цывільныя. І маладыя, і старыя.

Вунь што нас трывожыць, учора дзеткі з настаўніцай на машыне прыехалі. Дзетдомаўцы. Мы хацелі, каб яны засталіся. Накармілі, як маглі суцешылі, а настаўніца кажа: «Далей пойдзем». Праўда, унучка мая, Волька, пайшла з імі. Як жа настаўніцы адной? Удзвюх смялей. Волька шлях да шашы ведае і паўз яе дарогу ведае. Вёска там адна вялікая ёсць, адтуль я родам. Хаця б туды ім дайсці — усё ж бліжэй да фронту. Спадзяюся, знойдуцца там людзі, дапамогуць, калі не фронт перайсці, дык харчам, можа, і па хатах разбяруць.

— А машына, што?

— Машына ехала, хоць пабітая кулямі. З шафёрам кепска. Дзяцей ён вёз. Поле там доўгае, дарога паўз лес, выйдзеце з яго, убачыце. Самалёт наляцеў, ну і давай страляць.

Шафёр дзяцей высыпаў: «У лес!» Пабеглі яны ў гушчар. А яму куды? У лес дарогі не бачыць. Ну і пагнаў паўз лес. Пакуль дарогу знайшоў, куля і джыгнула ў плячо. Наскрозь… А затым, пакуль самалёт развярнуўся, шафёр дарогу ў нашу вёску знайшоў, змог у лес заехаць. А тут я і мой сусед Трафім на дарозе, якраз збіраліся яе заваліць.

Трафім з шафёрам у вёску паехаў, яго ж перавязаць трэба было. А дзяцей я пазбіраў. Усе цэлыя. Толькі перапалоханыя. Шафёра жанчыны перавязалі. Дзяцей, кажу, накармілі, ледзь супакоілі. А далей што… Самалёт жа той над вёскай праляцеў, праўда, нават не стрэльнуў. Мы, калі што, сваіх у лес адвядзём, схаваем у балоце. Нашы прывычныя. А гэтыя гарадскія, іх жа камары з'ядуць, яны ж там сплачуцца. Ды і не зможам іх дагледзець, у вёсцы адны старыя ды дзеці. Хто ведае, калі вайна скончыцца… А ўсё адно хацелі пакінуць у сябе малых, але настаўніца кажа: «Не, дзякуй. Давяду». Ну і пайшлі па гэтай дарозе, па якой вы ішлі, а потым сюды завярнулі.

Я чаго: па дарозе за імі ісці будзеце. Даганіце, давядзі іх, сынок, давядзі. Баюся, самі не дойдуць. Калі б мог, я сам з вамі пайшоў бы. А цяпер хлопцаў давай. Час бяжыць.

— Таварыш малодшы палітрук! — Гаўрыла падбег да Груздзева. — Машына ж… Дагонім! Вы нас на дарозе чакайце, каб не размінуцца.

— Гаўрыла, Пятро, Васіль, ідзіце з бацем, — загадаў Груздзеў. — Машыну сюды!

Стары запытальна паглядзеў на Груздзева.

— Баця, чуеш, што хлопцы кажуць? — сказаў Груздеў. — Абавязкова давязём!

Стары моўчкі пацiснуў яму руку, павярнуўся, пайшоў з паляны ў лес. За ім — Гаўрыла, Пятро і Васіль.

Астатнія стаялі моўчкі. Чулі, што казаў стары. І пра тое, што бягуць, і пра дзяцей. Адчувалі сябе няёмка…

Хлопцы вярнуліся прыблізна праз гадзіну. Прыехалі па лясной дарозе на палутарцы. Гаўрыла быў за рулём, Пятро і Васіль сядзелі ў кузаве. Прывезлі сала, хлеба, нават адваранай бульбы і дзве бутэлькі малака. Не шмат усяго, але перакусіць зараз, ды пакінуць на потым, на вячэру і сняданак ёсць што.

Падышлі да машыны. Агледзелі яе. У некалькіх месцах кулямі прабіты кузаў, кабіна, і нават капот. Здзівіліся, як яна яшчэ магла ехаць.

— Го! Гэта ж палутарка! — сказаў Гаўрыла. — Яна ўсё магёць. Ты мне пакінь раму, колы, руль, матор — больш нічога не трэба: паеду на ёй. На вучэннях ездзіў. Канешне, гаручка трэба. А яна ёсць. Старыя запаслівыя. У дзедавага сябра яшчэ літраў дваццаць знайшлося. Кажа, некалі вайскоўцы недалёка лагерам стаялі, выменяў на чэмергес, на самагонку, так яе тут завуць.

— А вам гарэлкі далі? — спыталі хлопцы. — Нікадзім, Ваня, дзе ваша конаўка? Даставайце, Гаўрыла па кроплі аджалее.

Засмяяліся.

— Кінь, конаўка! — не зразумеў жарту Нікадзім. — Бач, прыглянулася. Ты мне яе не пагань!

— Вы што? — апасліва паглядаючы на Груздзева, сказаў Гаўрыла. — Прапаноўвалі на лякарства, але мы… Вады ўзялі. Бідон. У кузаве.

— Вады. Вады мы і без конаўкі пап'ём. Прыгаршчамі.

— Не дуры, Гаўрыла, — сказаў Груздзеў. — Далі дык далі. Па вачах бачу. Трымай. Потым, як выйдзем з акружэння, разбяромся, што за лякарства. Пра дарогу сказаў баця?

— Так, — адказаў Пятро замест Гаўрылы, які зрабіў пакрыўджаны выгляд. — Вёрст праз пяць выедзем на луг. Праз яго — дарога ў другі лес. Праз той лес, кіламетраў праз дзесяць — шаша. Па ёй налева — на Маскву. Казаў, каб на шашу не выязджалі. Казаў, што на ўнучку спадзяецца, яна ў яго кемлівая, давядзе малых да вёскі, з якой ён родам. А там, казаў, што яго,

Мацея Сураўцава, усе ведаюць. І ўнучку яго ведаюць, так што, трэба спадзявацца на лепшае.

— Ну што, перакусваць не будзем? — спытаў Груздзеў.

— Ды які перакус, таварыш, малодшы палітрук! — абурыўся Гаўрыла. — Дзяцей дагнаць бы.

— У машыну! — загадаў Груздзеў.

**11**

Машына ішла па вузкай калдобістай лясной дарозе. Ішла цяжка, паволі, часам кранаючы кабінай і бартамі голле дрэў, часам буксуючы ў лужынах. Тады хлопцы саскоквалі з кузава, таўхалі яе наперад, а выпхнуўшы, брудныя, запэцканыя граззю, зноў садзіліся на машыну, якую вёў Гаўрыла. Груздзеў, калі буксавалі, саскокваў з падножкі, на якой стаяў злева, побач з вадзіцелем, дапамагаў хлопцам, затым вяртаўся назад.

Звычайныя хлопцы. Як адзін прасцякі, якія яшчэ нічога асаблівага не бачылі ў жыцці, акрамя таго, што рабілася ў іх вёсках, пасёлках, у гарадках. Без асаблівай адукацыі, кніг чыталі мала, культурны ўзровень — два-тры кінафільмы, і ўсё…

Але, як заўважаў даўно, прайшоў жа з імі нямала, кожны быў з нейкім тым унутраным стрыжнем, які пад уздзеяннем няпрадбачанай сітуацыі гнецца, а потым выпростваецца, нібы выстрэльвае: не зламаць.

Колькі ішлі, ніхто з іх не хныкаў, ніхто не збег, а браты Бараўцы і Кечык, калі былі зусім блізка ад дому, змаглі перасіліць сябе, павярнуць, падацца да фронту. А гэта — няпроста было зрабіць. Учынак! Нутро высвечае, без гнілі. Ды і ўсе астатнія — таксама.

Груздзеў ужо даўно вывучыў кожнага свайго байца, кожнага зразумеў і быў упэўнены, што ніхто яго не падвядзе.

Але вельмі трывожыла: як нашы сустрэнуць яго і ягоных падначаленых… Час ваенны, дзейнічаюць жорсткія законы, што будзе з хлопцамі…

Канешне, адразу ж пачнуцца допыты. Без гэтага нельга. Але якія? І хто будзе дапытваць: выскачкі, службісты, баязліўцы, якія ў кожным, акрамя сябе, бачаць ворага, або сапраўдныя людзі, для каго кожны з яго трынаццаці чырвонаармейцаў — перш за ўсё чалавек.

Калі першыя, а такіх ён пабачыў нямала, дык будуць выбіваць з хлопцаў паказанні супраць яго: малодшы палітрук, баязлівец, пакінуў роту, пабег… Прасцей кажучы, дэзерцір, а можа, і вораг…

Многаму за час паходу навучыў сваіх падначаленых Груздзеў. Ён навучыў іх карыстацца зброяй, нашай і нямецкай. Вучыў пераадольваць страх. Вучыў не п’янець ад поспеху — апошняя справа… Вучыў заўсёды быць людзьмі. І — не здраджваць сабе і таварышам.

Нямала расказваў пра баі на так званай фінскай вайне, пра сваіх баявых сяброў. І ўсякі раз засяроджваўся на тым, што самае складанае на вайне — заставацца чалавекам, што б з табой ні здарылася. Можа быць палон. Можа здарыцца, што табе не паверацЬ свае. Можа атрымаецца так, што будуць патрабаваць, каб пацвердзіў паклёп на таварыша, шмат чаго можа здарыцца з табой на вайне, калі ты павінен насуперак усяму застацца чалавекам. А вось ці зможаш, залежыць толькі ад цябе…

Апошняе, заставацца чалавекам, напэўна, самае складанае…

Разумеў, што перш за ўсё будуць дапытваць яго: пакінуў роту, а калі не пакінуў, дык чаму так бяздарна ваяваў, што тут.

Разумеў, што і ў яго могуць «выбіваць» прызнанне ў здрадзе, і быў гатовы да гэтага: выстаю, разбяруцца, адправяць на перадавую. А не выстаю — расстраляюць…

Быў упэўнены, што выстаяць усе да аднаго трынаццаць ягоных байцоў, пасля чаго іх праверацъ, накіруюць на фронт, дзе яны будуць змагацца, як і належыць воінам. Нават уяўляў, як кожны з іх будзе паводзіць сябе ў баі: паразнаму, але ніхто не схібіць…

Цяжкім быў іхні паход па сваёй зямлі, захопленай ворагам. Цяжкім і фізічна, і маральна. Але яны ішлі і ішлі. За гэты час ён сумеў з’яднаць сваіх падначаленых, змог не страціць ні аднаго, і часам на прывале думаў пра тое, што не ўсе яны дажывуць да перамогі: і гэта таксама праўда вайны.

Ён ведаў, што часта для воіна першы бой становіцца апошнім, і гэта таксама было жорсткай праўдай вайны, як тая: калі ты не заб’еш ворага, то...

Ты баец, і павінен гэта памятаць.

Так, баец, хоць не паспеў прыняць прысягу, тую афіцыйную, якая адмяжоўвае цябе ад здрады і баязлівасці, якая патрабуе не належаць самому сабе, ні бацькам, ні суседзям, а да «последнего дыхания быть преданным своему Народу, своей Советской Родине и Рабоче-Крестьянскому Правительству». Яна патрабуе «не щадя своей самой жизни» выступіць на абарону Радзімы… А калі «по злому умыслу» ты парушыш гэтую ганаровую прысягу, то хай цябе «постигнет суровая кара советского закона, всеобщая ненависть и презрение трудящихся».

Усё гэта так, вось толькі б усвядоміць, што будзеш змагацца з ворагам ні з-за боязі быць пакараным, а таму, што за тваімі плячамі родныя, блізкія, народ, у рэшце рэшт — Айчына. І пры гэтым важна адчуць, што толькі ў табе самім, у тваім сэрцы праходзіць мяжа паміж страхам і бясстрашшам, што ўсё ў тваім лёсе залежыць ад цябе…

Некалі так вучылі курсанта, а потым малодшага палітрука Груздзева яго настаўнікі, сапраўдныя афіцэры, якія шмат пабачылі ў жыцці, якія ведалі яму цану і для якіх чужое чалавечае жыццё было гэтаксама дарага, як сваё, а вышэйшым сэнсам сваёй службы было служэнне Айчыне. Менавіта Айчыне, у паняцці — народ, людзі, чалавек…

Малодшы палітрук Груздзеў быў адзіным сынам настаўнікаў яшчэ тых, дарэвалюцыйных, часоў, перад якімі людзі, вітаючыся, здымалі шапкі.

Яго бацькі жылі ў Бабруйску ў сваім доміку, на ўскраіне горада, каля ракі.

Ён любіў свой горад, цеснаваты, шумны, шматгалосы, у якім на базары можна было пачуць беларускую, рускую, яўрэйскую, цыганскую, польскую і яшчэ невядома якія мовы.

Ён жыў тут, пакуль не пайшоў у войска, а потым вучыўся, каб стаць кадравым ваенным. І стаў ім. (Тады лічылася надзвычай ганаровым быць ваенным.)

У войску ягонае сапраўднае прозвішча Груздзік змянілі на Груздзеў. Мабыць, камандзіры палічылі, што гэтым самым ператвараюць яго з маленькага чалавечыка адразу ў вялікага. (Між іншым, тады мянялі прозвішчы і ягоных таварашаў Дзятліка на Дзятлаў, Кірыльчыка на Кірылава, Іванчыка на Іваноў…) І калі ўжо афіцэрам (а ён служыў недалёка ад граніцы) Груздзік прыехаў на пабыўку ў свой горад і сустракаўся са школьнымі сябрамі, як Груздзеў сябе не называў, быццам муляла яму новае прозвішча.

Бабруйск яму заўсёды падабаўся. У войску ён сумаваў па сваіх сябрах, хлопцах і дзяўчатах, якіх звалі Пеці і Колі, Сары і Сэйры, Янкі і Янкелі, Якавы і Язэпы…

Ён любіў раку, лугі і лясы за горадам… Любіў крэпасць. Ён ведаў, што ў ёй у свой час служылі дзекабрысты, якія хацелі арыштаваць цара Аляксандра I, калі той прыехаў туды, і якія пацярпелі паражэнне, бо, чытаў, «сярод іх не было адзінства».

З дзяцінства ён добра засвоіў, што «адзінства» дапамагае выжыць. (Прыклады былі: калі на вуліцы ў некага нешта здаралася, на дапамогу прыходзілі суседзі, бацькі яго сяброў і яго бацькі). І цяпер, калі малодшы палітрук Груздзеў вёў гэтых чырвонаармейцаў да лініі фронту, гледзячы на іх, моўчкі радаваўся, адчуваючы, як яны з’яднаны: адно цэлае.

Так, ён быў ваенным, атрымаў адпаведную адукацыю, марыў служыць у крэпасці, дзе служылі іншыя, але гэта ад яго не залежала: вайсковец павінен служыць там, дзе загадана.

Увогуле ж, па натуры Груздзеў ваенным не быў. Так сталася… Падлеткам і юнаком ён пісаў вершы і прозу. Чытаў рускую і беларускую літаратуру, марыў, што некалі нешта надрукуе, а пакуль нікуды нічога не дасылаў, нікому нічога не паказваў: недасяжнымі, вялікімі здаваліся яму ўсе, каго друкавалі, а ён — такі маленькі са сваімі вершыкамі і апавяданнямі, з прозвішчам Груздзік.

Захапляўся Горкім. Адчуваў, што гэты пісьменнік у кожным са сваіх «басякоў» імкнецца ўбачыць чалавека.

Захапляўся Купалам і Коласам: тыя, пра каго яны пісалі, здавалася, жылі побач з ім, «басякі» ж — у нейкай аддаленасці. Але і тут і там бачыў жывых людзей, такіх, як сам…

Сям’ёй ён не абзавёўся, неяк сталася так, што каханую дзяўчыну пакуль не сустрэў. Канешне, яму, як і кожнаму юнаку, затым сталаму чалавеку ў розныя часы падабаліся дзяўчаты. У юнацтве нейкі час заглядаўся на Кацю, равесніцу, дачку настаўнікаў, калег бацькоў. Але тая не звяртала на яго ўвагі.

Потым падабалася Рыва, дачка шаўца Янкеля Марона. Ёй таксама ён чамусьці не падабаўся. Затое ён падабаўся аднакласніцы Дануце, а яна не падабалася яму.

Стаўшы вайскоўцам, Груздзеў, заняты справамі, на дзяўчат быццам забыўся: заняткі, вучэнні, паходы. А потым — баявыя дзеянні на фінскай…

Да гэтага ён бачыў, і не аднойчы, як некаторыя людзі, здавалася б, нават у самых простых бытавых сітуацыях гублялі ў сабе чалавечае. Яны любым шляхам рваліся да пасад, нагаворвалі на саслужыўцаў начальству, прысвойвалі чужое, рабілі шмат іншага, каб толькі сабе было добра.

Бачыў і здзіўляўся: як гэта так? Чаму?.. Але грэбліва адносячыся да такіх, адкрыта супраць іх не выступаў: войска, у ім свае законы. І іншае бачыў на той жа фінскай: за такімі ў бой не ідуць, хаця б па той простай прычыне, што такія ніколі першыя не выскокваюць з акопаў…

Усе гэтыя дні, колькі вёў на ўсход гэтых байцоў, ён рыхтаваў іх да сапраўдных баёў з ворагам. А што такія баі будуць, Груздзеў не сумняваўся. І можа здарыцца так, што ваяваць яму не давядзецца, калі свае не паверацць, калі вырашаць, што ён здрадзіў прысязе…

Дык чаму тады ішоў? Была ж магчымасць, калі абыходзілі Бабруйск, пайсці дадому. Не пайшоў, хаця ведаў, што нямала акружэнцаў пойдуць дамоў. Ведаў, што многія створаць партызанскія атрады, падпольныя групы. Не сумняваўся, што і ў партызанскіх атрадах, і ў падпольных групах будуць баязліўцы і здраднікі. Ведаў, што некаторыя, хто будзе хавацца дома, стануць служыць ворагу: так было ва ўсе войны, а гісторыю войнаў ён вывучаў… Атрымліваецца, сапраўды ўсё залежыць ад таго, якім хоча быць сам чалавек.

## 12

У той жа дзень, бліжэй да вечара, выехалі з лесу і, як і казаў стары хлопцам, убачылі шырокі няскошаны луг[1].

Ён ляжаў перад імі доўгай, можа, кіламетры два-тры ўправа і ўлева, палоскай, акаймаваны лесам. Ад гэтага лесу, з якога выехалі, да таго, што бачыўся наперадзе за лугам, было кіламетры паўтара-два, не больш. Праз луг ляжала роўная дарога. Была яна цвёрдая, каляіны шырокія, машынныя, пасярэдзіне парослая высокай травой, зверху прымятай восямі.

Тут, куды яны выехалі, ад дарогі ўправа крута адыходзіла вузейшая дарога, амаль сцежка і, агінаючы яго, ішла да нейкай вёсачкі з дзясятка хат, што ледзь віднеліся ўдалечыні.

Гэтую вёску яны абмінулі яшчэ ўчора. Ім здалося падазрона, што яна як вымерлая: у ёй не чулася ніякіх гукаў. Абмінуўшы яе, хлопцы і зайшлі ў лес, дзе за імі цікаваў стары з суседняй лясной вёскі, і дзе, як казаў, былі дзеці з настаўніцай, якія пайшлі на ўсход.

Пятро расказаў Груздзеву, са слоў старога, быццам тую вёску, якую яны зараз бачылі ўдалечыні, днямі наведалі немцы. Стары таксама казаў, што ён збіраўся схадзіць туды, паглядзець, што і як, але заўважыўшы іх, Грудзева і ягоных байцоў, пайшоў следам за імі. І яшчэ стары выказваў здагадку, што жыхары той вёскі, заўважыўшы немцаў, якія да яе набліжаюцца, маглі пайсці ў лес за раку, у супрацьлеглы бок, і там схавацца. Але магло быць і іншае, пра што не хацелася думаць: усіх або знішчылі, або некуды сагналі.

Груздзеў і яго падначаленыя, стоячы на ўзлессі, доўга аглядалі наваколле, прыслухоўваліся, ці не чуваць дзе якіх падазроных гукаў. Гукі былі, але прывычныя: у траве стракаталі конікі, у небе спявалі жаўранкі, нейкая птушка прасіла піць, рассыпаючы навокал сваё «піць-пароць… піць-пароць…» (Марудэнка сказаў, што гэта перапёлка). Ветрык сваволіў у лугавым разнатраўі, перакочваючы па ім зялёныя, жоўтыя, ружовыя, белыя, сінія хвалі… Неба было чыстым, без аблачынкі. І сонца стаяла яшчэ высока, хоць была другая палова дня.

Груздзеў пастроіў байцоў. Сам правёў пераклічку, хоць ужо даўно прызначыў сваім намеснікам Пятра. Той звычайна строіў аддзяленне: так Груздзеў называў групу, і дакладваў малодшаму палітруку, што «все люди на лицо».

Груздзеў уважліва агледзеў кожнага: выпраўка, што трэба, усе падцягнутыя, хоць вопратка заношаная, а ў некага наогул брудная. Усе пры зброі.

Стоячы перад строем, ён раздумваў, ехаць да таго лесу, або пачакаць цемнаты. Калі чакаць, марна страціш час і, можа, дзяцей яны не дагоняць. Да ўсяго можа стацца так, што дзеці натрапяць на немцаў. Значыць, трэба рызыкнуць. Адлегласць невялікая, навокал нічога падазронага не бачна і не чутна. І ўсё ж, рызыкаваць не хацелася. Вагаўся. На ўсякі выпадак загадаў Пятру і Васілю Кечыку заглыбіцца ў луг, адтуль агледзець мясцовасць.

Хлопцы, прыгінаючыся, прайшлі, можа, метраў дзвесце, як раптам прыгнуліся да дарогі, схаваліся ў траве, і Груздзеў, вымаючы з кабуры пісталет, аддаў каманду: «В ружьё!»

На ўскрайку лесу байцы стаіліся за дрэвамі, чакаючы, што будзе далей.

А далей па-ранейшаму было ціха, толькі спявалі жаўранкі, і нейкая птушка прасіла піць…

---

[1] Гісторыя баявых таварышаў майго бацькі Пятра Максімавіча, франтавога шафёра.

Неўзабаве хлопцы вярнуліся.

— Таварыш малодшы палітрук, — сказаў Пятро. — На дарозе дзіцячыя сляды. Яшчэ свежыя, пыл не зацягнуў. Навокал ціха, нічога падазронага не бачна.

Рашэнне Груздзеў прыняў адразу ж: усім злева вакол лугу пад прыкрыцсём лесу — наперад! А Пятру і Гаўрылу чакаць цемнаты, затым, не ўключаючы святло, ехаць праз луг да лесу, дзе іх і будуць чакаць…

Адзіны раз за гады вайны Пятро і Гаўрыла не выканаюць каманду камандзіра. Цемры яны не дачакаюцца. Пройдзе не больш за паўгадзіны пасля таго, як Груздзеў з іхнімі таварышамі, абышоўшы луг, зойдуць у лес, як ззаду сябе, там, дзе была вёска старога, Пятро і Гаўрыла пачуюць стрэлы. Страляць будуць з аўтаматаў, чэргамі, часам і адзіночна. Страляць будуць нядоўга, раптам стане ціха, таксама на некалькі хвілін, затым сюды, дзе яны стаялі каля машыны, чакаючы цемнаты, папаўзе цяжкі глухі гул.

— Гаўрыла, танкі! — закрычаў Пятро. — Што рабіць?

— Танкі, пацвердзіў Гаўрыла. — Што рабіць? Трэба нашых даганяць, толькі я зноў буду за рулём…

Луг яны праскочылі хутка. Гаўрыла вёў машыну, Пятро сядзеў у кузаве, з трывогай паглядаў назад, немцаў не было відаць. Калі ўехалі ў лес, Пятро перагнуўся праз левы борт, пракрычаў, што ўсё чыста, але каб не спыняўся.

Яны праехалі колькі кіламетраў па лесе, пакуль не сустрэлі сваіх…

А свае цяпер былі ў такім складзе: іхнія таварышы, дзеці з настаўніцай і дзяўчынай, не намнога маладзейшай за яе.

Дзяцей было многа. Маленькія, якія, можа, яшчэ і ў школу не хадзілі, большыя, і падлеткі.

Пакуль Гаўрыла спыняў машыну, Пятро прыкінуў, што ўсіх іх размясціць у кузаве будзе цяжка, але размесцяць, калі ўшчыльную, а самых маленькіх можна пасадзіць у кабіну на рукі дзяўчатам і нават пад ногі. Нічога, пацерпяць, напэўна, і раней яны так ехалі.

А дагналі дзяцей Груздзеў і яго байцы ў лесе не далёка ад лугу. Адразу, як толькі ўвайшлі ў лес, заўважылі ў пяску каляін мноства слядоў ад чаравічкаў, босых ног і ножак, і чатыры сляды дарослых.

— Таварыш малодшы палітрук, — агледзеўшы каляіну, сказаў Дзіма Марудэнка, да вайны заядлы рыбалоў і паляўнічы. — Нядаўна прайшлі, хутка дагонім, не напалохаць бы. Заўважаць, падумаюць, што немцы, разбягуцца, да ночы не збяром.

— І даганяй, Дзмітрый, — сказаў Груздзеў. — Супакой, мы будзем ісці следам за табой. Свісні, калі дагоніш.

Свіст яны пачулі неўзабаве, усе без каманды кінуліся наперад: за некалькімі паваротками заўважылі вялікую групу дзяцей і дзвюх дзяўчат, а таксама Марудэнку. Дзіма стаяў сярод хлопчыкаў і дзяўчынак, махаючы рукой сваім таварышам.

Дзеці былі знясіленыя, пакусаныя камарамі і аваднямі, галодныя. Меншыя плакалі. Большыя выцiралі ім слёзы, трымалі за ручкі, на руках, мабыць, большыя неслі маленькіх. Маленькія былі і на руках дзяўчат.

— Мы свае! — здаля крыкнуў Груздзеў, не думаючы, што Марудэнка папярэдзіў дзяўчат і дзяцей, падрыхтаваў іх да сустрэчы. — Не бойцеся…

…Гаўрыла і Пятро, спешна размясціўшы дзяцей у кузаве і ў кабіне, чакалі, што скажа Груздзеў. Пятро хацеў, каб машыну вёў Гаўрыла, хацеў застацца тут з хлопцамі, але ягоны напарнік заўпарціўся, сказаў, што застанецца ён.

Дзеці, уладкаваўшыся ў кузаве, сяк-так супакоіліся, супакоіліся і настаўніца з унучкай старога: першая сядзела каля кабіны, а другая каля задняга борта. Чатырох самых маленькіх Пятро пасадзіў у кабіну, тыя таксама ўжо супакоіліся, напэўна, плакаць ужо не было сілы.

Груздзеў абышоў машыну, агледзеў яе. Агледзеў і сваіх байцоў. Яны стаялі побач, чакаючы каманды. Напэўна, Груздзеў спачатку павінен быў адправіць машыну, а потым скамандаваць: «Заняць абарону!», або «К бою!», што для яго байцоў па-сутнасці азначала б адно і тое ж. І ён спакойна, але цвёрда сказаў: «К бою!» І гэта быў першы і апошні яго баявы загад на гэтай вайне.

Аддаючы яго Груздзеў не вагаўся, не сумняваўся, што іншай каманды і быць не можа. Хаця магла быць і іншая: «З дзецьмі ўсім — у лес!» І калі першыя дзве каманды ні аднаму з яго байцоў, ды і самому Груздзеву не пакідалі ніякага шанцу выжыць, трэцяя такі б шанец пакінула хоць каму з яго салдат, і, мабыць, не ўсім дзецям…

Хлопцы адбегліся ад машыны ў кірунку лугу на дзясятак метраў, занялі абарону за дрэвамі па абодва бакі дарогі, якраз у тым месцы, дзе была вузкая доўгая паваротка, чакалі, што будзе далей.

Груздзеў падышоў да машыны, спыніўся ля разгубленых Пятра і Гаўрылы, якія пакуль так і не вырашылі, хто павінен ехаць, а хто застацца.

— Хлопцы, давязіце дзяцей, — быццам папрасіў ён.

— Таварыш малодшы палітрук, — амаль закрычаў Гаўрыла. — Я — тут! З вамі. Хай Пятро. Ну дайце яму каго.

— Чаму я? Давай ты, а я тут!

— Канчайце! — стомлена сказаў Груздзеў. — У дапамогу даю…

Ён запнуўся. Даць некага ў дапамогу двум спрактыкаваным вадзіцелям, канешне, трэба. Але каго… Чакай, вунь браты Бараўцы. Хай хоць адзін застанецца: двое яны ў бацькоў.

— Нікадзім, Ваня, ка мне! — закрычаў Груздзеў.

Падбеглі. У абодвух вінтоўкі. Па дзве нямецкія гранаты за поясам.

— Нікадзім, Ваня, трэба аднаго ў машыну. Хто з вас?

Адмоўна заківалі галовамі: не.

Зразумеў іх: «Нам трэба быць разам». Крыкнуў:

— Марудэнка! Да машыны! Са зброяй. Гаўрыла — за рулём, Пятро старшы. Выконваць!

Нікадзім і Іван, пачуўшы гэты, кінуліся назад, туды, дзе да гэтага ляжалі ў траве пры самай каляіне.

Ужо лежучы на зямлі, паглядаючы праз прыцэл вінтоўкі на дарогу, на якой яшчэ нікога не было, але якая, адчувалася, ужо дрыжала пад нечым цяжкім, Нікадзім з роспаччу сказаў Івану:

— Эх, конаўку не аддаў… Ладна, Гаўрыла з Пятром знойдуць чым зачэрпваць ваду, каб даць папіць малым.

— Знойдуць, — згадзіўся Іван.

Нікадзім паклаў рулю вінтоўкі на рукзак: глядзіт-ка, на ўпоры не дрыжыць…

Машына кранулася з месца. Груздзеў дастаў з кабуры пісталет. Затым таропка прайшоў колькі крокаў па дарозе наперад хлопцаў, туды, адкуль набліжаўся цяжкі, надта ж цяжкі гул. З хвіліну пастаяў, прыслухаўся, потым лёг на горб у траву паміж каляінамі, і адразу адчуў, як дрыжыць зямля.

Сонца яшчэ не зайшло, прабівалася наўскос праз голле дрэў, падала на траву, на спіны, галовы, рукі байцоў, на Груздзева.

Праз нейкае імгненне ён ужо, здаецца, прывык да таго, што зямля дры-

жыць, і гэта не палохала яго. Ён адчуў, як яна пахне, нагрэтая за дзень, пахне нечым жывым, пяшчотным, вабіць, прыцягвае да сябе.

Хацелася заплюшчыць вочы, поўнасцю, без астатка, усім целам, усёй істотай аддацца яе прываблівай прыцягальнай сіле, зліцца з ёй, ляжаць у ёй бесклапотна, быццам немаўля на руках у маці… Ляжаць, забыўшыся, што тая вайна, якую ён так доўга абыходзіў са сваімі хлопцамі, якая ўвесь гэты час здавалася недзе далёка-далёка ўжо каля яго, ягоных байцоў, яна амаль побач…

Не хацелася ні пра што думаць, не хацелася нічога чуць і бачыць, акрамя перадвечаровага лесу, яшчэ шчодра асвятленага сонцам, акрамя птушынага рознагалосся, ціхіх галасоў хлопцаў, што ляжалі на зямлі, стаялі за дрэвамі, паглядаючы то наперад, адкуль нарастаў гул, то назад, дзе, пакалыхваючыся, знікла за паваротам машына з дзецьмі, дзвюма дзяўчатамі, Пятром, Гаўрылам і Дзімам.

Груздзеў адчуў, што расслабляецца, а гэта на вайне нельга. Ён прыўзняўся, паглядзеў наперад, гул набліжаўся, здаецца, ужо быў зусім блізка.

Груздзеў паглядзеў па баках: байцы застылі ў чаканні, хто ляжаў за дрэвам, хто ў траве. Тым часам да яго падбег Нікадзім Баравец, пракрычаў:

— Таварыш камандзір! Гранату вазьміце, гранату! У мяне іх дзве.

Груздзеў узяў правай рукой гранату, пісталет пераклаў у левую, крыкнуў:

— Галаўны танк бяру я, астатнія кожны па адным!..

З-за паваротк паказаўся танк…

## 13

…Праз паўгадзіны на гэтым месцы, дзе Нікадзім Баравец падбіў свой першы і апошні ў жыцці танк, а хвілінай пазней — Іван Баравец, дзе ляжалі яны і іх баявыя таварышы, а таксама іхні малодшы палітрук Груздзеў, хадзілі немцы.

Яшчэ не сцямнела…

Нямецкі афіцэр, абыходзячы месца бою, прымушаючы сваіх салдат аглядаць кішэні забітых чырвонаармейцаў (дакументаў ні ў каго з іх не было), здзіўляўся: што за воіны…

Затым ён са здзіўленнем узяў з рук свайго падначаленага нейкую дзіўную рэч, як зразумеў, калі разгледзеў, зробленую са снараднай гільзы.

Калі перавесці з нямецкай мовы на нашу тое, што ён сказаў, будзе гучаць так: «Такога трафея ў мяне яшчэ не было… Піць піва?... Ну што ж, забяру. Пасля таго, як мы знішчым гэтых варвараў, буду ў сябе ў Баварыі піць піва і расказваць дзецям і ўнукам, як мы ваявалі…»

(Дзяцей і ўнукаў у яго ніколі не будзе. На ім і скончыцца ягоны род, хоць дажыве ён да глыбокай старасці.)

…А праз чатыры гады пасля таго бою ён, палонны, працуючы на будоўлі ў Мінску, абрэзаў нямецкую снарадную гільзу, якую знайшоў на пляцоўцы. Атрымалася нешта падобнае на ягоны трафей-конаўку, якую згубіў у лесе, партызаны разбілі ягоную роту і ўзялі яго ў палон…

І калі ён, палонны, піў з яе ваду, успамінаў, як купка чырвонаармейцаў недзе ў лесе, здаецца, пад Смаленскам, ці яшчэ дзе, спыніла калону танкаў, падарваўшы спачатку два, потым яшчэ і яшчэ…

Успамінаў, якая спачатку там была паніка сярод яго салдат, пакуль стралялі з вінтовак і аўтаматаў нейкія безыменныя рускія воіны.

Ён не разумеў, навошта ім, тым рускім пехацінцам, патрэбен быў сярод лесу той смяротны для іх бой, калі можна было ўцячы, схавацца ў ім, а потым ісці сваёй дарогай.

Кубак з абрэзанай гільзы падабаўся яму. Адно было кепска, калі ў яго налівалі кіпеню: без ручкі — яе не было чым прыпаяць — апякала.

І яшчэ не разумеў, чаму часам мясцовыя жанчыны падыходзяць да палонных немцаў і даюць ім хлеба…

**14**

На трэція суткі Яўхім і Валік прыплылі да Кашары. Зрэшты, хлопец так і разлічваў перад тым, як выправіцца ў дарогу. Тое, што Яўхім казаў, маўляў, туды можна заплысці за дзень, былі словы, не больш. Можа, раней, у яго маладыя гады, калі, таксама казаў, быццам рака бегла хутчэй, чым зараз, справіліся б за суткі, але не цяпер.

Абмялела за апошнія гады Дубасна, цякла не так хутка, як некалі, а месцамі, здавалася, зусім спынялася. Яўхім здзіўляўся: як жа так…

Валік слухаў старога, паціскаў плячамі, так далёка па рацэ ён выбраўся ўпершыню, здзіўляўся іншаму: якая ж яна прыгожая, асабліва ў лясах, не на забалочаным, а ў даволі высокіх берагах, парослых велічнай сасной.

Здзіўляўся таксама, што на ўсім шляху вёскі ім не траплялiся, хаця часам адчувалася, што недзе не так ужо і далёка ад Дубасны яны ёсць: месцамі праз лес да ракі спускаліся дарогі, сцежкі, на берагах бачыліся буданы, старыя і яшчэ не са счаўрэўшым лісцем, сёлетнія.

Вядома ж, сюды прыходзяць рыбакі, але цяпер іх не бачна. Гэта было зразумела: ужо стаіць амаль асенняя пара, у людзей іншы клопат — палі, ураджай.

Мінулі і Дубасну, вёску з такой жа назвай, як рака. Вёска была з левага берага за лесам, недалёка ад ракі: на вадзе пагойдвалася з дзясятак чаўноў і лодак, прывязаных да ўбітых у зямлю калоў.

Калі падплывалі да гэтага месца, Валік заўважыў, што старому спакойна не сядзіцца. Ён ёрзаў на сядзенні, паглядаў то на раку, то на бераг, то на Валіка, зацята маўчаў. І толькі калі мінулі пакаты пясчаны бераг, сказаў:

— Дубасна. Царква там. Неяк звозіш мяне. Можна, канешне, на якой машыне па дарозе пад’ехаць, бліжэй і на многа хутчэй, але не хачу дарогай.

— Чаму? — спытаў Валік.

— Ды не люблю яе. Тая дарога некалі нас з Іосіфам раскінула па розныя бакі. Яшчэ як маладымі былі. Ты ўжо дарослы, таму скажу табе, каб ведаў, каб не паўтарыў у сваім жыцці памылкі маёй маладосці. Тое, што я тады зрабіў, і па сёння не дае мне спакою. Вось паслухай… У Іосіфа дзяўчына была. З Дзямкоў. Тэкля. Любіліся яны. І раптам яе зняславіў адзін кепскі, багаты, нахабны хлопец. Ды так зняславіў, што ўся акруга доўга пляткарыла, маўляў, Тэкля да таго даблудзілася, што сярод белага дня з Аўдзеем, так таго звалі, голая ў снапах качаецца.

Іосіф месца сабе не знаходзіў. Як так?.. Адвярнуўся ад яе, а я, дурань, на ўсё збоку гляджу, быццам мяне не тычыцца, быццам ніхто ён мне.

Тэкля прыгажуня была, працаўніца. Дык вось, зняславіў яе Аўдзей, а праз нейкі час дазнаўся Іосіф, што той павязе Тэклю ў Дубасну вянчацца.

Прыйшоў Іосіф да мяне, маўляў, пайду на дарогу, перагараджу. Глядзіць на мяне, а я маўчу. І пайшоў. А я не пайшоў з ім. І дзеўку Іосіф не вярнуў, і

Аўдзеевы дружбакі ледзьве яго не забілі. Мне трэба было тады з ім пайсці, Валік, трэба было, а я…

— Дык жа не зваў.

— А на такое не завуць, калі сябар, сам павінен пайсці.

— Дык, напэўна, сябрамі не былі.

— Былі, Валік, былі.

— Тады я не ведаю, дзеда, нічога не разумею.

— Тут разуменне адно: Іосіфава і Тэкліна жыццё скаверкана. А пайшоў бы я з ім — адбілі б удвух Тэклю.

— Таму і ў царкву табе трэба? Ты ж, дзеда, здаецца, не дужа верыш.

— Не. Царквы гэта не тычыць. Проста хачу зайсці, пастаяць, паглядзець, як людзі вераць. Стары ўжо. Шмат бруду за жыццё на душы накапілася, царква бруд не змые, калі сам не змыеш. І людзі не змыюць.

— Якія людзі, дзеда? Цябе ж паважаюць. Ледзь што, Яўхім Міхайлавіч сказаў… Яўхім Міхайлавіч ведае… Яўхім Міхайлавіч параіў…

— Ну гэта тыя, хто ведае мяне такім, які я цяпер. Але і іншыя людзі ёсць. Той жа Іосіф, Тэкля, калі жывая: саслалі яе з мужыком у свет, раскулачылі яго.

— З тым, што зняславіў?

— З тым. А куды ж ёй было дзецца, як не з ім. Па тым часе, калі хто выпаліць на дзеўцы кляймо блудніцы, дык да труны. А дзеўку можна і падманам зняславіць. Пазней я даведаўся, што падмануў Тэклю той паскуднік, ачмурыў нейкай гадасцю, ды ссільнічаў.

Змоўк стары. Маўчаў і Валік. Доўга маўчалі. Не ўяўляў хлопец, што дзеда Яўхіма столькі гадоў можа так трывожыць тое, што некалі было ў яго маладосці: не падтрымаў сябра ў бядзе. Хаця, цяжка ўявіць, што гэта за бяда: ну, выйшла дзеўка за іншага, каб не хацела, дык не ехала б з ім вянчацца. Тады навошта было Іосіфу ісці на дарогу, умешвацца ў лёс ужо чужой яму дзяўчыны?

Аднак, калі паслухаць дзеда Яўхіма, атрымліваецца, што не так усё і проста: Іосіф і Тэкля кахалі адно аднаго, але здарыўся жахлівы выпадак, не разабраліся, рассталіся. А ён, Яўхім, вясвятляецца, мог бы дапамагчы ім, але не захацеў. Чаму? Вось дзе загвваздка.

Ужо на наступны дзень (начавалі на беразе каля кастра), збіраючыся плысці далей, не ўстрымаўся Валік, спытаў старога, чаму ён тады не пайшоў з Іосіфам.

— І я, як усе, плёткам паверыў, — сказаў Яўхім. — Не хацеў, каб Іосіф з ёй быў, калі яна такая. А праўда, што апаіў Аўдзей Тэклюшку, мне пазней адкрылася, ды позна ўжо было нешта перайначыць…

Да Кашары падплывалі апоўдні. Што хутар хутка, Валік адчуваў па тым, як Яўхім пачаў пільна ўглядацца ў парослыя дрэвамі берагі. Глядзеў, быццам баяўся не пазнаць месца, дзе трэба прыстаць: а раптам ужо мінулі.

— Валік, табань! — нечакана крыкнуў стары, ды так моцна, што Валік ажно здрыгануўся. — Кажу, вяслуй назад. Ледзь не праскочылі пратоку. Бачыш? Паварочвай, давай кармой у траву. Ды асцярожна, следу ў траве ад лодкі нябачна, дужа не руш траву. Не трэба, каб хто староннi пра гэтае месца ведаў.

А праз колькі часу, схаваўшы ў затоцы ў трысці лодку, нават не ўзяўшы з сабой рукзакі з харчам і цёплай вопраткай, Яўхім і Валік па прытопленых у твані плашках ішлі праз балота да хутара.

Плашкі Яўхім адшукаў хутка, паторкаўшы кіем у балота, намацаў першую, затым на крок збоку — другую, трэцюю…

Так кладкі маглі класці толькі тры чалавекі: гаспадар хутара Антон, ён, Яўхім, які некалі рабіў у яго і ведаў сакрэт шляху, і Іосіф. Іосіфу пра шлях праз балота Яўхім расказаў, вярнуўшыся з хутара, калі хадзіў ратаваць малых ад высылкі. Пра тое, што дарогу сюды таксама ведаюць Антонавы дзеці і ўнукі, Яўхім не думаў…

## 15

Яны доўга стаялі на пагорку, за якім ляжала сядзіба. Стаялі там, дзе некалі пачыналася сцежка праз поле да хаты. Па той сцежцы, калі быў маладым, хадзіў і Яўхім. Але цяпер яна ледзь угадвалася, затравела. Справа, воддаль ад сцежкі, бруілася крынічка. З яе выцякаў ручаёк, каціўся ўніз да рэчкі. Крынічка была абкладзена камянямі, гэтакай падковай, што здзівіла Яўхіма, бо ён помніў, што пры Антоне тут быў зрубік у два вяночкі, а пад ім — жалабок. Помніў, што зрубіка, калі Яўхім прыходзіў сюды у трыццаць сёмым, ужо не было, згніў, а побач ляжалі плашачкі. Мабыць, Антон збіраўся яго замяніць, ды не паспеў. Ведаў, што Антон любіў усё рабіць з дрэва, казаў: «Дрэва дыхае».

Яўхім паглядзеў навокал, плашачак не было, няйнакш вясною знесла талая вада, схіл тут пакаты. Канешне, камяні не Антонавы, і абкладзена крынічка пасля таго, як Яўхім прыходзіў сюды, мабыць, Іосіф абклаў.

Помніў, што Іосіф, калі ставілі хаты, раіў гаспадарам рабіць каменныя падмуркі, замест драўляных, як тады было прынята ў Гудзе і навакольных вёсках, даводзіў, што камень вечны. Казаў, што так робяць у горадзе, дзе неяк быў на заробках.

— Іосіфава работа, — кіўнуў Яўхім на крынічку, — бач, абклаў, мабыць, векаваць тут сабраўся. У Антона ж у пуні дрэва хапала, ён гаспадарлівы быў, усё ў яго было нарыхтавана загадзя.

Валік не адказаў. Ён глядзеў на хутар і не разумеў, як тут можна жыць аднаму. Вакол лес, балоты, вусцішна. Ды і хіба тут хто жыве? Усё затравела, нідзе няма нават лапіка апрацаванай зямлі. Вунь доўгая хата, страха седлавінай, прасела, так і глядзі, што абваліцца, седлавінай стрэхі яшчэ дзвюх пабудоў, што чарнеюць воддаль ад яе, бліжэй да лесу.

— Дзеда, — нарэшце сказаў Валік. — Не жылое. Ды і нікога няма.

Яўхім доўга моўчкі глядзеў на хутар. Ён добра помніў яго. Помніў кашару, пуню, некалі ён дапамагаў Антону іх ставіць. Помніў хату, якую той ставіў яшчэ да яго, здаецца, казаў, што дапамагалі родзічы, а так яно або не, невядома. Помніў прасторныя сенцы, прыладжаныя да доўгай сцяны. Помніў шырокі ганак. Зрэшты, помніў тут усё да драбніц, і цяпер пазнаваў і не пазнаваў. Так, нежылое. Вось толькі, здаецца, да сенцаў прыладжаны новы ганак, дрэва, шулкі яшчэ жоўтыя, і пляцоўка, дошкі — таксама. Ды і вокны не забітыя дошкамі. А былі перакрыжаваны імі, калі апошні раз наведваў хутар, як прыходзіў па дзяцей. Значыць, тут нехта жыў, або жыве. Калі жыў, дык не так даўно.

Яўхім перавёў пагляд управа ад ганка, убачыў недалёка ад яго дзве вялікія бярозы, якія таксама помніў, помніў яшчэ дубчыкамі, помніў і ўжо дрэвамі.

Даражыў імі Антон, помніў Яўхім, калі ён некалі сказаў гаспадару, маўляў, можна было б выкарчаваць, перашкаджаюць касіць, той адказаў:

— Хай растуць. Шкада…

Цяпер бярозы былі вялікія, у вёсцы сказалі б, спелыя. Бяроза за якіх гадоў пяцьдзясят — самае дрэва. Кроны іх шырокія, жоўтыя косы апушчаны амаль да зямлі, трапечуць на ветры, здаецца, нешта закрываюць.

Пагляд слізгануў уніз, пад косы — жоўты, даволі доўгі грудок і — крыж… Вецер расхіляў голле, крыж наогул быў вялікі для магілы, такія звычайна ставілі ля ўвахода ў вёскі. Знаць, мужчына ляжыць, хто ж гэта… Няўжо?..

Скалануўся Яўхім, сэрца нібы хто сціскаў у кулаку — не прадыхнуць, ногі зрабіліся млявыя, падкасіліся, ледзь не ўпаў, але ўтрымаўся: нельга, хлопца спалохаю.

Сабраўся з сіламі, паволі пайшоў да бяроз. Ногі былі як ватныя. Кожны крок даваўся з неймавернай цяжкасцю. Не дайшоўшы колькі крокаў да бяроз, не зводзячы затуманеных вачэй з грудка, што жаўцеў пад імі, прыпыніўся, прашаптаў: «Ну вось, мусіць, спазніўся… І хто ж цябе пахаваў… Хто ж гэта той, пра якога жанчыны казалі, быццам ёсць табе з кім жыць… Мне б самому з шафёрам тым пагаварыць, многае ён ведаў пра тваё жыццё тут, а я нічога не ведаю».

Мовіўшы гэта, цяжка дыхаючы, Яўхім пачаў паволі апускацца на калені. Валік падхапіў яго ззаду пад пахі, падтрымаў, пакуль стары апусціцца, і, гледзячы, як Яўхім дрыжачай, непаслухмянай рукой сцягвае з галавы шапку, упершыню пашкадаваў, што прыехалі сюды. Нельга было гэта рабіць, нельга! У дзеда баліць сэрца, ды і гады яго якія. Раптам, што з ім здарыцца, дзе шукаць рады…

— Дзеда, дзеда, — прысядаючы каля яго, прамовіў Валік. — Табе блага?

Яўхім маўчаў. Валік каўзануў руку ў кішэню штаноў, намацаў там таблеткі ад сэрца, якія перад дарогай торкнула яму цётка Каця, дастаў, падаў старому.

— Не трэба, унучак, — прагаварыў стары, адхіляючы хлопцаву руку. — Лекі ж душу не лечаць. Само пройдзе. Не зважай, бывае.

Яўхім паволі ўзняўся, пахістваючыся зрабіў крок да грудка, спыніўся: пясок свежы, жоўты.

Ён не ведаў, што сёння раніцай пясок на грудок насыпаў Іосіф, каб паднавіць магілку, за лета яна крыху асела. Не ведаў Яўхім, што гэтыя тры дні, пакуль ён з Валікам плыў сюды, колішні ягоны сябра і аднавяскоўец Іосіф Кучынскі падоўгу праводзіў каля магілы, у думках размаўляючы з Тэкляй, каб падказала, што рабіць далей, бо ўжо дужа цяжка яму было тут жыць аднаму, невыносна.

А ўвогуле Іосіф ведаў, што яму трэба рабіць, Тэкля шмат разоў казала: «Калі раптам павалюся, дык у Гуду ідзі». Але лёгка так сказаць, а як пакінуць яе тут адну…

Тэкля для Іосіфа была быццам жывая. Ён адчуваў яе побач з сабой, дзе б ні быў, што б ні рабіў. Ён у думках заўсёды размаўляў з ёй, калі трэба было — раіўся. Ён бачыў яе воблік, бачыў яе вочы, лёгкую, але чамусьці крыху зажураную ўсмешку, здаецца, жыў пад яе ўладай, такой добрай і пяшчотнай, такой неабходнай яму, што і не выказаць…

Ён адчуваў, што калі раптам яна пакіне яго, тады скончыцца ягонае жыццё, тады наогул не будзе ніякага сэнсу быць далей на зямлі, і думаў пра гэта з халодным спакоем.

Так, Тэкля прасіла ісці ў Гуду. Ведала, што там яго ратунак. А яму трэба было толькі схадзіць туды, і вярнуцца назад да яе. Ратунак яму ўжо быў непатрэбны: адпушчанае дажыве тут. Пасля таго, як яна памерла, ён падрыхтаваўся да свайго апошняга часу на зямлі, пра які не аднойчы думаў, пакінуўшы Гуду: легчы дзе-небудзь далей ад людзей у тое, у што кладуць тых, хто адыходзіць, ды чакаць (у пуні тое стаіць)…

Ёсць у яго «тое», у што легчы, зрабіў, не зломак. І месца ёсць — побач з ёй, Тэкляй. Адчуе, што блізкі ягоны апошні час, прыцягне «тое». І яшчэ: дол

ён паспее выкапаць, сходзіць у вёску, або не сходзіць. У Гуду яму трэба толькі таму, каб зноў убачыць Кацю, яе сыночка, Надзю, яе дзяцей, каб усе яны былі бесклапотныя, як звычайна дома бываюць людзі. І каб ён быў спакойны, не апасаўся за іх, як апасаўся ў горадзе.

І мужчын яму трэба ўбачыць: Яўхіма, Міхея, Мікалая, усіх тых, хто вярнуўся. Не абавязкова прызнавацца ім, што гэта ён, Іосіф Кучынскі, прыйшоў. Яму проста прайсціся б па вёсцы, прыкінуўшыся старцам, каб не пазналі, паглядзець, якія яны, як жывуць… Яму б вёску ўбачыць, якая яна зараз. Яму так хочацца дыхнуць тым паветрам, якім дыхаў усё жыццё, пакуль не апынуўся тут.

Але ён баяўся ісці ў вёску, хоць вельмі хацелася. Баяўся, можа дайсці да вёскі, а вось ці вернецца сюды, да сваёй Тэклюшкі…

Пайсці яму трэба зусім па іншай прычыне, чым яна хацела. Тэкля бачыла там яго ратаванне, а яно яму было не патрэбна, яму патрэбна іншае — асвяжыць душу, а там — назад, да яе. Іосіфу хацелася і не аслухацца Тэклю, і зрабіць па-свойму. Так бы мовіць, паяднаць у адно два жаданні: яе і яго. Толькі ўсё гэта вельмі і вельмі складана.

Іосіф пакутаваў, не ведаючы, што рабіць, як паяднаць два гэтыя жаданні, ды і ці можна іх паяднаць?..

Тым часам, калі Яўхім і Валік былі каля Тэклюшчынай магілы, Іосіф, не ведаючы гэтага, нічога яшчэ не вырашыўшы, быццам машынальна, як рабіў тры дні запар, збіраў у сенцах торбачку, клаў у яе тое, што магло б спатрэбіцца ў доўгай дарозе: запалкі, бляшанку кансерваў са старых запасаў, брусочак сала, колькі сухароў. А сабраўшы, наважыўся, як таксама ўжо тройчы рабіў, выйсці з сенцаў, скіравацца да бярозак, падысці да грудка, спыніцца, у каторы раз спытаць у Тэклюшкі, што яму рабіць.

Ведаў, і сёння яна не дасць адказу: казала ж, чуў… Пойдзе, але як жа тады яна будзе тут адна?.. Пойдзе, і гэта будзе чарговая здрада ёй, ягонай Тэклюшцы, самаму дарагому, што толькі было ў яго за ўсё доўгае, такое горкае жыццё.

Не, ён не можа здрадзіць ёй, той, якой здрадзіў, не паверыўшы ў маладосці, калі яе абылгалі людзі… Той, якой не сказаў патрэбнага слова, калі Аўдзей вёз пад вянец… Той, якая праз такія неймаверныя цяжкасці і пакуты два гады таму прайшла паўсвету, каб знайсці яго… Той, без якой няма ніякага сэнсу быць далей на зямлі.

Іосіф закінуў торбачку пад палаці, торкнуў самаробную мыліцу пад левую паху, накіраваўся да дзвярэй: як жа ты там, мая Тэклюшка…

А Яўхім па-ранейшаму стаяў каля жоўтага грудка пад дзвюма бярозамі, што шапацелі пажухлым каляным лісцем, зрок яго па-ранейшаму туманіўся, высокі крыж з ручнічком на ім, які трапаў вецер, таксама бачыў быццам праз туман.

Валік памкнуўся да старога, баючыся, што таму зноў можа стаць кепска, і раптам застыў на месцы: ззаду, там, дзе хата, працяжна зарыпелі дзверы. А неўзабаве, ці то здалося, ці то наяве адтуль пачуліся крокі, спачатку па цупкім, напэўна, па ганку, потым па зямлі.

Валік рэзка павярнуўся да хаты і — на імгненне быццам акамянеў: да іх, шоргаючы гумовымі ботамі па зямлі, набліжаўся стары. Прыгорблены, без шапкі, з самаробнай мыліцай, якая хутка торкалася ў зямлю, ён паглядаў сюды.

Здалося, яшчэ імгненне, стары падыдзе і накінецца на іх: «Што вам тут трэба? Хто вы такія?»

Нешта паўзабыта-знаёмае ўбачыў хлопец у вобліку старога. Валік скрануўся з месца, падаўся насустрач, углядаючыся таму ў твар: рэдкая сівая бародка, сівыя рэдкія валасы, і вочы, вочы, здаецца, знаёмыя.

А калі між імі і старым заставалася крокі тры-чатыры, Валік разгледзеў ягоныя вочы: выцвілыя, але не пустыя, сумныя, спакутаваныя, у якіх застылі боль і страх — такія яны былі, калі зімой сорак пятага кідаў у твар дзеду Іосіфу Кучынскаму лядзяш…

Раптам стары спыніўся, вочы яго праясніліся, у іх з’явілася нешта падобнае на слабы агеньчык, прахрыпеў:

— Валік?.. Яўхіме?..

— Дзеда Іосіф! — Валік памкнуўся да старога, разгублена спыніўся каля яго.

— Пазнаў ты мяне, Валічак, пазнаў… Дай я цябе абніму.

Стары выпусціў з рукі кавялу, нахіліўся да Валіка, на галаву вышэйшага за яго, спачатку асцярожна абняў, а потым рашуча прыціснуў да сябе.

— Восіпка? — пачулася здаўлена ад грудка. — Ты? Божа, жывы…

— Я, я, Яўхімка…

## 16

На трэці дзень надосвітку Валік пакідаў Кашару. Адплываў адзін. У той жа Іосіфавай лодцы, у якой з Яўхімам прыплыў сюды. Ён хацеў плысці ў Іосіфавым чаўне, але старыя запярэчылі, сказалі, што лодка больш надзейная. Човен яны пакінулі сабе, маўляў, сплаваюць, куды трэба на ім і ўдвух, пасудзіна для іх больш прывычная, чым лодка.

Ведаў, чуў як гаварылі, што найперш ім трэба наведаць Дарашкевічаву Стражу: дні яшчэ стаяць цёплыя. Могуць сплаваць і куды далей, удвух ім ніякі шлях не страшны.

Пад словамі «і куды далей» Валік разумеў: у Гуду. Утойваў надзею, што, можа, гэта будзе зусім хутка, пабудуць дзень-два на Стражы, ды паплывуць у сваю вёску. Іншая справа, назусім прыплывуць, ці толькіперазімаваць, зрэшты, час пакажа…

Перш чым правесці Валіка да лодкі, старыя сказалі яму, каб запомніў шлях праз балота. На добры толк, каб была сіла, трэба было б пакласці новыя плашкі, ды не па дзве, па чатыры, а то і пяць, ды не хаваць іх у твані. Хай бы людзі ішлі, каму трэба, вунь паляўнічыя зімой пастрэльвалі... Можа, ягаднікі прыб’юцца, або яшчэ хто. А калі раптам заявяцца Антон з жонкай, ці яго дзеці і ўнукі, дык Яўхім усё возьме на сябе, скажа, чаму яны з Восіпам тут. А там будзе бачна. Можа, гаспадарам хутара патрэбна будзе іхняя дапамога, дык калі ласка: у Гудзе пустуе Яўхімава хата.

Калі Валік збіраўся назад, Іосіф даў яму ладную торбачку арэхаў, сказаў, каб перадаў гасцінец Каці, яна ўсіх пачастуе. Ды каб абавязкова ўсім, хто яшчэ помніць Іосіфа Кучынскага, перадаў паклон. А потым папрасіў:

— Ты, Валянцін Ігнатавіч, вось што зрабі, калі ў нас гэта ёсць, калі зможаш. Адшукай траву маладзіла. Мы з Тэклюшкай тут знайсці яе хацелі, але не ведалі, ці расце яна ў нас, ды і якая яна, трава гэтая. Адно ведаю, што гаючая. Тэклюшка казала, што мазь з гэтай травы, калі яна з ссылкі да мяне ішла, недзе ў Расіі, здаецца, бліжэй да нашых зямель, адна старая дала. У Тэклюшкі ногі былі ў струпах, мазала, дапамагала. Хаця, можа, не расце яна ў нас.

— Расце, — сказаў Валік, — па батаніцы чытаў. У нас шмат чаго расце, а мы і не ведаем, як называецца. Адшукаю. Так, лячэбная яна.

— Во, во, Тэклюшцы пасаджу. Часта яна пра яе гаварыла…

Развіталіся старыя з Валікам па-мужчынску, нібы абыякава. Па чарзе паціснулі яму руку, маўляў, у добры шлях. А калі адштурхнулі лодку ад берага, не згаворваючыся, перахрысцілі.

Ды і ён развітаўся з імі, як развітаюцца ненадоўга. Нават не абняў, стрымаўся, толькі паціснуў рукі, сказаў: «Ну, трымайцеся», і больш нічога.

Валік верыў і не верыў старым, што яны неўзабаве з'явяцца ў Гудзе. Думаў пра іншае: Савелій адразу ж, калі ён прыплыве ў вёску і раскажа пра ўсё, што тут адбылося, накіруецца ў Кашару. Ён гэта так не пакіне, сілком, дадзенай яму ўладай прымусіць старых вярнуцца ў вёску. Удумалі: застаёмся…

Канешне, без Валіка яму сюды не дабрацца. І, выплываючы з затокі, не звяртаючы ўвагі, што за лодкай у траве застаецца след, Валік стараўся запомніць гэтую паваротку ракі, яе левы і правы бераг.

З левага берага, па цячэнні, метраў за дзвесце перад затокай да самай вады звісае старое густое вербалоззе. Гэтакая шчыльная-шчыльная града. Месцамі праз яе ў раку ўпалі дрэвы, тоўстыя і вельмі старыя. Бачна, што ляжаць яны даўно, можа, дзесяцігоддзі, ствалы паступова знікаюць пад вадой, над якой узвышаюцца тоўстыя счарнелыя сукі. Мабыць, дрэвы падрэзалі бабры, інакш нельга ўявіць, як яны такія моцныя ўпалі.

Града вербалоззя заканчваецца каля лапіка шчыльнай травы, які далекавата адыходзіць улева, да лесу на ўзвышшы, за якім, як Валік ужо ведае, пачынаецца балота. Лапік не дужа доўгі, за ім зноў пачынаецца лазняк, такі ж шчыльны, як і гэты.

Правы бераг высокі, абрывісты, відаць, вясной вада яго добра падмывае, таксама бачны дрэвы, што ўпалі ў раку.

Валік выплыў на сярэдзіну, узяўся за вёслы, ведаў, што лазняк неўзабаве скончыцца, што рака там пойдзе прамей, паваротак мала, і ён скіруе пад бераг, так плысці лягчэй і хутчэй.

Так і было. Плыў ён хутка, хоць і супраць цячэння. Каля берага плынь амаль не адчувалася, дзе арудаваў вяслом, дзе шастом — справа для яго прывычная.

Ён разлічваў, што да вечара дабярэцца да таго месца, дзе пачынаецца сцежка на Дарашкевічаву Стражу. Яўхім таксама пра гэта казаў, ды прасіў, каб схадзіў на хутар, пераначаваў у старой, пагаварыў з ёй, сказаў, што неўзабаве да яе могуць наведацца двое старых: справа ў іх ёсць да гаспадыні — неяк у пачатку вайны ў яе начавала трое чырвонаармейцаў…

Каб не гэты намер дзеда Яўхіма і дзеда Іосіфа, адзін Валік дадому не паплыў бы. А так ведаў, старыя абавязкова наведаць Стражу. Можа, гэта для дзеда Яўхіма адзінае даступнае на зямлі месца, дзе, як думае, засталіся сляды яго сыноў…

Валік плыў і ўспамінаў размовы старых. Былі яны нібы не звязаныя між сабой лагічна, але з нейкім глыбока прыхаваным сэнсам. Ад каго? Ад сябе? Ад яго?

Ад сябе — наўрад ці. Ад яго? З якой мэтай? Аберагалі ад ўсяго таго крыўдлівага і жорсткага, непатрэбнага, што было між імі? Як сказаць.

Фрагментарна гучала так.

— Ведаеш, Яўхім, што я зразумеў, пражыўшы, лічы ўсё жыццё каля людзей, а можа, і з імі, ды зараз вось ужо колькі гадоў адзін?

— Скуль мне ведаць? Кажы, Восіп, можа, я табе пра сваё скажу. Можа, тваё і маё сыходзіцца. Мы ж з табой некалі чужымі не былі. Хто ж ведаў, што жыццё такое пакручастае? Маладыя былі, у галовах — вецер. Па-дурному разышліся з табой, я вінаваты… І пайшло: у мяне свая сцежка, у цябе свая. І мне было балюча і крыўдна без цябе, мабыць, і табе. Помніў я ўсё жыццё, як ты мне, калі я, чужы, сірата, бадзяга, у Гуду прыстаў, першы з хлопцаў руку падаў. А пасля я, калі табе мая рука патрэбна была, не падаў. І помню калі: не пайшоў з табой Тэклюшку бараніць. Мабыць, балюча табе было, не забраў ты яе адзін, удвух адбілі б.

— Было балюча, Яўхіме, было. А як жа? І крыўдна было. І я сірата. І я адзін. Нам бы па адной сцежцы ісці, а мы, як ты кажаш, па розных пайшлі. Хаця, колькі жывём з тае пары, столькі нашы сцежкі побач віюцца. А калі перасякаліся, да дабра не прыводзілі. Цяжка, вельмі цяжка было адчуваць гэта. А вот зноў сышліся. Не ведаю як ты, а я як толькі цябе ўбачыў, падумаў, што нарэшце ўсё між намі зменіцца.

— З тым і прыплыў, Восіпка.

— Як добра, што з Валікам прыплыў. Вырас хлопец. Мужчына. Пазнаў мяне. Абняў. Так сын ніколі не абдымаў, калі яшчэ чалавекам быў. Хаця, можа, ён ім і ні быў ніколі. А чаму? Не змог я чалавекам яго выхаваць.

Валік, калі яны так гаварылі на ганку, сядзеў воддаль на калодзе, глядзеў навокал, які раз хацеў зразумець, як тут так доўга жыў дзед Іосіф спачатку адзін, потым з жанчынай, якую любіў, і не ўяўляў гэтага.

Думаў, напэўна, толькі страшэнная крыўда на аднавяскоўцаў трымала старога тут: не мазолю вам вочы…

— Яно так і не так, — казаў Яўхім. — Ніхто не ведае, якімі нараджаюцца людзі. Як кажуць, і яблыня можа быць добрая, а яблык...

— Нікому не казаў, а табе скажу: не з маёй ён яблыні. Але за гэта я Марыю ні разу ні ўпікнуў. Калі з плодам узяў яе, дык спрос з мяне за тое, які плод той выспеў. Так што, адказвай, Восіп!.. Вось і адказваў і перад людзьмі, і перад самім сабой.

— Нда… Складана ўсё гэта. Вельмі.

— Я табе больш скажу… Валік не чуе? Не трэба яму гэта. (Валік хацеў падняцца, пайсці, але нешта быццам прывязала яго да калоды). Ага, не чуе… Тады, калі вёску спалілі, калі людзей знішчылі, я сына свайго хацеў застрэліць.. Кат ён, з ворагам быў. Вінтоўку на яго наставіў, і не змог.

І тут мая віна перад людзьмі. Ён жа пасля гэта яшчэ столькі зла зрабіў.

Іосіф надоўга змоўк. Маўчаў і Яўхім. Валік сядзеў агаломшаны, не ведаў, што рабіць. Ён добра помніў паліцая Стаса, сына дзеда Іосіфа. Помніў, што Стас не аднойчы настаўляў на малых вінтоўку, палохаў. Помніў, як гарэла вёска…

— Тут табе ніхто не суддзя, — нарэшце сказаў Яўхім. — Тут сам сябе або асудзіш, або апраўдаеш.

— І я так думаю… А што выбраць, і зараз не ведаю. Іншы раз азлабляюся на сябе. Хаця ведаю — нельга. І Тэклюшка заўсёды казала, што азлабляцца не трэба. Нельга, як бы цябе ні круціла жыццё, разумееш? Аслепнеш, чалавека ў чалавеку бачыць не будзеш. Азвярэеш. Я вунь, можа, яшчэ нядаўна ад злосці невідушчым быў. У горад з помстай да людзей пайшоў, хай яны і кепскія, вельмі кепскія. Тэклю ў сябе трымалі, здзекаваліся з яе, як хацелі. Казала, каб не грэх, дык рукі на сябе наклала б.

А вот пайшоў да іх, каб расквітацца, зверам ішоў, хаця не ведаў, што будуць рабіць, але — зверам… Можа, зверам і застаўся б, калі б не сустрэў

Кацю з хлопчыкам, а потым — Надзю са Светкай. Убачыў іх і апусціліся рукі, душа адтала. Во яно як.

— Петрык яго завуць, Кацінага і Пятровага хлопчыка.

— Пятро, значыць, як бацьку.

— Як бацьку, — нібы пацвердзіў Яўхім. — Хлопчык мне як унучак, мае ж хлопцы пакуль яшчэ не вярнуліся, сваіх унукаў няма. Чакаю.

Іосіф паглядзеў на Яўхіма, падтрымаў:

— Чакай. Прыйдуць. Многа каго чакаюць?

— Чакаем? Многа каго. Ігнат Сапёрскі прыйшоў. Яшчэ той-сёй, сам убачыш. А хто ўжо ніколі не прыйдзе, дык іхнія імёны на абеліску побач з імёнамі тых нашых з табой аднавяскоўцаў, якія дома загінулі. Абеліск там, дзе клуб быў. І Марфушка мая там, як ведаеш…Ты вось магілку сваёй Тэклюшкі бачыш, сам яе, як і належыць, у зямлю паклаў, а ад маёй Марфы нічога не засталося, вецер нават попел развеяў… Як жа ты адзін Тэклюшку змог пахаваць?

— Так і змог… Сядзела на ганку, як заўсёды мяне чакала, я з лесу ішоў, яна ўбачыла, узнялася, нешта хацела сказаць і павалілася. А пахаваў, дык не буду казаць як, цяжка было, вельмі цяжка, труну на круглякі клаў, каціў…

— Тады і не кажы. Лёгкая смерць у яе, царства ёй нябеснае. А ў маёй Марфы дужа ж цяжкая, нялюдская. Дазнаўся я, дзе Марфушка апошні раз на зямлі была, па абгарэлым гузіку з яе кофты. Гузік той вельмі прыкметны быў. Вялікі, блішчасты, з выбітай пасярэдзіне ружай. Я яго неяк яшчэ падлеткам знайшоў на дарозе, калі па свеце хадзіў. Вельмі ён мне падабаўся. А калі з Марфушкай сышоўся, падарыў ёй, вось усё багацце, што ў мяне было тады.

Прышыла яна сабе яго на кофту, казала, на шчасце: на дарозе ж знойдзена, як падкова. І потым перашывала з кофты на кофту… Па гэтым гузіку, абгарэлым, з абвугленай ружай, і знайшоў сваю Марфачку — жменька попелу вакол яго. Хацеў згрэбці, наляцеў вецер, развеяў, змяшаў з прахам астатніх нашых аднавяскоўцаў…

На тым месцы, дзе яны загінулі, мы, як Ігнат Сапёрскі, Паўлік Юркевіч, Мішка Іваноўскі, ды Коля Трафімаў вярнуліся з вайны, спачатку крыж паставілі. Вялікі, нават большы, чым гэты, каб здалёку было відаць. А потым мужчыны вырашылі, што абеліск трэба. Людзі ж нашы розных нацый і веры былі, крыжы розняцца.

— Кажаш, адзін на ўсіх крыж ставілі, і абеліск адзін. І я адзін нам з Тэклюшкай паставіў.

— Дык жа, калі падумаць, і па жыцці ён у вас адзін.

— Давай не будзем пра гэта, — сказаў Іосіф. — З намі ўсё зразумела: што было, як жылі, што будзе. Старыя мы. Пра маладых трэба думаць. Даруй, але і я зноў пра тваіх хлопцаў спытаць хачу. Ты ж толкам нічога і не сказаў, адно, што чакаеш. Абзываюцца?

— Хлопцы? Чаму толкам не сказаў… Мне за сваіх баліць, табе за свайго. Табе, можа, у сто разоў больш баліць, чым мне… Што тут асаблівага пра маіх казаць… — разважаў Яўхім. — Казаў жа, чакаю. Але пакуль не абзываюцца хлопцы мае. Паперка на іх была, быццам без вестак прапалі. Яшчэ даўно была, неўзабаве, пасля таго, як раён вызвалілі.

— Як гэта была? Парваў?

— Ды не, не парваў. Ёсць такая паперка, ёсць. Толькі не веру я ёй. Саўка Касмановіч, помніш такога, яе тады ў паштаркі перахапіў. Ён у нас участковы.

— Помню, чаму ж не, добры хлопец.

— І ён не верыць.

Валіку захацелася крыкнуць, што ён таксама не верыць, але стрымаўся. Упершыню ў сваім дарослым жыцці, а Валік лічыў сябе дарослым, атрымліваецца, падслухоўвае чужую размову. Хаця, чаму чужую? Дарагія, вельмі дарагія яму гэтыя двое старых людзей, якія столькі ўсякага перажылі на сваім вяку, што і ўявіць немагчыма. І калі ён, хай без іх дазволу, раптам стаў сведкам іхняй шчырай, такой балючай размовы, дык дарэмна яны аберагаюць яго ад яе: у яго ж жыццё наперадзе.

— Вернуцца, — сказаў Іосіф, і паўтарыў ранейшае: — Чакай, будзем чакаць.

— А як жа? — нібы здзівіўся Яўхім. — Усе чакаюць, усіх. І цябе ў Гудзе ўсе чакаюць. Жанчыны наказалі: «Дзядзька Яўхім, каб без дзядзькі Іосіфа не вярталіся».

Сказаўшы гэта, Яўхім уважліва паглядзеў на Іосіфа. Той маўчаў. Здавалася, нават затаіў дыханне. Нарэшце ўздыхнуў, прамовіў:

— Не, Яўхіме, не вярнуся. Каля Тэклюшкі буду. Не магу я яе пакінуць адну, крыж у нас адзін… Ты нашым паклон ад мяне перадай, ды скажы, што не магу. Клопат тут ёсць. Скажы, што ў мяне ўсё добра, моцны яшчэ.

Вось знайшоў ты мяне з Валікам, і ўсё цяжкое, што так гняло, да зямлі прыціскала, ды так, што свету Божага не бачыў, ссунулася. А больш мне нічога не трэба.

— Чаму не вернешся? — абурыўся Яўхім. — Ды мы ўсе цябе чакаем з таго часу, як знік у паводку. Сем гадоў мінула: дзе чалавек дзеўся?.. Утапіўся? Знесла, што і следу няма? Згарэў, як хата гарэла?.. Дзе мы толькі не шукалі цябе, як толькі не гукалі!.. А ты вунь дзе. І як гэта я раней не мог дадумацца. Хаця, прызнаюся, не ўяўляю, як ты ў такую паводку, у такую золь змог выбрацца на сухое.

— Як бачыш, выбраўся. Выбраўся не таму, што надта хацелася жыць, не. Мабыць, выбраўся таму, што не мог памерці, Тэклюшку не пабачыўшы. Мабыць, нейкая не падуладная мне сіла вяла мяне сюды. Можа, лёс.

Выбраўся, мабыць і таму, што хацелася пабачыць Пятрова і Кацiна дзіця, усіх вас, і, можа, каб некалі дачакацца таго моманту, калі мы з табой абняліся, дарагі ты мой дружа.

Так што цяпер мне з Тэклюшкай трэба быць. Як жа я яе пакіну? Тры дні збіраўся ў Гуду, хацела яна гэтага. Хацела, каб да вас ішоў, калі раптам першай памрэ. А я казаў ёй, каб да цябе, Яўхіме, ішла, калі што са мной здарыцца. Казаў, што ты яе ўратуеш, схаваеш, беглая ж.

— Знаць, верыў мне.

— І злаваў на цябе, а ўсё ж верыў табе. І Міхею з Міколам верыў, і Каці з Надзяй. А цяпер і Валіку веру. Пабачыў вас, і нічога і нікога не баюся. Хіба што аднаго: Тэклюшку пакінуць.

— А я многага, Восіпка, баюся,— сказаў Яўхім. — Баюся, што сыноў не ўбачу: вернуцца, як мяне пахаваюць. Баюся, каб з дзецьмі не паўтарылася тое, што з намі было. Баюся, што ты, як сказаў, не паедзеш са мной. Мінулага нашага з табой баюся: што цябе тады аднаго пакінуў, як ты Тэклю ішоў забіраць. Баюся сваіх слоў, якія некалі сказаў сынам, праводзячы іх на вайну, як пракляў, ці што… Таксама, як і ты, баюся адну Марфушку пакінуць, хоць не адна яна там, дзе вецер попел яе развеяў, з такімі ж пакутніцамі і пакутнікамі, як сама. За цябе, Восіп, баюся, як жа ты тут будзеш адзін?

— Нічога не бойся, Яўхімка, асабліва за мяне і за Тэклюшку… А пра словы, якія ты Нікадзімушку і Ванюшы казаў, дык правільныя яны былі. Я іх помню, з табой жа на фронт нашых сыноў праводзілі. Майму б Стасу

іх у наказ, ды каб пачуў, ды каб мне — лёс чалавекам яго чакаць, як ты сваіх сыноў чакаеш.

Я тут буду, а ты дадому плыві, не праганяю, але і не баўцеся са мной, бо хутка задажджыць, цяжка будзе плысці. Дасць Бог, убачымся. Сыны твае вернуцца, надумаеш, да мяне заявіцеся, вельмі ж хочацца пабачыць іх, якія яны цяпер, Нікадзім і Іван. Мабыць, мужчыны ўжо — уга якія!

— Мабыць, Восіпка, мабыць. Каб жа вярнуліся… Я вось што, з табой і з Тэклюшкай застануся. Мне вас адных пакідаць нельга. А Марфушка мая мяне зразумее, крыху пачакае. А калі мае хлопцы прыйдуць, дык Валік ім да нас з табой дарогу пакажа. Пагасцюююць, назад разам паплывём. Валік, а, Валік, ці чуеш? Прывязеш сюды хлопцаў?

Валік не адказаў, быццам не чуў. Яго маладое сэрца гулка тахкала, ён не ведаў, як быць…

## 17

Валік кіраваўся дадому. Гэтая размова двух старых, блізкіх і дарагіх яму людзей, усё ўсплывала і ўсплывала ў памяці. Ён чуў іхнія галасы. Бачыў іхнія твары. Былі яны сівыя і мудрыя. Бачыў вочы старых, быццам выцвілыя, але ўсё адно з прасветленасцю. Хай тужлівай, але сапраўднай, здольнай перадацца табе, узрушыць думкі, прымусіць задумацца аб тым, што няма нічога простага ў адносінах між людзьмі, і што вельмі важна разумець адно аднаго, і падтрымліваць на пакручастых дарогах жыцця…

Ён яшчэ не ведаў, што і яго жыццё будзе не простым, а дарогі пакручастыя. Не ведаў, што на гэтых дарогах сярод людзей і да людзей ён шмат разоў будзе падаць… Не ведаў, што тады будзе ўспамінаць гэтую размову двух сваіх аднавяскоўцаў, лёсы якіх некалі кранулі ягоную тады яшчэ кволую душу, укінулі ў яе шмат і гаркаты, і цяпла, а ўспомніўшы, будзе паднімацца, і дапамагаць падняцца іншым, тым, хто ўпадзе адзін.

І на ўсё сваё доўгае жыццё запомніць Валік, Валянцін Ігнатавіч Сапёрскі, тую і сваю, і Яўхімаву сустрэчу з Іосіфам Кучынскім, якая адбылася на хутары Кашара, надзейна схаваным прыродай ад людзей.

Шмат што бачанае і пражытае заціраецца ў яго памяці, а то і сатрэцца з яе, а гэта будзе на самым версе, каб выявіцца, высвятліцца, азарыцца ў нялёгкія, а то і цяжкія моманты жыцця.

А пакуль ён, лёгка спраўляючыся з лодкай, плыў па рацэ супраць цячэння дадому, да бацькоў, да людзей.



**Іван КАРЭНДА**

# ВОЧАП

*Паэма (урывак)*

О, Жыццё! Магутны твой пачатак —
Як крыніца ўсіх зямных крыніц.
Плынь імгненняў, плынь святую часу
Не стрымаць, нікому не спыніць!

Нам Жыццё здаецца вокамгненным,
Не заўважым зморшчын на ілбе…
…Да развагі, сталай і сумленнай,
Запрашаю, дружа, і цябе.

Мы з табой — як нітачкі жывыя
Аднаго жывога палатна,
На якім узоры крыжавыя
Тчэ Жыццё сваёй рукой здаўна.

---

***Карэнда Іван Арсеньевіч*** *нарадзіўся 17 верасня 1950 года ў вёсцы Крывічы Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы (1971), вучыўся на аддзяленні журналістыкі Вышэйшай камсамольскай школы пры ЦК ВЛКСМ (1974—1976). Працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры Ракавіцкай сярэдняй школы, у Шчучынскім райкаме камсамола, загадчыкам аддзела рэдакцыі газеты «Чырвоная змена», на партыйнай рабоце. З 1991 г., — на дзяржслужбе: намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь, культуры і друку РБ, начальнік Галоўнага сацыяльнага ўпраўлення апарату Выканаўчага Камітэта Супольніцтва Беларусі і Расіі, на гэтай жа пасадзе — у Выканаўчым Камітэце Саюза Беларусі і Расіі, начальнік Дэпартамента сацыяльнай палітыкі Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы, памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — начальнік галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. З 2003 па 2008 гг. — на дыпламатычнай службе: саветнік Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі.*

*Аўтар зборнікаў лірыкі «Белы наліў» (1995), «Знічка» (2003), «Васількі надзеі» (2008 г.), паэтычнай кнігі для дзяцей «На загадкі ёсць адгадкі» (2001), шэрагу калектыўных зборнікаў паэзіі, укладальнік літаратурна-мастацкага выдання «У вянок Адаму Міцкевічу» (1998 г.). Творы перкладаліся на рускую, балгарскую мовы.*

І рупліва зноў наперад крочыць,
Нібы ўвесну шчыра на сяўбе,
Бо Жыццё і ёсць той самы Вочап,
Што трымае Вечнасць на сабе.

І старанна-дужа засявае
Сонцам абагрэтую раллю,
Коласам жытнёвым выспявае,
Зноў зярняткам падае ў зямлю.

Мы — зярняткі, кінутыя ў глебу,
Нам таксама трэба прарасці
Каласкамі, на кавалак хлеба,
Каб Жыццё магло далей ісці.

Спадчынная доля — нам ад продкаў,
Як калодзеж з чыстаю вадой,
Што дае нам сілу крок за крокам
Мераць шлях зямны сваёй хадой.

Нам яго не вычарпаць ніколі, —
Калі Бог не зменіць свой намер, —
Будзе каласіцца наша поле
Пад нязгасным сонцам, як цяпер.

Што яшчэ, скажы, для шчасця болей
Трэба чалавеку на зямлі?
Каб заўжды хапала хлеба-солі,
Ды півоні каля хат цвілі.

Каб прастор быў для ягонай долі,
Для кахання і высокіх мар.
Каб ніколі не скарылі волю,
Не было пажараў і ахвяр.

Шмат яшчэ на свеце калатнечы,
Шмат крыві нявіннай людзі льюць —
Чалавеку жыць па-чалавечы
Нелюдзі-паганцы не даюць.

З той пары, як на гары Галгофа
Не хапіла людзям дабрыні,
Бог ратуе нас ад катастрофы —
Душы злыдняў спальвае ў агні.

Што зрабіць, каб пад ніякім страхам
Чалавек душою не крывіў,
Каб ішоў ён не авечым шляхам —
Веру продкаў ў горы не згубіў?

Як наладзіць на зямлі парадак,
Каб жылі мы, як адна радня,
Усе спрэчкі вырашалі радай,
Дух любові братняй нас яднаў?

Мо тады адпрэчым назаўсёды
Жорсткасць і нянавісць з душ людзей.
Толькі з мірам, на сцяжынах згоды,
Тчэцца годны ланцужок падзей.

Час раскідваць камяні сыходзіць —
Час збіраць іх сёння нам якраз.
Ў тых, хто толькі у жыццё прыходзіць,
Працы будзе болей, чым у нас…

Вочапная доля — не сняжынка,
Не сумёт, што ўвесну растае.
Дзякуй богу, і мае крывінкі —
Трое ўнукаў — панясуць яе.

Ведаю, іх шлях не будзе лёгкім,
На разумнага хапае прастаты…
Ім, нашчадкам, блізкім і далёкім,
Шлю ў вечнасць сціплыя лісты...



Ніна РЫБІК

# ТОЙ, ХТО ВЕДАЕ

*Апавяданне*

«Ну вось і ўсё… Усё-ўсё-ўсё… Усё закончылася… Усё-ўсё-ўсё…» Гэтая навязлівая думка адбівала ў галаве шалёны рытм балючымі малаточкамі. «Усё-ўсё-ўсё… Табе няма куды ісці… Усё-ўсё-ўсё… Ты нікому не патрэбен… Усё-ўсё-ўсё… Цябе ніхто не любіць… Усё-ўсё-ўсё… Табе няма для чаго жыць… Усё-ўсё-ўсё… Ты няўдачнік, ты ганебны, бездапаможны няўдачнік… Усё-ўсё-ўсё…»

Ён стаяў на мосце, да болю, да сінявы ў пальцах сціснуўшы парэнчы, і глядзеў уніз, на свінцовую гладзь вады, якая злёгку дрыжэла пад халаднаватымі павевамі асенняга ветру, нібы таксама прагнула цяпла. Калі дрыжыкі воднага люстра на нейкі момант спыняліся, у ім адбіваўся няголены твар у шапцы доўгіх ускудлачаных валасоў. Гумка, якой яны былі сцягнуты, недзе згубілася, і цяпер непаслухмяныя пасмы тырчэлі ва ўсе бакі. Брудны, пакамечаны льняны пінжак — ніхто не скажа, што куплены ў дарагім сталічным буціку, нясвежая сарочка, запылена, заляпана граззю яшчэ нядаўна элегантная замша дарагіх туфляў… Няўжо гэты замызганы бомж — ён, Андрэй, некалі лепшы вучань школы, гонар бацькоў, надзея ўніверсітэта, пераможца міжнародных конкурсаў, светлая галава лепшай камп'ютарнай фірмы горада?

Не, таго Андрэя больш няма… А на мосце, ухапіўшыся за парэнчы, стаіць дурань, няўдачнік, нікчэмны чалавек… Так яму ўчора сказала Святлана — самая лепшая, самая прыгожая дзяўчына на свеце… Ці пазаўчора? А можа, тыдзень таму? Ён згубіў адчуванне часу. А можа, гэта ўвогуле было не з ім? Ці адбывалася ў мінулым жыцці — кажуць жа, што яно ёсць?..

Але не, на пальцы зусім рэальна паблісквае, пасміхаецца пагардлівай Святланінай усмешкай заручальны пярсцёнак: калі ён зрабіў каханай прапанову пабрацца шлюбам, яны справілі шыкоўныя заручыны — з пярсцёнкамі, галубамі і банкетам у рэстаране на паўсотні чалавек…

---

***Рыбік Ніна Аляксееўна*** *нарадзілася 16 студзеня 1962 года ў вёсцы Уласы Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці (пасля аварыі — у зоне адчужэння). Скончыла Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум (1980) і факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта (1990). Працавала ў Хойніцкай раённай газеце «Ленінскі сцяг». З 1989 года жыве ў Астраўцы, працуе ў рэдакцыі раённай газеты «Астравецкая праўда», з 1992 года — галоўным рэдактарам.*

*Друкавалася ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісах «Полымя», «Маладосць», у калектыўных зборніках. Выйшла дзве кнігі яе апавяданняў — «Права на адсяленне» (2001) і «Свае і чужыя» (2008).*

Андрэй сцягнуў з пальца і шпурнуў у ваду халоднае залатое колца. У яго больш няма нявесты… Няма грошай… Няма будучыні… Ён — няўдачнік! Так сказала Святлана перад тым, як бразнуць дзвярыма і пайсці да іншага — таго, хто зможа як след ацаніць яе аксамітную скуру, яе далікатную паставу, яе тачоныя ножкі, тугія, заўсёды налітыя пажадлівай жарсцю грудзі… Як яна сказала, калі адыходзіла? Яна — дарагая штучка, і калі Андрэй не ў стане забяспечыць ёй годнае існаванне, то хай ведае: ён — не адзіны мужчына ў свеце.

І не верыць ёй няма падставы. Канешне, ён няўдачнік, калі паўгода не можа знайсці работу з такой зарплатай, якая б дазваляла яму забяспечваць Святлану ўсім, чаго яна вартая. Ён стараўся, Бог сведка — ён вельмі стараўся. Ён кінуў універсітэт, хоць бацькі былі катэгарычна супраць: сын падаваў вялікія надзеі. Але што атрымліваюць вучоныя? Хіба можна за гэтыя грошы павезці каханую жанчыну на адпачынак на Канарскія астравы, у Тайланд, на Кіпр? Ці падарыць на дзень закаханых пярсцёнак з брыльянтам? Ці вячэраць у рэстаране хоць бы раз на тыдзень, а лепш — кожны вечар, бо гэтыя прыгожыя далікатныя пальчыкі не прызначаны для таго, каб абіраць бульбу і мясіць цеста…

Ды і не мог ён займацца навукай, некалі так любімай, калі думкі былі заняты зусім іншым: хутчэй бы вечар — і яны застануцца ўдваіх… І ён зможа дакрануцца да шаўкавістых валасоў, адчуць аксаміт персікавай скуры, ад дотыку да якой усю істоту працінае токам; прагна, як стомлены падарожнік да крыніцы, прыпасці да вільготных, калі салодкіх, калі гаркаватых, калі салапаватых вуснаў — і піць, піць нагбом каханне, што выпраменьвае кожная клетачка яе цела, і адчуваць, як шчасце цёплай хваляй разліваецца, запаўняючы ўсю яго істоту ад кончыкаў валасоў да пазногцяў…

Ён тады пасварыўся з бацькамі — упершыню ў жыцці. Маці плакала і прасіла пашкадаваць яе хворае сэрца — Андрэй лічыў, што гэта звычайны шантаж. Бацька крычаў, брыдка лаяўся — сын упершыню чуў ад яго такія словы. Спрабаваў давесці, што Святлана — пустышка, якой не трэба нічога, акрамя грошай, і калі ён дзеля яе доўгіх ног і круглай задніцы пакіне вучобу, то гэта будзе самай вялікай памылкай у яго жыцці. Папярэджваў, што гэтая верціхвостка кіне Андрэя, як толькі ў яго закончацца грошы.

Тады Андрэй моцна пакрыўдзіўся на бацькоў — за тое, што яны не бачаць: Святлана — самы светлы і цудоўны чалавек на свеце, а галоўнае — не хочуць зразумець, што яму не патрэбен ніхто, акрамя яе, што больш ні з кім ён не будзе шчаслівым. Ён моўчкі сабраў у чамадан рэчы і прычыніў за сабой дзверы роднага дома…

Ён спяшаўся насустрач свайму шчасцю. Бацькі — яны, вядома, харошыя і жадаюць яму дабра, але што яны разумеюць у сучасным жыцці? Дыплом, навука, кандыдацкая, доктарская — хіба гэта галоўнае? Ён кахае і каханы — і важней, чым гэта, няма нічога ў свеце. Ён малады, здаровы, са светлай галавой і рукамі, якія растуць, адкуль трэба — няўжо ён не здолее пракарміць сябе і сваю жанчыну?

Напачатку ўсё было, як у казцы. Ён уладкаваўся на работу ў прэстыжную камп'ютарную фірму, яму даручалі самыя складаныя заказы — і ён бліскуча спраўляўся з усімі заданнямі. За гэта яго цанілі і добра плацілі — ён нават не ўяўляў, што такія грошы бываюць. Яны знялі кватэру ў цэнтры горада — і кожны вечар заставаліся ўдваіх, млеючы ад шчасця і асалоды…

А потым настаў крызіс. Заказаў станавілася ўсё менш. Спачатку ім моцна ўрэзалі зарплату. Святлана стала крывіцца, што летам яны не могуць дазволіць сабе Мальдзівы, як ён абяцаў, максімум, на што хопіць грошай — гэта нейкая там Балгарыя. І «брулікі», каб кожны дзень было свята, скончыліся, і

дарагія рэстараны змянілі танныя кафэшкі, а то і піца з дастаўкай на дом. Яна станавілася ўсё больш халоднай, усё часцей вечарам адпраўлялася на сустрэчу з сяброўкамі ці да мамы, часам заставалася там начаваць.

Калі на фірме загаварылі пра непазбежныя скарачэнні, Андрэй зразумеў, што ў чарзе «на вылет» ён — першы: на фірму прыйшоў апошнім, вышэйшай адукацыі не мае. І ўжо нікому не было справы да яго светлай галавы — кожны дбаў пра ўласны дабрабыт.

Напачатку Андрэй на гэта нават не вельмі зважаў: ну што, ён не знойдзе працу? Ды як раз плюнуць! Добрыя спецыялісты заўсёды былі на вагу золата!

Але аказалася, што ўсё не так проста. Туды, дзе ён хацеў працаваць, не бралі — не хапала адукацыі, вопыту, рэкамендацый, блату. Там, дзе яму гатовы былі прапанаваць работу, не задавальняла зарплата: Андрэй разумеў, што гэтых грошай ім са Святланай не хопіць і на тыдзень — а на больш сціплае жыццё яго прынцэса не пагодзіцца.

Міналі дзень за днём, ён збіў ногі, бегаючы па горадзе ў пошуках работы, невялікія зберажэнні, што ўпотай адлажыў, знікалі, як вада скрозь пальцы.

І нарэшце Святлана сказала яму тыя самыя страшныя словы, якія вярэдзілі яго душу і якія баяўся сказаць услых: ён — няўдачнік. Ён не варты такой жанчыны, як яна. Яна сыходзіць да іншага, паспяховага, які не будзе пералічваць наяўнасць, перш чым зрабіць замову ў рэстаране.

Калі яна стукнула дзвярыма і пайшла, ён доўга сядзеў, прыгаломшаны. Затым паклаў на стол апошнія грошы, што ляжалі ў кішэні, патэлефанаваў гаспадыні, каб сказаць, што яны пакінулі кватэру — і выйшаў за парог. Цэлую ноч бадзяўся па горадзе, не разумеючы, куды і навошта ідзе. Недзе з некім піў смярдзючы партвейн, закусваючы кіслым яблыкам, сарваным у чужым садзе. Плакаў у некага на плячы. Спаў на лаўцы ў скверы. Расказваў бадзяжнаму сабаку пра сваю трагедыю. І вось нарэшце спыніўся тут, на мосце, разглядваючы ў рачным адлюстраванні чужога чалавека, які быў некалі ім, Андрэем, і слухаючы балючы перастук малаточкаў у галаве: «Усё-ўсё-ўсё… Усё-ўсё-ўсё… Усё-ўсё-ўсё…»

Канешне, калі б ён зараз вярнуўся дахаты, бацькі ўсё б даравалі, падтрымалі і дапамаглі. Але перш трэба ўслых сказаць словы, што малаточкамі стукаюць у скронях: ён — ганебны няўдачнік. Пагадзіцца з думкай, ад якой вострым болем заходзіцца сэрца: Святлана ніколі яго не кахала. Прыняць іх шкадаванне, спачуванне, папрокі. Навошта? Ён — няўдачнік, і яму няма сэнсу жыць на гэтым свеце. Зараз, вось зараз… Ён перакіне нагу, затым другую, расчэпіць пальцы — і туды, у свінцовую бездань, услед за пярсцёнкам, за сваім нязбытным шчасцем…

Андрэй нахіліўся яшчэ ніжэй — вада, пакрыўшыся густым рабаціннем, дрыжэла ад холаду. Ён уявіў, як сігане цераз парэнчы, як імгненна намокне адзенне, невыносны холад скуе цела… Дрыжыкі прабеглі па спіне — ад холаду ці ад страху. Ён з цяжкасцю адвёў позірк ад свінцовай бездані, што неадольна цягнула ўніз, і ўзняў галаву. На супрацьлеглым беразе калыхаў голлем, нібы клікаў да сябе, ўбраны ў асеннюю барву разлапісты клён. «Вось, напэўна, каму цёпла, — падумаў Андрэй — і расчапіў пальцы, што, здавалася, прыраслі да парэнчаў. — Можа, ён і мяне сагрэе?»

Ён марудна, нібы разважаючы, ці варта мяняць рашэнне, якое ў адзін момант пазбавіла б ад усіх праблем, ці трэба шукаць недзе прывіднага цяпла, калі ўсё ў гэтым жыцці — холад і падман, паплёўся да берага, трымаючы ў полі зроку чырвоную пляму кляновай шапкі і падсвядома баючыся павярнуць галаву і зноў зачапіцца позіркам за прыцягальны свінец вады. «Ты — няўдачнік, — у

каторы ўжо раз паўтарыў, як мантру — але на гэта раз з палёгкай, калі ступіў на тратуар. — Слабак і няўдачнік! Ты нават гэтага зрабіць не змог!»

«Вось калі б мне хто дапамог, — нясмела абазваўся ў душы нечы тоненькі галасок. — Каб раз — і ўсё! Без холаду, бе страху, без сораму і ганьбы…»

І тут з падваротні проста пад ногі выскачыў чырвоны, яркі і прыгожы, як яго нядаўняе жыццё, мячык — і заскакаў перад ім, нібы дражнячыся: скок, скок, скок… Андрэй міжволі нагнуўся, каб злавіць яго — але той саскочыў на вышчарблены асфальт і пакаціўся па дарозе насустрач машыне, што вынырнула з-за павароту. «Зараз раздавіць, — міжволі спыніўся Андрэй, — і ўсё будзе, як са мной: р-раз — і ўсё. І не застанецца ні прыгажосці, ні радасці, ні шчасця…»

Раптам з той жа падваротні выскачыў белагаловы хлапчук і кінуўся за мячом.

— Куды ты! — закрычаў Андрэй і паспрабаваў схапіць малога за рукаў — але той вывернуўся і выбег на дарогу, спрабуючы дагнаць мячык.

Машына імкліва набліжалася. Хлопчык рэзка спыніўся, нібы адчуў небяспеку, і са страхам глядзеў, што будзе далей.

— Не-е! — закрычаў Андрэй, выскокваючы на дарогу проста пад колы машыны.

А далей усё адбылося адначасова: ён рэзка піхнуў малога, страшэнна завішчэлі тармазы, пачуўся крык дзіцяці і гук моцнага ўдару. І адразу ж моцны боль праця̆ў усяго… Зноў завішчэлі тармазы, недзе закрычала жанчына, святло пагасла, нібы нехта нябачны шчоўкнуў выключальнікам. «Ну вось, зараз сапраўды — усё, — толькі паспеў падумаць Андрэй, правальваючыся ў густую цемру. — Як добра! І больш не будзе балець ні душа, ні цела…»

…Праз нейкі час святло паступова пачало вяртацца, змрок нібы нехаця саступаў яму месца, і вось ужо з-за небакраю павінна выпырснуць яркае сонца.

Андрэй падзівіўся, што не адчувае болю — зусім! Ён увогуле нічога не адчуваў — толькі аднекуль зверху з цікавасцю назіраў, што адбываецца на вуліцы. Стаялі дзве «хуткія дапамогі», мітусіліся людзі ў белых халатах. Зводдаль прыпаркавалася міліцэйская машына, людзі ў форме нешта вымяралі рулеткай. Пасярод дарогі, развярнуўшыся ў супрацьлеглыя бакі, стаялі дзве легкавыя машыны: адна чырвоная, якая, ён памятаў, хацела наехаць на мячык і з-пад якой ён выпіхнуў белагаловага хлопчыка, і другая, белая, каля якой было шмат людзей. Калі яны расступіліся, Андрэй убачыў, як маленькае цельца белагаловага хлопчыка накрываюць белым прасцірадлам. Жанчына, якая стаяла ля дзіцяці наўколенцах, закрычала немым, нечалавечым голасам: «Не-е-е!!!»

І тут Андрэй зразумеў, што чалавек, над якім нагнулася маладзенькая сімпатычная доктарка, — ён сам: яго пінжак, штаны, вастраносыя запэцканыя замшавыя чаравікі… Андрэй назіраў, як яго нерухомае цела паклалі на насілкі, запіхнулі ў «хуткую дапамогу», чуў, як доктарка скамандавала вадзіцелю: «Хутчэй! У рэанімацыі нас ужо чакаюць!»

— Выходзіць, дзіця ўсё ж загінула, — Андрэй быў упэўнены, што сказаў гэта ўслых — але голасу свайго не пачуў. — Значыць, я не ўратаваў хлопчыка… Выпіхнуў з-пад колаў адной машыны — а ён трапіў пад другую… Нават тут, нават у гэтым не пашанцавала: дзіця, якому трэба жыць, загінула, а я, няўдачнік, — жывы…

— Ну, жывы ты адносна, — раптам пачуў Андрэй нечы голас. — Гэта яшчэ як там, наверсе, вырашаць…

У паветры калыхалася белая аблачынка, якая аддалена нагадвала чалавечую постаць — Андрэй быў гатовы паспрачацца, што гэты мяккі прыемны голас сыходзіць менавіта з гэтага белага згустка.

— Хто?.. — Андрэй хацеў спытаць, хто гэта з ім размаўляе, але аблачынка зразумела яго пытанне па-свойму.

— Ну вядома хто, — прамовіла яна і распаўзлася ўшырыню, нібы ўсмешка Чэшырскага Ката. — Самы галоўны, самы ўсемагутны, самы добры і справядлівы…

Здзіўленне, цікаўнасць, жаданне зразумець, што ж адбываецца — усё гэта ў адно імгненне выціснулі з яго свядомасці злосць і абурэнне.

— Самы добры, самы справядлівы? — крычаў Андрэй аблачынцы, якая ад гэтага крыку, чутнага толькі ім дваім, скукожылася да памераў маленькага тугога тэніснага шарыка. — Калі ён, гэты твой самы галоўны, добры і да таго ж — усемагутны, то чаму мяне, нікчэмнага няўдачніка, ад якога нікому ў жыцці няма карысці, адна толькі бяда? Чаму мяне павезлі ў рэанімацыю і ўрачы зараз імкнуцца вярнуць мяне да жыцця, якое мне апастылела? А гэтае вось нявіннае дзіця, якое павінна было жыць і радавацца жыццю, — чаму яно ляжыць пад белым прасцірадлам? Чаму крычыць яго маці? Па мне ніхто б так не крычаў… Я хацеў зрабіць адну-адзіную добрую справу, можа, самую галоўную ў сваім жыцці — выратаваць гэтага хлопчыка, загінуць за яго — а твой усемагутны не дазволіў мне гэта зрабіць! Дык які ж ён добры і справядлівы? Дзе, у чым яго справядлівасць?

Андрэй яшчэ крычаў — але шарык ужо стаў распаўзацца і зноў ператварацца ў аблачынку, толькі ўжо не ў празрыстую, а густую, строга акрэсленую.

— Не крычы на мяне! — мяккі прыемны голас стаў строгім. — Нічога не ведаеш. Не разумееш, а крычыш, нібы я перад табой у нечым вінаваты. Пайшлі, пакажу, калі табе так хочацца ведаць…

І лёгкая аблачынка імкліва паплыла над горадам. А за ёй, зачапіўшыся за белую пасмачку, падаўся і Андрэй — тая, нікому нябачная часцінка яго, якая магла падарожнічаць асобна ад распластанага на аперацыйным стале цела, думаць, размаўляць і нават спрачацца.

Яны плылі над горадам. Андрэй разумеў, што гэта яго родны горад: уздымаюцца ў неба купалы храма, у якім яго хрысцілі, з поўдня на поўнач пераразае блакітная стужка ракі — відаць нават той мост, на якім зусім нядаўна ён стаяў, учапіўшыся збялелымі пальцамі ў парэнчы і марыў усё скончыць адным махам… І разам з тым гэта быў іншы горад. Ён разросся, пашырэў, тут і там былі бачны незнаёмыя будынкі і новыя скверы.

Неўзабаве аблачынка пацягнула Андрэя ўніз. Яны спыніліся ў нейкім двары, заблытаўшыся ў парудзелых галінках чэзлай бярозкі, што прымасцілася ля дзіцячай пясочніцы без пяску. Двор быў стары, абшарпаны — як і пяціпавярховыя дамы, што стаялі па яго перыметры: аблупленая фарба на дзвярах пад'ездаў, пахіленыя дзіцячыя грыбочкі, сям-там — паламаныя лаўкі, выбоіны на асфальтавай дарожцы…

Двор быў амаль пусты: на лаўцы ля пад'езда сядзелі, нешта зацікаўлена абмяркоўваючы, тры бабулькі, у цені бярозкі гушкала каляску з малым, што ніяк не хацеў засынаць, маладая жанчына…

— Што ты хочаш мне тут паказаць? — звярнуўся да аблачынкі Андрэй. — Звычайная «хрушчоба»…

І тут з цёмнай падваротні пачулася брыдкая лаянка, а затым у двор укуліўся мужчына: шкляныя шалёныя вочы, раскудлачаныя валасы, якія, здаецца, ніколі не ведалі ні мыла, ні расчоскі. На правай назе боўтаўся незашнураваны

стаптаны чаравік, на левай — хатняя пантофля. Вялікі абтрапаны джэмпер боўтаўся на ім, як на калку, спартыўныя штаны з выцягнутымі каленямі і прапалінамі ад цыгарэт валачыліся па зямлі.

Бабулі, што сядзелі на лавачцы, як па камандзе, усхапіліся і навыперадкі кінуліся ў пад'езд; маладая маці, азіраючыся, хутчэй пакаціла каляску ў процілеглы канец двара і неўзабаве схавалася за вугал дома.

Хістаючыся, хлопец дабрыў да адной з нямногіх ацалелых лавачак, улёгся на яе, закінуўшы ногі на спінку і пачаў гарлапаніць непрыстойную песню. Адкрытыя фортачкі сталі адна за адной са стукам зачыняцца. Толькі ў акне на першым паверсе адхінулася фіранка і паказаўся белы, як крэйда, жаночы твар з глыбока запаўшымі цёмнымі кругамі вачэй — здалёк здавалася, што сама смерць глядзіць праз акно на п'янага.

Праз хвіліну бразнулі дзверы пад'езда, на вуліцу выйшла маленькая сухенькая жанчына.

— Коля, сыночак, хадзем дахаты, — нахілілася яна над п'яным. — Не трэба крычаць, а то суседзі зноў міліцыю выклічуць…

— Ну і хай выклікаюць — што я, міліцыі іхняй не бачыў? Ды я сам магу ўсё расказаць і пра міліцыю, і пра турму. Знайшла чым палохаць.

— Хадзем, сынок… З'ясі чаго-небудзь..

— Ну і што ў цябе можна з'есці? Зноў, пэўна, бульбы пустой наварыла. Сама еж!

Але праз імгненне ён змяніў тон на больш лагодны:

— А выпіць ёсць што?

— Сынок, ну адкуль жа тое выпіць… Да пенсіі яшчэ цэлы тыдзень, хлеба няма за што купіць, не тое, што выпіць.

— А ты пазыч!

— У каго, Коля? Я ўжо ўсяму дому вінаватая, ніхто мяне на парог пускаць не хоча!

Сын сеў на лаўку і, хістаючыся з боку ў бок, стаў крычаць:

— Бачыш, якая ты… Якія яны… Вы ўсе такія! Грошай на кавалак хлеба, на шклянку гарэлкі шкадуеце! А можа, мне гэтая шклянка зараз больш, чым хлеб патрэбная! А вы, сволачы, шкадуеце! Родная маці не хоча сыну дапамагчы…

Мужчына раз'юшваўся ўсё больш. Жанчына нерашуча адступалася да дзвярэй пад'езда.

— Не хочаш? То я цябе прымушу, — сын усхапіўся з лаўкі і кінуўся да маці. — Вось табе, вось! — піхнуў ён яе ў плечы — і тая паволі спаўзла на зямлю, закрываючы твар рукамі. — Ідзі і знайдзі мне паўлітра! — хлопец ударыў яе выспяткам. — Дзе хочаш знайдзі! А не то — заб'ю!

— Чуеце, вы! — закрычаў ён, узняўшы галаву ўгору. — Не хавайцеся там за вокнамі — я ведаю, што вы ўсё бачыце і ўсё чуеце! Ведайце: калі праз дваццаць хвілін яна не прынясе мне паўлітра, то заўтра яе не будзе! І ў яе смерці вінаватыя будзеце вы, сквапнюгі! А турмы я не баюся, два разы адседзеў — пасяджу і трэці, не прывыкаць.

Мужчына, хістаючыся, пасунуўся ў пад'езд.

Калі ён схаваўся за дзвярыма, з суседняга пад'езда выбегла маладзіца. Дапамагла падняцца пажылой жанчыне, усадзіла яе на лаўку, выцерла слёзы.

— Хадзем да мяне, Пятроўна. Пабудзеш, пакуль ён засне… Ці, можа, усё ж у міліцыю пазваніць? Хай бы прыструнілі…

— Не, ён не засне, — абціраючы пыл са сваёй доўгай спадніцы, скрозь слёзы прамовіла жанчына. — Я ведаю яго: відаць, яшчэ не дабраў, пакуль

не вып'е — не засне. Будзе ўсё трушчыць, ламаць, па суседзях пойдзе, скандаліць пачне… А міліцыю — што ж яе выклікаць? Яны яго адпусцяць праз гадзіну, у крайнім выпадку — назаўтра, і тады будзе яшчэ горш… Заб'е ён мяне, сапраўды заб'е, калі не прынясу выпіць…

— І куды той Бог глядзіць, што ён сабе думае? — загаласіла суседка. — За што ж табе такое гора? Ну чакай, вынесу я табе гарэлкі, стаіць у мяне прыхаваная на ўсякі выпадак.

Яна слізганула ў пад'езд, праз некалькі хвілін выскачыла, трымаючы нешта пад крысом вязанай кофты.

— На, трымай. Толькі не кажы, што я дала, а то потым ад яго не адчэпішся. Атруты б яму лепш напіцца, няма сіл глядзець, як гэты бэйбус жылы з цябе цягне. Жыве за тваю пенсію, ды яшчэ і здзекуецца штодня…

— Ведаеш, сама пра гэта не раз думала, — засоўваючы чацвярцінку ў нябачную кішэню сваёй шырокай спадніцы, уздыхнула жанчына. — Настаяць бы якіх мухамораў ці мыш'яку развесці, яму даць выпіць і сабе крыху пакінуць... Каб адным махам — і ўсе пакуты скончыліся. Толькі баюся: а раптам не насмерць? Што, калі паралізуе ці розум страціш? Тады ўжо зусім — труба…

Яна ўжо ўзнялася з лаўкі, памкнулася да пад'езда, ды спынілася ў нерашучасці:

— Грэх, напэўна, але ўжо не раз думала… У дзяцінстве, яму тады пяць гадкоў было, яго машына ледзь не збіла. Нейкі хлопец малады выпіхнуў яго з-пад колаў, а сам загінуў… Мой толькі ручку зламаў, як падаў. Тады Бога маліла, дзякавала, што адзінага сына, крывіначку, надзею, уцеху ўратаваў. А цяпер часта думаю: хай бы лепш ён трапіў пад тую машыну! Я потым хадзіла да бацькоў таго хлопца. Яны так бедавалі, казалі, што харошы, разумны быў сын… З цягам часу, мусіць, ажаніўся б, дзетак бы разумных нарадзіў, добрымі людзьмі іх выхаваў… Пра бацькоў клапаціўся б, пра сваю сям'ю. А ён за гэтую во пачвару, што родную маці са свету зжывае, жыццё аддаў! Каб ты, Зіначка, пабачыла мяне без адзежы — на мне ж жывога месца няма, уся ў сіняках. Усё цела мне баліць. А душа — найбольш… Кажуць, Бог мудры, справядлівы… Але дзе ж тая яго справядлівасць? — заплакала жанчына і адчыніла дзверы пад'езда.

— Ну, цяпер разумееш, якім бы вырас той хлопчык, якога ты спрабаваў уратаваць ад смерці? — аблачынка з белай стала шэрай, бярозавыя галіны, вецер ці што яшчэ павырывалі ў ёй вялікія дзіркі. — І заўваж: калі б усё склалася так, як ты хацеў і пад белым прасцірадлам ляжала б тваё цела, а хлопчык і далей пабег бы за сваім мячыкам — яго маці таксама наракала б на Бога, папракала яго ў несправядлівасці…

— Але чаму… Чаму гэтай жанчыне — ці адно непапраўнае гора, ці другое, яшчэ горшае? Няўжо яна не заслужыла лепшай долі?

— Ну чаму ж? — аблачынка пагойдалася на верхавінцы бярозы і, адарваўшыся, узнялася ў неба, усадзіўшы на адну з мяккіх пасмачкаў Андрэя.

— Бог ёй пасылаў шчаслівую долю, — расказвала аблачынка, лёгка віруючы паміж дрэвамі, шматпавярховікамі, птушкамі. — Нялёгкую, праўда, з выпрабаваннямі — але шчаслівую. Толькі яна адмовілася. Захацела перайначыць Божы промысел. У вас, людзей, заўсёды ёсць магчымасць выбару — вось яна і выбрала… У маладосці пасля адной п'янай студэнцкай вечарынкі дзяўчына зацяжарыла, сама не ведала ад каго. Хавалася ад усіх да апошняга. Употайкі нарадзіла дзіця — здаровенькую прыгожую дзяўчынку. Гэтая дзяўчынка вырасце прыгажуняй і разумніцай, стане памочніцай і апорай сваіх прыёмных бацькоў. А маці яе тады збаялася цяжкасцей, злых языкоў. Закруціла малую ў

пялюшку і паклала на ганак дома ў прыватным сектары. Думала, што здолее ўсё забыць, перапісаць жыццё нанова, што прыйдзе час — і яна створыць сям'ю, народзіць дзяцей, здаровых, прыгожых, а галоўнае — законных. Замуж яна і сапраўды выйшла. Ненадоўга — муж аказаўся такім жа нягоднікам, як і яго сын — гэты вось, каторага ты бачыў. На яе «шчасце», хутка загінуў — хоць за гэта яна таксама вінавaціла Бога. А неўзабаве і сына пахавала. А калі б не тая трагедыя на дарозе, то памерла б ад яго пабояў, трое сутак сыходзячы крывёй. І тое, што сын яе загінуў маленькім, за што яна і іншыя вінавацяць Бога — не самая страшная яе кара. Пашкадаваў яе Бог…

— Зрэшты, вунь яна, — аблачынка спусцілася ніжэй, дзе з паштальёнскай сумкай на плячы па вуліцы ішла жанчына ў чорнай хустцы. — Носіць людзям пісьмы і газеты. Дапамагае суседскім дзецям, у якіх бацькі п'юць. Падумвае пра тое, каб узяць дзіця з прытулку, ходзіць туды ледзь не штодня. Напэўна, усё ж рашыцца, бо неўзабаве туды прывязуць хлопчыка, вельмі падобнага на яе сына…

Андрэй задумаўся.

— Ну добра, будзем лічыць, што з гэтым хлопчыкам ты мяне пераканаў. А я? Чаму твой добры і справядлівы пакінуў мяне жывым? Ты ж ведаеш: я не хачу жыць, я не бачу ніякага сэнсу ў гэтым жыцці. Жанчына, каханне ўсяго майго жыцця, мяне пакінула, з бацькамі я пасварыўся, работу страціў, сяброў не засталося… Мяне ніхто не любіць, я нікому не патрэбен. Я — памылка прыроды ці твайго ўсемагутнага, я — няўдачнік, якому няма сэнсу жыць!

— Ну што ты заладзіў, як той папугай — няўдачнік, няўдачнік… Нібы слоў іншых не ведаеш, — правуркатала аблачынка. — Няўдачы свае ты таксама сам выбраў!

— Як гэта — я іх выбраў? — абурана слізгануў са зручнай пасмачкі, да якой ужо прывык, Андрэй. — Я гэты крызіс прыдумаў, ці што? Ці з работы сам звольніўся? А з гэтага ўсё і пачалося…

— Ну, пачалося не з гэтага… — задуменна закалыхалася аблачынка. — А з таго, што з дзвюх жанчын, што стаялі перад табой: адна са сціплай усмешкай, а другая — з пажадлівым позіркам, ты выбраў тую, што была прыгажэйшай. Ты думаў, што, калі яна легла з табой у ложак, то ты выцягнуў шчаслівы латарэйны білет. А на самай справе твой выйгрыш — зеро, пустышка. А шчасце сваё ты страціў… Ну, амаль што страціў — ёсць яшчэ спадзяванне, што не назаўжды. Калі той самы галоўны і ўсемагутны, добры і справядлівы, якога ты ўвесь час абвінавачваеш, не адвернецца ад цябе і хоць бы дзеля тваіх будучых дзяцей дазволіць табе выправіць памылкі, якія ты так шчодра і радасна рабіў у сваім жыцці.

— Якія дзве жанчыны? Адкуль дзве? Я заўсёды кахаў толькі адну…

— Ну добра, хадзем, пакажу табе другую…

Яны зноў імкліва перанесліся — і Андрэй убачыў сябе на парозе радзільнага дома. Ён разгублена ўсміхаўся і баязліва трымаў на руках два блакітныя скруткі. Зводдаль стаялі бацькі: маці выцірала слёзы, бацька ўзрушана пакрэктваў… А побач, прытуліўшыся да яго пляча і схаваўшы твар у абярэмку пунсовых руж, свяцілася ад шчасця… Божухна, дык гэта ж Валюшка! Рыжая канапатая Валюшка, дзяўчынка з суседняга пад'езда, якую ён увесь час падражніваў! Здаецца, яна вучылася ў медыцынскім каледжы? Ці ўжо нават закончыла? Пакуль ён жыў дома, яна ледзь не штодня прыбягала да яго то па кніжку, то па дыск, то спытаць нешта, то музыку паслухаць… Андрэй Валюшку ніколі ўсур'ёз не ўспрымаў: харошая светлая дзяўчынка, добры сябар, які заўсёды выручыць, выслухае, дапаможа — але хіба такую можна пакахаць?

І што, гэтая смешная, добрая, адданая Валюшка стане яго жонкай і народзіць яму адразу дваіх сыноў?

— Ды быць такога не можа! — услых прамовіў Андрэй. — Я ніколі яе ўсур'ёз не ўспрымаў. І ўвогуле, я кахаю іншую.

— Ах, сапраўды, — закалыхалася аблачынка. — Андрэю падалося, што ад здзеклівага смеху. — Каханне ўсяго твайго жыцця… Паказаць?

І аблачынка памкнулася некуды ўбок, цягнучы за сабой Андрэя.

— Здаецца, гэта яна?

Андрэй убачыў Святлану — яна сядзела за столікам у іх любімым рэстаране, ляніва пацягваючы шампанскае. Сэрца зайшлося ад болю, ад немагчымасці дакрануцца да яе, удыхнуть водар яе цела…

Але ўжо праз момант яму ўжо расхацелася гэта рабіць: ён заўважыў, што Святлана была на добрым падпітку. І ўвогуле, выглядала яна вульгарна і неахайна: туш паплыла, памада размазалася, на калготках папаўзла стрэлка, манжэт не першай свежасці блузкі ўпрыгожвала тлустая пляма.

Хістаючыся, жанчына падышла да століка, за якім сядзеў, час ад часу пазіраючы на гадзіннік, мужчына ў дарагім касцюме і модным гальштуку.

— Спадар, пачастуйце даму шампанскім, — развязна прамовіла Святлана, плюхнуўшыся на вольнае крэсла і закідваючы нагу на нагу так, што спадніца задралася да непрыстойнасці. — Я аддзячу!

Мужчына грэбліва скрывіўся і адсунуўся:

— Прабачце, але я чакаю сваю спадарожніцу і не маю ні магчымасці, ні жадання прапанаваць вам не тое што шампанскае, а нават шклянку вады.

— Вы такі скнапны? — не адставала Святлана. — А ваша спадарожніца — яна прыгожая? Прыгажэйшая, чым я? Гатовая паспрачацца, што я дам ёй фору ў сто балаў!

— Гэта невыносна, — працадзіў скрозь зубы мужчына і кіўнуў афіцыянту — той імгненна апынуўся каля століка, нібы чакаў гэтага знака.

— Калі ласка, пазбаўце мяне ад прысутнасці гэтай жанчыны — яна, здаецца, не вельмі цвярозая, — звярнуўся ён да вышкаленага хлопца ў чорным фартуху. — У мяне тут намечана важная сустрэча, і не хацелася б, каб гэтая… гм-м… дама, калі можна яе так назваць, спасавала нам вечар…

— Падумаеш! Скажы, што грошай на шампанскае пашкадаваў! А мы і не хацелі, іншыя жадаючыя знойдуцца, — дэманстратыўна віхляючы сцёгнамі, Святлана пайшла да свайго століка.

Афіцыянт мякка, але настойліва ўзяў яе пад руку:

— Мадам, калі ласка, разлічыцеся і пакіньце наш рэстаран.

— Гэта яшчэ што такое? — паспрабавала вырваць руку жанчына.

Афіцыянт моцна трымаў яе і, працягваючы ўсё гэтак жа ветліва ўсміхацца, ледзь чутна сказаў скрозь зубы:

— Такога — нічога. Плаці грошы і валі адсюль. А не то я паклічу ахову, і табе мала не падасца.

— А калі ў мяне няма грошай? — дзёрзка выгукнула Святлана. — Між іншым, такія жанчыны, як я, не разлічваюцца ў рэстаране — за іх гэта робяць сапраўдныя мужчыны.

— Вось адзін такі якраз ідзе, — заўважыўшы ў дзвярах сек'юрыці, махнуў рукой афіцыянт.

— Сяргей, тут дамачка псуе настрой салідным наведвальнікам, — перадаў ён локаць Святланы ў дужыя рукі ахоўніка. — Разбярыся, калі ласка…

— Гэта ў момант… Мадам, хадземце са мной, — падхапіў ахоўнік яе пад руку. — І сумачку сваю не забудзьцеся.

Сек'юрыці правеў Святлану да дзвярэй і, прыпыніўшыся ля вахцёра, сказаў:

— Іван Сяргеевіч, паглядзіце, калі ласка, на гэтую даму вельмі ўважліва і запомніце яе назаўжды. І больш ніколі, ні ў якім разе, ні ў якім выглядзе, ні ў якім суправаджэнні не пускайце яе ў залу. Хай здымае кліентаў на вакзале — там ёй самае месца!

Святлана не вельмі ўпэўненай паходкай, але з горда ўзнятай галавой адышла ад рэстарана. А калі завярнула за вугал, нырнула ў першы ж пад'езд, прысела на прыступкі запляванай лесвіцы і расплакалася. Андрэю стала шкада яе — але ранейшага заўсёднага жадання зарыцца тварам у яе валасы ўжо не ўзнікала.

— Пайшлі адсюль, — прамармытаў Андрэй, ухапіўшыся за белую пасмачку аблачынкі.

І яны зноў апынуліся каля бальніцы, дзе Андрэй беражліва ўсаджваў Валюшку ў новы белы «мерседэс» — блакітныя скруткі трымалі да немагчымасці шчаслівыя бабуля з дзедам.

— Гэта, дарэчы, твая машына, — забулькала аблачынка.

— Мая машына? Ды яшчэ такая? — не паверыў Андрэй. — Мне сёння не было за што паабедаць, а тут — такая машына! Колькі ж яна каштуе?

— Няважна, колькі — ты зарабіў. Ну, трохі яшчэ бацькі дапамаглі, на вяселле вашае госці скінуліся. Словам, не сумнявайся: твая, — аблачынка лёгенька засмяялася і пырснула ад смеху лёгкім дожджыкам.

— Ой, як добра — цыганскі дождж, — узняла твар на неба маці. — Гэта на шчасце!

На небе павісла яркая вясёлка, адным канцом упаўшы прама пад колы белага «мерседэса», што ад'язджаў ад бальніцы.

Андрэй доўга глядзеў услед машыне, спрабуючы ўсвядоміць і асэнсаваць усё, што ён сёння даведаўся.

— Паслухай, — пасля доўгага роздуму звярнуўся ён да аблачынкі, што моўчкі калыхалася побач. — Я многае зразумеў — акрамя аднаго: усё ж дзеля чаго твой усемагутны і справядлівы вырашыў пакінуць мяне на гэтым свеце? Не дзеля ж гэтага «мерседэса»…

— Сапраўды не зразумеў? — яшчэ раз пырснула цыганскім дажджом аблачынка. — Але ж і тугадум! Прычым тут «мерседэс»… Ты застаўся жыць дзеля гэтых вось малых, што трымае на руках твая жонка. У будучым адзін з іх стане вялікім вучоным і вынайдзе прышчэпку ад раку, якая ўратуе мільёны людзей. А другі… Ён будзе звычайным хірургам у звычайнай раённай бальніцы. Са звычайнымі залатымі рукамі... Дарэчы, ён ажэніцца з той самай дзяўчынкай, якую некалі пакінула на ганку чужога дома жанчына, сына якой ты хацеў сёння выратаваць. Так што кола замкнецца. І калі аднойчы каханне ўсяго твайго жыцця, Святлана, зразумее, на якое дно яна апусцілася і захоча звесці рахункі з жыццём — ён яе выратуе. Пасля гэтага яна пойдзе працаваць санітаркай у хоспіс.

— А я? Што ў гэтым жыцці зраблю я?

— Ты? Ды нічога асаблівага. Будзеш працаваць, кахаць жонку, выхоўваць сваіх сыноў, клапаціцца пра бацькоў. Словам, самае звычайнае жыццё радавога чалавека. Тваё прызначэнне — даць жыццё гэтым хлопчыкам, і дзеля гэтага, падобна, той самы галоўны і ўсемагутны, у існаванне, у дабрыню і справядлівасць якога, я спадзяюся, ты ўсё ж паверыў, вырашыў цябе пакінуць на зямлі.

Андрэй яшчэ пакалыхаўся на белай пасмачцы.

— А можна яшчэ адно пытанне?

— Давай, але хутка: у нас мала часу… Аперацыя заканчваецца.

— А ты? Ты хто такі? Адкуль ты ўсё ведаеш?

— Як, ты і гэтага не зразумеў?! Я — твой анёл-ахоўнік.

— Але анёлы не такія! У іх павінны быць крылы!

— Ды што ты кажаш? — зноў расплылася аблачынка. — Такое ўражанне, што ты штодня сустракаешся з анёламі… Вось любіце вы, людзі, раскладваць усё па палічках і падганяць пад вамі ж прыдуманыя стэрэатыпы. Зрэшты, калі табе так хочацца, я магу і з крыламі…

Аблачынка вырасла ў постаць чалавека, за спінай у якога з'явіліся крылы.

— Так лепш?

— Ды не, гэта няважна, — махнуў рукой Андрэй. — З крыламі, без крылаў — не гэта галоўнае. Я ўвогуле пра іншае хацеў спытаць: ці змагу я паўплываць на ход падзей, якія ты мне сёння паказаў?

— Паўплываць ты можаш толькі на сваё жыццё. Вось, напрыклад, зараз пад дзвярыма аперацыйнай стаіць твая маладзенькая канапатая суседка і ўсёй сваёй добрай душой моліць Бога, каб ты застаўся жыць. Калі ты апрытомнееш, то, вядома, можаш зноў не звяртаць на яе ўвагі і дамагацца сустрэчы з каханнем усяго свайго жыцця — але тады ўсё будзе марна. Калі ў вас з Валюшкай не народзяцца гэтыя цудоўныя блізняты, выратаванне чалавецтва ад раку адкладзецца яшчэ на некалькі дзесяцігоддзяў, пакуль не з'явіцца нехта іншы…

— А як жа я буду жыць, ведаючы ўсё гэта?

— А ты не будзеш нічога памятаць. Я паклапачуся пра гэта. Зараз святло патухне — і ўсё, што ты бачыў і чуў, знікне з тваёй памяці…

— Пачакай, я яшчэ хачу спытаць! — памкнуўся крыкнуць Андрэй — але постаць з крыламі зноў расплылася ў аблачынку, якая растала і ўзнялася ўвышыню. І неба ўвачавідкі стала цямнець, пакуль не ператварылася ў суцэльную чорную плёнку.

— Гэй, герой, прачынайся, — нехта мякка, але настойліва трапаў яго па шчоках.

Андрэй расплюшчыў вочы — яркае святло прымусіла яго зноў зажмурыцца.

— Ну, малайчына. А цяпер тое ж самае — але паступова, паціху…

Андрэй зноў расплюшчыў вочы і ўбачыў стомленыя вочы немаладога ўрача, што схіліўся над ім.

— Ну, пашанцавала табе, хлопча, — выцер ён з ілба кропелькі поту. — Лічы, што ў сарочцы нарадзіўся… Мусіць, хутка лятае твой анёл-ахоўнік. Ці нехта моцна маліўся за цябе.

— Я нават ведаю, хто, — усміхнулася медсястра, што стаяла побач. — Ёсць тут у нас адна медсястрычка…

Яна прыадчыніла дзверы — і Андрэй убачыў поўныя слёз вочкі і рудыя рабацінкі яго суседкі Валечкі. «Што яна тут робіць? — падумаў ён са здзіўленнем. — А, напэўна ўжо закончыла свой каледж, на працу ўладкавалася… Якая ў яе прыемная ўсмешка! І чаму я раней гэтага не заўважаў? І рабацінкі гэтыя — якія яны мілыя, а я яе ўсё дражніў. Толькі чаму яна так плача — з-за суседзяў так не плачуць…»

— Толькі на адну хвілінку. Ён яшчэ вельмі слабы! — строга папярэдзіў урач, калі Валюшка падышла да ложка і ўзяла яго за руку. — І можаце ўжо патэлефанаваць бацькам, сказаць, што ўсё добра. Будзе жыць!

У Андрэя закружылася галава, і ён зноў заплюшчыў вочы.

Лёгкая, нікім незаўважаная, аблачынка павольна праплыла над яго ложкам і выслізнула ў адчыненую фортачку.



Таццяна ЦВІРКА

# ДАСЦЬ БОГ!

## ЖЫЦЦЁВАЕ

Ужо і жнівень жнівіць па жыцці,
Нас срэбрам павянчаў і даў прычасце.
Рука ў руцэ так хораша ісці,
Глядзець, як каласуе буйна шчасце.

Маліна ўка прыпомніць нам вясну,
Буслы на радасць прынясуць унукаў.
І як у маі, зноўку не да сну.
Не згледзім, што і верасень пастукаў.

Гадоў пражытых ураджай збяром
З кастрычнікам: зярнятка да зярнятка.
Прасеем, перамолем шчасным днём —
Хай лепшае дастанецца нашчадкам.

У золаце сустрэнем лістапад —
За стол яго пасадзім, як належыць.
Пару жыцця не павярнуць назад.
Дасць бог — яшчэ і снежань нам паснежыць.

---

*Цвірка Таццяна Канстанцінаўна нарадзілася ў вёсцы Рассветная Клецкага раёна Мінскай вобласці 25 жніўня 1967 года. Скончыла Нясвіжскае педагагічнае вучылішча (1987) і філалагічны факультэт БДУ імя Леніна (1994). Працавала ў Клецкім дзіцячым доме № 1, у Даматканавіцкай сярэдняй школе, узначальвала яслі-сад «Дзюймовачка» ў вёсцы Даматканавічы, цяпер — у прыватным сямейным бізнесе.*

*Друкавалася ў калектыўных зборніках (у тым ліку — раённага літаб'яднання: «Верыцца ў лепшае, хочацца марыць», «Валошкі ў жыце», у зборніках абласнога клуба «Жывіца»), «Анталогіі маладога верша» (2001), у зборніку «Галасы роднай старонкі» (2006).*

*Аўтар паэтычнай кнігі «Ясачка долі маёй» (2013).*

## ЧАКАННЕ

Тчэ трывога ўзоры над душой:
Зноў павевы непагадзі зранку.
Памалюся ў цішыні святой,
На акне не захіну фіранку.
Утапіла вочы у прастор:
Дзесьці там за сотні кіламетраў
Едзе па шашы і твой «матор»,
Падстаўляе твар жалезны ветру.
Думкамі цябе дамоў вяду.
Сцежку табе з зораў вышываю.
Адвядзе ліхую хай бяду…
Родны мой, заўжды цябе чакаю.

* * *

Дзень адышоў.
Спакойны і звычайны.
Яшчэ адзін. Нічым ён не здзівіў.
Звычайна адпішчаў уранку чайнік.
І дождж самотна слёзы свае ліў.

Дзень адышоў.
Не пазваніла блізкім.
І ні радка ў нататнік не лягло.
Здароўе зноўку турбавала ціскам
І скрушна, горка на душы было.

А дзень не пажадаў мне
«Добрай ночы!»
Пашлёпаў напрасткі. У небыццё.
Адбіў гадзіннік. Змружваюцца вочы.
…На цэлы дзень паменшала жыццё!

* * *

Адзінокая зорка сустрэла ля роднае хаты.
Месяц вокам з-за хмары міргнуў і схаваўся: «Прабач».
Палыселы каштан у траву скінуў дзетак багата,
Прытуліўся галінкаю бэз. Супакоіў: «Не плач!»

Вецер злізвае з твару салёныя пацеркі-слёзы.
І стаю. Сірата. І шукаю святла ў акне.
Не гарыць. Цемната. Не таму, што прыехала позна.
Не чакаюць. Не стрэнуць… Матуля і бацька мяне.

* * *

Побач з табой
раскладваю ў жыццёвы куфар
па сваіх месцах
боль і горыч,
радасці й расчараванні,
памылкі і поспехі,
сумненні й шкадаванні,
успаміны і мары…
Побач з табой
лопаюся бурбалкамі,
каюся,
скідваю крылы…
Побач з табой
асляпляюся надзеямі,
спазнаю веру,
узвышаюся…
Шкада,
што прыходзіш так рэдка,
мая новая сяброўка,
мой лоцман,
мой дар Божы —
Цішыня.



Васіль ТКАЧОЎ

# КУДЫ ЛЯЦЯЦЬ ПТУШКІ

*Жыццёвінкі*

* * *

Даволі часта перамаўляюся па тэлефоне з Сяргеем Філіпчанкам. Жыве ў Хатоўні. Працуе ў мясцовым Доме культуры мастацкім кіраўніком. Бяда напаткала майго земляка і сябра — цалкам страціў зрок. Некалі сам вадзіў машыну, цяпер гэта робіць жонка Надзя. Затое можа і сёння зрабіць любы рамонт: хоць і не бачыць, але адчувае машыну рукамі і, канешне ж, душой і сэрцам. Выдатны музыкант і спявак, Сяргей надзвычай запатрабаваны чалавек — без яго ў Рагачоўскім раёне не абыходзіцца ні адна імпрэза, на якой павінна гучаць песня. Нездарма ж яго называюць «рагачоўскім салаўём і залатым голасам».

Нядаўна Сяргей Філіпчанка выступаў у Лідскім замку на фестывалі «Кола часу», які праводзіла Беларускае таварыства інвалідаў па зроку. Вярнуўшыся адтуль, падзяліўся ўражаннямі. Паколькі ў Лідзе жыве сястра Таццяна, то мне гэты горад добра знаёмы і ў замку таксама даводзілася бываць. Заўважце: замак не мае даху. Таму ў горадзе і нарадзіўся наступны анекдот. Калі якога выпівоху ці абібока пытаюць, дзе працуе, ён адказвае: «У замку столь фарбую». Сяргею гэтая байка спадабалася.

Папытаў, колькі ж ён песень выканаў на імпрэзе ў Лідзе? Адказаў: «Адну. “Калінушку”». Мяне гэта, шчыра кажучы, здзівіла і ўразіла. Бо адразу ўявіў, як едзе Сяргей з вёскі ў Гомель, легкавіком кіруе, вядома ж, жонка, якая ўзяла на працы адгул за свой кошт. Потым гуртам адтуль ужо дэлегацыя ад вобласці кіруецца ў мікрааўтобусе ў Ліду, без малога — 500 кіламетраў. Тая ж доўгая дарога дадому. І дзеля адной песні!

---

*__Ткачоў Васіль Юр’евіч__ нарадзіўся 1 студзеня 1948 года ў вёсцы Гута Рагачоўскага раёна. Скончыў факультэт журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча (1973), працаваў журналістам, доўгі час з’яўляўся старшынёй Гомельскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў.*

*Аўтар кніг прозы для дзяцей і дарослых «Хітры Данік» (1975), «Партрэт салдата» (1984), «Дзень у горадзе» (1985), «Мой рай зямны» (1997), «Непаразуменні» (1997), «Пахвалі пражыты дзень» (1988), «Тратнік» (2002), «Нехта ходзіць за акном» (2002), «Незвычайны дыктант» (2004), «Снукер» (2009) і многіх іншых. Вядомы і як драматург.*

Не, не падумайце нічога кепскага: іншы раз дастаткова спець і адну песню, каб у твой адрас прагучала «біс» і застацца ў памяці слухачоў. Так, спадзяюся, і было. Тут мне прыгадалася адна гомельская паэтэса, якой на вечарыне прапанавалі прачытаць усяго адзін верш — як і ўсім астатнім, каб не зацягнулася мерапрыемства — а яна абурылася: гэта што, з-за аднаго верша я сюды ішла? Правільна вы здагадаліся, так-так: яе потым было цяжка пасадзіць на месца. Дарэчы, з тых прачытаных добрага тузіну вершаў у памяці не засталося ніводнага радка.

Пра «Калінушку» Сяргея Філіпчанкі, перакананы, так не скажуць, бо некалі сам чуў яе ў выкананні гэтага спевака.

Якраз той выпадак, калі і варта было ехаць дзеля адной песні!

* * *

Сёння нікога не здзівіш тым, што на лаве, а то і на дзвюх адразу, сядзяць перад ганкам бабулі і, шчаслівыя, гамоняць пра жыццё-быццё. Яны ўсё ведаюць, хаця рэдка хто з іх бывае далей лавы. Адкуль? Якім чынам? А, бач ты!.. Гэта якраз пра іх і сказала неяк мая суседка Віктараўна: «Каб ведаць, што робіцца ў цябе ў хаце, трэба выйсці на вуліцу і паслухаць суседзяў».

На ганку перад маім пад'ездам сёння адна лава, а некалі ж была і насупраць. Хто і куды яе прыбраў — сказаць не бяруся, але засведчу толькі наступнае: хопіць і адной, бо і тая, бывае, іншы раз не занятая: паміраюць бабулі, адыходзяць, а на іх месца час пакуль нікога з жыхароў дома не парэкамендаваў. Не дараслі вы, жанкі, яшчэ да таго, каб заняць сваё месца на лаве. Пацярпіце. Яна ад вас нікуды не дзенецца. Хаця, магчыма, і памыляюся: гэтыя жанчыны, што на «падыходзе», могуць і не аблюбаваць сабе месца на лаве, бо яшчэ ж змоладу ўцягнуліся ў серыялы і «аднакласнікі», і што будзе з імі далей — адзін Божа ведае.

У нас на лаве звычайна сядзіць адзінокая бабуля Цітаўна. Толькі калі спякотна ці дождж ідзе, яе не відаць. А так тут і тут. Нярэдка і мая кабета папросіць, калі корпаюся на балконе: «Глянь, там Цітаўна сядзіць? Пайду збегаю ў краму, а заадно і навіны паслухаю…»

Цітаўна сядзіць. Жыве адна, сумна ў кватэры ды і душнавата, а тут ветрык, людзі снаўдаюць туды-сюды. Ідзе жыццё, адным словам. І яна як бы ці не з галавой акунаецца ў ягоны вір.

А неяк бачу: сыны Цітаўны, а іх у яе двое, прывезлі на легкавіку брусы, старыя з лавы адрываюць, на іх месца прыбіваюць новыя. Потым фарбуюць. Цітаўна, абапершыся на кульбу, назірае за ўсім, што адбываецца. Адзін з сыноў заўважае:

— Цяпер, мама, табе будзе добра сядзець на лаве. Мякка. А то ж зусім пакрышыліся ад старасці брусы, нават цвікі вылезлі. І як ты сядзела?

— Дык жа кардонку, хіба не бачыў, падсцілала? — вочы ў старой свецяцца радасцю. — Ну, дзякуй вам, сыночкі.

Тут якраз прыкульгала Віктараўна, Цітаўна і ёй пахваліла сваіх сыноў.

— Ды бачу, бачу, — сказала суседка. — Гэта ж табе ўжо дзевяноста, мабыць?

— Так, маладзіца. Во на Спас будзе…

— Дык і сколькі ж ты на гэтай лаве яшчэ сядзець збіраешся? — з хітрынкай глянула на Цітаўну Віктараўна.

— А пакуль і гэтыя дошкі не згніюць! — весела гаворыць Цітаўна, і яны, бабулькі, злёгку прыхінуўшыся шчакой адна да аднае, шчасліва ўсміхаюцца…

* * *

Ніна Сцяпанаўна ўсім сваім родным і блізкім прызналася, што на ноч не зашчапляе дзверы. «А раптам што здарыцца? Мне ж ужо без трох дзевяноста. Страшна падумаць, колькі пражыла. Хоць дзе і калі што было!..»

Сёння яна ўжо не корпаецца на гародзе. Агарод аддала добрым людзям, тыя пагадзіліся ўзяць яго без лішніх слоў, бо любяць рачкавацца на зямлі, а ў Ніны Сцяпанаўны ўчастак — грэх слова кепскага сказаць: усё расце, што не пасадзіш. А праз колькі двароў — ужо іншая глеба: жоўценькі пясочак. Тады ж чаму не знойдзецца жадаючых! Уго! Праўда, яна некалькі градак усё ж робіць — бліжэй да хаты пакінула маленькі лапік зямлі: хай будзе хоць якая свая памідорына ці цыбуліна. Кажа: «Так-сяк агораю. Не кожны ж раз у краму па яе хадзіць. Туды прывозяць сёння ўсё, нават бананы». Градкі ёй дапамагае абрабляць унук Сашка, хоць і вельмі заняты і стамляецца на працы, але стараецца выкраіць час: працуе на валцы лесу. Ды і свой жа агарод мае. Чалавек сямейны. Іншы раз прыязджаюць і дочкі: адна жыве ў Гомелі, другая — побач, у суседняй вёсцы. Вось і надоечы неяк патэлефанавалі, бы згаварыліся: мама, чакай! А яна якраз хварэла. Таму адразу замітусілася, пачала актыўна прымаць таблеткі, што прапісаў мясцовы лекар, нават заглянула ў люстэрка: ці добра хоць выглядаю? А сама, тупаючы па хаце, разважала: «Трэба патрэніравацца, каб дзеўкі не западозрылі, што кволюся. Калі ж во і адна цягне да сябе, і другая. Ну як ты тут, маўляў, адна? У нас жа табе будзе лацвей. Ага, лацвей. У чужой жа хаце, дзеці мае, і на печы холадна. Ды і характар у мяне такі, што ўказваць буду, а вы гэтага не любіце. Таму вы самі па сабе, а я як-небудзь сама… А з пенсіі грошай і так дам усім вам… пароўну… Дзякуй богу, пенсія ў мяне добрая, каля чатырох соцень, то навошта мне столькі адной?»

Яна яшчэ пэўны час тапталася перад люстэркам. Выгляд быццам добры. Ага, а дзе мая пудра? Ды і кіёк трэба схаваць пад ложак. Цяпер хай едуць дзеўкі. Не страшна!

* * *

Многія здзіўляюцца, пацiскаюць плячыма: і чаму Лене не жылося са сваім Міколам? Не п’е, не курыць. Гэта ж сёння золата, а не чалавек. А яна, бачыце вы, дала яму ад варот паварот. Звычайна так паступаюць з выпівохамі. Ну якая ад яго сапраўды карысць — ні грошай, ні чыстага паветра ў пакоі: перагарам толькі патыхае. Ды яшчэ з абібокамі living розная кшталту. А ён жа вунь і на легкавік разжыўся. Ну чым не муж?

Паколькі Лена нікому не апавядала пра сваё сямейнае жыццё-быццё, то суседзям нічога не заставалася, як ладзіць розныя здагадкі. Гэта быў якраз той выпадак, калі маладая маці двух дзетак — сынулі і дачушкі — паказала сябе даволі мужнай і рашучай жанчынай.

Адбылося вось што. Гады два назад муж Мікола ўзяў на працы чарговы адпачынак і паехаў у вёску да бацькоў — у тых была свая пасека, і ён дапамагаў старым упраўляцца з пчоламі. У канцы гарода стаяла каля дзясятка вулляў. Мёд, адным словам, быў. А быў мёд, былі і грошы. А тут якраз так

атрымалася, што захварэла дачка і на яе лячэнне былі патрэбны немалыя сродкі. Жанчына патэлефанавала мужу, растлумачыла сітуацыю, а ў адказ пачула: дзе я табе іх вазьму, грошы тыя? Няма!

Лена пабедавала ды змірылася. Можа, і сапраўды, няма. Так і жыла б. Аднак пазней, перабіраючы кнігі, выпадкова патрапіла на скрутак… з далярамі. Пералічыла. Атрымалася — тры тысячы. І гэта няма грошай! Ну малайчына мужанёчак! Як жа я з табой жыць буду далей? І не разумела — як. Для роднага дзіцяці грошай пашкадаваў бацька!

Жанчына, вядома ж, забрала грошы і зрабіла выгляд, што пра іх не чула і не ведала.

Яно б і нічога, можа, і змірылася б, аднак пазней Мікола ўзняў такі вэрхал, што не перадаць. «Дзе мае даляры?!» — «Якія? У цябе ж не было грошай. Сам казаў, кляўся нават». Заявіў, адным словам, у міліцыю. Тая доўга адтоптвала парогі — усё разбіраліся.

Вярнула рэштку грошай ці не жанчына былому мужу, казаць не бяруся, бо не ведаю, ну а што з ім адбылося — чытайце вышэй. Прасіўся быццам Мікола назад, але яго месца было ўжо занята — Лена амаль адразу ж выйшла замуж і нарадзіла трэцяе дзіця. Хлопчыка ці дзяўчынку, не ведаю, бо возіць немаўля ў калясцы, а каляскам тым мала веры — у адной можа перакатацца ўся сям’я, не зважаючы на пол.

* * *

Наталля ўчора звечара пералічыла ўсе падушкі, што меліся ў кватэры. Ажно восем! Нічога не скажаш — набралася. Здавалася ж, раздавала сынам і дочкам, калі тыя аддзяляліся, а іх яшчэ колькі! Хоць ты аддай каму. Яна б, можа, так і не засяродзілася на тых падушках, не стала б іх рэвізаваць, але вунь Кацька — суседка па лясвічнай пляцоўцы — учора пахвалілася, што ў «Галактыцы» адкрылася майстэрня па рэстаўрацыі падушак. «Не паверыш — як новенькія сталі! — не магла нарадавацца Кацька. — Лёгкія, мяккія. А ўяўляеш, колькі там за ўвесь час набралася розных паразітаў? Мы спім і не думаем пра іх, а яны, халера ясная, сваю гнюсную справу тым часам робяць. Толькі так робяць. Мо таму і хварэем без меры, а? Мо яны і падточваюць нас?..»

Таму і вырашыла Наталля таксама неадкладна навесці парадак са сваімі падушкамі. Колькі яны і ёсць у яе, а гэта ж гадоў сорак некаторым будзе, ніводнага разу не перасыпаліся. Вунь як парыжэлі напернікі — жах! Ай-я-яй! Дзякуй, Кацька, за параду!

Назаўтра малодшы сын Наталлі адвёз усе падушкі ў майстэрню. Памяшканне майстэрні не ўразіла жанчыну. Катушок. Не павярнуцца. Маленькі стол. Тая ж машына, што мые-сушыць пяро, канешне, табурэт. Гаспадыня і папярэдзіла: вы, калі ласка, сёння і забярыце свае падушкі, пад вечар, бо ў нас тут не павярнуцца. Бачыце, якая цесната?

Ну, забрала падушкі Наталля, і быццам настрой у яе быў добры, але ж трэба было ў той вечар патэлефанаваць сястры — яна жыве ў іншым горадзе. Разгаварыліся. І пра падушкі, канешне, успомнілі. А сястра вазьмі ды скажы: «Я ж таксама свае нядаўна здавала ў майстэрню. Пры мне хлопец уключыў тую машыну сваю, а я за шклом назіраю, сачу…» За якім шклом? Пра што яна, сястра, гамоніць? Яна на свае вочы, аказваецца, сачыла за ўсім працэсам у адрозненне ад яе? Вось чаму і сапсаваўся настрой. А можа, думае жанчына, тая гаспадыня майстэрні ўзяла проста грошы, ды немаленькія, а той агрэгат і не ўключала? Паспрабуй аспрэч.

Як бы там ні было, а ў Наталлі мала радасці засталося ад той рэстаўрацыі. «Цяпер абдурыць чалавек чалавека і дарага не возьме», — уздыхае іншы раз Наталля і падушкі тыя не здаюцца цяпер ёй такімі лёгкімі і мяккімі, як у суседкі Кацькі.

* * *

Сцяпан Пятровіч жыве адзін. У той самай вёсцы, дзе прайшло яго дзяцінства і маленства, адкуль выпырхнуў у свет. З гэтых мясцін была і яго жанка, цяпер ужо нябожчыца, Маруся. Вярнуўся сюды амаль адразу, як пахаваў яе. У гарадской кватэры застаўся малодшы сын Павел. Старэйшы ж, Косця, сваё жыллё займеў яшчэ ў савецкі час: старанных работнікаў завод, на якім працаваў сын, забяспечваў кватэрамі стабільна. Сёння ў гэта мала хто з моладзі верыць, але ж было такое. Прыемна ўспомніць.

На пенсіі Сцяпан Пятровіч амаль дзесяць гадоў. У вёсцы яму добра. Тэлевізар ёсць, газ таксама. Згатаваць ежу згатуе. Жыўнасць не трымае. Ну, а калі прыцісне сэрца — едзе ў горад: ён не выпісваўся адтуль, ідзе ў сваю паліклініку, там яго паслухаюць і парадзяць, як і чым лячыцца. Калі трэба, паляжыць у бальніцы. За хату не хвалюецца — прыгледзіць сусед.

Вось так і жыве. І ўсё б нічога, але адна бяда ў старога — няма ўнукаў. Даўно хлопцы пабраліся шлюбам, а яго з Марусяй унукамі пакуль не парадавалі. Чаму так атрымалася, ён верыць публікацыі ў адным паважаным часопісе. Можа, можа такое быць. Вычытаў надоечы і ўспомніў тую майскую навальніцу, калі ў калгасе праводзілася маёўка з нагоды заканчэння пасяўной, і свята тады азмрочыла шалёная навальніца. Пярун бязлітасна лупіў дзе толькі можна ў Плоскім бярозавым лесе, людзі беглі, куды вочы глядзелі: усё атрымалася знянацку і раптоўна, ніхто не чакаў такога.

Сцяпан і Маруська таксама пабеглі з лесу. Але ў той мітусні яны на нейкае імгненне згубілі адно аднаго, і неўзабаве хлапчына — пасля чарговага ўдару з неба — пачуў: Маруську забіла!..

Старыя людзі падказалі, што дзяўчыну, якая не паказвала ніякіх прыкмет жыцця, трэба закапаць па пояс у сырую зямлю. Так і зрабілі. Дзяўчына ажыла.

Што няма сёння ў яго ўнукаў, Сцяпан Пятровіч вінаваціць тую праклятую майскую навальніцу.

«Гарэла б яна гарам!» — нярэдка думае стары, і на яго выцвілых вачах тады блішчаць скупыя мужчынскія слёзы.

* * *

Ёсць у нашых людзей такая звычка: казаць, папаўняючы гардэроб новым касцюмам, або, як у выпадку з жанчынамі, яшчэ і сукенкай ці модным жакецікам (пералічваць рэчы можна доўга): «Гэта на выхад». Маецца на ўвазе — на выхад у госці, у тэатр ці проста ў горад. На людзі, адным словам. А калі такі выхад не надарыцца — што тады, касцюм той так і правісіць, ніводнага разу не апрануты?

«На выхад» — пагадзіцеся, нешта ёсць у гэтых простых на першы погляд словах тое, што падкрэслівае нашу ашчаднасць, беражлівасць і… значнасць. Бачыце, у мяне новы касцюм, так што дазвольце на вас паглядзець і сябе паказаць. Урачыстасць моманту прысутнічае, пагадзіцеся, і ад гэтага нікуды не дзенешся.

Гадоў колькі назад мая вясковая суседка цётка Ганна адзначыла сямідзесяцігоддзе. Сабраліся дзеці, павіншавалі маці, шчодра адарылі зусім не таннымі падарункамі. Старая потым хвалілася суседкам, якія адразу ж збегліся на другі дзень, каб паглядзець, чаго варты яе дзеці — ці не скупыя? Паказваючы падарункі, імянінніца казала:

— Гэтую квятастую хустку Надзя прывезла. Прыгожая ж, праўда? Туфелькі — ад Мішы. Мякенькія, лёгенькія. Хоць у танец пускайся. У-ух! Спадніцу Маруська прывезла. Новенькая, яшчэ нават з этыкеткай была, я сама адарвала. Можа, думала дзеўка, малая будзе, то прадала б каму. Дзякуй дзецям, не забыліся. Цяпер у мяне ёсць усё на выхад…

Ніхто не прыгадае, ці апранула хоць раз тыя падарункі сваіх дзяцей суседка. Мабыць, не. Мабыць, не было куды ёй выйсці ў такім вось прыгожым убранні, у якім хацелі бачыць старую дзеці. Ды і куды прыгожа апранешся тут, у вёсцы? У хлеў да каровы? У краму хіба, калі хлеб прывозяць? Але ж засмяюць: ты куды гэта, скажуць, Ганна, прыбралася? Але добра запомнілі жанчыны-суседкі: калі хавалі Ганну, усё, чым яна хвалілася, было на ёй. І хустка, і туфелькі, і спаднічка…

То быў яе выхад. Апошні. Дачакалася…

* * *

Пра сваіх суседзяў — галубоў — вядучы майстра сцэны Гомельскага абласнога драматычнага тэатра Аляксандр Лаўрыновіч можа расказваць доўга.

— Ледзь толькі адчыню акно, яны тут як тут, — гаворыць ён. — І што цікава, быццам і не відаць іх перад гэтым… Значыць, сочаць за маім акном. Так атрымліваецца. А бывае апісваюць кругі над скрыжаваннем вуліцы Сялянскай і праспектам Леніна, паблізу ад майго дома, я бачу гэта, але не паказваюся. Потым мне робіцца шкада птушак, і я заяўляю пра сябе. Чым кармлю? Побач жа гарадскі рынак, хаджу колькі разоў на месяц з торбачкай, купляю зерне — у асноўным, проса. Проса яны любяць. Нічога, не пабяднеем мы з Люсяй (Людміла Корхава, народная артыстка Беларусі), няхай сілкуюцца. Асабліва стараюся падтрымаць іх узімку, калі карміцца галубам няпроста. Нясу выдаткі я толькі ў адным, калі гэта можна назваць так: часцей, чым трэба, мыю падаконнік. А ён жа ў мяне вунь які ж доўгі — на ўсю кватэру. Затое, калі іду з рэпетыцыі, траха стомлены, бывае, ды і не ў лепшым настроі, а варта паглядзець на птушак, якія, здалёк запрыкмеціўшы мяне, табуняцца каля акна, — настрой адразу робіцца добрым. Жывыя ж істоты мы, што ты хочаш: і яны, як і чалавек, ведаюць, дзе ласка, пяшчота і дабрыня, а дзе — жорсткасць, нахабства, абыякавасць…

У той дзень мы разам убачылі галубоў — якраз Аляксандр падыходзіў да свайго дома, туды ж падляталі і птушкі.

— Чакаюць, — з нейкай непрыхаванай годнасцю кіўнуў Аляксандр Сафронавіч і падаў руку на развітанне: яго чакалі галубы.

І ён заспяшаўся да іх.

* * *

Лідзія Восіпаўна жыве з дачкой Таццянай, муж пакінуў іх даўно, упадабаў іншую жанчыну, і таму ўвесь галоўны клопат па выхаванні дзяўчынкі лёг на плечы маці. Тая і старался, як магла: заўсёды апранала Танюшу так,

каб выглядала не горш, чым і ў поўных сем'ях, а мо яшчэ лепш. Пакуль жылі старыя, не забываліся пра ўнучку і яны. Асабліва спатрэбілася іх дапамога, калі Таццяна вырасла і паступіла на факультэт замежных моў мясцовага ўніверсітэта. Замежныя мовы Таццяне даваліся лёгка, і ўжо на пятым курсе яна свабодна валодала англійскай і французскай. Папрацавала пасля заканчэння вучобы некалькі месяцаў у школе, а потым уладкавалася — і трэба адзначыць, без асаблівых праблем — у турыстычную фірму гідам.

Здавалася б, толькі і радавацца маці, а яна бядуе, скажа іншы раз то адной сяброўцы, то другой:

— Заседзелася ў дзеўках мая Танька. Не ведаю нат, ёсць у яе хто ці не. Толькі спытаю пра гэта, а яна адразу: «Ай, адстань, мама!» Калі ж размаўляе па таму скайпу са сваімі жаніхамі не па-нашаму, я нічога не разумею. Вывучыла на сваю галаву!..

* * *

У цудоўным апавяданні Міхася Стральцова «На чацвёртым годзе вайны» ёсць наступныя радкі: «Бабуля — высахлая, з учарнелым ад работы і старасці тварам — адсцябала матузамі малога ўнука за тое, што паабшчыпваў, не дачакаўшыся вячэры, акрайчык ацеслівага, спечанага з бульбы і ячменных шароек хлеба».

Не помню ўжо добра, чым адсцябала і мяне бабуля Пелагея, калі я сцібрыў перад яе пільным вокам акраец хлеба і вынес яго за вугал хаты, дзе мяне ўжо чакаў Васька Мурашоў, траха старэйшы за мяне хлапец. Вось такі час быў: кожная крошка бралася ў сям'і на ўлік, іначай, магчыма, і не выжылі б. Скажы сёння пра гэта сваім сынам ці ўнукам — хіба паверацьі! А так было.

Не ведаю, помніў пра той выпадак Васька Мурашоў, неяк я пра гэта не пытаўся, а сёння — позна: няма ўжо яго на гэтым свеце.

Не ўсе ваенныя і пасляваенныя хлопцы пражылі доўга, на вялікі жаль: ім, мусіць, у свой час не хапіла тых самых хлебных крошак, за якія адсцябала бабуля свайго ўнука ў апавяданні Міхася Стральцова, за што і я атрымаў ад сваёй трапкача. Не хапіла — каб набрацца моцы, зрабіць трывалы жыццёвы падмурак.

Тады ж, у пасляваенны час, у вёсках нарадзілася і слова «варголы». Падзяліце яго на два — на назоўнік «вар» і прыметнік «голы». Цудоўнае на першы погляд слова, прыгожае, толькі, пагадзіцеся, аддае нішчымніцай…

* * *

Сем гадоў, якія я пражыў у Ашхабадзе, не выкрасліш з жыцця. Многое засталося ў памяці, і, пэўна, надоўга. На той час існаваў СССР, а першым сакратаром ЦК Туркменістана быў Мухамедназар Гапуравіч Гапураў. Высокі, падцягнуты, заўсёды педантычны, разважлівы. Я добра яго ведаў па шматлікіх здымках у газетах і дзякуючы тэлебачанню, а таксама бачыў на трыбуне, калі ў Ашхабадзе, як і паўсюдна, шырока і ўрачыста адзначалася гадавіна Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, я чаканіў крок у афіцэрскай калоне і касіў адным вокам на кіраўніка рэспублікі…

Некалькі гадоў таму я пабываў у сталіцы сонечнага Туркменістана, прайшоўся па зацененых вуліцах горада. На адной з іх сустрэў старога туркмена, ён нетаропка ішоў насустрач, быў у карычневым касцюме і капелюшы такога

ж колеру. І тут я аслупянеў у прамым сэнсе гэтага слова — насустрач мне ішоў ні хто-небудзь, а сам Гапураў. Я не разгубіўся — павітаўся. Ён адказаў, змерыў мяне ўважлівым позіркам, і можа б, адразу пакрочыў далей, калі б не мая настырнасць: «Прабачце, вы не Гапураў?» — «Так, я. А хто вы?»

Усяго некалькі хвілін мы пагаманілі, але я паспеў расказаць яму пра Беларусь і крышачку пра сябе, пацікавіўся, чым займаецца зараз вядомы ў рэспубліцы і, пераканаsuccessfully, далека за яе межамі пенсіянер, і развіталіся. Найбольш запомнілася мне тое, што ён вельмі цёпла адазваўся пра Беларусь і беларусаў. Быў шчыры і я: добрыя людзі, туркмены.

* * *

Самыя розныя выпадкі здараюцца ў дарозе. Самыя розныя…

Калі быў вучнем Іскансĸай васьмігодкі, то ў Быхаўскай раённай газеце «Маяк Прыдняпроў’я» прачытаў вельмі кароткую нататку, але запомніў яе на ўсё жыццё. Называлася яна «Чалавек — чалавеку». І была яна вось аб чым… Мясцовы аўтобус падыходзіў да прыпынку «Вараніно», а якраз у гэты час ад «Вараніно» адышоў рэйсавы на Магілёў.

— Ай-я-яй! Якую б адну хвіліну — і я паспела б! — захвалявалася адна з пасажырак. — А ў мяне ж другая змена на фабрыцы — магу спазніцца. Што ж рабіць, а? У маці была, бульбу ёй выкапала. Усё роўна дзве баразны засталіся, магла б раней выбрацца. Ці не дурніца, а? — Жанчына кідала кароткія позіркі на людзей, нібыта шукала ў іх не толькі дапамогі, але і спагады: — Ай-я-яй!...

Вадзіцель раптам павярнуўся тварам да пасажыраў:

— Ну што, выручым жанчыну?

— Канешне! — амаль адзінагалосна адказалі тыя.

І вадзіцель дабавіў «газу», хоць яму і трэба было рабіць паваротку налева, плюс яшчэ падміргнуў фарамі колькі разоў, і неўзабаве ён заехаў наперад магілёўскаму аўтобусу, і жанчына спакойна перасела на яго…

Сведкам жа гэтай гісторыі быў я сам. І няхай яна крышачку з «перчыкам», аднак выхадка вадзіцеля амаль усім спадабалася, той-сёй нават запляскаў у далоні.

* * *

Папрасіла неяк Зінаіда Кірэеўна свайго ўнука, Сашку:

— Звазі-ка мяне, хлопча, у Гуту. Нешта закарцела.

— Што гэта з табой, бабуля? — здзівіўся той. — Ты ж была толькі там. На радуніцу. А?

Старая ўздыхнула, не адразу прамовіла:

— Так-та яно так. Але мы ж на пагост як едзем? Па сценцы. А мне хочацца па вуліцы праехаць, а мо і прайсціся. Даўно, ой даўно, на вуліцы не была! Як яна там, вуліца? Во ўжо дзе жыццё было некалі!

— Збірайся, паехалі! Якраз час маю, — кіўнуў унук і падаўся да легкавіка.

Зінаіда Кірэеўна не адразу выйшла на падворак — пакуль прыфранцілася ж. Не абы-куды едзе — у сваю родную вёску, гэта ж свята, а на святы людзі здавён прыбіраюцца. Чым яна горшая?

— Я гатова! Паехалі, унучак, паехалі! — неўзабаве паказалася старая з сенцаў.

З’ездзіла. Паглядзела. А потым мо тыдзень хварэла. Калі не болей. І сама сабе раз-пораз гаварыла: «Не, па вёсцы больш не паеду. Ніколі. Нізашто. І калі памру, па ёй не вязіце на пагост. Божачкі ж мае! Што стала з Гутай! Глядзець балюча. Вербалоз і living розныя карчэў’е запаланілі ўсё наўсцяж — хат не відаць, пасярод дарогі хмызняк расце. Джунглі дый годзе! Ды і якія ж там хаты? Ні шкла на вокнах, ні дахаў… Раскіданыя людскія гнёзды… У адным двары толькі куры клыпаюць. Колькі праехала, ніводнага чалавека не сустрэла. А якія ж тут добрыя людзі жылі!.. Узімку, бывала, печы як запаляць — вяроўчыны дыму цягнуцца ў блакітнае неба. І паветра так смачна пахла! Так смачна!.. Хто пехам ідзе па вуліцы, хто на кані едзе… Галасы чуваць… Пеўні кукарэкаюць… Каровы рыкаюць… Бывала — і лаянка стаяла, нехта некага не далюбіў ці мо што не падзялілі людзі… Як без гэтага? Жыла вёска, радавалася, зрэдчас і пакутавала… А вяселлі якія правілі землякі-суседзі! А хрэсьбіны! Што куды падзелася! Каб тады, раней, мне сказаў хто, што так станецца з маёй вёскай, я б не паверыла…»

Унук, блазнуючы, іншы раз папытае:

— У вёску, бабуля, не хочаш? Ну, гэта, па галоўнай вуліцы праехаць, а? З аркестрам? То магу звазіць!

І старая толькі ківае галавой: эх, Сашка, ці табе ведаць, як шчаслівa мы маладыя жылі ў сваёй Гуце!..

* * *

Пятроўна, зямлячка і суседка, расказвае:

— Дуська мая пачула па тэлевізары пра цырульню, што ў нас нядаўна адчынілася… во забылася, на якой вуліцы… Дужа, кажа, там спецыялісты добрыя, а самы галоўны іхні цырульнік — мужчына, пераможца многіх замежных конкурсаў. Ды яго, праўда, часта паказваюць… Малады такі, прыгожы… Дзе толькі за мяжой не пабываў! Пабягу, кажа, і я да яго, хопіць хадзіць з абы-якой прычоскай. Ага, там цябе так і чакалі! Чарга! Запісвацца трэба. А гэта ажно за месяц наперад. Нічога не паробіш — запісалася. Дачакалася, усё як мае быць. Не буду казаць, прычоску зрабілі Дусьцы добрую, можна нават сказаць супер, але ж і грошай узялі — будзь здароў і не кірхай. За такія грошы ў нашай цырульні, што вунь праз дарогу, заплаціла б у два, а тое і ў тры разы танней. Ну, добра. Заплаціла дык заплаціла, бяды той. Але ж ніхто на маю Дуську нават увагі не звярнуў, не пахваліў за тую модную прычоску. Што крыўдна, тое крыўдна. Атрымліваецца, дарэмна такія грошы выкінула кату пад хвост. Скажу больш. У тую нядзелю запрасіў мой кум да сябе на дачу — на шашлыкі. Там і падпаліла сваю модную прычоску дачка. Ды добрую пасму высмаліла спераду! Што рабіць? Як быць? Пабегла яна ў тую дарагую цырульню, каб падлатаць галаву, а там — стоп: чарга! Так і не прабілася. Давялося ісці ў сваю цырульню. І што вы думаеце, людцы мае добрыя? Зрабілі дзеўцы такую прычоску, што суседзі хваліць не перастаюць і сёння. Дык ці варта перціся ў тыя дарагія і дужа капрызныя цырульні нам, скажыце?..

Пятроўна глядзіць на мяне, чакае, няйначай, парады, а я ўспомніў, што і самому не пашкодзіла б наведаць цырульню. Паглядзеў на тую, што насупраць — праз дарогу: адчынена. Значыць, мяне там чакаюць… Іду!

* * *

Гэта было даўно. Вельмі. Каб праясніць сітуацыю, нагадаю, што тады за дваццаць пяць рублёў можна было купіць дваццаць сем кілаграмаў цукру. І вось паехала неяк у райцэнтр Марыя Сцяпанаўна, настаўніца-пенсіянерка, каб тое-сёе набыць з адзення. На гарадскім рынку і знайшла яна дваццаць пяць рублёў адной купюрай. Грошы ляжалі на зямлі, гэта пазней на рынку пакладуць асфальт. Марыя Сцяпанаўна агледзелася па баках, на яе нуль увагі: усе шыбуюць-спяшаюцца па сваіх справах. Ацаніла сітуацыю: таго, хто згубіў грошы, і повідам ужо не відаць. Падняла дваццацьпятку, зноўку павадзіла галавой па баках, а тады паклікала дзяцей, што таўкліся купкай паблізу:

— Гэй, малыя! Хутчэй да мяне, хутчэй! Нештачка пакажу!

Калі дзеці падбеглі, яна аддала ім знойдзеную купюру:

— Набярыце сабе, дзеткі, ласункаў. На ўсе грошы.

Тыя спярша не паверылі добрай цётцы, а потым, калі адзін з іх асмеліўся і ўзяў нарэшце грошы, шуганулі, ледзь не навыперадкі, у краму.

Марыя Сцяпанаўна толькі сказала ім услед:

— Частуйцеся, дзеткі. Бо мае грошы з гэтымі, знойдзенымі, не падружацца…

* * *

Іван Міхайлавіч кожную восень купляў на рынку антонаўкі. Паважаў ён, канешне ж, і многія іншыя гатункі яблыкаў, аднак перавагу ўсё ж аддаваў ім. Прыносіў антонаўкі дадому, і беражна, акуратна — каб, чаго добрага, не пакінуць адмеціну на пладах, бо так менш захоўвацца будуць — выкладваў іх у пакойчыку на шырокім падаконніку. Праз колькі часу пакойчык поўніўся прыемным водарам антонавак. І тады гаспадар яго быццам зноў вяртаўся ў сваё мінулае: яму бачыўся бацькоўскі сад, дзе пераважна раслі гэтыя яблыкі, успаміналася Казахстан, славуты касмадром Байканур, на якім праходзіў тэрміновую службу.

— Радавы Самусеў, табе пасылка з дому! — радасна паведаміў ротны паштальён. — Вось квіток, ідзі сам атрымлівай. Ведаеш, дзе пошта?

— Канешне!

Атрымаўшы дазвол ад камандзіра, радавы Самусеў хуценька збегаў на пошту, яна месцілася якраз непадалёк ад казармы ў ваенным гарадку, і неўзабаве яго акружылі саслужыўцы: ну, што там у цябе, браце? Давай, хваліся! Давай, частуй! Казаху Бахтыбаеву вунь прыслалі з-пад Алма-Аты ізюм і курагу, узбеку Абдусаідаву сушаную дыню, то паласавацца ўсім хапіла. А цяпер твая чарга, беларус!

Самусеў падняў вечка пасылкі і зніякавеў: амаль усе яблыкі сапсаваліся, пачарнелі… Ён апусціў вочы. Наступіла амаль гнятлівая цішыня. Некаторыя салдаты моўчкі пачалі разыходзіцца, але ніхто з іх, што асабліва абрадавала радавога Самусева, не кпіў, наадварот, на іх тварах ён чытаў паразуменне, а той-сёй з іх нават паляпаў па плячы: нічога, нічога, браце, мы разумеем — не блізка ж твой дом… Адзін з іх, глыбока, на поўныя грудзі ўдыхнуўшы паветра, шчыра заўважыў:

— Быццам дома пабываў!

У той жа дзень Іван напісаў бацькам: «Вялікі дзякуй за яблыкі. Ад мяне і ўсіх сяброў-салдат…»

У казарме доўга стаяў пах антонавак. Такі ж, як і сёння ў ягонай кватэры…

* * *

Дзе-дзе, а ў вёсцы ўсё навідавоку. Тут, як кажуць, і шыла ў мяху не схаваеш. Таму калі чамусьці догі час не паказвалася з горада Алька, дачка Міроніхі, кагосьці з суседак узяла цікаўнасць: у чым справа, што здарылася?

— Дзіця Алька чакае, — без асаблівай радасці прызналася неяк ім Міроніха. — Куды ж яна паедзе? А раптам прыспіча, што тады — зноў у горад? А на чым? Дапросішся машыны, як жа!..

Аргумент быццам важны. На пытанне, хто муж у дачкі і чаму яго ніводнага разу не бачылі ў вёсцы, Міроніха таксама знаходзіла самыя розныя адказы. І нават тады, калі Алька нарадзіла і адна прыехала да маці з дзіцём, яна паўтарала: то ён, муж, у камандзіроўцы, то хварэее, то яшчэ што… Суседак не правядзеш — хутка раскусілі: няма ў Алькі ніякога мужа, а малога нагуляла.

Прайшло год пяць, і толькі тады ад Міроніхі пачулі праўду. Не ведаю, лягчэй ад гэтага стала вясковым кабетам ці не, але яны спачувалі Альцы: і дзеўка быццам ў рабоце ўпраўная і тварам удалая, а чаму ніхто не знойдзецца? Іншыя ж вунь па некалькі разоў паспяваюць памяняць мужыкоў і вёсцы іх прадставіць.

Таму і шкадавалі Альку.

Няма ўжо Міроніхі. Сын Алькі прывозіць яе цяпер да маці, сваёй бабулі, на вясковыя могілкі на сваім легкавіку. І ўсе бачаць, што ім добра ўдваіх.

* * *

Краўцэвіч быў добрым дырэктарам школы, меў не толькі арганізатарскія здольнасці, але і падыход да людзей, асабліва — да вучняў. Тыя гарнуліся да яго. На здымках, што захаваліся ў многіх былых ягоных выхаванцаў, Краўцэвіч заўсёды сядзіць або стаіць у цэнтры, а дзеці абляпілі яго, як толькі можна. Абляпілі як свайго, як роднага і самага блізкага чалавека. Нават твары ў іх на картках тых — вы б пабачылі, як свецяцца! Ведама ж, побач не абы-хто, а ён, любімы настаўнік і дырэктар. Пашанцавала!

З цеплынёй згадваю Краўцэвіча і я. Стаіць перад вачыма ён не адзін, а заўсёды сярод вучняў. Няхай і ў музеі Леніна, які арганізаваў і давёў яго да звання народнага, і чым вельмі ганарыўся, або ў ружоўніку, дзе ад яркіх кветак палымнела, здаецца, усё вакол.

Не ведаю, што сталася з музеем Леніна, ці растуць на школьным прысядзібным участку ружы. Трэба будзе зайсці ў школу, як толькі надарыцца магчымасць пабываць у родных мясцінах, пацікавіцца. Прызнаюся, маю грэх: даўнавата наведваў школу. Калі жыў Краўцэвіч, рабіў гэта часцей. Як, мусіць, і іншыя выпускнікі школы.

Яшчэ прыгадваецца Краўцэвіч мне і з нейкім непрыхаваным шкадаваннем. У яго была адзіная дачка, разумніца, таксама стала настаўніцай, а вось чамусьці замуж не выйшла.

Мне ж дужа хацелася, каб некалі прыгарнуліся да Краўцэвіча так, як і вучні, яго родныя ўнукі. Тады б, канешне, ён быў бы яшчэ больш шчаслівым чалавекам… Намнога больш…

* * *

Арлоўскі, цесць майго брата, Іван Сямёнавіч пражыў доўгае жыццё. І наогул ён быў чалавек цікавы. Але запомніўся мне ён не тым, што сам мог змайстраваць табурэт альбо вырасціць на дачным участку кавуны, мала чым саступаючыя азіяцкім ці астраханскім на смак. У яго быў старэнькі «Масквіч», на якім ён ездзіў усё жыццё не маючы правоў. Я папытаў неяк у Івана Сямёнавіча: як гэта табе, дружа, так удалося? Але ён бажыцца, што нават ніводнага разу супрацоўнік ДАІ яго не спыніў. Чаму такое магло адбыцца, растлумачвае проста: «Па-першае, у мяне ж быў адзін маршрут: дом — дача. І нікуды больш не зварочваў. Ні на метр. Я ж і машыну набыў спецыяльна для таго, толькі каб на дачу ездзіць: туды нешта адвезці, адтуль прывезці. Ну, а па-другое, я ездзіў па сваім маршруце заўсёды ў адзін і той жа час — калі была пераразменка ў даішнікаў. Я добра вывучыў іх распарадак, і гэта спрацоўвала.

Яшчэ ў савецкі час прыехаў Іван Сямёнавіч да мне пагасцяваць, і паколькі аўтааматар, то папрасіў, каб паказаў яму краму, дзе прадаюцца аўтазапчасткі. Павёў. Ён там пахадзіў-пахадзіў, выйшаў на ганак і заявіў:

— У мяне ў гаражы больш запчастак, чым у гэтай краме!

Як бы мне хацелася сёння паказаць яму хоць адну з існуючых у горадзе аўтакрам!

Што ж паробіш — такі час быў. Мой сваяк застаўся ў ім… І яшчэ — у маёй памяці.

* * *

Некалі я вёў на гомельскім абласным тэлебачанні аўтарскую перадачу «На прызбе з Васілём», яна карысталася поспехам у гледачоў, а мяне нярэдка пазнавалі там, дзе з’яўляўся. На рынку, да прыкладу, адна жанчынка-прадаўшчыца ледзь не за руку тузанула: «Купіце, калі ласка, у мяне сарочку. Вось гэтую. Ой, як вам цёпла будзе ў ёй на прызбе сядзець! Ніколі не пашкадуеце!» Набыў. І сапраўды не пашкадаваў: цёплай і ноская аказалася тая сарочка, яна і цяпер у мяне ёсць, хоць і прайшло пятнаццаць гадоў. Насіць, праўда, не нашу, але і выкінуць шкада: а раптам калі спатрэбіцца? Ці мала што!

У Жлобіне дырэктарка ўніверсама, куды я завітаў з сябрам журналістам Пятром Шутавым, таксама пазнала і запрасіла папіць кавы. За кавай расказала пра сябе. Пераехала яна з Карэліі, жыццё тут склалася добра, аднак муж усё ж сумуе па ранейшым месцы жыхарства, бо ён заядлы паляўнічы і рыбак, а там для такіх аматараў — раздолле. Не параўнаць, як тут.

Але ж больш за ўсё запомнілася адна бабулька, з якой мы ехалі ў дызелі, якім дабіраўся на дачу. Яна таксама пазнала мяне, успляснула рукамі: «Божа! Ці не з целявізара вы?!» А калі я кіўнуў, прызналася, што пахваліцца вяскоўцам, хай пазайдросцяць, бо гэта ж ёй, а не ім, пашэнціла ехаць «з чалавекам з целявізара». Цікавая бабулька. Ды яшчэ каму і пашэнціла — невядома, бо яе аповед пра сваю паездку ў горад я ахотна расказваю на сваіх сустрэчах з чытачамі. Паслухайце.

— Гэта ж пенсію атрымала, то, думаю, паеду куплю новую кухвайку, тая знасілася, і буркі. Зіма ж блізка, трэба ўцяпляцца. Пакуль бегала па рынку — ой, дзетка! — прагаладалася, што і слоў няма. Бачу: маладзічка прадае белякшы. Вазьму, думаю, адзін. Пытаю, колькі каштуе, а яна як назвала цану, то ў мяне і мову адняло. Не, думаю, не па маёй кішэні. Зноў галёкаю па рынку, прымяраюся, а там ад усяго вочы разбягаюцца. Ужо і кухвайку перахацелася

купляць. Можа, думаю, што іншае з верхняй апраткі выберу. Больш моднае. Хопіць, хопіць у кухвайцы швэндаць! Цяпер і бабе пафарсіць можна. Але ж, адчуваю, вымерхалася так, што і ногі не хочуць слухацца. Махнула рукой, падыходжу да прадаўшчыцы, і кажу: а давайце ваш бялаш, каб ён спрах! Як успомню, колькі мой мужык прапівае, дык і нядорага!..

* * *

У гэтай вёсцы Максім і Святлана з’явіліся больш як год назад. Прыехалі не адны — з двума дзеткамі, сынам і дачушкай. Пра тое, як і чаму яны апынуліся ў Беларусі, варта сказаць асобна. Жылі яны раней там, дзе і нарадзіліся — у Херсонскай вобласці. І вось неяк яны патэлефанавалі Наталлі і Алесю ў Беларусь: тыя кватаравалі ў іх, калі прыязджалі адпачываць на мора, і пасябравалі сем’ямі — можна і так сказаць. Людзі пàраўнальна маладыя, шмат было агульных інтарэсаў. Дык вось, херсонцы пацікавілся, ці не маглі б яны знайсці прытулак у Наталлі і Алеся. Хоць на першы час. «Калі ласка! Што за размовы? Прыязджайце! Будзем толькі рады!»

Нядоўга збіраліся. Прадалі легкавік, бо накапленняў не мелася, а без грошай як паедзеш? Расцалаваліся з роднымі і блізкімі. І падаліся ў суседнюю краіну…

У беларускай вёсцы ўкраінскую сям’ю сустрэлі прыветна. Далі хату, дапамаглі з працай. Максім стаў трактарыстам, Святлана ўладкавалася нянькай у дзіцячым доме. Усё склалася добра. Жыві ды радуйся. Аднак радзіма ёсць радзіма: цягнула дадому, што і казаць. Сёлета выбраліся. З’ездзілі, паглядзелі, што і як там, на Херсоншчыне. А калі вярнуліся, Максім заявіў сваім новым сябрам-землякам:

— Відаць, мы да вас назусім.

Не ведаю, як складзецца далей жыццёвы лёс Максіма і Святланы, але я, калі прыязджаю ў вёску, бачу іх надта шчаслівымі людзьмі.

Людзі, як і птушкі, ведаюць, дзе ім шчасліва жывецца. Таму туды і ляцяць.



**Мар'ян СЕРВАТКА**

# МАБІЛЬНАЯ СУВЯЗЬ З ВЕЧНАСЦЮ

## МАЦІ

Часам так выслухваю
забытыя гукі майго маленства,
якія скрушліва тахкаюць у думках,
а на дне іх туліцца сэрца мамы.
Прыціснуся да твару,
той, што ўсё мне даравала,
пацалую далоні —
цвёрдае аблічча нашай зямлі,
заўтра прынясу вады
і скажу, што яшчэ не знайшоў той,
што ёй падабалася.

---

***Мар'ян Серватка (Marián Servátka),*** *славацкі дыпламат, філолаг, паэт і перакладчык. Нарадзіўся 7 лістапада 1951 года. Скончыў філасофскі факультэт, аспірантуру Універсітэта Я. А. Коменскага (Браціслава), дзе потым працаваў на кафедрах славянскіх моў, славістыкі і індаеўрапеістыкі. Выкладаў славацкую мову ў Польшчы — у Ягелонскім (Кракаў) і Сілезскім (Катавіцэ) універсітэтах.*

*З пачатку 1990-х гадоў на дзяржаўнай службе: у Федэральным Міністэрстве замежных спраў у Празе, Міністэрстве культуры і Міністэрстве замежных спраў Славацкай Рэспублікі. У 1994—2002 гадах Пасол Славакіі ў Польшчы, Літве, Ватыкане і Суверэнным ордэне мальтыйскіх рыцараў. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь (2008—2013). Пры яго падтрымцы быў ажыццёўлены шэраг беларуска-славацкіх навуковых, адукацыйных, культурна-асветніцкіх праектаў.*

*Паэтычныя творы публікаваліся ў перыядычных выданнях, калектыўных зборніках. На славацкую мову перакладае беларускую класіку. У 2012 годзе перастварэннем верша «А хто там ідзе?» была распачата асабістая Купаліяна М. Серваткі.*

## СТАРЫ ЗВАНАР

У старой вежы
завешанай кажанамі
павольна дыхае час

стары званар
калі адмыкае званы
будзіць іх за вяроўкі

засынаюць званы
і званар слухае час

## РУКІ

Рукі, якімі можна схапіць сэрца,
узяць яго і чакаць,
пакуль не папросіцца.
Рукі, якія трымаюць на грудзях,
маюць дзіцячы голас,
хочуць малака альбо ласкі.
Рукі, якімі вас гладзіць маці,
ведаюць, дзе баліць.
Рукі на рычагу ўключаюць станок,
збіраюць мазалі.
Рукі на горле,
рукі на спуску,
рукі,
колькі на свеце рук.
У два разы больш,
чым людзей.
Рукі, і ўсё робяць
рукі.
Рукі — людзі без розуму,
рукі — нашы партнёры.
Рукі белыя і чорныя,
рукі чыстыя, рукі запэцканыя,
рукі ў крыві, а перад тым:
усе малымі лашчыліся
на грудзях маці!

Рукамі можна сціснуць сэрца
калі сэрца баліць — і яно заціхне,
застануцца толькі рукі.

## МІСІЯНЕР У ТЭЛЕФОННАЙ БУДЦЫ

***(Да інсталяцыі мастака***
***Мацея Крэна,***
***створанай з тэлефонных даведнікаў)***

Місіянер у тэлефоннай будцы
набірае нумары нашых продкаў,
якія спачываюць тут
пад намі,
і ў гэтым ёсць сэнс,
і так усё проста.
Майстар, як анёл, вядзе нас
праз лаўку
па-над лабірынтам лічбаў і гаворыць:
проста заходзь і разважай.
Тут мы ўсе, у капліцы,
са сваімі імёнамі і нумарамі.
Большасць яшчэ ў тэлефонных даведніках.
Праз нейкі час адкладзем
слухаўку
і апынемся ўнізе паміж імі.
А пакуль тое будзе, яшчэ пазвані блізкім,
зайшоў у тэлефонную будку,
звані ўсім і бясплатна.
А калі ніхто не адкажа, затэлефануй сабе.
Вазьмі трубку. Слухай. Маўчы.
Не пераставай стэлефаноўвацца з сабой.
А калі хочаш, можаш пазваніць і Яму.
І гэта магчыма.

Малітва — гэты найлепшы мабільны.

## ЭСЭМЭСКА, АДРАСАВАНАЯ ЯМУ

Дай нам, Пане, няхай так станецца,
каб мы трохі палепшалі,
не моцна, толькі трошкі,
калі ласка.
Ты ж усё можаш.
Дык вазьмі нашу волю.
Дай нам сваю, Пане.
Толькі за гэта кожны дзень молімся.
Бо і ты хочаш, каб мы былі лепшымі.
Не здолеем гэтага без цябе.
Згадзіся, Пане,

што павінен дапамагчы нам.
Нам, грэшнікам.
Цябе просім, не тваё святарства.

Звыклі цябе прасіць,
кленчыць.
Ведаю, што не маеш ахвоты.
Але як стаць лепшымі без цябе, Пане?
Адзін твой святар сказаў мне аднойчы,
што не трэба цябе прасіць, толькі дзякаваць,
ты ведаеш, што павінен рабіць.
Тады зрабі, Пане,
што-небудзь з намі.
Будзь з намі.
Не пакінь, калі ласка,
інакш можаш нас страціць.
Назаўсёды.
Так як мы штодзень цябе страчваем.

Таму прашу цябе:
забяры нашу волю,
дай нам часцінку сваёй.
Паслухай нас,
бо мы табой створаны,
Пане.

***Пераклад са славацкай Міколы ТРУСА.***

## РАСІЯНКА, НАТХНЁНАЯ БЕЛАРУСКІМ СЛОВАМ

*Ужо не адно дзесяцігоддзе масквічка Ніна Дзябольская выконвае пачэсную місію знаёмства шырокага свету з беларускай літаратурай. Аднойчы і зусім нечакана распачатая справа мела пад сабой гістарычна-сямейнае абгрунтаванне, красамоўна дэманстравала інтэлектуальную пераемнасць розных пакаленняў інтэлігенцыі. Ніна Сяргееўна — пляменніца Дзіядора Дзябольскага (1892—1964), рускага філосафа, самага блізкага сябра беларускага паэта Максіма Багдановіча. Гэта яму адрасаваны славуты верш-пасланне «Д. Д. Дзябольскаму» (1911):*

*Быць можа, пуціна жыцця*
*Лягла пярсцёнкам, друг,*
*І я ў краіне забыцця*
*Не раз раджаўся, як дзіця,*
*Прайшоўшы поўны круг...*

*Ніна Дзябольская нарадзілася 25 чэрвеня 1937 года. Скончыла Інстытут замежных моў (Масква). Працавала па атрыманай спецыяльнасці — перакладчыкам і выкладчыкам; гадавала шасцярых дзяцей. Апошнімі дзесяцігоддзямі яскрава заявіла пра сябе як мастак, паэт, перакладчык.*

*Цесныя сувязі з Беларуссю запачаткаваліся ў Ніны Сяргееўны яшчэ падчас стварэння ў Мінску і Яраслаўлі музейных экспазіцый, калі асабліва запатрабаванымі былі яе кансультацыі па гісторыі свайго роду. А непасрэдныя кантакты бяруць адлік у 1999 годзе — з удзелам у чарговай міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, арганізаванай Літаратурным музеем М. Багдановіча.*

*Тады ж прафесійны знаўца французскай задалася пытаннем, чаму «пясняр чыстае красы» дагэтуль не прагучаў на мове такога блізкага яму Поля Верлена. Цягам гадоў на пытанне быў дадзены свой разгорнуты творчы адказ: дзякуючы перакладам Н. Дзябольскай па-французску «загаварыў» не толькі М. Багдановіч, але і дзясяткі іншых беларускіх аўтараў, асвойваючы такім чынам новыя гарызонты агромністай літаратурнай планеты.*

*Мінск прывабіў не толькі ўпадабанай беларускай паэзіяй, але і мабільнымі выдавецкімі магчымасцямі. Тут выйшлі падрыхтаваныя Н. Дзябольскай двухмоўны беларуска-французскі зборнік «У краіне паэтаў / Au pays des poetes» (2011), зборнік паэтычных перакладаў з рускай, беларускай і польскай моў «Poètes russes, bélarusses et polonais» (2013), аўтарская паэтычная кніга «Стихотворения» (2013) і інш.*

Спецыяльна да 125-годдзя з дня нараджэння аўтара «Вянка» выйшла двухмоўная, «вочы ў вочы», беларуска-французская кніга з сімвалічным адрасаваннем: «Памяці дзядзькі майго, Дзіядора Дзябольскага, сябра Максіма Багдановіча, прысвячаю гэты пераклад». У выданні «Багдановіч. Паэзія» (2016) прадстаўлены 30 класічных вершаў. Пры тыражы ў 35 паасобнікаў пра яго ўжо можна гаварыць як пра бібліяграфічную рэдкасць. Пры гэтым, вельмі хутка пасля свайго выхаду кніга займела адразу дзве прэзентацыі: віртуальную (на фэйсбуку) і матэрыяльную — ва Універсітэце Вітаўта Вялікага ў Каўнасе (Літва).

Сваім перакладчыцкім вопытам Ніна Дзябольская зычліва дзеліцца з чытачамі «Полымя».

***Мікола ТРУС***

**Ніна ДЗЯБОЛЬСКАЯ**

# З ВОПЫТУ ПЕРАКЛАДУ ВЕРШАЎ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА НА ФРАНЦУЗСКУЮ МОВУ

У лісце да Поля Валеры Марына Цвятаева сцвярджае: «…la traduction d'une langue vers une autre ce n'est que la transformation d'une forme matérielle en une autre forme matérielle, ce qui est beaucoup plus facile que la transformation de l'esprit en matière, que celle de l'âme en corps». Што значыць: «…пераклад з адной мовы на другую гэта ўсяго толькі ператварэнне адной матэрыяльнай формы ў іншую, што значна лягчэй, чым ператварэнне духу ў матэрыю, чым пераход душы ў цела».

З гэтай развагі можна зрабіць, як мне здаецца, толькі адну выснову: нічога немагчымага няма.

Пятнаццаць гадоў таму назад на міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі ў мінскім Літаратурным музеі Максіма Багдановіча я даведалася пра тое, што беларускі паэт перакладаўся і перакладаецца на англійскую мову. Мяне зацікавіла магчымасць перакладу вершаў на французскую мову, бо ён, відавочна, меў цягу да французскай паэзіі.

Сам паэт пераклаў 22 вершы Поля Верлена, верш Эміля Верхарна «La revolte» («Паўстанне»). Санет малавядомага французскага паэта Алексіса-Фелікса Арвера М. Багдановіч пераклаў і на беларускую, і на рускую мову. У якасці эпіграфаў да сваіх твораў ён браў радкі з Буало, Віктора Гюго, Армана Сюлі-Прудома, Сэнт Бёва, Поля Верлена.

«Un sonnet sans défaut vaut seul un long poème» ("Беззаганны санет варты адзін цэлай паэмы") — гэта эпіграф да санета «Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі». Знакамітаму «Рамансу» (цудоўна перакладзенаму Юліяй Новік на французскую мову) папярэднічаюць радкі з Сюлі-Прудома:

> Quand luira cette étoile, un jour,
> La plus belle et la plus lointaine,
> Dites-lui qu'elle eut mon amour,
> O derniers de la race humaine.
>
> Вось як яны гучаць па-беларуску:
>
> Калі аднойчы засвеціцца гэтая зорка,
> Найпрыгажэйшая і найдалейшая,
> Скажыце ёй, што я кахаў яе,
> О, апошнія з роду людскога.
>
> І, нарэшце, на рускай мове:
>
> Когда загорится эта звезда,
> Самая далёкая и прекрасная,
> Скажите ей, что любил всегда,
> О, последние из человеческой расы
> (пераклад наш. — *Н. Д.*).

Думаю, што тэма ўплыву французскай паэзіі на беларускага паэта можа стаць вартай асобнага даследавання, як і яго пераклады з Верлена.

Для свайго першага вопыту перакладу я выбрала гэты верш:

Не кувай ты, шэрая зязюля,
Сумным гукам у бары;
Мо і скажаш, што я жыці буду,
Але лепш не гавары.

Са здзіўленнем выявіла, што пры даслоўным перакладзе і рыфма прыходзіць сама сабой, і рытм захоўваецца:

Ne chante pas, mon coucou gris,
Dans les pins ne lance pas ton cri,
Même si tu dis que je vivrai à l'aise,
Il vaut mieux que tu te taises.

Але гэтак жа нязмушана лёг на французскую мову і больш складаны па рытме верш М. Багдановіча:

У небе — ля хмары грымотнай — празрыстая, лёгкая хмара
Шпарка плыла, і абедзве чагось чырванелі ад жару.
Зліцца жадалі яны, зрабіліся б хмарай магутнай,
Але далёка іх вецер разнёс, наляцеўшы нячутна.

Вось амаль што даслоўны пераклад на французскую:

Dans le ciel — près d'une nuée d'orage — une nuée légère,
Rougissant de chaleur et de confusion elles vont de pair,
Voulant se réunir pour devenir une nuée puissante,
Mais un vent inattendu met en lambeaux ces malchanceuses passantes.

У другім радку дададзена: «чырванеючы ад спякоты і ад ніякавасці», а ў апошнім радку ўзмоцнена: «нечаканы вецер разнёс у жмуты нешчаслівых спадарожніц».

Пачатак маёй працы над перакладамі вершаў М. Багдановіча быў аблегчаны наяўнасцю многіх перакладаў на рускую мову, але я карысталася імі толькі для ўдакладнення сэнсу, як падрадкоўнікам, ніколі не перакладала з рускага тэксту, які б ён ні быў удалы. Пазней, калі паэт і перакладчык Сяргей Панізьнік пазнаёміў мяне з паэтам-перакладчыкам Іванам Бурсавым, беларусам, які жыве ў Маскве, я атрымала шчаслівую магчымасць удакладняць значэнне кожнага слова ці звароту. Глыбокі знаўца беларускай і рускай моў Іван Цярэнцьевіч здолеў растлумачыць тонкасці сваёй роднай мовы, уводзіў мяне ў гісторыю беларускага народа, яго пісьмовасці і літаратуры. У 2016 годзе ў Мінску выдадзена кніга перакладаў Івана Бурсава «Дыхание времени (Антология белорусской поэзии)».

Вельмі каштоўныя падказкі я атрымала ад беларускай паэткі Ніны Мацяш. У адным са сваіх двух лістоў да мяне яна падрабязна раскрыла сэнс верша «Скірпуся»: «Гераіня… недалёкая прасцячка з жарсным жаданнем выйсці замуж — так бы мовіць, "мы за цаной не пастаім". Паэт высмейвае і гэтае жаданне, і мужчынскую нявернасць, узаемнае легкадумства, не выпінаючы іншых негатыўных рыс характару. Але і не даючы нагоды мімаволі паспачуваць качару, які шукае суцяшэнні на боку, стомленаму ад звадлівай жоначкі».

Цудоўныя пераклады паэтаў «Плеяды», зробленыя Нінай Мацяш, умацоўваюць мяне ў думцы, што паміж беларускай і французскай мовамі існуе нейкая ўнутраная сувязь. Ці не пра гэты пісаў М. Багдановіч у сваіх «Тэрцынах»?

Мы любім час далёкі ўспамянуць.
Мы сквапна цягнемся к старым паэтам,
Каб хоць душой у прошлым патануць.

Таму вярнуўся я к рандо, санетам,
І бліснуў ярка верш пануры мой:
Як месяц зіхаціць адбітым светам, —

Так вершы ззяюць даўняю красой!

Максім Багдановіч часта звяртаўся да так званай цвёрдай формы вершаскладання (трыялет, рандо, санет), такой улюбёнай французскімі паэтамі. У самым вызначэнні санета ўказана: санет рыфмуецца найчасцей у французскай паслядоўнасці. Такі і санет, прысвечаны Пагодзіну. Пры яго перакладзе атрымалася з дакладнасцю захаваць гэтую паслядоўнасць толькі ў тэрцэтах:

Вось сімвал твой, забыты краю родны!
Зварушаны нарэшце дух народны,
Я верую, бясплодна не засне,
А ўперад рынецца, маўляў, крыніца,
Каторая магутна, гучна мкне,
Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца.

C'est ton symbole, mon pays natal oublié.
L'esprit du peuple d'un coup réveillé,
Ne s'endormira pas infertile.
Pareil à une source qui avance sonore
Il quittera la terre stérile
Pour que l'espace devant lui éclore.

Здавалася б нескладаны для разумення і перакладу трыялет «Калісь глядзеў на сонца я» прымусіў глыбока задумацца пасля ліста Ніны Мацяш: «Сэнс трыялета: некалі недзе я сузіраў (глядзеў, бачыў) сонца, і яно мяне асляпіла. Але вечная тэма (ноч) ужо не палохае, не мае значэння для мяне, бо я бачыў сонца, і значэнне мае толькі гэта. Вось чаму мяне не хвалююць людскія кепікі (з маёй слепаты): у мяне было сонца, яно асляпіла мяне, у ім маё шчасце. Мне здаецца, важней захаваць ва ўсіх паўторах гэтае j'ai regardé, дзеянне ў прошлым і, магчыма, удакладніць гэтае quand, замяніць яго: autrefois. Тады ўсё стане на свае месцы ў аўтарскім, сэнсавым напружанні».

Я замяніла незакончанае трыванне дзеяслова на закончанае, замяніла нейтральнае «quand» на «un jour», але апошняе слова можа быць ужыта і для будучых падзей. Застаецца варыянт: «jadis», магчыма, больш выразны; адмовілася ад прапанаванага Нінай Мацяш autrefois як занадта доўгага слова. Тлумачэнні такога чуйнага перакладчыка прымусілі і прымушаюць уважліва перачытваць і асэнсоўваць арыгіналы.

Калісь глядзеў на сонца я,
Мне сонца асляпіла вочы.
Ды што мне цемень вечнай ночы,
Калісь глядзеў на сонца я.

І пры перакладзе захавалася форма трыялета:

Jadis j'ai regardé le soleil,
Le soleil m'a ébloui.
Je m'en fiche de l'éternelle nuit,
Jadis j'ai regardé le soleil.

У паэзіі М. Багдановіча мяне вабяць перадусім апісанні прыроды, якія, як правіла, завяршаюцца філасофскімі радкамі:

І роўна мілымі зрабіцца
Здалеюць яркі блеск і цень,
Той дзень, што мае нарадзіцца,
І знікшы дзень.

D'amour envers l'obscurité et la lumière
Mon cœur est plein,
Le jour qui doit naître m'est aussi cher
Que le jour éteint!

Або такімі радкамі, поўнымі роздумаў:

Час, калі трэба журыцца
Душою на свежых магілах
Пуста пранёсшыхся днёў.

C'est l'heure de dire ses prières
Devant les tombeaux des jours
Passés en vain pour toujours.

Нeяк, ужо даўно я перакладала з французскай даволі доўгі верш. Пераклад здаваўся мне ўдалым, але апошнія чатыры радкі не паддаваліся. Ад таго выпадку я часта пачынаю перакладаць вершы з канца, і толькі калі атрымліваецца, пераходжу да пачатку. Але верш «Змяіны цар» адразу ж прыцягнуў мяне сваім выразным, вобразным пачаткам:

Цемень. Сосны. Елкі. Мох. Кара.
Смерць прыйшла ужо ка мне…
Разгарысь, вячэрняя зара,
У туманнай вышыне.

Пры перакладзе апошнія два словы першага радка давялося прыбраць:

Il fait sombre. Des pins. Des sapins.
Je vois la mort qui vient...
Brûle, o soleil couchant,
Dans les airs sans fin.

Бездзеяслоўныя сказы санета «У Вільні» зачаравалі сваёй выразнай прастатой. Можна толькі здзіўляцца, што санет напісаны больш за сто гадоў таму, настолькі яго мова і стыль сучасныя:

Ліхтарняў свет у сіняй вышыне…
Вітрынамі зіяючыя крамы,
Кавярні, мора вывесак, як плямы,
Анонсы і плакаты на сцяне. <…>

Зялёны семафор… пакгауз… склады…
Заводаў коміны пад цьмой нябёс…
О, горада чароўныя прынады!

Шматзначнасць французскіх слоў дазволіла звярнуцца да метафары:

Les devantures béantes des magasins,
Une mer d'enseignes, d'annoces, d'affiches
Et des placards aux murs sans fin,
Et des lanternes brillantes qui trichent[1].

Feu vert... dépôts... hangards à marchandises...
Des cheminées noires sous le noir du ciel...
D'une grande ville des charmes exquises!

---

[1] Даслоўна: Бліскучыя ліхтары, якія хаваюць недахопы.

Пошукі рыфмы ў канцы верша «Слуцкія ткачыхі» далі магчымасць знайсці яшчэ адну метафару:

Цямнее край зубчаты бора…
І тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж персідскага узора,
Цвяток радзімы васілька.

Le contour de la forêt s'obscurcit...
Et la main oublieuse tisse
Au lieu d'un dessin perse
Un bleuet aux palpitants cils[1].

У французскай мове не так проста выказаць здагадку, сумнеў, таму я ў вершы «Цяжарная» проста паставіла пытальныя знакі замест «здаецца… мо…»

Роўнай важкаю хадою
Я іду адпачываць.
Ціша вее нада мною,
І, здаецца, штось чуваць.

Мо пачула бусла вуха,
Што над хатаю ляціць.
Мо дзіцёнка сэрца глуха,
Глуха так ва мне стучыць.

D'un pas égal, grave
Je vais au lit!
Mais le silence m'entrave :
Quelqu'un vit ici?

Mon oreille a entendu une cigogne voler
Au-dessus du toit?
Un cœur d'enfant, un cœur léger,
Bat sourdement en moi?

Гэты верш датуецца 1910 годам. Можна выказаць здагадку, што ў ім гаворыцца пра Аляксандру Дзмітрыеўну Дзябольскую-Залатарову, якая чакала нараджэння Веранікі. Я ніколі не бачыла ні маю цётку Аляксандру, ні маю кузіну Вераніку — яны загінулі ў блакаду. Ведаю пра іх толькі па ўспамінах бацькі. Але верш «Цяжарная» робіцца як бы маім уласным успамінам.

У байцы «Варона і чыж» пошук рыфмы прывёў да некаторага ўзмацнення дзеяння і ўдакладнення характарыстыкі вераб'я. У арыгінале чытаем:

«Ну, то ж бо то! Глядзі ж!» —
З ласкаваю гразьбой пракаркала варона
І паляцела стуль далей.

У перакладзе на французскую мову: варона ласкава паўшчувала гэтага небараку і знікла за гарызонтам:

«Tu vois bien! Fais attention!» —
A croassé le corbeau,
En grondant tendrement ce pion,
Et il a disparu à l'horizon!

---

[1] Васілёк з трапяткімі вейкамі.

Французскія словы карацей за рускія, і гэта стварае пэўныя цяжкасці пры перакладзе. Пры перастварэнні з беларускай, наадварот, французскі тэкст часам атрымліваецца значна даўжэйшы, як, прыкладам, атрымалася з вершам «На чужыне»: восем радкоў пры перакладзе ператварыліся ў дзесяць.

Вакол мяне кветкі прыгожа красуюць.
Маркотна між іх я хаджу адзінок,
Аж бачу — мне сіняй галоўкай ківае
Наш родны, забыты ў цяні васілёк.
«Здароў будзь, зямляча!» Чуць бачны ў даліне,
Панура, нявесела шэпча ён мне:
«Успамянем, мой дружа, ў багатай чужыне
Аб беднай, далёкай сваёй старане».

A l'étranger
Des fleurs s'épanouissent autour de moi,
Je rôde parmi elles triste et solitaire.
Tout à coup de loin je vois
Un bleuet m'envoyer un signe salutaire.
«Bonjour, mon compatriote !»
A peine visible dans la plaine,
Mélancoliquement il me chuchote :
«Souvenons-nous, mon ami,
Dans ce pays fleurissant
De notre pauvre patrie lointaine.

Аднак, далёка не ўсе пераклады вершаў М. Багдановіча, над якімі я працавала, атрымаліся здавальняльнымі настолькі, каб я вырашылася іх надрукаваць. Напрыклад, пераклад верша, прысвечанага сябру паэта Дзіядору Дзябольскаму, застаўся нясконачаным. Не ўдаецца перадаць з дакладнасцю яго рытм. Пераклад «Пагоні», зроблены па просьбе Аляксея Каўкі, пакідае жадаць лепшай перадачы гэтай напружанасці, гэтага гарачага звароту да Радзімы.

Мая праца дазваляла мне ўсё глыбей раскрываць і мелодыі, і сэнсы паэтычных твораў М. Багдановіча. Мой досвед гаворыць пра тое, што значна лягчэй перакладаць на французскую з беларускай, чым з рускай, паколькі ў беларускай мове адчуваецца не толькі славянская аснова, якая адкінула непатрэбныя складаныя формы, але і лацінская падкладка і, дазволю сабе сказаць, лацінская логіка мыслення.

Неаднаразова, асабліва напачатку сваёй працы, я паказвала свае пераклады носьбітам мовы, не выпадковым людзям, а спецыялістам.

Паэзія па-за часам і, як гэта ні дзіўна гучыць, па-за мовай, дакладней, апроч мовы. Зрэшты, і музыка існуе апроч яе фіксацыі, па-за нотамі, як і мовы без пісьмовасці. Марына Цвятаева называла «мовай анёлаў» (la langue des anges) нематэрыяльную мову душы, «сусветнага духу» (l'esprit universel), мову самой існасці паэзіі (l'essence meme de la poesie). Найбольш блізкай у яе асабістай іерархіі моў да «мовы анёлаў» была нямецкая, потым ішла руская, а французская займала ўжо трэцяе месца таму, што французская не здольная станавіцца (devenir), быць недакладнай (imprecis), няяснай (floue), таямнічай (mysterieux). Думаю, ведай Марына Цвятаева беларускую мову, яна паставіла б яе наперадзе рускай.

Кветкі з «Вянка» беларускага паэта Максіма Багдановіча не вянуць, яго васількі ўпрыгожваюць вянок еўрапейскіх паэтаў пачатку дваццатага стагоддзя. Не дзіва, што хочацца перакладаць і ў дваццаць першым стагоддзі яго цудоўныя паэтычныя творы.

Масква.
Лета 2016 года.

***Пераклад з рускай.***

Ігар ШАЛАДОНАЎ

# МАРАЛЬНА-ЭСТЭТЫЧНАЕ АСЭНСАВАННЕ ФЕНОМЕНА «САМАЗВАНСТВА» Ў БЕЛАРУСКАЙ АПОВЕСЦІ КАНЦА XX — ПАЧАТКУ XXI СТАГОДДЗЯ

На пераломе XX і XXI стагоддзяў беларуская нацыя ўступіла ў стадыю кардынальных перамен амаль ва ўсіх сферах сацыяльна-культурнага жыцця. Гэтыя падзеі і змены ў грамадстве перажываюцца і ўспрымаюцца няпроста і неадназначна.

Шмат хто з людзей у гэты перыяд страціў жыццёвую арыентацыю, свядомасную ўстойлівасць і святасць веры, бо здавалася: тое, што дзесяцігоддзямі так напружана і самаахвярна будавалася і ўяўлялася непахісным, раптоўна, без войнаў і рэвалюцый, прыродных катаклізмаў развальвалася на вачах.

Зразумела, што ўсе гэтыя вялікія зрухі не маглі не паўплываць на навукова-філасофскую і літаратурна-мастацкую рэфлексію і асэнсаванне новых рэалій, знайшло сваё арыгінальнае ўвасабленне ў мастацкай практыцы беларускай прозы і ў першую чаргу ў жанры аповесці, як найбольш эстэтычна-структураванай і гуманістычна-мабільнай форме сучаснай літаратуры.

Жанр аповесці ў актыўным стане свайго цяперашняга функцыянавання, як ніколі раней, арыентуе мастакоў слова на напружаную звышзадачу пошуку ў характары герояў такіх душэўных рыс і задаткаў, якія б маглі найлепей пасадзейнічаць індывіду ў знаходжанні свайго аптымальнага месца ў свеце.

Менавіта ў такім кантэксце мастацкі спосаб увасаблення феномена самазванства ў духоўна-эстэтычным полі беларускай аповесці набывае выразную актуальнасць і запатрабаванасць.

Аналізуючы мастацкую прастору жанру аповесці такіх добра вядомых беларускіх пісьменнікаў, як І. Шамякін, Я. Брыль, І. Пташнікаў, В. Быкаў, В. Казько, А. Федарэнка, А. Казлоў, Ю. Станкевіч і інш., мы можам канстатаваць той факт, што пры паказе фарміравання важнейшых рыс характараў герояў яны настойліва намагаюцца пранікнуць у глыбінную сутнасць чалавечага быцця, дзе выразна праглядаецца духоўнае поле барацьбы дабрыні і ліха, святла і цемры, узвышанага і нізкага. Такім быційным полем найперш выступае свабода духу, як вызначальная экзістэнцыяльная якасць чалавечай існасці, дзе яго галоўная ўмова пазначана правам на самаадказнасць, магчымасць мець свой выбар «жыць пад поглядам».

Па вялікаму рахунку, чалавек ад нараджэння, па сваёй сутнасці — самазванец, таму што ўвесь час шукае магчымасці чаму б сябе прысвяціць, у чым знайсці апраўданне свайму жыццю, як выявіць сваё прызначэнне. Але разам з першапачатковым іманентна-прыродным правам на атрыманне такога выбару, чалавек адначасна атрымлівае і цяжкую ношу — з боку іншых, ды і свайго ўнутранага погляду таксама.

Самае цікавае ў тым, што ў такім спосабе існавання, дзе неадменна мае месца быць працэс належнасці чалавека да суджэння і ацэнкі з боку іншых, найбольш зацікаўлена сама асоба, бо пазбаўленне магчымасці быць выслуханай і справядліва ацэненай і з’яўляецца па сутнасці для яе сапраўдным пеклам, дзе любому ўчынку індывіда не надаецца форма ачалавечанасці, апраўданасці ці неапраўданасці ў жыцці. Чалавек без выпрацаванай здольнасці знаходзіць у сабе духоўны камертон «голасу пакліканасці» чым ці кім у гэтым свеце — верай, ідэяй, калектывам, каханай, Богам — не мае здатнасці на паўнакроўнае жыццетварэнне.

Вось чаму мы з вялікай доляй упэўненасці можам казаць, што інтэгральнай вядучай патрэбай чалавека з'яўляецца жаданне быць *апраўданым* як у асобных учынках, так і ў жыцці наогул. Быць апраўданым — гэта значыць не быць пазбаўленым асновы, зрабіцца ўгрунтаваным і прыналежным да якойсьці пэўнай субстанцыі, з якой табе хацелася б стаць адзіным, непадзельна-злітым, але адначасова і адзначаным у ёй, не забытым, аклікнутым.

Цікава і па-мастацку арыгінальна раскрывае такую псіхалагічную калізію Ю. Станкевіч у адным з сваіх знакавых твораў — «Мільярд удараў», які даў назву цэлай кніжцы. Аўтар уздымае вельмі важную тэму пра сэнс жыцця сучаснага сярэднестатыстычнага беларуса. Павел Дук — чалавек сталага ўзросту, які ўжо выгадаваў і ажаніў сваіх дзяцей, прыдбаў які-ніякі дастатак, меў пэўны задавальняючы яго статус, але нечакана апынуўся ў пікантным становішчы. Падчас вяртання позна вечарам ад палюбоўніцы да жонкі ён нечакана апынуўся зачыненым у ліфце. Другой непрыемнасцю стала тое, што ў палюбоўніцы застаўся забыты ім мабільнік. Да таго ж наш няўдачлівы герой хварэе на гіпертэнзію.

Перспектыва застацца тут да раніцы вельмі палохае Паўла. Ён пачынае крычаць, грукаць у сцены, але ўсё безвынікова. Страх наплываў. Напачатку сваё хваляванне ён хоча прыглушыць развагамі пра розныя сітуацыі з мінулага. Адной з такіх разваг-успамінаў становіцца пачутая калісьці інфармацыя: «Праведзеныя разлікі па частаце сардэчных скарачэнняў для розных відаў жывёл супадаюць з фактычнымі велічынямі іх працягласці жыцця. Сэрцы жывёл за перыяд жыцця робяць прыкладна аднолькавы лік скарачэнняў — у межах аднаго мільярда. Але ж і чалавек, як сцвярджае сучасная навука, — жывёла, хоць і ўчарашняя. Мільярд удараў» [3, с. 175]. Ход думак Паўла Дука вельмі сімвалічныя для сучаснага цывілізаванага чалавека. Менавіта спасылка на навуку як адзін з важнейшых крытэрыяў светапазнання становіцца зараз вызначальным. Але рацыянальна зразуметая і ўспрынятая навуковая, часцей белетрызаваная, інфармацыя, дае толькі спрошчаны арыенцір у жыццёвым свеце. Яна дапамагае лепш прыстасоўвацца да навакольнага асяроддзя, прапануючы па-большасці колькасна-абагуленую статыстыку. Не дарэмна наш герой пасля ўзгадвання гэтага навуковага факта і для таго, «каб заняць свае думкі і супакоіцца», дастае з кішэні калькулятар і пачынае падлічваць, колькі год патрэбна чалавеку для таго, каб вычарпаць запас сардэчных скарачэнняў. Атрымлівалася так, што сэрца чалавека павінна спыніцца дзесьці ў шасцідзесяцігадовым узросце. І гэтая маніпуляцыя з падлікам не прынесла Паўлу заспакаення, яшчэ мацней спужала. Выходзіла так, што ён ужо быў на мяжы, каб вычарпаць свой біялагічны рэсурс. Цела Дука пачало ліхаманкава рэагаваць на нестандартную сітуацыю. Тут жа з'явіліся пабочныя эфекты розных псіха-неўрастэнічных адхіленняў — клаўстрафобія, неўроз, тахікардыя. Звышнапружана пачала працаваць і памяць героя: хутка, як у кінастужцы, узнікалі вобразы і эпізоды мінулага жыцця. У такім узбуджаным стане Дук вырашае яшчэ раз узяць сябе ў рукі і прымусіць арганізм перадолець пачуццё страху: «Мужчына быў гатовы прысягнуць, што яго цяперашнія пачуцці якраз не з'яўляюцца боязззю смерці» [3, с.137]. Але героя ўнутрана трывожыць і точыць нейкі невытлумачальны імпульс, які не дае магчымасці заспакоіць нервы і розум. «Адказ быў просты. Ён баіцца загінуць вось так па-дурному, зусім недарэчна, і не выканаць сваёй мэты» [3, с. 142].

Трагедыя ў тым, што, як аказалася, сваёй мэты жыцця ў Паўла Дука няма. Нельга ж лічыць мэтай просты жыццёвы набор будзённых стратэгій — добра вучыцца, каб паступіць у ВНУ, удала ажаніцца, вырасціць дзяцей у добрым дастатку і камфорце. І наш герой задае сабе рытарычнае пытанне: «І само жыццё — хіба мае мэту?» [3, с. 143]. І, разумна палічыўшы, што адказ знойдзены, ён вырашае, што самае галоўнае для яго зараз — гэта збіць крывяны ціск. Знайшоўшы ў куртцы сцізорык, герой вырашае зрабіць сабе кровапусканне шляхам парэзу вены на руках. Калі ён прарабіў дадзеную працэдуру, яго апанавала млявасць, і Павел праваліўся ў санлівы стан. Ён яшчэ хоча пазмагацца з слабасцю і дрымотай, але яны хутка бяруць сваё. Герою прымройваецца родны кут, рачны поплаў

у кветках і эпізод са школьнага жыцця: «Мужчына раптам зразумеў, гэты сон з далёкага мінулага зусім не выпадковы» [3, с. 156].

Яму прыснілася аднакласніца, дзяўчынка Крываножка, якая кульгала на адну нагу і за гэта атрымала такую мянушку. Калі яе ўпершыню прывялі ў клас і захацелі пасадзіць побач з Паўлам, то ён перад усім класам уголас адмовіўся з ёй сядзець.

Крываножку пасадзілі адну за іншую парту, на самае непрыстыжнае месца каля дзвярэй. Праз нейкі час дзяўчынка наглыталася таблетак, і яе не змаглі адкачаць. Павел Дук у сонных думках «пачаў пераконваць сябе, што дзяўчына зрабіла такое зусім не таму, што ён прагнаў яе ад сябе. Але тады — чаму?» [3, с. 149].

Менавіта гэта пытанне застаецца галоўным для вызначэння страты мэты ў існаванні героя. На парозе смерці для Паўла выразна паўстала быційная мяжа-лінія, якую яму так і не ўдалося пераадолець. Гэтая нябачная лінія трансцэндэнцыі, узняцця над сітуацыяй не была ўключана ў спосаб пражывання героя; паглынуты турботамі толькі гэтага свету ён не здолеў, не зайшоў магчымасці ўзняцца над абставінамі паўсядзённай выгоды і мітусні.

Гэтае апавяданне для нас важнае яшчэ і тым, што аўтар у ім змог вельмі змястоўна і ўдала раскрыць сімволіка-вобразную сістэму вызначальнага канфлікту сучаснасці. Які, на нашу думку, пралягае па мяжы антаганістычных супярэчнасцей паміж ідэаламі і каштоўнасцямі культуры і цывілізацыі. Дзе ў кандэнсаваным выглядзе пад культурай мы разумеем такі працэс творчай дзейнасці, які ажыццяўляецца ў адпаведнасці з пэўнай каштоўнасцю, якая па сваёй сутнасці заўсёды накіравана на выхад за межы рэчаіснасці, ці іншымі словамі, гэтая каштоўнасць заўсёды трансцэндэнтна свету.

Цывілізацыя ж для нас паўстае працэсам, які служыць рашэнню толькі ўтылітарных задач, дзе чалавек заняты забеспячэннем выжывання толькі дзеля выжывання. Так, для І. Канта цывілізацыя — гэта «тэхнічны» тып культуры, якая амаль індыферэнтна маралі і трансцэндэнтным каштоўнасцям.

У апавяданні «Мільярд удараў» вельмі сімвалічна-наглядна пададзены галоўны нерв канфлікту сучаснасці праз насычаную мастацка-вобразную сістэму. Папершае, празаік адразу задае такую мастацкую сітуацыю, у якой раскрываюцца вызначальныя экзістэнцыйна-пачуццёвыя дамінанты існавання чалавека пачатку XXI стагоддзя — адчуванне пакінутасці, адзіноцтва, павышаная трывожнасць ва ўспрыманні акаляючай рэчаіснасці.

Па-другое, вобраз-сімвал ліфта як цывілізацыйна-тэхнічнага дасягнення, удала падкрэслівае ўсю хісткасць і ненадзейнасць тэхналагічнага прагрэсу, які толькі павышае эмацыянальную трывогу чалавека. Камфорт, выгода і зручнасць, якія ён нясе, — на паверку шмат у чым могуць апынуцца пасткай для індывіда.

Па-трэцяе, засяроджанасць героя на колькасным паказчыку сардэчных удараў гаворыць толькі аб тым, што галоўны персанаж поўнасцю заангажаваны на «посюсторонний интерес» пражывання, чаго ад яго так і вымагала цывілізацыйнае светаўспрыманне. І толькі ў сітуацыі на мяжы жыцця і смерці герой выразна адчуў усю мізэрную вартасць пражытых гадоў, якія ні аднаго разу не далі магчымасці зрабіць штосьці важнае ў жыцці, каб падняцца над ім. Мільярд удараў сэрца становіцца паказальным сімвалам механістычнага адліку бездухоўнага пражывання жыцця, блізкага да жывёльнага існавання.

Па-чацвёртае, у крыві, як лічыцца ў рэлігійных поглядах некаторых народаў, быццам бы захоўваецца душа чалавека. Кроў жа, якая паступова выцекла з цела Паўла Дука, аказалася толькі лужынай чырвонай цягучай вадкасці, а не ахоўніцай самага таемнага ў чалавечым быцці.

Але пісьменнік у фінале твора выразна акцэнтуе сваю культурацэнтрычную, духоўную пазіцыю ў поглядзе на чалавека, калі паказвае, што ў пазасвядомым перадсмяротным сне герой імкнецца падняцца з кален і пайсці на святло высакароднага жыццесцвярджэння.

У гэтым апраўданні няма антаганізму індывідуальнага і сацыяльнага планаў, бо абодва гэтыя планы ці плоскасці чалавечага існавання праходзяць праз душу і

сэрца асобы, дзе знітоўваюцца і змацоўваюцца, там жа адбываецца сцверджанне быцця, а таксама тчэцца павуціна людской долі.

Адчуванне і разуменне прынцыпова новага погляду на сутнасць чалавечай прыроды і ладу жыцця ўваходзіла ў творчае самаадчуванне мастакоў слова паступова і для многіх псіхалагічна даволі складана, бо нешта імі прымалася ў тым, што адбывалася, а штосьці заставалася ці не да канца зразумелым, ці цвёрда і бескампрамісна адмаўлялася. Усё залежала ад тых светапоглядных каштоўнасных каардынат, якія пісьменнік браўся абараняць і адстойваць у сваіх творах.

Мабыць, найбольш агульнакампрамісным фонам вітала думка аб тым, што так далей жыць нельга, але відавочна-канкрэтных рэцэптаў і парад на тое, каб пераканальна паказаць — як трэба жыць, думаецца, не знаходзілася ні ў аднаго майстра слова. Ды гэтага і не патрабавалася ад творцы, бо ён і сам шмат у чым стаўся заложнікам і ахвярай хутказменлівых складаных сацыяльна-гістарычных падзей.

Прынцыпова важным у сучасным працэсе жыццебудаўніцтва бачыцца тое, каб не патрапіць у старыя быційныя варонкі, якія б змаглі зноў высокі пачуццёва-інтэлектуальны зарад веры і спадзяванняў людзей у ісціну, праўду і прыгажосць жыцця і свету, спіхнуць на пракладзены і збіты бальшак самазванства і духоўнай энтрапіі. Як пісаў вялікі знаўца і трубадур самазванства нямецкі філосаф Ф. Ніцшэ: «З чалавекам адбываецца амаль тое ж самае, што і з дрэвам. Чым больш імкнецца ён у вышыню, да святла, тым мацней цягнуцца яго карэнні ў зямлю, у змрок глыбіні — да пачварнага» [2, с. 274]. Поўнасцю згадзіцца з гэтай думкай знакамітага мысляра, думаецца, нельга.

Справа ў тым, што на мяжы падзелу дабра і зла заўсёды прысутнічае якісьці валявы імпульс, які пазначае, чыімі сокамі жывіцца. Дакладней сказаць, у чалавеку ёсць святло і цемра, святло духу і змрок цела, але адказная за ўсё і заўсёды крыніца святла, бо чым святло мацней, тым слабейшая цемра. Аднак адна і тая ж крыніца святла можа быць крыніцай як азарэння, так і пацямнення.

«У чалавеку ёсць нешта, што бязгрэшна, але ў той жа час яно можа быць грахоўна» [1, с. 207], — слушна пісаў рускі філосаф Б. Вышаслаўцаў. Гэты цэнтр Сусвету адначасна крыніца дабра і зла, і разам з тым абсалютная самакаштоўнасць, форма богападобнасці. Богападобнасць азначае тут першапрычынную магчымасць чалавечай свабоды, сказаць «так» ці «не», разбураць ці будаваць штосьці.

Гэтае ядро-цэнтр лучыць чалавека, Сусвет і Бога ў адзіную інтэгральна-ўніверсальную сістэму і адыгрывае ў рэшце рэшт вызначальную ролю для індывіда. Саму ж магчымасць раскруціць увесь клубок чалавечага жыцця-лёсу пакуль дадзена і ўдаецца ў нечым толькі таленавітаму мастаку слова, калі ў яго знаходзіцца здатнасць увайсці ў прастору абсалютнага «цэнтра-ядра» і ўхапіць праўду і крыўду свайго часу і, пераплавіўшы іх, перадаць гэту «плазму часу» людзям, чытачам.

Так у аповесцях «Гісторыя хваробы», «Цугцванг», «Вёска» і інш. таленавіты беларускі празаік А. Федарэнка імкнецца праз паводзіны і роздумы выведзеных ім герояў знайсці тое псіхалагічна важнае звяно іхняга існавання, якое робіць вызначальныя рысы характараў памежнай лініяй напружання ў выбары ці адмове ад выбару, паміж чалавеча асветленым дзеяннем і крокам па выпадзенні ў прастору нябыту.

Так, галоўны герой апавядання «Цугцванг», малады і самалюбівы чалавек, апынуўшыся ў складанай сацыяльнай сітуацыі на мяжы галечы і жабрацтва, нечакана атрымоўвае шанс завалодаць вялікім багаццем. Выпадкова сустрэўшы свайго сябрука-аднакурсніка, і вырашыўшы гэта адзначыць, яны ідуць на кватэру родзіча сябра, які па дарозе расказвае аб тым, што раней яго дзядзька працаваў зубным урачом і меў вялікую кліентуру па ўстаноўцы залатых каронак. Вялікі скнара не хоча дзяліцца багаццем, якое ў яго засталося пасля доўгай працы стаматолагам. Пры асабістай сустрэчы наш герой даведваецца аб тым, што пажылы чалавек, які вядзе даволі меркантыльны і затворніцкі лад жыцця, з’яўляецца заўзятым аматарам гульні ў шахматы. Згадзіўшыся на прапанову згуляць адну партыю, ён нечакана для сябе паступова ўцягваецца ў даволі складаную псіхалагічную гульню за магчымасць завалодаць вялікім залатым зліткам, які стары чалавек хавае ад

іншых. Заўзяты аматар гульні пачынае гуляць і на душэўна-нервовых струнах нашага героя, усяляк распаляючы ў ім жарсць авалодання багаццем.

Паступова хлопец прыходзіць да такога псіхічнага стану, што забывае пра ўсё на свеце, усе яго думкі скіраваны толькі на выйгрыш скарба. Але хутка стары памірае і перад смерцю пакідае для маладога калегі па гульні ў шахматы невялічкую камбінацыйную задачку, дзеля таго, каб ён яе разгадаў. Пасля доўгіх роздумаў да героя выпадкова прыходзіць спосаб рашэння задачы, а разам і думка-згадка аб тым, дзе стары мог схаваць свой клад.

Малады чалавек тэрмінова едзе на былую кватэру шахматыста. Там ён застае карціну, якая прыводзіць яго ў поўную роспач. Пасля смерці старога новыя гаспадары аднапакаёвай кватэры вырашылі зрабіць капітальны рамонт. І калі герой зазірнуў у тое месца памосту, дзе павінен быў па логіцы знаходзіцца залаты злітак, то ўбачыў толькі пусты выем. Скарб уціхую забралі і падзялілі між сабой будаўнікі. Сімвал залатога злітка набывае часавую сэнсавую дамінанту. Ён выступае тым цудадзейным спосабам, які можа даць магчымасць паскорыць час набыцця матэрыяльнай стабільнасці.

Калі ў звычайнай плыні жыцця трэба б было прыкладаць шмат намаганняў для таго, каб прыстойна ўладкавацца, знайсці сваю выжывальную нішу, то клад імгнення мог бы вырашыць гэтае пытанне. Схаванае золата ў апавяданні выступае сімвалам паскоранасці часу, светлай будучыні.

Трэба адзначыць той факт, што ў творы вельмі ўдала перададзены агульны псіхалагічна-эйфарыйны настрой перабудовачнай эпохі пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя. У першыя часы эмацыйнай эйфарыі, ці ап'янення пасля атрыманай свабоды ў паветры лунаў узнёслы настрой у чаканні наступлення хуткага раю на зямлі, толькі ўжо не сацыялістычнага, а капіталістычнага. Рынак павінен быў працярэбліваць шлях да жаданага раю на зямлі. Але хутка эйфарыя згасла, ілюзіі зніклі і наступіў час агульнага расчаравання і стомленасці. Выявілася, што рынак — гэта не проста магічнае слова, а найскладанейшая сістэма адносін, якая патрабуе не толькі спецыфічных эканамічных, арганізацыйных і прававых умоў, але і наяўнасці адпаведнага тыпу асобы, якая адчувае сваю адказнасць, праяўляе ініцыятыву, прадпрымальнасць. А такія якасці ў большасці людзей, выхаваных у патэрналісцка-этатычным духу за гады савецкай улады, можна сказаць, амаль атрафіраваліся ў рэчаіснасці, дзе праз прызму выгады, прыбытку, рэнтабельнасці разглядаецца ўсё, што існуе.

Стыхія нястрымнага спажывальніцтва (канс'юмерызм) і геданізму (прага асалод і ўцех) — сведчанне глыбокага духоўнага крызісу на фоне матэрыяльнага дыскамфорту і неўладкаванасці. Паддаўшыся павевам часу, расплыўшыся ў пошуку ўсё новых і новых асалод, чалавечае жыццё страчвае вымярэнне *глыбіні,* без якога яно становіцца ўсё больш і больш бессэнсоўным. Пад пагрозай аказваецца само існаванне індывіда.

І справа тут не столькі ў лібералізацыі эканомікі і пашырэнні свабод людзей, колькі ў разбурэнні сакральных асноў самога быцця чалавека, незапатрабавальнасці духоўнага вымярэння існавання ў свеце. Там, дзе ідэалам жыцця становіцца паскоранае жаданне поспеху, заваяванне кар'еры, сфера духоўных інтарэсаў будзе адціскацца на перыферыю грамадскай свядомасці, з'яўляецца спосабам правядзення адпачынку, хобі для маргіналаў.

Але нельга беспакарана «ампутаваць» духоўнае — святое месца пуставаць не будзе. Раней ці пазней яго засеняць чэрці. У такой сацыяльнай прасторы, дзе пануе жарсць прарыву да багацця, імкненне чалавека да ўзвышанага, чыстага, светлага, у бясконцыя гарызонты гармоніі рэдуцыруецца да мітуслівай падзейнасці, павярхоўнага слізгання ў свеце меркантыльных задавальненняў, дзе нярэдка віртуальная рэальнасць займае ўсё большае месца.

Яскравы прыклад сучаснага духоўнага стану на «паніжэнне» чалавечай прыроды раскрыты ў творы «Цугцванг». Назва, якую аўтар даў апавяданню, а па многіх мастацка-паэтычных крытэрыях гэты твор можна лічыць аповесцю, утрымлівае вельмі сімвалічную сэнсавую значнасць. Цугцванг — гэта такое ста-

новішча ў шахматнай партыі, калі ігрок вымушаны зрабіць ход, які пры любым варыянце вядзе да пагаршэння асабістай пазіцыі, паколькі іншых хадоў у яго не існуе ці яны не знойдзены. Бывае цугцванг узаемны, калі абодва сапернікі могуць толькі пагаршаць свае пазіцыі. Сама шахматная гульня становіцца ў творы з'явай метафарычнай, працэс спаборніцтва на дошцы лёгка атаясамліваецца з вядомай формулай існавання: «Што наша жыццё — гульня».

Шахматная дошка і фігуры, як вядома, расфарбаваны ў два колеры — белы і чорны. Гэта колеры рэзкага размежавання сімвалаў жыцця і смерці. Жыццё ў мастацкай прасторы аповесці ўрываецца ў працэс гульні. Унутраныя эмоцыі і пачуцці, якімі жывуць героі твора, вызначальна канцэнтруюцца ў сімвалічнай «прасторы шахматнай дошкі».

Калі стары стаматолаг імкнецца заінтрыгаваць маладога чалавека магчымасцю завалодання залатым зліткам, як бы прымагнічвае сваімі паводзінамі, ён і сам загіпнатызаваны той бачнай уладай, якую нечакана напрыканцы жыцця змог атрымаць над хцівым хлопцам. Яго «цунгцванг» у тым, што смерць — рэч анталагічна фундаментальная і любы выйгрыш у віртуальнай прасторы, без яго напаўнення сэнсава-каштоўнасным патэнцыялам становіцца ў канчатковым выніку пустатой, проста смерцю з яе хаосам гульні і шчаслівага выпадку. Як гэта і адбылося ў дачыненні да знаходкі будаўнікоў.

Для галоўнага героя «цугцванг» пазначаны тым, што ён, звузіўшы свой патэнцыял пошуку жыццёвай перспектывы да мізэрнага поля шахматна-залатой удачы, сам таго не заўважаючы, патрапіў у прастору хаатычнай мітусні, якая ўсё больш уцягвае яго ў варонку турбулентнасці, пазбаўляе магчымасці рэальнага погляду на рэчаіснасць.

Імкнучыся завалодаць золатам старога ўрача, персанаж апавядання ў абстрактна-сімвалічным сэнсе пераўтварае злітак у так званую часавую структуру «чорнай дзіркі», пры дапамозе якой ён хацеў зрабіць свой скачок у светлае будучае, не абцяжарваючыся змаганнем з праблемамі і цяжкасцямі канфліктнай сучаснасці. Аднак наш герой знаходзіцца ў цэйтнотным часе, яму прыходзіцца спяшацца і тым самым рабіць і гульнявыя, і жыццёвыя памылкі, і не заўважаць у сітуацыі «цугцванга» лепшых варыянтаў выхаду са свайго становішча. І таму ён церпіць поўнае фіяска.

Галоўны герой аповесці «Цугцванг» — малады чалавек, нядаўні студэнт, які патрапіў, як і ўсе навокал, у нязвыклыя сацыяльныя перабудовачныя ўмовы 90-х гадоў ХХ стагоддзя. Ён паддаецца агульнаму пафаснаму настрою таго часу, калі прымае прапанову старога пенсіянера гуляць з ім у шахматы. Асноўнай прычынай хадзіць амаль кожны дзень да былога зубнога тэхніка, які жыве адзінока ў цеснай і бруднай аднапакаёвай кватэры, становіцца неадольнае жаданне юнака завалодаць магчымым багаццем, залатымі зліткамі. Уся эмацыйна-роздумная філасофія нашага героя зводзіцца да таго, што ён усімі фібрамі душы імкнецца пераканаць найперш сябе, а затым ужо і пенсіянера Крывіцкага ў тым, што яму, як нікому іншаму, належыць права на жыццёвы выйгрыш, на месца пад сонцам.

Жаданне выкарыстаць свой шанец настолькі авалодвае хлопцам, што ён зусім забывае пра тое, што яго акружаюць жывыя людзі, са сваімі недахопамі і задаткамі, якія хацелі б бачыць у іншым не проста партнёра па партыі, але найперш чалавека, з якім можна знайсці хоць якія кропкі сумяшчэння са сваім быційным полем праблем жыцця цела і духу. Калі стары шахматыст Адамавіч выпрашае легчы ў бальніцу дзеля цяжкой аперацыі на ракавую хваробу, яго партнёр па гульні зусім страчвае інтарэс да старога чалавека. І зноў цікавіцца ім толькі тады, калі да яго прыйшло азарэнне, дзе той мог схаваць сваё золата.

Але нашага героя чакае горкае расчараванне: клад Адамавіча патрапіў у рукі рабочых, якія рабілі рамонт. Адчаю няма мяжы, і таму ён у стане псіхічнага зрыву жорстка збівае новага гаспадара кватэры, былога свайго аднакурсніка, вымяшчаючы на ім дзікую лютасць на старога стаматолага.

У фінале аповесці падсудны піша следчаму пакаяльнае пісьмо, дзе імкнецца ўсю віну спіхнуць на абставіны. З упэўненасцю можна гаварыць, што герой

твора — выразны прадстаўнік людзей-самазванцаў, якія звышэнергічна імкнуцца выдаць сябе за большае, чым яны ёсць на самай справе. Разам з тым, ён як і любы іншы самазванец вельмі лёгка жадае зрабіцца гэтакім беспамятным, няўцямным правадніком якойсьці сілы, няхай пакуль і не ўсвядомленай, каб толькі не адказваць за свае дзеянні і іх наступствы.

## Спіс літаратуры:

1. Вышеславцев, Б. П. Этика преображённого эроса / Б. П. Вышеславцев. — Москва: Республика, 1994 — 368 с.

2. Ницше, Ф. Так говорил Заратустра / Ф. Ницше. — Москва. — 1990. — 274 с.

3. Станкевіч, Ю. Мільярд udараў: аповесці, апавяданні, п'еса / Ю. Станкевіч. — Мінск: Галіяфы, 2008. — 321 с.

4. Федарэнка, А. Смута: Аповесці, апавяданні / А. Федарэнка. — Мінск: Маст. літ., 1994. — 222 с.

Артыкул патупіў у рэдакцыю 20 красавіка 2017 года.

## Рэзюмэ

Ігар ШАЛАДОНАЎ

### Маральна-эстэтычнае асэнсаванне феномена «самазванства» ў беларускай аповесці канца XX — пачатку XXI стагоддзя

У артыкуле разглядаецца духоўна-этычны патэнцыял сучаснай беларускай прозы праз прызму маральнай праяўленасці феномена самазванства. Галоўныя героі аповесцей А. Федарэнкі «Цугцванг» і Ю. Станкевіча «Мільярд удараў» вельмі актыўна імкнуцца заявіць аб сваім праве «жыцця пад сонцам», але яны не жадаюць пры гэтым несці быційнай адказнасці за свае ўчынкі ў побытавым жыцці, хаваючыся кожны раз у прастору наіўнай несвядомасці, падманлівыя нішы свайго самаапраўдання перад каштоўнасным прынцыпам жыцця «пад поглядам».

**Ключавыя словы:** самазванства, аповесць, літаратура, жанр, маральна-эстэтычная прастора.

## Summary

Igar SHALADONAU

### The moral-aesthetic phenomenon of «imposture» in Belarusian novel of the late XX — early XXI centurie

The spiritual and ethical potential of modern Belarusian prose through the prism of the marvelous manifestation of the phenomenon of imposture are considered in the article. The main heroes of the stories "Tsuhtsvang" by A. Fedorenko and "Millard of blows" by Yu. Stankevich are very eager to declare their right to live "under the sun," but at the same time they do not want, or do not find in themselves spiritual strength to be responsible for their actions in everyday life, hide each time in the naive space of insanity, irresponsibility, escaping in the illusory and deceptive niches of self-justification in front of the value principle of life "under the eye."

**Key words:** the imposture, the novel, the literature, the genre, moral-aesthetic space.

Ірына ШАЎЛЯКОВА-БАРЗЕНКА

# ЭКСПЕДЫЦЫЯ Ў НЕПРАМОЎЛЕНАСЦЬ,
## альбо Навуковая арганізацыя рэлаксу

***Автухович, Т.*** *«Шаг в сторону от собственного тела...»: Экфрасисы Иосифа Бродского / Т. Автухович. — Opusculs Slavica Sedlcensia. — Tom X. — Siedlce: Universytet Przyrodniczo-Humanistyczny w Siedlcach, 2016. — 268 с.*

Навуковы падыход да арганізацыі любога рэлаксу, звязанага з вандроўкамі, мае на ўвазе выбар правільных спадарожнікаў. Надзвычайную ролю гэты выбар набывае, калі вандроўкі ладзяцца з мэтай рэлаксу… інтэлектуальнага (і такое бывае ў нашым, трэба думаць, не самым дзіўным з сусветаў). І зусім выключнае значэнне памянёны выбар мае, калі рэлаксаваць збіраешся ў прасторы нібыта вядомай, дзе не раз быў, нешта бачыў, нешта памятаеш, але застаўся прысмак нейкай недалучанасці да сапраўднага жыцця гэтай прасторы, адчуванне цьмянай, але неадчэпнай упэўненасці ва ўласнай «недапасвечанасці» ў тамтэйшыя таямніцы.

Вось хто з філолагаў (ці проста культурных людзей, нярэдка абазнаных у паэзіі не горш за «-знаўцаў па прымусе») не завітваў у мастацкі сусвет Іосіфа Бродскага? Заходзілі многія, вядома. Але хтосьці не пасунуўся далей умоўнай «вітальні», нехта крыху паблукаў па ўмоўна прыветных сутарэннях і з палёгкай рушыў да больш літасцівых творцаў, нават не падазраючы, што страціў, не набыўшы, ***якім*** іншым мог бы вярнуцца з падобнага падарожжа. А ўсё з безуважнасці да належнай — навуковай — арганізацыі ўласных вандровак.

Дзеля дакладнасці варта папярэдзіць усіх цікаўных культурных людзей, што жанр вандровак у дачыненні да такой часткі паэтычнага сусвету І. Бродскага, як экфрасісы, бачыцца не тое што легкадумным — бесперспектыўным. Варта наважвацца на сапраўдную экспедыцыю. Адпаведна, варта прыняць сістэму жанравых каардынат, паводле якой у экспедыцыі такога кшталту ты мусіш быць гатовы напінацца з усіх сіл, каб хаця б трымацца побач з вопытнымі спадарожнікамі. Што ўжо само па сабе ёсць задачай няпростай, бо некаторыя з такіх прафесійных вандроўнікаў па экфрасісах І. Бродскага маюць здольнасці відавочна іншасветнага (міфалагічнага) паходжання, бо з недасягальным поспехам выконваюць адначасова функцыянальныя абавязкі не толькі Вергілія (па Дантавай версіі), але і Гермеса (па версіі гісторыі філасофіі, якая яму прыпісвае бацькоўскі статус у дачыненні да герменеўтыкі).

Аднаго з такіх прафесійных вандроўнікаў па не самых простых (нават для няпростых філолагаў) сусветах маем тут і зараз. Доктар філалагічных навук, прафесар Таццяна Яўгенаўна Аўтуховіч і ў Беларусі, і за яе межамі мае рэпутацыю даследчыка, які пры выбары паміж складаным і вельмі складаным феноменам для асэнсавання без сумнення аддасць перавагу найскладанейшаму. Пералік аргументаў на карысць гэтага сцвярджэння абнаўляецца с нязмушанай рэгулярнасцю, адным з апошніх па часе стала кніга *«“Шаг в сторону от собственного тела...”: Экфрасисы Иосифа Бродского»*, якая выйшла ў 2016 годзе ў польскім Універсітэце прыродазнаўчых і гуманітарных навук г. Седльцэ.

Выдадзеная пад рэдакцыяй прафесара Рамана Мніха (Roman Mnich) кніга ўключае ўступны тэкст *«От автора»*, тры раздзелы (кожны аб'ядноўвае розную колькасць артыкулаў), тэкст *«Вместо заключения»*, а таксама спіс літаратуры, бібліяграфічную даведку і рэзюмэ на англійскай і польскай мовах.

Кампазіцыя кнігі абумоўлена інтарэсам Т. Аўтуховіч да экфрасісаў наогул і экфрасісаў І. Бродскага ў прыватнасці. Ужо ў тэксце-прэамбуле «От автора» гэты даследчыцкі інтарэс паўстае нейкім надзвычай уплывовым боствам, здатным у літаральным сэнсе кіраваць чалавечым жыццём: «Этот теоретический и историко-литературный интерес… организовал сюжет моей работы на несколько лет, реализовавшись в цикле статей, которые представлены в данной книге. Статьи расположены в основном по проблемно-тематическому принципу, отражая динамику и типологию экфрасиса в творчестве Бродского и этапы моего вхождения в тему» (с. 7)[1].

Ашчаднасць, строгасць, нават пэўная суворасць у абыходжанні з кожным квадратным сантыметрам друкаванай плошчы звяртае на сябе ўвагу з першых старонак кнігі, паступова набываючы выразныя абрысы адной з характэрных адзнак індывідуальнага маўлення даследчыка. Так, ва ўводным тэксце дакладна пазначаюцца не толькі галоўная мэта, задачы, структурна-кампазіцыйная спецыфіка кнігі, прынцыпы адбору матэрыялу (галоўны — прынцып разумнай дастатковасці), але і наўпрост указваецца, чаму гэта кніга падаецца аўтару надзвычай каштоўнай: «Независимо от того, найдут ли признание предложенные в ней интерпретации, общение с Бродским и его собеседниками, воплощенная в экфрасисах его духовная биография многое мне дала как человеку» (с. 11). Мусім прызнаць, што гэта даволі рэдка ўжывальная ў айчынных літаратуразнаўчых даследаваннях манера: паказацца чытачу без прафесійнай «мы»-маскі (якая натуральным чынам прырастае да асобаснага «я» ў адпаведнасці з канонамі традыцыйнага для нашых навуковых палеткаў этыкету), азвацца ў якасці я-героя, прычым не для кагосьці / чагосьці, а найперш для самога сябе.

Ёсць адзін момант, які відавочна адрознівае кнігу Т. Аўтуховіч ад многіх іншых: так ці інакш, большасць літаратуразнаўчых даследаванняў, як правіла, арыентуюцца на ***іншых*** (на вонкавага чытача). Калі ўслухацца ў інтанацыю аўтарскіх уводзін у кнігу *«“Шаг в сторону от собственного тела…”: Экфрасисы Иосифа Бродского»*, пасля ўжо не адпусціць адчуванне, што даследчык піша кнігу перадусім у дапамогу сабе, свайму ўнутранаму жыццятворчаму сюжэту: «Такое ограничение обусловлено сознательным стремлением соблюсти принцип разумной достаточности при решении двух значимых для меня задач: во-первых, сформулировать свое понимание экфрасиса и показать его интерпретативный потенциал на примере анализа текстов Бродского, во-вторых, выявить специфику и типологию экфрасисов Бродского и эволюцию его экфрастического языка, в-третьих, обозначить своеобразие экфрасисов Бродского по сравнению с другими поэтами, обращавшимися к данному типу высказывания» (с. 9).

Разам з тым Т. Аўтуховіч цалкам пазбаўлена таго даследчыцкага эгацэнтрызму, які ў апошнія два дзесяцігоддзі пачынае істотным чынам трансфармаваць ландшафт не толькі ўласна літаратуразнаўчага, але і гуманітарнага дыскурсу ў цэлым. У гэтым сэнсе вонкаваму назіральніку даволі складана вызначыць, што больш паўплывала на фарміраванне такога — халаднавата-цярплівага, адстаронена-альтруістычнага — стылю стасункаў с патэнцыяльным чытачом: прафесійнае станаўленне ў кантэксце класічнай традыцыі акадэмічнага літаратуразнаўства (вось за што дзякуй, old school, дык дзякуй!) ці асобасныя якасці аўтара. Заўважым толькі, што, на шчасце ўсіх ахвочых далучыцца да «экфрастычнай экспе-

[1] Тут і далей пры цытаванні ў дужках указваюцца нумары старонак манаграфіі, поўныя выходныя даныя якой прыведзены напачатку рэцэнзіі.

дыцыі», Т. Аўтуховіч залішне прафесійны падарожнік, каб не папярэдзіць адразу, што лёгка не будзе: спецыфіка жанру экфрасіса звязана з тым, што ён сам па сабе ёсць «интерпретацией интерпретации, результатом многостороннего диалога поэта и художника» (с. 10).

З першага ж раздзела *«Неизбежность экфрасиса»* стрыжнявы (тытульны для гэтай кнігі) феномен — паэтычны экфрасіс — пачынае акрэслівацца ў сваіх сутнасных адзнаках як механізм самапазнання і самаапісання творчасці. На вачах чытача ён не тое што «канструюецца» з нуля як складаны метамастацкі феномен; хутчэй, з дапамогай даследчыка твой зрок як бы перанастройваецца, ты пачынаеш бачыць экфрасіс здалёк і зблізку адначасова, усведамляючы маштабнасць унутранага зместу і патэнцыялу гэтай з'явы і разам з тым не стамляючыся заглыбляцца ў дэталі:

«Визуальная эстетика Бродского реализовалась в его творчестве не только в особом характере видения (зрение-осмысление) мира, но и в восприятии мира в целом, а также поэзии — своей и чужой через призму произведений искусства. Это окультуренное видение-мышление порождает плотный ассоциативный контекст каждого речевого высказывания, соответственно интертекстуальное поле его произведений, наряду с литературным слоем, включает и мощный живописный слой, обсуловливая его герметичность для неподготовленного читателя» (с. 26) *(«Иосиф Бродский и живопись»*).

Кніга Т. Аўтуховіч і для падрыхтаванага чытача ўтрымлівае процьму магчымасцей адчуць асалоду першаадкрывальніцтва: як падрабязная карта-навігатар, яна вымагае проста правільнай каліброўкі «зроку» (не толькі інтэлектуальнага, але і эмацыянальнага), якому можа адкрыцца сапраўды ***новая зямля***. Інакш кажучы, нават саманадзейны (у сілу падрыхтаванасці) чытач мае ўсе шанцы зразумець дзякуючы аўтару, што і для яго паэзія І. Бродскага не менш «герметычная», чым для не дужа абазнанай публікі, столькі слаёў-напластаванняў раптам праглядвае там, дзе ўсё падавалася больш-менш празрыстым:

«Эта поэтика соотносима с традиционным в живописи европейского барокко образом зеркала, но у Бродского она выражает крайнюю степень самоотчуждения лирического героя. Подобный взгляд со стороны наиболее очевиден в стихотворении *В разгар холодной войны* (1994):

> Кто там сидит у окна на зеленом стуле?
> Платье его в беспорядке, и в мыслях — сажа.
> В глазах цвета бесцельной пули —
> готовность к любой перемене в судьбе пейзажа» (с. 35).

Ад аналізу асобных экфрасісаў даследчык без асаблівай паспешлівасці рушыць да выяўлення агульных заканамернасцей эвалюцыі не толькі паэтыкі, але і філасофіі І. Бродскага: «…создание поэтических экфрасисов в его творчестве постепенно уступает место поэтике экфрастичности и созданию неявных экфрасисов, в которых экфрастический импульс скрыт и его опознание является результатом герменевтического усилия читателя» (с. 29); «В стихотворении («Натюрморт». — *І. Ш.-Б.*) своеобразно отразилась философия Бродского, в которой наиболее значимой с начала 70-х гг. становится тенденция к отрицанию времени и доминированию вещи в пейзаже» (с. 32) *(«Иосиф Бродский и живопись»*).

Варта заўважыць, што грунтоўнасць падыходу да асэнсавання і асабліва да прамаўлення ўнутраных аналітычных працэсаў у вонкавую прастору (прастору ўласна артыкула як хранатопа, прыналежнага не толькі аўтару але і чытачу, патэнцыяльна любому, нават выпадковаму) у кнізе Т. Аўтуховіч не мае вынікам збыткоўную разложыстасць. Ніколі, нават у выпадках, калі гэтая разложыстасць, рэтардацыйнасць падаецца цалкам апраўданай — як у тэкстах, прысвечаных розным аспектам гісторыі і тэорыі экфрасіса. Так, у артыкуле *«Поэтический экфрасис: риторика чтения»* кароткая гісторыя даследаванняў

экфрасіса — ад вытокаў да сучаснага асэнсавання ў аспекце шматузроўневай функцыянальнасці — змясцілася на адной старонцы кніжнага тэксту. Усё карысна ды цікава ў гэтай бліц-гісторыі, кожны чытач мае шанец адшукаць тут свой інтарэс, у тым ліку «меркантыльны» — маем на ўвазе аспекты, прыдатныя для ўласных навуковых росшукаў; нас, напрыклад, зацікавіла ў сэнсе даследчых перспектыў заўвага ў дачыненні да заканамернасцей актуалізацыі экфрасіса, што ён «“всплывает” в переломные эпохи, во время смены художественного языка» (с. 39).

Аўтар кнігі (здаецца, гэта абумоўлена нейкай «прыроджанай» спецыфікай даследчага зроку) разглядае феномен экфрасіса ў аптычнай сістэме энцыклапедызму, нібыта «інсталяванага» ўнутр асобы. Гэта такі стэрэаскапічны зрок, які «ўцягвае» ў сваё поле мноства рэчаў (нават факультатыўных), але дакладна канцэнтруецца на сутнасных момантах, агульных высновах і асобных дэталях адначасова. Пры гэтым згаданы энцыклапедызм натуральным чынам суседнічае з даследчай звышсумленнасцю. Так, літаральна кожнае чужое слова і нават лёгкі цень чужога меркавання атрыбутуюцца спасылкамі на крыніцы, якія, раз-пораз ускладняючыся каментарамі (як у постмадэрнай мастацкай класіцы), часам «падціскаюць» асноўны тэкст на кніжнай старонцы. Натуральнай адзнакай у такой сістэме даследча-стылявых каардынат становіцца метадалагічная шчырасць, нават адмысловая датклівасць, з якой аўтар манаграфіі прадстаўляе плён сваіх шматгадовых доследаў: «…данные размышления основаны на опыте анализа поэтических экфрасисов И. Бродского, то есть форм модернистского экфрасиса, и поэтому не могут рассматриваться как теоретическое обобщение, применимое ко всем его типам и историческим модификациям» (с. 43).

Т. Аўтуховіч бачыць у паэтычным экфрасісе феномен неверагодна жывы, у літаральным сэнсе. Для даследчыка ён не тое што адчужаецца, а як бы *самаадасабляецца* — у межах відавочна не «прахаднога» (не-даступнага для кожнага з*а*йшлы) свету, які поўніцца (цягам не аднаго стагоддзя) падзеямі складанымі і нават інтрыгоўнымі, ва ўсякім выпадку, больш заблытанымі і ўнутрана напружанымі, чым розныя там трылеры ці дэтэктывы (няхай сабе з прэтэнзіяй на інтэлектуальнасць): «На мой взгляд, интрига экфрастического нарратива состоит не в интерпретационном усилии его автора, направленном на толкование артефакта, а в осмыслении собственной судьбы или проблемной ситуации через призму культуры. <…> Это означает, что экфрасис продуктивнее понимать как диалог поэта с культурой…» (с. 52).

Адной з характэрных дамінант даследчыцкага стылю Т. Аўтуховіч становіцца прынцыповая дыялагічнасць: аўтар манаграфіі знаходзіцца ў няспынным дыялогу з іншымі навукоўцамі, даследчыкамі. Надзвычай паказальна, што другі раздзел кнігі мае назву *«Диалог с культурой: метафизика любви и творчества»*. Ён прадчуваецца ў папярэднім раздзеле, як бы вынікае з яго; кніга кампазіцыйна пабудавана як літаратурасофскае даследаванне: прадстаўленне тэарэтычнага грунту патрэбна, каб пасля, падчас аналізу канкрэтных твораў не адцягваць увагу на паспешлівую аргументацыю, што ў сучасных даследаваннях нярэдка ўспрымаецца як спроба апраўдацца за метадалагічна-канцэптуальную няўцямнасць (да гэтага ў Т. Аўтуховіч маецца трывалы імунітэт).

Артыкулам, прысвечаным аналізу канкрэтных паэтычных твораў І. Бродскага, папярэднічаюць выдатныя ілюстрацыі — фотаздымкі карцін. Літаратурасофскі палілог Т. Аўтуховіч цэнтруецца вакол тэкстаў візуальнага (карціна) і вербальнага (вершы І. Бродскага), гэта надзвычай складана структураванае шматгалоссе. Часам нават падаецца (як у артыкуле *«Экфрасис как метафора: пути истолкования. Стихотворение Иллюстрация (Л. Кранах. “Венера с яблоками”)»*, што ты па нейкім недаглядзе (ці з вялікага шанцунку) трапіў на сустрэчу членаў таемнага клуба, якія так шмат ведаюць пра экфрасіс, што гэта ўжо сталася выракам амаль «сакральных» ведаў. У пэўным сэнсе, сутнасны змест і механізмы

экфрастычнага мыслення настолькі відавочна акрэсліваюцца ў даследчым стылі аўтара кнігі «“Шаг в сторону от собственного тела…”: Экфрасисы Иосифа Бродского», што па меры назапашвання адпаведных прыкладаў можна гаварыць пра феномен ***літаратуразнаўчага экфрасіса***.

«…каждое стихотворение Бродского, равно как и всё его творчество в целом, предполагает “усилие понимания” — анализ внутритекстовых и контекстуальных связей» (с. 79), — падкрэслівае Т. Аўтуховіч у артыкуле *«Претворение экфрастического импульса в миф»*. Тое, што для кагосьці бачыцца намаганнем прымусовым, для аўтара манаграфіі, здаецца, ёсць умовай даследчай экзістэнцыі, намаганнем, якое прымаецца з відавочнай удзячнасцю, калі не з захопленасцю.

Гэтая захопленасць настолькі натуральным чынам спалучае ў сабе рацыянальнае і асобаснае, аналітычнае і эмацыянальнае, што нават чытач-мінак амаль не мае шанцаў не быць уцягнутым у вір гэтай даследчай страсці. Гэта як збірацца схадзіць на выставу ў музей, лянотна паблукаць паміж артэфактамі, а па выніку — аказацца ў свеце, дзе адзінай рэальнасцю ёсць рэальнасць Мастацтва, а панылая рэчаіснасць адтуль бачыцца такім няўдалым вопытам капіравання ***сапраўднага свету***.

Сутнасць паэтычнага экфрасіса Т. Аўтуховіч выяўляе аналітычна — і паэтычна, толькі гэта адметная паэзія, паэзія аналітыкі найвышэйшага (81, не менш) узроўню. Так, у артыкуле *«Стихотворение На выставке Карла Вейлинка: экфрасис как авторефлексия»* даследчык імкнецца не проста асэнсаваць, але як бы п(е)ражыць побач з паэтам адметнае адчуванне прасторы на карцінах нідэрландскага мастака: «Особый облик пространства на картинах Виллинка, где реалистически выписанный пейзаж благодаря специфическому (фантастическому) освещению производит впечатление мистического, нереального и образует эффект “магического реализма” (Виллинк предпочитал термин “воображаемый реализм”), поразил Бродского совпадением с его собственным представлением о катастрофическом характере времени как процесса энтропии и разрушения, ощущением пространства как “предела отчаяния” — картины Виллинка представляли собой убедительный пример визуализации этого ощущения» (с. 116).

У артыкуле *«Стихотворение* Посвящается Пиранези *как “обратный экфрасис” и автопортрет»* даследчык прапануе свой погляд на вытокі складанай структураванасці экфрастычных твораў І. Бродскага, фармулюючы разуменне яго тэкстаў як рухомага і разам з тым цэласнага семантычна-сімвалічнага феномена: «…множественность кодов прочтения — мифологического, живописного, литературного, биографического (творческого) обусловливает многослойность и многоуровневость текста, понимание которого возможно только при актуализации всех кодов» (с. 144).

Сугучнае, як бы «рэхавае», але разам з тым развітае і ўзмоцненае дэталізацыяй меркаванне знаходзім у артыкуле *«Советский дискурс в лирике Бродского: визуальный аспект»*: «На наш взгляд, специфика фокализации в поэзии Бродского заключается в ее монтажном характере: в произведении “стыкуются” множественные точки зрения и коды, смысловая многозначность слова и интертекстуальность, которые актуализируют многочисленные литературные и культурные ассоциации, в результате предметы и явления предстают преломленными через разные призмы, при этом создается стереоскопический эффект, аналогичный структуре повествования в прозе» (с. 178).

Прыведзеныя тлумачэнні цалкам прыдатныя, на наш погляд, для апісання даследчага стылю самой Т. Аўтуховіч. Яе тэксты маюць адметны сінтаксічны малюнак: разгорнутыя, нават галінастыя сінтаксічныя перыяды суседнічаюць тут (у абсалютнай, трэба сказаць, гармоніі) з лаканічнымі высновамі, падобнымі да выстралу: «“Руинный текст” в интерпретации Бродского и Виллинка — это апкалиптическое ощущение конца истории» (с. 117); «…“шаг в сторону от соб-

ственного тела" — это формула творчества, которую Бродский выводит как итог самоидентификации в процессе осмысления картин Виллинка» (с. 123).

Падобна таму, як галоўная функцыянальнасць экфрасіса звязваецца даследчыкам з функцыяй метатэксту (с. 159), унутраны змест артыкулаў, якія складаюць кнігу, ёсць ***карункава арганізаванай*** метапрасторай. Гэта прастора нязмушаных і нейкіх на дзіва жывых (нерытуальных, часам нават жарсных) сустрэч разнастайных кантэкстаў і падтэкстаў, метадалогій і канцэптуальных падыходаў, тэарэтычных штудый і аналітычных практык. Таму нават для мінімальна зацікаўленага (то бок не абсалютна стэрыльнага ў сэнсе эмацыйнай чуласці) чытача кніга Т. Аўтуховіч будзе выдатнай нагодай затрымацца надоўга ў гэтым насамрэч ***іншым*** свеце, дзе пануе нетутэйшая аналітычная страсць.

Паказальна, што гэтая страсць абгрунтоўваецца рацыянальным, аналітычным шляхам: «Попытаемся обосновать свою интерпретацию» (с. 154), — заўважае даследчык у артыкуле *«Апология искусства в стихотворении* Ritratto di Donna*»*. І неяк незаўважна для сябе самога чытач аказваецца ў дзіўна-дзівосных вандроўках па жывапісна-паэтычных сусветах. Прычым ёсць вялікая верагоднасць таго, што, нават ачомаўшыся недзе на скрыжаванні «тады» і «зараз», куды зачаравана, немаведама як прыйшоў следам за аўтарам, ты так і не прыйдзеш да згоды з самім сабою, дзе б ты хацеў застацца (напрыклад, хаця б у якім са Стамбулаў І. Бродскага?) і дзе застаўся па-за сваёй воляй, паланёны ці то страснай логікай, ці то лагічнай страсцю даследавання.

Надзвычай саманадзейна было б абвесціць, што адкрыліся нам тут і зараз усе вытокі і механізмы нараджэння гэтага ўнікальнага (не толькі для айчыннага гуманітарнага дыскурсу) даследчага феномена. Зрэшты, пэўныя знакі-ўказанні рэканструююцца з аналізу экфрасісаў І. Бродскага, напісаных ім у розныя гады жыцця. На падставе гэтага аналізу Т. Аўтуховіч прыходзіць да высновы пра «постепенное увеличение в них зоны молчания, прежде всего, за счет ослабления связи с конкретным произведением живописи и расширения диапазона собственно экзистенциальной проблематики, к которой подключаются метапоэтический и эстетический аспекты творчества» (с. 163).

*Маўчанне-як-спосаб-прамаўлення* падаецца адным з самых цікавых феноменаў і ў сучаснай беларускай паэзіі. І манаграфія Т. Аўтуховіч, убачаная ў адпаведным святле, як бы ў адмысловым зрэзе канцэптуальных ідэй і высноў, можа брацца за своеасаблівы падручнік па «тэорыі мастацкага маўчання». Тэорыі, палажэнні якой аргументуюцца вывучэннем эвалюцыйных працэсаў ў паэзіі аднаго з самых «экфрастычных» паэтаў сучаснасці: «Эволюция экфрасиса в творчестве Бродского — от миметического к условному, а затем к поэтике экфрастичности — может быть представлена как постепенное увеличение зоны молчания, не артикулированного, а подразумеваемого смысла» *(«Вместо заключения»*, с. 243)

Гэта якраз той выпадак, калі вытлумачальная мадэль, прызначаная для сутнаснага апісання паэтычнага феномена, утрымлівае шыкоўныя магчымасці для разумення феномена даследчага.

Рухаючыся ад другога раздзела кнігі Т. Аўтуховіч да трэцяй часткі *«Поэтика визуальности»* ў правільным тэмпе, чытач можа заўважыць, што пры захаванні асноўных параметраў даследчага стылю (суадносін аналітычнасці і эмацыянальнасці, ашчаднасці і грунтоўнасці, адметнага сінтаксічнага малюнка і г. д.) увага даследчыка сканцэнтравана на характарыстыках «поэтики взгляда, свойственной Бродскому» (с. 173). Гэта можа быць візуальны аспект савецкага дыскурсу ў лірыцы паэта альбо параўнальны аналіз умоўнага экфрасіса як інтэрпрэтацыі евангельскага сюжэта (праз супастаўленне вершаў «Рождественская звезда» І. Бродскага і Б. Пастарнака). Якраз у апошнім выпадку натрапляем на яшчэ адзін узор даследчай прынцыповасці з натуральным пераходам у прафесійную дакладнасць. То бок, калі І. Бродскі вызначае кампазіцыю верша Б. Пастарнака недакладна, гэта будзе не толькі заўважана, але і абгрунтавана (гл. с. 200—201).

У пэўнай ступені, падагульняльную функцыю ў сэнсе канцэнтраванасці асноўных тэарэтычных высноў і канцэптуалізацыі шматгадовага вывучэння творчасці паэта выконвае ў межах кнігі Т. Аўтуховіч артыкул *«Поэтика визуальности в экфрасисах Бродского»*. Тут як бы збіраюцца ў агульную плынь асобныя назіранні над вытокамі паэтыкі візуальнасці, якія звязваюцца даследчыкам з «метафизической природой поэзии Бродского, типологическим свойством которой является визуализация предельных абстракных сущностей» (с. 234). Тут ва ўсёй відавочнай дадзенасці (якая паўстае відавочнай пасля страсна-прынцыповых, даткліва-бесстаронніх тлумачэнняў, выспельванне якіх доўжылася гадамі) можна так выразна ўбачыць «механізм цуду», механізм ператварэння ўражання ад жывапісу ў паэтычны экфрасіс: дэталі ці сюжэты жывапіснага твора паэт «использует не в их визуальной данности, но прежде всего в концептуальной значимости, предполагающей бесконечное расширение ассоциативного поля, благодаря чему происходит “смещение” видимого мира, его преображение в ментальную реальность» (с. 238). Тут выкладваецца ў празрыстую (па літаратурасофскіх паняццях, вядома) формулу сутнасць экфрасіса як «портрета души автора, точнее — автопортрета, в котором он видит и осознает себя как Другого, что Бродский с присущей ему афористической четкостью выразил формулой “Шаг в сторону от собственного тела...”» (с. 242).

Тут, у рэшце рэшт, становіцца заўважным (магчыма, справа ў досведзе, набытым за час гэтай экфрастычнай экспедыцыі), як літаратуразнаўчы дослед ператвараецца ў *літаратурасофскае фламенка*, паэта- і паэзіяцэнтраванае, вядома. Заўважным — так, цалкам вытлумачальным — не. Што само па сабе якраз натхняе: ёсць нагода і нават жыццёвая неабходнасць экспедыцыі паўтараць. І нават не дужа істотнымі будуць мэта і маршрут. Галоўнае, каб той самы правільны ***вергілій*** меў час і натхненне зноў і зноў выпраўляцца ў экспедыцыі па не самых простых сусветах.

**Марына ЛЕБЕДЗЕВА**

# «КАБ БЫЦЬ ПАХОДНЯЙ, ТРЭБА СВЯЦІЦЬ»

***Журналістыка ў суладдзі з жыццём:*** *да 90-годдзя заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь, доктора філалагічных навук, прафесара Барыса Васільевіча Стральцова: зб. навук. прац / пад агул. рэд. канд. філал. навук дацэнта В. П. Вараб'ёва. — Мінск: БДУ, 2016. — 312 с.*

Палеміка паміж «архаістамі» і «наватарамі» — гэта заўсёды прыкмета культуры пераходнасці, спаткання эпох, сутыкнення светапоглядаў. Ды што казаць, калі часам і сам адчуваеш сябе нібыта полем бітвы паміж уласным кансерватызмам і ўласным жа імкненнем генерыраваць ідэі, быць прасунутым, чэрпаць, як кажуць, поўнай лыжкай магчымасці новага жыцця, падзеленага з пэўнага часу на рэальную і віртуальную прасторы. Таму ўвогуле не здзіўляешся, як цяжка дасягнуць гармоніі ў сутыкненні з навакольнай рэчаіснасцю. «Разбалансіроўка» павялічылася з надыходам новай інфармацыйнай рэальнасці, альтэрнатыўнай «жывому жыццю». Яшчэ цяжэй на гэтым фоне пераадолець спрадвечную дваістасць асобы, адлюстраванай у культуры, якая, у сваю чаргу, не церпіць няпраўды.

Зборнік навуковых прац «Журналістыка ў суладдзі з жыццём» прапануе рэцыпіенту апынуцца ў шматграннай творчай прасторы, у межах якой аўтары артыкулаў асэнсоўваюць тое, што немагчыма губляць у журналістыцы ў прыватнасці і ў культуры ў цэлым, нягледзячы на змену сучаснай тэхналагічай парадыгмы. Навуковы характар матэрыялаў зборніка прызначаецца перш за ўсё даследчыкам тэорыі і практыкі ў галіне журналістыкі, выкладчыкам, студэнтам, магістрантам, аспірантам. Але не варта абмяжоўваць мэтавую аўдыторыю выключна навукоўцамі ці нават журналістамі-практыкамі, бо ўзнятыя пытанні тычацца ўвогуле ўсяго гуманітарнага асяроддзя, складана ўладкаванага інфармацыйнага поля, у якім мы жывём.

Час патрабуе ад кожнага з нас мабільнасці, хуткасці, і ў імклівым руху мы звычайна губляем нешта важнае, бяжым, хапаючы «вяршкі», не заўважаем шматлікіх з'яў, якія адбываюцца наўкол. Гэта тычыцца не толькі тых, хто дзейнічае на ніве «тэхнічных навук», гэта самым непасрэдным чынам характарызуе і сучаснага гуманітарыя. І гэта турбуе. Турбуе тых, хто не абыякавы да чалавека, да жыцця, да абранай прафесіі. Невыпадкова, вядомыя беларускія журналісты, заклапочаныя пошукам суладдзя справы свайго жыцця з сучасным жыццём, апантаныя ідэямі пошуку шляхоў спалучэння традыцыі (у лепшым сэнсе гэтага слова) і навацый (таксама ў лепшым сэнсе), якія звязаны з развіццём інфармацыйных тэхналогій, медыйных рэсурсаў, сацыяльных сетак, звяртаюцца да спадчыны Барыса Стральцова, чалавека далікатнага і глыбокага ў журналісцкай прафесіі, у асветніцтве і ў жыцці.

Барыс Васільевіч Стральцоў (1926—2009) — заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь, доктар філалагічных навук, прафесар, выдатны журналіст, які працаваў у газетах «Чырвоная змена» і «Звязда», стваральнік айчыннай навуко-

вай школы ў галіне тэорыі журналістыкі. Значна і тое, што Барыс Васільевіч быў добрым чалавекам, сціплым, усмешлівым, захопленым журналістыкай як справай жыцця. Быў прынцыповым і сумленным чалавекам той эпохі, калі гэтыя якасці лічыліся каштоўнымі (яны і сёння шмат каштуюць, але людзей такіх наўкол, на жаль, не шмат). Мне пашчасціла працаваць побач з ім у апошнія гады яго жыцця. І я сведчу, што ёсць такія людзі, пра якіх кажуць: чалавек-глыба, то бок, вялікі і ГЛЫБокі чалавек, Асоба, Майстар.

Сведчу, канешне, не толькі і не столькі я, галоўнае, што гэта сцвярджаюць яго вучні, якія сёння з'яўляюцца мэтрамі журналістыкі, прызнанымі аўтарытэтамі ў абранай прафесіі, яркімі асобамі. Так, раздзел «Памяці Настаўніка», з якога пачынаецца зборнік, адкрываецца артыкулам Васіля Вараб'ёва «Журналістыка — гэта лад жыцця», дзе аўтар у першых жа радках адзначае: «Дадзеную мудрасць усім нам падарыў Журналіст, Даследчык, Настаўнік Стральцоў Барыс Васільевіч. Прамаўляючы гэтае імя, выпускнікі журфака розных пакаленняў мяжы XX—XXI стагоддзяў не скупяцца на эмацыйныя ўспаміны, не абмяжоўваюцца ў слушных развагах рэтраспектыўным "быў". Часцей у настальгічных меркаваннях націскаюць на аптымістычным "ёсць" — у журналісцкай *творчасці кожнага паасобку* і цэлых рэдакцыйных калектываў. Трывалую думку акцэнтуюць на верагоднасці прадаўжэння яго здабыткаў і высілкаў у навуцы і педагогіцы» (с. 5). Справядлівыя і дакладныя словы. А калі экстрапаляваць вылучанае намі ў цытаце на сучасны інфармацыйны працэс, з'яўляецца адчуванне, быццам сёння вось сам феномен «творчасці кожнага паасобку» выходзіць на першы план у культуры, таму што пры пасярэдніцтве сучаснай віртуальнай прасторы неверагоднымі тэмпамі развіваецца менавіта індывідуальнае, «прыватнае» пісьмо, ці, як справядліва прыкмячае Арцём Кавалеўскі, выкарыстоўваючы тэрміналогію галандскага гісторыка Жака Прэсэра, «эга-дакумент» (с. 114).

Між іншым бясспрэчна, што ў стварэнні тэксту як «асабістага дакумента» (вызначэнне М. М. Бахціна наконт твора, у якім «пупавіна, што злучае героя з яго творцам, не абрэзана») вялікую ролю адыгрывае маштаб асобы. І на гэты конт вельмі ёмістае выказванне Барыса Васільевіча Стральцова прыводзіць у сваіх «Этюдах об учителе» Леанід Екель: «Человек по сути своей "глубоководное существо". Он не может бесконечно без ущерба для духовной природы своей скользить по поверхности. Тем не менее все возможности для этого создаются. И возникает опасность того, что человек так и не встретиться с собственной глубиной… Бойтесь обмельчания души!» Па-першае, узгадаем разважанні пра «чалавека-глыбу» (і яшчэ раз пераканаемся ў невідавочных, але моцных сувязях паміж жыццятворчасцю і ўласна творчасцю), а па-другое, словы гэтыя маюць безумоўную каштоўнасць у кантэксце сучаснай культуры яшчэ і таму, што наўпрост праектуюцца на інтэрнэт-прастору, якая, з'яўляючыся прынцыпова новай пляцоўкай для быцця асобы, вылучае значны шэраг новых патрабаванняў да журналіста-творцы. І рызыка слізгацення па паверхні пры гэтым узрастае тым хутчэй, чым больш спакуса лёгкай славы за кошт павялічанай актыўнасці ў блогах і інстаграмах, колькасці дробных, але знарочыста правакацыйных публікацый у сацыяльных сетках, культывацыі «смажаных» фактаў, якія заведама прыцягнуць увагу аўдыторыі. Па зразумелых прычынах сучасныя інтэрнэт-тэхналогіі і быццё творцы ў віртуальнай культурнай рэальнасці не змаглі трапіць у кола даследчыцкіх пытанняў Стральцова, але майстар, як і ўсе вялікія празорцы, задоўга да з'яўлення самога феномена адчуў яго небяспечныя следствы, і найперш за ўсё — здрабленне душы чалавека.

Здаецца невыпадковым і тое, што ў кантэксце запытаў сучаснасці значную ўвагу тэарэтыкаў і практыкаў выклікае публіцыстыка, якая вызначаецца як «вышэйшы від грамадска-палітычнай літаратуры» (с. 26). З гэтага стральцоўскага тэзіса зыходзіць артыкул Таццяны Падаляк «Публіцыстыка як індыкатар аксіялогіі журналістыкі». Даследчыца абагульняе меркаванні розных навукоўцаў і пад-

крэслівае, што «публіцыстыцы ўласцівая актуальнасць, сацыяльна-палітычная накіраванасць, ацэначнасць і ўменне ўздзейнічаць на грамадскую думку» (с. 30). Віртуальная публіцыстыка падымае на шчыт усе значныя характарыстыкі ўласна класічнага варыянта і надае яму яшчэ адну важную якасць — аператыўнасць. І ў гэтым сэнсе публіцыстычнае слова сёння вельмі запатрабавана, а «публіцыстычнасць» выступае істотным фактарам жанраўтварэння сучаснага вэб-тэксту.

Увогуле даследаванні ў галіне жанраў журналістыкі, зробленыя Барысам Васільевічам Стральцовым, выклікаюць рэфлексію ў лепшых айчынных навукоўцаў і практыкуючых журналістаў. І пацвярджэннем гэтаму служыць, у прыватнасці, артыкул Таццяны Арловай «Метод Стрельцова». Яна адзначае, што «в классификации, предложенной Б. В. Стрельцовым, жанры отличаются по характеру объекта отражения, имеют конкретное назначение, разный масштаб выводов и обобщений, различаются по характеру языково-стилистических средств» (с. 21), і падкрэслівае, што «сама классификация журналистских жанров постоянно претерпевает изменения и “новые редакции”» (с. 21). Актуальнай у кантэксце нашай гаворкі з’яўляецца наступная выснова даследчыцы: «Сегодня главная жанровая особенность — освобождение от жанровых рамок, вполне свободное чередование документального, биографического, публицистического, художественного» (с. 22). Для кожнага сучаснага журналіста гэта вельмі важна — усведамляць, што інфармацыйная прастора сінтэтычная па сваёй натуры, што «жанры не следовало канонизировать», а «анализ реалий современной жизни органично или неорганично сочетается с жизнью автора текста» (с. 22—23). І вось тут зраблю важны, на мой погляд, акцэнт: ідэя сінтэзу ў рамках тэксту прынцыпова неспалучаных рэчаў на той падставе, што аўтар «так бачыць», ідэя пераадольвання абмежаванняў у жывым творчым працэсе, ідэя спалучэння рознастылёвых хадоў лунала ў паветры яшчэ сто гадоў таму ў мастацкай практыцы мадэрністаў і, безумоўна, паўплывала на сучаснае пісьмо. Больш за тое: нават першымі блогерамі сёння небеспадстаўна называюць тых мастакоў-публіцыстаў, якія стваралі свае «палотны» з фрагментарных тэкстаў, правобразаў сучаснага інтэрнэт-post.

Навуковая рэфлексія, звязаная з сучаснасцю журналістыкі, у артыкуле Людмілы Саянковай «Пассионарная личность» канцэнтруецца вакол генэзіса і развіцця такой значнай галіны культуры, як літаратурна-мастацкая крытыка: «В годы, когда еще не было столь тотального засилия массовой культуры, именно Б. В. Стрельцов первым обратил внимание на то, что литературно-художественная критика может выйти за пределы параметров “воспитывать анализом”, быть “движущей эстетикой”, если одной из функциональных особенностей этого вида творческой деятельности будет установка на развлечение. Тонко чувствуя время, податливость журналистики на изменения, он первым уловил “амбивалентность” литературно-художественной критики в условиях социокультурных трансформаций: быть частью культурного поля и подчиняться законам и логике товарного производства и обмена. По этой причине в критике будут массовость, стереотипность, развлекательность» (с. 37). Мадыфікацыі сучаснай літаратурна-мастацкай крытыкі, якая, знаходзячыся ў віртуальнай прасторы, шырока карыстаецца магчымасцямі гіпертэксту, мультымедыйнасці, інтэрактыўнасці, актуалізуюць усе пазначаныя характарыстыкі. Ім збольшага надаецца новы сэнс, яны «працуюць» сёння на новы фармат сувязі аўтара, творцы і інтэрнэт-карыстальніка.

Асобных слоў заслугоўвае і навуковая дзейнасць Майстра. «З вышыні пражытых гадоў, — падкрэслівае Алег Слука, — усё больш актуалізуецца каштоўная акалічнасць, якая заключаецца ў тым, што Б. Стральцоў адкрыў на факультэце журналістыкі вышэйшы творчы і інтэлектуальны прафесарскі калегіум. Сённяшнім маладым навукоўцам, якія ўладкоўваюцца на ўніверсітэцкую кафедру, абавязкова неабходна раўняць сваё жыццёвае крэда, навуковую і педагагічную кампетэнцыю па інтэлектуальных вышынях прафесара Стральцова» (с. 45—46). Бясспрэчна, для развіцця журналісцкай навукі было зроблена сапраўды шмат.

Адной з «гарачых» тэм для сучасных навукоўцаў, скіраваных на асэнсаванне прыроды творчасці, шляхоў мадэрнізацыі інфармацыйнай прасторы ўвогуле, застаецца тэорыя жанраў журналістыкі. Таму зразумела, што асобны раздзел зборніка прысвечаны непасрэдна тэндэнцыям і вектарам развіцця азначанай галіны. Цікавыя з агульнакультуралагічнага пункту гледжання назіранні знаходзім у артыкуле расійскай даследчыцы Кацярыны Выраўцавай «Теория жанров журналистики в условиях трансформации медиасистемы»: «Отдельно стоит сказать о влиянии эстетики постмодернизма на журналистскую творческую деятельность. Популярность колумнистики, развитие блогосферы, формирование так называемых авторских жанров — все это во многом обусловлено особенностями постмодернистской практики. Среди них наиболее влиятельны по отношению к жанрам журналистики, с нашей точки зрения, следующие: размывание границ между массовым и элитарным, профанным и сакральным, творческим и бытовым, подмена реально существующей картины жизни виртуальной реальностью, мозаичность композиции, всепроникающая ирония, интертекстуальность, игра как популярный способ диалога с аудиторией» (с. 56). Як кажуць, не зменшыць не дадаць. І ў гэтым кантэксце бясспрэчна своечасовай падаецца тыпалогія digital-жанраў, прапанаваная ў артыкуле іншага расійскага навукоўцы, Канстанціна Кіуру, які падкрэслівае, што «с возникновением глобального интернет-пространства возросла скорость работы журналистов, изменились сроки и частота сдачи материалов» і што «такой канал массовой информации, как интернет, влияет не только на форму, скорость передачи информации, но и на ее содержание и жанровую форму» (с. 63). З вылучаных і грунтоўна пададзеных жанравых трансфармацый звернем увагу на такія ноўшасці, як падкаст і мультыскрыпт: «Подкаст (Pod — производное от iPod и Cast — от Broadcast — радио- или телевещание) — цифровая запись, радио- или телепрограмма, которую можно скачать из Интернета» (с. 65); «мультискрипт (англ. Interactive video — интерактивное видео) можно сравнить с “Картой сайта”, которая имеется у большинства онлайн-ресурсов, главным предназначением которого является упрощение навигации в рамках одного большого видеоматериала» (с. 66). Дарэчы, культуралагічна цікавым бачыцца той факт, у адпаведнасці з якім шматлікія сутнасныя характарыстыкі digital-жанраў так ці інакш абумоўліваюцца карыстальніцкім попытам на спрашчэнне, шпаркасць і зручнасць спажывання інфармацыі. І гэта, канешне, паказальна.

Між тым, не гледзячы на нарастаючую «пагрозу» з боку інтэрнэту, працягвае сваё развіцце тэлебачанне. Тыпалагічную мадыфікацыю сучасных тэлежанраў прапануе Алеся Кузьмінова, зыходзячы з таго што «канвергенцыя, камерцыялізацыя вяшчальных СМІ, скіраванасць на інфатэйнмэнт — тэндэнцыі, якія, з аднаго боку, прыводзяць да паспяховага задавальнення глядацкага запыту праз пашырэнне асартыменту тэлевізійнай прадукцыі, але пры гэтым, нараджаюць цэлы шэраг тэарэтычных праблем, якія пераўтвараюцца ў сапраўдныя выклікі для сучасных даследчыкаў» (с. 71). Абапіраючыся на дыскурсны падыход, даследчыца вылучае пяць груп жанраў, то бок навінныя (факталагічныя), аналітычныя, інфармацыйна-забаўляльныя, мастацка-забаўляльныя, рэкламныя; яны, у сваю чаргу, класіфікуюцца, але толькі першыя тры прапануюцца да ўжывання ў галіне тэорыі журналістыкі на той падставе, што «прадукты, якія ўвайшлі ў тры групы жанраў тэлежурналістыкі, звычайна характарызуюцца серыяльнасцю (у адрозненне, напрыклад, ад музычных відэакліпаў) і непасрэдным дачыненнем да аб’ектыўнай рэчаіснасці (у параўнанні з тэлефільмамі), іх вытворчасць заўжды кантралюецца калектывам тэлевізійных рэдакцый <…> і вымагае збору і інтэрпрэтацыі вялікага аб’ёму інфармацыі з мэтай адпавядаць зафіксаванаму хранаметражу. <…> апісаныя праграмы першаснай мэтай маюць інфармаванне і/або выхаванне ў імператыўнай форме ці праз інфатэйнмент і валодаюць пэўнай грамадскай значнасцю» (с. 75). Такім чынам, даецца канкрэтны стрыжань, на які мае рацыю нанізваць

практычныя назіранні за канкрэтнымі экраннымі прадуктамі, рабіць практыка-арыентаваныя высновы, шукаць шляхі суладдзя паміж рознымі сродкамі масавай камунікацыі на зменлівым інфармацыйным полі. І зноў жа ўзбагачаецца навуковае ўяўленне аб сучаснай тэлежурналістыцы.

Абагульняючае гучанне ў прадстаўленым раздзеле зборніка мае артыкул Вольгі Самусевіч «Жанры сучаснай журналістыкі: фармальна-структурны аспект». Форма сёння сапраўды асэнсоўваецца як надзвычай важкая катэгорыя філасофскага кшталту. Дваццатае стагоддзе (а тым больш дваццаць першае) паставіла культуру перад шматлікімі выклікамі, прымусіла творцу шукаць асабісты ўнікальны стыль, вызваляцца з-пад прэсу традыцыяналізму. Дарэчы, славуты мастак Казімір Малевіч пазначыў, што «каждая форма свободна и индивидуальна». І гэта, як ні дзіўна на першы погляд, сугучна жанравым пошукам у галіне журналіцкай творчасці. Нездарма ў якасці эпіграфа да артыкула даследчыца абрала наступныя радкі Б. В. Стральцова: «У каждого жанра — индивидуальный облик» (с. 88). Вельмі важным бачыцца акцэнтаванне на рэканструкцыі сутнастных сувязяў паміж кампазіцыйна-архітэктанічнымі асаблівасцямі жанраў і зместам журналісцкіх тэкстаў, увасабленнем нацыянальнага светапогляду, светаадчування: «Журналісцкія жанры ўтвараюць пэўны слой інфармацыйных патокаў, які нясе ў сабе адлюстраванне бягучай рэчаіснасці, адбітак жыцця беларускага соцыуму, таму адпаведным чынам структурыруюць цыркулюючую ў аб’ектыўнай рэчаіснасці інфармацыю. Нацыянальна-культурная спецыфіка арганізацыі інфармацыйнай прасторы праяўляецца не толькі ў выглядзе розных спосабаў структурызацыі інфармацыйнага патоку, інакш кажучы, на ўзроўні медыяфармата, але і на ўзроўні зместу, у адборы ключавых паняццяў — канцэптаў — для фарміравання тэкставай прасторы» (с. 92). На фоне працэсаў глабалізацыі і непазбежнага нівелявання пэўных уласцівасцей першапачаткова розных культур уяўляецца бясспрэчнай неабходнасць адсочваць менавіта нацыянальныя варыянты быцця медыясферы; акрамя ж таго, «задача сучаснага даследчыка медыяжанраў ускладняецца неабходнасцю аналізу карэляцыі спецыфікі члянення тэксту з яго змястоўна-тэматычным напаўненнем; вызначэння ролі дыскрэтных кампазіцыйных адзінак, у тым ліку іканічных, у складзе цэлага; раскрыцця механізмаў узаемадзеяння вербальных і паралінгвістычных сродкаў; прагназавання магчымасці адэкватнага дэкадзіравання інфармацыі і інтэрпрэтацыі яе чытачом» (с. 92—93). Сказанае выключна актуальна яшчэ і таму, што сучасны чытач, спазнаўшы ў віртуальным сваім жыцці спакусу лёгкага самавыразу, імкнецца да неабмежаванай свабоды ў інтэрпрэтацыі тэксту; знакамітая формула творцы-мадэрніста, выяўленая на пачатку ХХ стагоддзя А. Г. Горнфельдам — «я мастак, я так хачу», трансфармавалася ў ХХІ стагоддзі ў «я чытач, я так хачу». Камунікатыўная роля чытача неўзабаве пашырылася; сучасны аўтар, каб дасягнуць адэкватнага ўспрымання з боку аўдыторыі, павінен няспынна шукаць баланс нават паміж самымі дробнымі ўзроўнямі формы і зместу тэксту, які адпраўляецца ў свабоднае плаванне па хвалях вялікай інфармацыйнай прасторы. Творчае «я», такім чынам, робіцца прэрагатывай ужо не толькі «адрасанта» камунікацыі, але і «адрасата», і гэта немагчыма не ўлічваць, абіраючы ці, лепш сказаць, выпрацоўваючы метадалогію ўласнай журналісцкай творчасці.

Лагічна, дарэчы, што наступны раздзел навуковага зборніка прысвечаны якраз мастацка-публіцыстычным жанрам: менавіта яны ў сілу сваёй спецыфікі аказваюцца скіраванымі на «вольную трактоўку». І таму аналіз эсэісцкага метаду ў кантэксце існавання сучаснай благасферы, прадпрыняты Раісай Меляшэвіч у артыкуле «Использование эссеистского метода в современной блогосфере» пападае, як кажуць, не ў брыво, а ў вока. «Аудитория с удовольствием читает новости на интернет-порталах, а за их интерпретацией обращается к авторам многочисленных блогов» (с. 119), — фіксуе даследчыца і адначасова звяртае

нашу ўвагу на гэтую важную прыкмету часу, працякаючага пад знакам інтэрнэт-камунікацыі, якая, у сваю чаргу, адкрывае нявіданую прастору для рэпрэзентацыі аўтарскага «я» і яго інтэрпрэтацый інтэрнэт-карыстальнікамі. Увогуле на працягу XX стагоддзя творцы імкнуцца знайсці максімальна дзейсныя «рэцэпты» самавыразу ў сваіх тэкстах, адлюстравання рэчаіснасці, прапушчанай праз сябе. Мабыць, таму такую папулярнасць набылі за гэты час і дакументальна-мастацкія творы, «традыцыя якіх на Беларусі вядзе свой радавод яшчэ з летапісных часоў» (с. 125). Галіна Тычко ў артыкуле «Дакументальны пачатак у мастацкай публіцыстыцы Беларусі» прасочвае генезіс айчыннага «рамана галасоў» — «споведзяў, сведчанняў і дакументаў чалавечай душы» (с. 126), і, бясспрэчна, гэта важна для паразумення нашай нацыянальнай творчасці.

Але вернемся да глабалізацыі. У раздзеле «Камунікатыўныя практыкі сучаснага медыйнага асяродка» шэраг артыкулаў так ці інакш закранае праблему быцця журналістыкі ў межах працэсаў міжкультурнай адаптацыі, сутыкнення нацыянальнага і глабальнага, глабальнага і індывідуальнага. Так, Ганна Басава ў артыкуле «Асаблівасці міжкультурнай камунікацыі ва ўмовах глабалізацыі» адзначае: «Новая глабальная агульнасць сутыкаецца з такімі сацыяльнымі з'явамі, як няроўнасць стартавых магчымасцей, фундаментальныя адрозненні ў культуры і ладзе жыцця народаў Захаду і Усходу, знікненне мноства традыцый, звычаяў, стыляў паводзін, праблема прызнання іншай культуры» (с. 132). Даследчыца пераканаўча паказвае на з'явы, якія «змяняюць дынаміку культуры ў самых глыбінных яе асновах» (с. 132), падкрэслівае, што «міжкультурная камунікацыя грунтуецца на працэсе сімвалічнага ўзаемадзеяння паміж індывідамі і групамі, культурныя адрозненні якіх можна распазнаць» (с. 133). Фактары, што абумовілі асаблівасці сучаснай міжкультурнай камунікацыі, спецыфічныя рысы апошняй, яе ўплыў на медыйную прастору — усё гэта трапляе ў фокус даследавання і набывае вялікае значэнне для асэнсавання намі сёння агульнакультурных змен.

«А изменения в культуре сейчас огромны» (с. 145), — з такога пасылу зыходзіць артыкул расійскіх навукоўцаў Ліліі Ягоравай і Дзмітрыя Туманава «Журналистика периода постмодерна: глобализация vs индивидуализация». Аўтары паказваюць на розныя бакі камунікатыўных працэсаў сучаснасці: негатыўныя («журналист может конструировать любую реальность, используя отобранные из действительности факты» (с. 146)), станоўчыя («компьютер превратил электронные средства массовой коммуникации в глубоко личную связь» (с. 146)), бясспрэчныя («дополнительный компонент “компьютер” не просто привнес в общение новые технологии, но и усложнил сам процесс коммуникации, значительно трансформировав его» (с. 147)), пераканаўчыя («сегодня массмедиа позволяют “читателю” реализовать себя как элемент бытия, а не просто потребителя информации» (с. 147)). Даследчыкі фіксуюць цікавы парадокс: «Сегодняшний потребитель-“читатель” предпочитает индивидуально-личностный подход к формированию информационного потока, тогда как массмедиа нацелены на массовое производство информации, причем часто они политически ангажированы и коммерциализованы, превращая создаваемые потоки новостей в товар, распространяющийся по принципам свободной рыночной торговли» (с. 149). Такім чынам, перад сучаснай журналістыкай паўстаюць новыя выклікі, і яна ў процiборстве глабальнага і індывідуальнага нясе адказнасць за баланс.

Дарэчы, праблема адказнасці журналістыкі вельмі шырокая, і на гэта звяртае нашу ўвагу артыкул Віктара Іўчанкава «Журналістыка — прафесія асаблівай вербальнай адказнасці». Аўтар аргументавана і паслядоўна раскрывае сутнасць медыятэксту і яго ролі ў жыцці грамадства, падкрэслівае, што «ў выявах аўтарскага “я” журналіста праглядаецца аблічча часу, месца і вымярэнне людской далучанасці да працэсаў пазнання навакольнага свету» (с. 157—158) і што «прырода, характар, асаблівасці СМІ ў сеткавай прасторы вызначаюцца важным для раз-

віцця мовы фактарам дзеяння тэорыі эканоміі маўленчых намаганняў» (с. 160). І сапраўды, немагчыма недаацэньваць істотны ўплыў журналістыкі на сучаснасць, вербальны вобраз якой яна стварае.

Немалаважным бачыцца і фактар росту ўдзельнай вагі PR-дзейнасці ў інфармацыйнай прасторы. Ірына Сідорская ў артыкуле «Связи с общественностью и журналистика: сближение коммуникативных практик» абгрунтоўвае працэсы ўзаемадзеяння якасных характарыстык сферы PR і журналістыкі, спасылаючыся на тое, што «хотя PR-информация действительно обладает свойствами инициированности, оптимизированности, селективности, это не противоречит ее соответствию базисным принципам, предъявляемым к журналистской информации, — достоверности, правдивости, полноты, точности и своевременности» (с. 170). На думку даследчыцы, «PR-специалисты и журналисты выступают не как контрагенты, “герои” и “антигерои”, а как представители единой команды» (с. 171), і наша сучаснае жыццё з яго ўскладнёнай схемай камунікацыі, безумоўна, спараджае і новыя спосабы ўзаемадзеяння субъектаў і прадукоўцаў інфармацыі. І апошнія, канешне, выпрацоўваюць стратэгіі суіснавання.

Між тым, камунікатыўная карціна сучаснасці была б няпоўнай без асэнсавання ролі ў ёй візуальнага кантэнту. Віктар Шымолін у артыкуле «Мегафотожурналистика в период визуальной эволюции мультимедийного пространства нового времени» разважае аб пераходным перыядзе фотажурналістыкі як феномена «художественного документализма» (с. 175) і адзначае, што «коммуникативно-технологический подъем и информационный взрыв конца XX — начала XXI века создал новую реальность, не имевшую аналогов в прошлом — мегафотожурналистику» (с. 175). Пры гэтым «эстетическая функция иллюстрации в электронном издании нового времени отошла как бы на второй план, уступая место ее эксклюзивности» (с. 177). Адзначым, што самы фактар эксклюзіва сёння займае выключнае месца ў камунікатыўнай практыцы ўвогуле.

Асобную ролю ў медыйнай прасторы адыгрывае вэб-журналістыка. Ёй прысвечаны ў зборніку і асобны раздзел. Расійская даследчыца Варвара Гарнавая ў артыкуле «Специфика функционирования социальных медиа» аналізуе феномен сацыяльных медыя, якія прайшлі «сложный путь развития от примитивных электронных досок объявления до многозадачных площадок» (с. 187). У артыкуле падкрэсліваецца актыўнае супрацоўніцтва паміж прафесійнымі СМІ і блогерамі, ідзе гаворка аб спрэчках наконт пагрозы поўнай падмены журналістаў непрафесійнымі аўтарамі, аб тэндэнцыях да персаналізацыі, прывабных для аўдыторыі, у прыватнасці, магчымасць фармавання незалежнага меркавання, «в то время как журналистский контент воспринимается как интерпретация позиции собственника средства массовой информации» (с. 188). Фактычна мы знаходзім яшчэ адно пацвярджэнне нашых разважанняў, паводле якіх сучасны карыстальнік глабальнай сеткі імкнецца быць незалежным «творцам», «стваральнікам» уласнай камунікатыўнай сістэмы. І, безумоўна, усё гэта вядзе да шэрагу змяненняў у журналістыцы. З гэтай нагоды, напрыклад, Аляксандр Градзюшка звяртаецца да праблемы трансфармацыі жанраў у артыкуле «Современные мультимедийные форматы аналитических жанров журналистики». Даследчык акцэнтуе ўвагу на двух важных фактарах, якія паўплывалі на мультымедыйныя фарматы сучаснай вэб-журналістыкі: «Первый — развитие мобильных платформ как следствие доступного и быстрого интернета; второй — новое поколение медиапотребителей, которые читают новости со смартфонов» (с. 196). Будучыню аналітычных жанраў навукоўца звязвае з фарматам «лангрыда», у аснове якога — прынцып мультымедыйнага аповеду. Гэта бачыцца даволі верагодным, тым больш што журналісты павінны ў любым выпадку адаптавацца пастаянна да аднаўляемых інфармацыйных тэхналогій, новых віртуальных пляцовак, законаў іх існавання і прадуктыўнасці. Наконт адаптацыі рэалій, дарэчы, разважае і Уладзімір Сця-

панаў у артыкуле «Возрождение интернет-мессенджеров: чем они могут быть полезны журналистам», фіксуючы, што «сегодня именно мессенджеры отняли у социальных сетей статус самого быстрорастущего сегмента коммуникационного рынка» (с. 230). Даследчык выяўляе тэхналагічныя і сацыяльныя перадумовы хуткага росту папулярнасці ІМ, і гэта інфармацыя вельмі карысная для журналістаў-практыкаў. «Эксперименты СМИ по использованию мессенджеров в качестве дополнительных каналов для вещания могут оказаться успешными, и главное здесь не столько наличие аккаунта, сколько понимание редакции, зачем он нужен и чего от него ожидают» (с. 235). Як бачым, пры ўсіх інавацыйных тэхналогіях галоўнае слова ўсё ж такі застаецца за чалавекам, які імкнецца быць у суладдзі з часам і жыццём.

А што да працэсаў канвергенцыі СМІ, то яны, безумоўна, хвалююць і навукоўцаў, і практыкаў. Заключны раздзел зборніка змяшчае даследаванні медыятэксту ва ўмовах канвергенцыі СМІ, і тут ідзе гаворка аб розных аспектах гісторыі і сучаснасці журналістыкі. У кантэксце ж нашай размовы хацелася б вылучыць артыкул Таццяны Дасаевай «Глыток жывой вады», які прысвечаны мастацкай творчасці Б. В. Стральцова, яго цудоўным абразкам. Менавіта яны — «заўважаныя пранікнёным зрокам журналіста і пісьменніка фрагменты рэчаіснасці, аб’яднаныя асобай аўтара: пейзажныя замалёўкі, жыццёвыя гісторыі, філасофскі роздум, асацыяцыі, успаміны, мроі, лірычная споведзь» (с. 258—259). Заўважу, да якой ступені ўсё гэты актуальна сёння, калі актыўным жыццём жыве віртуальная прастора творчасці. Па сутнасці, сучасныя творцы, якія імкнуцца да самараскрыцця ў благасферы ці на адкрытай пляцоўцы сацыяльнай сеткі, якія пішуць свае фрагментарныя «посты» для «невядомых сяброў», якія адчуваюць патрэбу «сказаць сэрца», так ці інакш знаходзіцца ў рэчышчы традыцыі Барыса Васільевіча Стральцова, які даў усім нам узор адзначанага мастацка-публіцыстычнага жанру, неверагодна патрэбнага, актуальнага, прыгожага і шчырага.

І на прыканцы ўзгадаю радкі Майстра: «Каб быць паходняй, трэба свяціць». «Гэтым друкаваным зваротам ён заклікаў журналістаў да прафесійнага, кваліфікаванага, творчага ўдасканалення інфармацыйнай прасторы Беларусі» (с. 8). І ўсім тым, хто дзейнічае на асветніцкай ніве, хто сее новае зерне ў новую глебу, хто сваёй справай дасягае суладдзя з сучасным жыццём, варта памятаць і берагчы добрую традыцыю і добрыя запаветы.

**Мікола ХМЯЛЬНІЦКІ**

# «НЕ МАГУ ЗДРАДЗІЦЬ СВАІМ КАРАНЯМ, СВАЁЙ МОВЕ, КУЛЬТУРЫ»: навуковыя і творчыя набыткі Вячаслава Рагойшы



Сёлета навукова-адукацыйная грамадскасць нашай краіны адзначае высокі юбілей Вячаслава Пятровіча Рагойшы — доктара філалагічных навук, прафесара кафедры тэорыі літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Словы, вынесеныя ў загаловак, сталі, як падаецца, жыццёвым і творчым крэда нашага юбіляра — вядомага гісторыка і тэарэтыка літаратуры, крытыка, перакладчыка, паэта, аўтара і рэдактара шматлікіх даследаванняў у галіне тэксталогіі, настаўніка цэлай кагорты вучоных і педагогаў рэспублікі. І ва ўсіх гэтых сваіх іпастасях Вячаслаў Пятровіч вельмі арганічны і непаўторны.

Дык у чым жа феномен В. Рагойшы, імя і працы якога сёння з’яўляюцца своеасаблівым брэндам беларускага літаратуразнаўства і адукацыі? Для разумення шматграннай асобы Вячаслава Пятровіча і раскрыцця яго навукова-творчай індывідуальнасці спынім увагу на вызначальных момантах жыцця, дзейнасці і творчасці юбіляра, бо вельмі часта жыццё трансфармуецца ў творчасць, а творчасць неўпрыкмет набывае рысы рэальнасці.

## Выкладчык і педагог

Вячаслаў Пятровіч заслужана карыстаецца высокім аўтарытэтам сярод выкладчыкаў, аспірантаў і студэнтаў сваёй alma mater, якія ведаюць і паважаюць яго як высокакваліфікаванага спецыяліста-філолага, нястомнага даследчыка беларускай і замежнай літаратур, бліскучага выкладчыка, які прафесійна спалучае ў практыцы выкладання традыцыйныя і сучасныя адукацыйныя тэхналогіі.

Педагагічна-асветніцкая і навуковая дзейнасць В. Рагойшы, пачынаючы з 1958 года, непасрэдна звязана з філалагічным факультэтам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта: студэнт аддзялення беларускай і рускай мовы і літаратуры, аспірант, выкладчык, старшы выкладчык, дацэнт і, нарэшце, прафесар кафедры беларускай літаратуры, загадчык кафедры тэорыі літаратуры. Вячаслаў Пятровіч у сваіх інтэрв’ю не раз прызнаваўся, што ангажаванасцю роднай літаратурай ён абавязаны сваім універсітэцкім выкладчыкам, асабліва А. Лойку і М. Ларчанку, якія заўважылі здольнага студэнта, далучылі да мастацтва слова, даследавання нацыянальнай літаратуры, падтрымалі яго ў нялёгкай дарозе да «высокай філалогіі».

Вячаслаў Пятровіч вось ужо пяцьдзясят год на высокім навукова-метадычным узроўні чытае лекцыі і праводзіць цікавыя практычныя заняткі, сведкам і непасрэдным удзельнікам якіх быў і аўтар гэтых радкоў. Падчас чытання свайго «фірменнага» курса «Уводзіны ў літаратуразнаўства» ён натхняў першакурснікаў веданнем прадмета, інтэлігентнасцю і незвычайнай эрудыцыяй. А яшчэ шмат гадоў Вячаслаў Пятровіч вучыў і выхоўваў філалагічную эліту нашай краіны на сваіх спецсемінарах, прысвечаных праблемам верша- і перакладазнаўства, літаратурных узаемасувязей, паэтыкі мастацкага твора. Знакавай падзеяй жыцця філолагаў-першакурснікаў была і застаецца фальклорная практыка, арганізацыю і кіраўніцтва якой ужо не адзін год ажыццяўляюць супрацоўнікі кафедры тэорыі літаратуры і вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору з унікальным фондам тэкстаў і запісаў твораў вуснапаэтычнага мастацтва.

Паралельна з працай на філалагічным факультэце В. Рагойша доўгі час выкладаў спецыяльныя дысцыпліны на факультэце журналістыкі, а таксама гісторыю беларускай літаратуры ў Інстытуце паліталогіі і сацыяльнага кіравання (1988—1991). Неаднаразова выступаў з цікавымі лекцыямі і дакладамі на навуковых форумах розных узроўняў у краінах былога СССР і Еўропы. Разам з прафесарам А. Мальдзісам ён ствараў Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, у якім пэўны час выконваў абавязкі намесніка дырэктара. А ў 1994 годзе па ініцыятыве і пры непасрэдным удзеле В. Рагойшы была створана кафедра тэорыі літаратуры, адзіная падобнага фармату інстытуцыя на прасторах філалагічнай адукацыі Беларусі, нязменным загадчыкам якой ён з'яўляўся больш за дваццаць гадоў.

І яшчэ хацелася б прыгадаць некалькі фактаў з педагагічнага летапісу шаноўнага юбіляра. В. Рагойша і яго калегі па кафедры шмат гадоў выкладалі для студэнтаў-філолагаў факультатыў «Прыкладное літаратуразнаўства», які ўключаў такія практыка-арыентаваныя дысцыпліны, як тэксталогія, літаратурнамастацкая крытыка, архівазнаўства, бібліятэказнаўства, літаратурнае рэдагаванне і карэктура і інш. Гэты факультатыў даў пуцёўку ў жыццё многім выпускнікам спецыяльнасці «Беларуская філалогія», якія з удзячнасцю ўспамінаюць урокі Вячаслава Пятровіча і супрацоўнікаў кафедры тэорыі літаратуры. Заканамерна тое, што напрацаваная база курса «Прыкладное літаратуразнаўства» стала ў 2010 годзе салідным падмуркам для адкрыцця новага для айчыннай філалогіі напрамку «Літаратурна-рэдакцыйная дзейнасць» спецыяльнасцей «Беларуская філалогія» і «Руская філалогія», а таксама новай спецыяльнасці магістратуры «Тэксталогія». Для эфектыўнага функцыянавання гэтага напрамку і спецыяльнасці другой ступені навучання В. Рагойша наладзіў эфектыўныя партнёрскія сувязі з рознымі выдавецтвамі, рэдакцыямі, музеямі, дзе студэнты і па сённяшні дзень маюць магчымасць прайсці вытворчую літаратурна-рэдакцыйную практыку, атрымаць глыбокія прафесійныя навыкі і ўменні.

В. Рагойша ўсе гады працы на філалагічным факультэце быў у авангардзе навуковай падрыхтоўкі студэнтаў і выпускнікоў: пад яго навуковым кіраўніцтвам і кансультаваннем было напісана шмат работ, якія перамагалі ў рэспубліканскіх конкурсах, абаронена 5 кандыдацкіх і 3 доктарскія дысертацыі. Удзячныя выхаванцы працягваюць і ўзбагачаюць даследчыя традыцыі свайго «навуковага бацькі».

Кіраўніцтва alma mater не раз узнагароджвала Вячаслава Пятровіча за шматгадовую плённую працу падзякамі і ганаровымі граматамі, а ў 2015 годзе ён атрымаў ганаровае званне «Заслужаны работнік БДУ».

Прафесар В. Рагойша актыўна працуе і для сярэдніх навучальных устаноў краіны. Ён працяглы час супрацоўнічае з Нацыянальным інстытутам адукацыі: з'яўляўся кіраўніком і членам аўтарскага калектыву па напісанні падручнікаў, дапаможнікаў і праграм для класаў з паглыбленым і профільным вывучэннем беларускай літаратуры, выступае перад настаўнікамі рэспублікі. Вячаслаў Пятровіч — аўтар

шэрагу падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для вышэйшай і сярэдняй школы Беларусі, рэкамендаваных Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь, тыпавых праграм, у якіх матэрыял па гісторыі беларускай літаратуры пададзены глыбока і цікава, арыентуючы студэнтаў і школьнікаў на шырокія інтэлектуальныя далягляды. Інтэрпрэтацыя гісторыка-культурных, літаратурных і мастацкіх з'яў у працах В. Рагойшы заклікае чытачоў да «садумання», да «сатворчасці», фарміруе эстэтычныя густы навучэнцаў, высокі навуковы ўзровень іх мыслення.

Нельга не ўспомніць добрым словам унікальнае выданне — «Паэтычны слоўнік» (дарэчы, адна з любімых кніг і чытачоў, і аўтара), які вытрымаў ужо тры выданні (1979, 1987, 2004) і стаў, без перабольшання, настольнай кнігай многіх педагогаў, студэнтаў ВНУ і вучняў сярэдніх школ, своеасаблівай Бібліяй філолага.

За сваю дзейнасць на педагагічна-асветніцкай ніве В. Рагойша ўзнагароджаны ганаровымі знакамі «Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь» і «Выдатнік друку Беларусі», а таксама Ганаровай граматай Савета Міністраў РБ.

## Літаратуразнаўца і крытык

Вячаслаў Рагойша займае адметнае месца ў кагорце айчынных даследчыкаў-літаратуразнаўцаў, плённа працягваючы традыцыі знакамітых папярэднікаў і сучаснікаў. Уражвае абсяг яго творча-навуковых інтарэсаў: нацыянальна-мастацкі вопыт і дыялог славянскіх літаратурных сістэм, сутнасць, генетычна-тыпалагічныя праявы і паралелі культурнага памежжа, беларуска-іншаславянскія сувязі, станаўленне і развіццё блізкароднасных літаратур ад старажытных часоў да XXI стагоддзя, іх змястоўная напоўненасць як з'явы нацыянальных культур і літаратурна-грамадскага руху, праблемы тэорыі і практыкі мастацкага перакладу.

Вячаслаў Рагойша ў 1967 г. бліскуча абараніў кандыдацкую дысертацыю па паэтыцы Максіма Танка, якая лягла ў аснову яго першай манаграфіі «Паэтыка Максіма Танка. Культура вобраза. Характар верша» (1968). Таленавіты даследчык ніколі не абмяжоўваўся гісторыяй беларускага прыгожага пісьменства, заўсёды імкнуўся разглядаць нацыянальную літаратуру ў кантэксце славянскіх і, шырэй, еўрапейскіх літаратур, пацвярджэннем чаму стала яго доктарская дысертацыя «Беларуская паэзія XX ст. у кантэксце ўсходнеславянскіх літаратур: Тыпалогія, рэцэпцыя, мастацкі пераклад», якую ён паспяхова абараніў у Інстытуце сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага (Масква, 1993 г.).

В. Рагойша — аўтар звыш тысячы навуковых работ, апублікаваных у Беларусі і краінах Еўропы (частка іх зафіксавана ў біябібліяграфічным паказальніку, выдадзеным бібліятэкай БДУ да 60-годдзя прафесара), ініцыятар, рэдактар і суаўтар шматлікіх літаратуразнаўчых выданняў, матэрыялаў канферэнцый і «круглых сталоў». У іх ліку каля трох дзясяткаў асобных выданняў: «Пераклаў Якуб Колас...» (1972), «І нясе яна дар...: Беларуская паэзія на рускай і ўкраінскай мовах» (1977), «Гутаркі пра верш: Метрыка. Рытміка. Фоніка» (1979), «Проблемы перевода с близкородственных языков: Белорусско-русско-украинский поэтический взаимоперевод» (1980), «Напісана рукой Купалы: Архіўныя знаходкі» (1981), «Кантакты» (1982), «Вяршыні: З невядомага і забытага пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча» (1991), «І адгукнецца слова ў слове...» (1992), «Тэорыя літаратуры ў тэрмінах» (2001), «Уводзіны ў літаратуразнаўства. Вершаванне: курс лекцый» (2002), «Літаратуразнаўчы слоўнік: тэрміны і паняцці» (2009), «Беларускае вершаванне» (2010), «Мой Трыглаў: Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч» (2012), «Асновы вершазнаўства» (2013) і інш. Такі грунтоўны навуковы здабытак Вячаслава Пятровіча — непаўторная рэалізацыя яго высокага прафесіяналізму, шматаспектнага і ўдумлівага стаўлення да скарбніцы нацыянальнага і сусветнага прыгожага пісьменства. Пры гэтым літаратура-

знаўчыя працы В. Рагойшы заўсёды вылучаюцца не толькі навуковай кампетэнтнасцю, шырынёй ахопу матэрыялу, але і выразнасцю, арыгінальным падыходам да прадмета даследавання, сведчаннем чаму з'яўлюцца шматлікія станоўчыя водгукі на яго выданні ў айчынным і замежным навуковым друку. У якасці прыкладу прывядзём словы вядомага ўкраінскага паэта, перакладчыка і літаратурнага крытыка, Героя Украіны Дмытра Паўлычкі: «Я одержав твій "Трыглаў"… Дякую Тобі — це буде в мене як найголовніша інформація про трох найбільших білоруських поетів, правда про силу й могутність білоруського духу».

У адным з даследаванняў В. Рагойша слушна зазначыў, што «дынамічнае развіццё беларускай літаратуры на працягу XX ст. абумоўлена не толькі ўнутранымі магчымасцямі і патрэбамі нацыі, але і засваеннем іншанацыянальнага эстэтычнага вопыту». І гэтую думку Вячаслаў Пятровіч пацвердзіў найперш плённай дзейнасцю на кампаратывісцкай ніве, а яшчэ і як шматгадовы старшыня Экспертнага савета ВАК рэспублікі, кіраўнік Савета па абароне дысертацый па гісторыі беларускай, рускай і замежных літаратур пры БДУ. Не аднаму суіскальніку вучонай ступені кандыдата і доктара філалагічных навук спатрэбіліся падтрымка і канструктыўныя парады В. Рагойшы, які прапаноўваў пагялдзець на творчасць таго ці іншага пісьменніка менавіта праз прызму параўнальна-тыпалагічнага вывучэння тэксту, што дазваляла выявіць гісторыка-культурныя асаблівасці міжкультурных кантактаў, скіраваныя на праекцыю будучыні з пазіцый агульначалавечых каштоўнасцей.

Выступленні В. Рагойшы на навуковых канферэнцыях рознага ўзроўню і ў розных краінах, выхад з-пад яго пяра любога артыкула, кнігі — гэта заўсёды падзея і для калег, і для навукоўцаў, і для студэнтаў, школьнікаў нашай краіны. Здзіўляе ў Вячаслава Пятровіча яго незвычайная творчая і навуковая актыўнасць апошніх дзесяцігоддзяў, пазначаная высокім пошукавым і асобасным максімумам. Тлумачыцца гэта, думаецца, і незвычайнай эрудыцыяй даследчыка, і тым, што пытанні развіцця беларускай літаратуры разглядаюцца ім у шырокім кантэксце з улікам міждысцыплінарнага падыходу (культуралогіі, этналогіі, псіхалінгвістыкі). А гэта дае магчымасць выявіць заканамернасці грамадска-літаратурнага, культуранага і эстэтычнага развіцця ў славянскіх краінах, часта па-новаму, свежа і арыгінальна прасачыць гісторыю ўспрымання і актуалізацыі тых ці іншых з'яў, тэндэнцый, арыенціраў, фактаў і г. д.

## Перакладчык і «літаратурны сувязны»

В. Рагойша — вядомы даследчык і майстар мастацкага перакладу. У прыватнасці, у яго ўзнаўленнях на беларускай мове выдадзены аповесць М. Кацюбінскага «Цені забытых продкаў» (1980), раманы А. Ганчара «Твая зара» (1985), У. Яварыўскага «Марыя з палыном у канцы стагоддзя» (1990), кніга твораў І. Франко «Народзе мой…» (2006) і інш.

Вячаслаў Пятровіч з'яўляецца ўкладальнікам арыгінальных кніг перакладаў, у тым ліку ўласных: знакамітага верша Янкі Купалы «А хто там ідзе?» больш чым на 80 моў свету (1982; разам з Я. Раманоўскай), усіх 22 санетаў песняра на 7 асноўных еўрапейскіх моў (2002; разам з Ж. Дапкюнас). Сярод уласных — кніга перакладной паэзіі (з украінскай, сербскай, харвацкай, баснійскай, чэшскай, славацкай, літоўскай, грузінскай і казахскай літаратур) «Вочы ў вочы, мыслі ў мыслі» (2013). Адзначым, што ўжо сама прадмова да гэтага зборніка «Пра мастацкі пераклад жартам і ўсур'ёз» можа служыць майстар-класам для перакладчыкаў-пачаткоўцаў, бо ў ёй аўтар глыбока і займальна распавядае пра творчую лабараторыю, спецыфіку перакладу, а таксама разнастайныя нюансы ў гэтай працы. Сам жа Вячаслаў Пятровіч нязменна сур'ёзна адносіўся і адносіцца да перакладчыцкай справы: «Творчая індывідуальнасць перакладчыка выяўляецца і

ў тым, наколькі глыбока ён успрымае арыгінал і якімі сродкамі, наколькі дакладна, па-мастацку дасканала ўзнаўляе яго семантыку і паэтыку ў духу сваёй мовы. Адна з галоўнейшых задач пры гэтым — узнавіць на роднай мове няўлоўнае ў арыгінале паэтычнае «рэчыва», тое «ледзь-ледзь» (Л. Талстой), што робіць літаратурны тэкст — мастацтвам, вершаванне — паэзіяй. Яшчэ адна важная перадумова высакаякаснага паэтычнага перакладу — блізкасць творчых і ідэйных прынцыпаў, характару таленту перакладчыка і аўтара арыгінала. «Вочы ў вочы, мыслі ў мыслі» — гэтак у духу беларускага народнага выслоўя павінны духоўна нітавацца паміж сабой два суаўтары: іншанацыянальны пісьменнік і яго перакладчык».

Ужо на пачатку свайго навуковага шляху В. Рагойша выявіў цікавасць да вывучэння міжлітаратурных сувязей — у 1962 г. яго даследаванне «“Кабзар” у перакладзе на беларускую мову Якуба Коласа» было апублікавана ў зборніку студэнцкіх навуковых работ Адэскага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Нельга не прыгадаць, што многія выданні ўбачылі свет дзякуючы супольнай працы Вячаслава Пятровіча і яго жонкі, калегі па працы ў БДУ Таццяны Вячаславаўны Кабржыцкай, кандыдата філалагічных навук, дацэнта, суаўтаркі і натхняльніцы многіх сямейных навукова-творчых праектаў. Літаратуразнаўчы тандэм прынёс такія плённыя вынікі, якім могуць пазайздросціць цэлыя навуковыя калектывы. Мяркуйце самі. Яны ўпершыню раскрылі многія невядомыя раней факты жыцця і творчасці выдатнага пісьменніка пачатку ХХ ст. Сяргея Палуяна (1890—1910) і ўклалі першую і пакуль што адзіную кнігу яго твораў «Лісты ў будучыню» (1986).

Па ініцыятыве Т. Кабржыцкай і В. Рагойшы да 150-годдзя Івана Франко быў выдадзены ў Беларусі том выбраных твораў Каменяра (2006), прадмова да якога належыць Т. Кабржыцкай, пераклады паэзіі, прозы і драматургіі, большасць з якіх выкананы спецыяльна для гэтага выдання, — В. Рагойшу. Да 200-годдзя Тараса Шаўчэнкі сужэнцы ўклалі, угрунтаваўшы належнай прадмовай і шырокімі каментарыямі, вялікі том усіх украінамоўных паэтычных твораў Кабзара ў класічных беларускіх перакладах «І мёртвым, і жывым, і ненароджаным...» (2004).

Таксама нельга не прыгадаць з перакладной скарбонкі юбіляра анталогію твораў з літаратур блізкага замежжа, названую паводле слоў Якуба Коласа «Мае браты, мае суседзі» (2008), у якой прадстаўлены ў лепшых беларускіх перакладах украінскія пісьменнікі Тарас Шаўчэнка, Іван Катлярэўскі, Іван Франко, Міхайла Кацюбінскі, Леся Украінка, Васіль Стафанік, Паўло Тычына, Максім Рыльскі, а таксама знакавыя постаці літаратуры іншых нашых суседзяў: палякаў, латышоў, літоўцаў (Адам Міцкевіч, Юльюш Славацкі, Юзаф Крашэўскі, Эліза Ажэшка, Яніс Райніс, Крысціёнас Данелайціс). А чаго каштуе вучэбны дапаможнік «Украінская літаратура і ўкраінска-беларускія літаратурныя ўзаемасувязі. У трох частках» (2012—2016)! Дзякуючы Таццяне Вячаславаўне і Вячаславу Пятровічу ўбачылі свет такія ўнікальныя даследаванні, як «Карані дружбы: Беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемасувязі пачатку ХХ ст.» (1976), «Слядамі знічкі: Пра Сяргея Палуяна» (1990), «Гісторыя славянскіх літаратур і праблемы іх параўнальнага вывучэння: тэорыя і практыка» (2015) і інш.

З прапанаванага пераліку перакладаў і даследаванняў можна пераканацца, што менавіта літаратура суседняй нам Украіны стала прадметам асаблівай увагі і даследчыцкай любові Вячаслава Пятровіча. Нездарма Д. Паўлычка ў адным са сваіх лістоў да перакладчыка зазначыў наступнае пра кнігу «Вочы ў вочы, мыслі ў мыслі»: «“Лісова пісня” Лесі Українки в твоєму перекладі так гарно звучить, ніби вона була написана білоруською мовою. Мова Мавки в цій драмі ніжна, і цю ніжність Ти майстерно передав… Твоя антологія українской поезії, представлена в цій книжці, також являе майстра…»

За дследаванні і папулярызацыю ўкраінскага прыгожага пісьменства ў Беларусі В. Рагойшу была прысуджана Міжнародная літаратурная прэмія імя Івана Франко, ён быў абраны сябрам Нацыянальнага Саюза пісьменнікаў Украіны.

## Паэт

Пытанні гісторыі і тэорыі літаратуры — адна справа, а мастацкае ўвасабленне ўспамінаў, думак і рэфлексій — іншая. Вячаслаў Пятровіч і тут не саступіў з аднойчы абранай дарогі служэння Слову: на працягу ўсяго свайго жыцця ён, як сапраўдны філолаг, канечне, пісаў вершы, зрэдку друкаваў (першыя вершы і допісы з'явіліся на старонках радашковіцкай раённай газеты ў 1957 г.), але толькі ў сталым узросце вырашыў надрукаваць асобны вершаваны зборнік пад назвай «Полюс цяпла» (2007), чым зрабіў, думаецца, адметны ўнёсак у гісторыю нацыянальнай паэзіі, засведчыўшы новы ракурс прэзентацыі вядомага матэрыялу. Кніга, з аднаго боку, вельмі прыватная (шмат прысвячэнняў блізкім людзям, сябрам і знаёмым), а з другога — уводзіць у шырокі кантэкст культуры і літаратуры, калі аўтар дэманструе вельмі дарэчы свае інтэлектуальныя і творчыя далягляды. Адчуваецца зарыентаванасць на традыцыі Купалы, Коласа, Багдановіча, а не на розныя паэтычныя «штучкі» на высокіх эксперыментальных абцасах, што, безумоўна, не можа не прывабіць удумлівага чытача.

Мікола Мішчанчук слушна заўважыў у рэцэнзіі на кнігу: «Полюс цяпла ў паэзіі Вячаслава Рагойшы шырокі, ахоплівае многія чалавечыя стасункі, прыродныя з'явы, падтрымліваецца і саграваецца ўнутранай энергіяй не растрачанай і ў час суровых выпрабаванняў аўтаравай душы. Паэт не двурушнічае, не выконвае ролю патрыёта, не зрываецца на крык, каб як гучней выказаць любоў да Радзімы — ён вышэптвае ёй маленне-малітву адданасці». Матывы адказнасці перад гісторыяй і будучыняй роднай зямлі, пафас сцвярджэння высокіх маральна-духоўных каштоўнасцей, спалучэнне асабістага і гарамадскага, надзённага і вечнага, гуманістычны пафас і філасофская значнасць паэтычнай думкі вызначаюць паэтычны свет зборніка «Полюс цяпла». А многія радкі гучаць афарыстычна і па-філасофску глыбока:

Не раз я спазнаў
Пацалунак нірваны,
Адкрыта жыву,
Што ў душы —
Гавару,
Бо компасам сэрца
Заўжды скіраваны
На полюс цяпла —
Беларусь.

## Краязнавец

Некалі ў адной з публікацый В. Рагойша адзначыў «Краязнаўцамі не нараджаюцца, краязнаўцамі становяцца», — і пацвердзіў гэтую думку асабістым прыкладам: нястомны краязнавец, захавальнік культурнага і асветніцкага скарбу Ракаўскага краю. Гэтая зямля памятае Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Элізу Ажэшку, Сяргея Пясецкага, Уры Фінкеля… Асобныя творы гэтых і многіх іншых пісьменнікаў увайшлі, напрыклад, у падрыхтаваную В. Рагойшам унікальную анталогію «Люблю наш край... Валожыншчына літаратурная» (2006).

Дзякуючы намаганням В. Рагойшы і Т. Кабржыцкай у Ракаве на базе сярэдняй школы праведзены пяць Міжнародных краязнаўчых навуковых «Ракаўскіх

чытанняў» з удзелам вядомых айчынных вучоных і замежных гасцей. У цэнтры гэтых чытанняў заўсёды былі і праблемы параўнальна-тыпалагічнага вывучэння літаратур. У бацькоўскім родавым гняздзе на сапраўдным прафесійным узроўні сям'я Рагойшаў стварыла ўнікальны прыватны Музей поліэтнічнай культуры заходнебеларускага мястэчка. Сярод яго першых наведнікаў былі народныя мастакі Беларусі Май Данцыг і Уладзімір Стальмашонак, сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, прафесары з Польшчы Базыль Белаказовіч і Тэлесфор Позьняк, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі Міхась Мушынскі, перакладчык «Новай зямлі» Якуба Коласа на польскую мову Чэслаў Сенюх, англійская паэтэса Вера Рыч, знакамітыя ўкраінскія і беларускія пісьменнікі Дмытро Паўлычка, Раман Лубкіўскі, Барыс Пятровіч, Віктар Шніп, Людміла Рублеўская, браты Фелікс і Язэп Янушкевічы, эліта журфака БДУ — Барыс Стральцоў, Віктар Іўчанкаў, Васіль Вараб'ёў, Пётр Дарашчонак, Аляксандр Свораб, Таццяна Дасаева… Акрамя таго, для насельніцтва ўсяго Ракаўскага краю «сямейны падрад» Т. Кабржыцкай і В. Рагойшы на працягу амаль дзесяці гадоў выпускаў культурна-асветніцкае краязнаўчае перыядычнае выданне «Ракаўскі шлях» (свет убачылі каля пяцідзесяці нумароў). «Настаўніцкая газета», адгукнуўшыся на яго першыя нумары вялікім артыкулам Алеся Карлюкевіча, мела ўсе падставы рэкамендаваць гэтае выданне для школы як вельмі карысны дапаможнік пры вывучэнні гісторыі і культуры Беларусі, мясцовага краязнаўства. Дзякуючы намаганням сям'і Рагойшаў на іх ракаўскім доме ў 2011 годзе была адкрыта мемарыяльная дошка, прысвечаная класіку беларускай літаратуры Уладзіміру Караткевічу, які любіў і неаднойчы наведваў Ракаўшчыну, сваіх гасцінных сяброў.

Шчырая любоў да малой Радзімы зрабіла В. Рагойшу нeпераўзыдзеным знаўцам і даследчыкам яе гісторыі і культуры, што знайшло ўвасабленне ў разнастайных публікацыях, прысвечаных слаўным сынам і дочкам гэтага куточка Беларусі. Падумалася: калі б кожны рэгіён нашага сінявокага краю меў такіх нястомных і дапытлівых краязнаўцаў, то мы б значна больш даведаліся пра гісторыю вёсак, мястэчак і гарадоў Беларусі, па-сапраўднаму ганарыліся б яе слаўнымі людзьмі і багатай мінуўшчынай.

## Культурны і грамадскі дзеяч

В. Рагойша займаў і займае актыўную грамадска-культурную пазіцыю: удзельнічаў у стварэнні Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» (быў намеснікам старшыні), з'яўляўся вучоным сакратаром секцыі нацыянальных моў і літаратур Навукова-метадычнага савета па вышэйшай філалагічнай адукацыі Мінвуза СССР (1971—1987), членам Савета па мастацкім перакладзе Саюза пісьменнікаў СССР (1976—1991)... Высокі міжнародны аўтарытэт В. Рагойшы засведчаны яго ўдзелам у шэрагу рэспубліканскіх і міжнародных навуковых арганізацый: акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі (Масква), доўгі час быў старшынёй Міжнароднага фонду Янкі Купалы, членам праўлення таварыства «Беларусь—Украіна», з'яўляецца старшынёй секцыі беларускай мовы і літаратуры Рэспубліканскага навукова-метадычнага савета па падручніках і сродках навучання і Навукова-метадычнага савета па вышэйшай гуманітарнай адукацыі РБ і інш. Такая праца, як аднойчы падкрэсліў юбіляр у адным з інтэрв'ю, «займае шмат часу, прыносіць нямала клопатаў, турботаў, але разам з тым гэта дае магчымасць трымаць руку на пульсе сучаснасці, сучаснага грамадскага жыцця».

За плённую культурна-грамадскую і асветніцкую дзейнасць В. Рагойша ўзнагароджаны медалём, а пасля і ордэнам Францыска Скарыны.

## Муж і бацька

Нельга не прыгадаць яшчэ адну іпастась В. Рагойшы, без якой партрэт юбіляра будзе няпоўны — гэта яго сям'я: жонка Таццяна Вячаславаўна, трое сыноў і пяцёра ўнукаў. Любоў да слова, да культуразнаўчых і літаратуразнаўчых росшукаў бацькі «прышчапілі» і сваім дзецям, у жылах якіх пульсуе кроў трох усходнеславянскіх народаў. Старэйшы сын Усевалад бліскуча абараніў кандыдацкую дысертацыю па творчасці Алеся Гаруна, доўгі час працаваў дацэнтам на філалагічным факультэце БДУ. Сярэдні, Максім, гісторык, выдавец, даследаваў феномен «Нашай нівы», яе ролю ў развіцці беларускай культуры. А малодшы Пятро — паланіст па першай спецыяльнасці, кандыдат філалагічных навук, і юрыст па другой вышэйшай адукацыі — ажыццявіў вяртанне ў айчынны кантэкст асобы і творчасці Сяргея Пясецкага, яскравая творчая індывідуальнасць якога вырастала на скрыжаванні польскай і трох усходнеславянскіх літаратур і культур.

У лістападзе бягучага года Т. Кабржыцкая і В. Рагойша адзначаць яшчэ адзін цудоўны юбілей — залатое вяселле, якое стала, па трапным вызначэнні Уладзіміра Караткевіча і Адама Мальдзіса, «вяселлем веку» і на якім у Ракаве было шмат знакамітых гасцей (Міхась Ларчанка, Уладзімір Караткевіч, Ніл Гілевіч, Фёдар Янкоўскі, Алег Лойка, Язэп Семяжон, Сяргей Панізнік, Валянцін Рабкевіч, Генадзь Шупенька і інш.). Не кожная сям'я можа пахваліцца такой «залатой кагортай» гасцей, а яшчэ і паэтычным водгукам У. Караткевіча, які ўвекавечыў гэтую падзею, стварыўшы «Эпіталаму Таццяне і Славе»:

Кахання Бог у светлай сіле
Сядзіць між нас. Я п'ю нагбом
За вас: прыгожых, добрых, мілых,
За ваш стары і новы дом.
Да схілу дзён сваіх астатніх
Мы вам сябры. Няхай жыве
Наш гонар: Слава і Таццяна,
Сябры ад сёння і — навек!
Малю аб вечным і адзіным:
Хай будзе шчасны на вякі
Шлюб Беларусі і Украіны,
Шлюб Львова й Іслачы-ракі.

* * *

У перспектыўных планах В. Рагойшы — цікавыя і грунтоўныя даследаванні шматлікіх твораў беларускай і іншых славянскіх літаратур, плённая праца на ніве кампаратывістыкі, удзел у навуковых канферэнцыях, чытанне лекцый студэнтам філалагічнага факультэта… На рабочым стале прафесара — рукапіс новага артыкула, прысвечаны маладаследаванай праблеме вершавання Францыска Скарыны...

Упэўнены, нас чакаюць у будучыні прыемныя літаратуразнаўчыя і краязнаўчыя адкрыцці, здзейсненыя кавалерам ордэна Скарыны, прафесарам БДУ Вячаславам Рагойшам, а таксама цудоўныя хвіліны размоў і супрацоўніцтва з паважаным Настаўнікам і Калегам!

**Васіль ШУР**

# РЭГІЯНАЛЬНАЕ І НАЦЫЯНАЛЬНАЕ Ў АНАМАСТЫКОНЕ ЖЫХАРОЎ МАЗЫРШЧЫНЫ

Беларускія прозвішчы даследаваны даволі падрабязна. Лінгвістамі прааналізавана і растлумачана паходжанне, спосаб утварэння, тэрытарыяльная прыналежнасць больш за 56 тысяч такіх антрапонімаў. Аднак у вывучэнні рэгіянальнага антрапанімікону яшчэ нямала белых плям. У мінулым даследаванне прозвішчаў генеалогіі (радаслоўных) былі прывілеяй толькі меншасці, пераважна арыстакратаў, а між тым, як пісаў вядомы даследчык рускіх антрапонімаў У. Нікանаў, менавіта мільёны простых людзей, якім *«предков не полагалось»*, павінны ганарыцца сваімі прозвішчамі, продкамі, працай якіх створаны багацці і духоўныя набыткі краіны.

Утварэнне прозвішчаў ва ўсходніх славян, як прасачылі М. Бірыла і У. Нікачаў, дакладна дыферэнцыявана ў адпаведнасці з сацыяльным становішчам. Працэс іх станаўлення працягваўся больш за шэсць стагоддзяў: у князёў і баяраў яны сфарміраваліся ў XIV—XVI стст., у шляхты — у XV—XVII стст., у купцоў — у XVII—XIX стст., у сялян — у XVIII—XIX стст., а ў некаторых народаў былога СССР — у савецкі перыяд. Асноўнай падставай юрыдычнага замацавання прозвішча за пэўнай асобай з'яўляецца абавязковая дакладная ідэнтыфікацыя, якая выдзяляе чалавека ў грамадстве, а таксама вызначае прыналежнасць яго (індывідуума) да пэўнай сям'і, да пэўнага роду, саслоўя. Выдзяляюць наступныя галоўныя функцыі прозвішчаў як сямейных найменняў: 1) аб'ядноўваючая членаў сям'і ў склад адной «ячэйкі соцыуму»; 2) выдзяляючая членаў адной сям'і ў соцыуме і нібыта проціпастаўляючы іх іншым сем'ям; 3) выконваючая ролю галоўнага ідэнтыфікатара асабы, бо менавіта прозвішча — галоўны юрыдычна замацаваны кампанент у іменаванні чалавека. Такім чынам, *ідэнтыфікацыя* была абавязковай і неабходнай, хоць і спецыфічнай у розных народаў на любых этапах развіцця грамадства і станаўлення такіх адзінак, а першыя прозвішчы ў сучасным іх разуменні ў Еўропе ўзніклі на поўначы Італіі ў X—XI ст. (У. Нікачаў). Пачуўшы або прачытаўшы прозвішча, мы можам у шматлікіх выпадках здагадацца, якой нацыянальнасці яго носьбіт, дзе можа быць яго радзіма. Так, лічыцца, што прозвішчы тыпу *Іваноў, Раманаў, Сядых, Касых, Зыкаў, Манаенкаў, Федзін, Малінін* і інш. належаць рускім; *Пятрэнка, Каваленка, Казачук, Чарнаштан, Крыванос, Паддубны, Астапчук, Жаўтабрух* — украінцам; *Бржазіцкі, Сакалоўскі, Яндрыхоўскі, Бялкоўскі, Яблонскі, Шыдлоўскі, Радзінскі, Кжывань, Зарэмбскі, Герак* — палякам; *Плякайціс, Якубаўскас, Мельнікайтэ, Пакштас, Дайлідас* — літоўцам і г. д. Маюць свае спецыфічныя прозвішчы і беларусы: *Колас, Корань, Альха, Мароз, Сокал, Дрозд, Несцяровіч, Варановіч, Журовіч, Матрунёнак, Кавалёнак, Міхасёнак, Лапцёнак, Лабанок, Заранок, Кібянок, Іваненя, Каваленя, Пратасеня, Гарашчэня, Сяліцкі, Быліцкі, Зарэцкі, Лугоўскі, Бароўскі, Іваноўскі, Васілеўскі, Данілеўскі, Савіцкі, Маргун, Шагун, Сукач, Дзяркач, Махнач, Калеснік, Канаплянік, Тарас, Протас, Бутрым, Лозка, Слёзка, Федарэц, Піліпец, Купрэйчык, Вакульчык, Гаўрыльчык, Протчанка, Кольчанка, Данільчанка, Сільчанка* і інш.

У беларусаў тэрмін *прозвішча* (па-руску *фамилия*) не адразу замацаваўся як афіцыйная назва антрапанімічнага родавага і сямейнага наймення. Яму ў

беларускай, рускай, украінскай анамастыцы папярэднічалі *«празванне», «праіменаванне», «прізвище»* а таксама састаўныя тэрміны *«радавое празванне», «фамільнае прозвішча», «сямейнае найменне»* і інш. Дарэчы, беларусы першымі з усходніх славян, як сведчаць навуковыя крыніцы, набылі прозвішчы. З 2011 года па ініцыятыве Анатоля Статкевіча-Чабаганава выдаецца *«Летапіс беларускай шляхты»*. Апублікавана ўжо пяць тамоў гэтай серыі, прысвечаных гісторыі беларускіх родаў ад найстаражытнейшых часоў да нашых дзён. У «*Летапісе*…» даследаваны роды, прозвішчы, якія вядомы і на Мазыршчыне, у Лельчыцкім раёне. Можна прасачыць некаторыя этапы станаўлення гісторыі родаў *Ліпскіх, Рэвутаў, Дашкевічаў, Крукоўскіх, Тарасевічаў, Рудзінскіх, Акулічаў, Гурыновічаў, Сыцькаў, Сеўрукоў, Некрашэвічаў* і інш.

Не адразу прозвішчы замацаваліся за людзьмі ў цяперашняй іх функцыі. Першымі набылі прозвішчы князі, баяры, буйныя феадалы. На Беларусі і Украіне з XIV ст. вядомы магнацкія роды *Радзівілаў, Хадкевічаў, Тышкевічаў, Вішнявецкіх, Сапегаў, Патоцкіх, Алелькавічаў, Чартарыйскіх, Пацаў, Кішак* і інш., з XV ст. мелі прозвішчы некаторыя багатыя купцы, шляхціцы. Прыгадаем прозвішчы дзеячаў беларускай культуры і літаратуры: *Францішак Скарына, Афанасій Філіповіч, Андрэй Рымша, Фёдар Еўлашэўскі, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Пётр Мсціславец* і інш. Некаторыя з названых антрапонімаў можна назваць прозвішчамі толькі ўмоўна. У вядомым «Плачы» *Мялецыя Сматрыцкага*, напісаным у Вільні ў 1610 г., праваслаўны святар палемізуе і смуткуе, што тагачасныя і ранейшыя грамадскія і рэлігійныя дзеячы сярэднявечча здраджваюць свайму народу, забываючы родную мову, традыцыі свайго народа, рэлігію. Ён балюча перажываў страту для праваслаўнай царквы найлепшых сваіх сыноў, якія прынялі каталіцтва і ўніяцтва. Называючы самыя вядомыя на землях Вялікага Княства Літоўскага прозвішчы таго часу, з жалем пісаў: «*Дзе дом князёў Астрожскіх, якія ззялі больш за ўсіх іншых святлом сваёй старажытнай веры? Дзе іншыя каштоўныя камяні той кароны: князі Слуцкія, Заслаўскія, Вішнявецкія, Збаражскія, Сангушкі, Чартарыйскія, Пронскія, Ражынскія, Саламярэцкія, Галаўчынскія, Красінскія, Масальскія, Горскія, Сакалінскія, Лукомскія, Пузыны, якія пералічыць было б занадта доўга?.. Дзе іншыя мае каштоўнасці, дзе старажытныя, знатныя, моцныя ва ўсім свеце, славутыя сваёй мужнасцю і доблесцю: Хадкевічы, Глебавічы, Кішкі, Сапегі, Дарагастайскія, Войны, Валовічы, Зяновічы, Пацы, Халецкія, Тышкевічы, Корсакі, Храптовічы, Трызны, Гарнастаі, Мышкі, Гойскія, Гулевічы, Ярмалінскія, Каліноўскія, Кірдзеі, Загароўскія, Мялешкі, Багавіціны, Паўловічы, Сасноўскія, Скуміны, Пацеі*»?

Некаторыя з пералічаных антрапонімаў з XVII ст. успрымаюцца ў нашай свядомасці як польскія ў сувязі з тым, што частка феадалаў-беларусаў рана страціла сувязі, якія ядналі іх са сваім народам. Іх носьбіты выракліся сваёй мовы, звычак, традыцый бацькоў і землякоў і сталі актыўнымі прапагандыстамі і абаронцамі ўсяго польскага — мовы, фальклору, сямейных традыцый і іншых культурных набыткаў.

Улічваючы, што антрапанімія цесна звязана з этнаграфіяй, гісторыяй, геаграфіяй, вывучэнне такіх адзінак (прозвішчаў) дапамагае выявіць не толькі сутнасць і складанасць анамастычных праблем, але і растлумачыць, удакладніць некаторыя важныя з’явы і працэсы ў іншых навуках. Мабыць, кожны з нас, успамінаючы сваю малую радзіму, гатовы паўтарыць паэта Алеся Пісьмянкова: «*Калі марнею ад нягод / І сэрцу цесна, / Я ўспамінаю радавод / І продкаў песні*». Найперш гэта імёны, прозвішчы, мянушкі самых блізкіх нам людзей, а таксама мясцовыя назвы паселішчаў, лясных, лугавых, палявых мясцін, рачулак, сцежак, па якіх хадзілі ногі нашай маладосці…

Напрыклад, айконімы, прозвішчы амаль у кожнага, як сведчаць эксперыментальныя абагульненні, выклікаюць асацыяцыі пра малую радзіму, пра памятныя мясціны, самых блізкіх людзей, узнаўляюць уражанні дзяцінства, юнацтва. Між-

вольна ўспамінаюцца, напрыклад, паэтычныя радкі пра родны кут Пімена Панчанкі: «*Тут, у Лельчыцах, сэрца лечыцца, / І ў Добрушы добра жыць, / Задушэўная песня Рэчыцы / Можа кожнага заваражыць*». Каламбурна, але вельмі ёмка, эмацыйна гучыць кожнае слова. А першы радок гэтага верша нават засведчаны ў маляўнічым плакаце пры ўездзе ў Лельчыцы — сталіцу маёй малой радзімы.

Вядома, што беларускія прозвішчы характарызуюцца стракатасцю з пункту гледжання іх словаўтваральнага складу. Большасць з іх утворана пры дапамозе спецыфічных анамастычных суфікасаў *-іч / -ыч, -овіч / -евіч / -эвіч, -оў / -аў / -яў / -ёў, -ін / -ын, -енка / -энка / -анка, -еня / -эня, -ёнак / -онак, -ук, -юк,* якімі выразна падкрэсліваецца нацыянальная ідэнтыфікацыя іх носьбітаў*: Міцкевіч, Кавалевіч, Колас, Кулак, Богдан, Вакульчык, Дарашэвіч, Гаўрыловіч, Выдрыч, Руновіч, Мацулевіч, Серада, Лось, Сокал, Чыгрынаў, Барвенаў, Лунёў, Васіленка, Пятрэнка, Пішчанка, Стральчэня, Шупеня, Кляўчэня, Плаксёнак, Пісаронак, Кавалёнак, Трафімук, Клімчук* і інш. Такія адзінкі, асабліва за межамі нашай краіны, выразна выдзяляюць беларусаў сярод іншых народаў, у шэрагу выпадкаў нават «падказваюць», з якіх рэгіёнаў Беларусі мог быць носьбіт пэўнага прозвішча, кім з’яўляліся і яго продкі ў мінулым (сялянамі, шляхтай і інш.). Напрыклад, прозвішчы на *-оў, -еў, -ін, -ын* уласцівы пераважна паўночнаму ўсходу Беларусі (*Віцебшчына, Магілёўшчына*, усходнія раёны Гомельшчыны). Выразна і пераканальна гэта відаць на прыкладзе прозвішчаў беларускіх пісьменнікаў, вядомых дзеячаў навукі, культуры, ураджэнцаў названых абласцей Беларусі: *М. Лынькоў, В. Быкаў, А. Куляшоў, І. Чыгрынаў, С. Законнікаў, А. Ушакоў, В. Матэвушаў, П. Пруднікаў, І. Шамякін, Р. Барадулін, А. Вялюгін, Г. Бураўкін, А. Грачанікаў, Я. Сіпакоў* і інш.

У беларусаў прозвішчы з суфіксамі *–оў,-еў* складаюць 19,5 %, на Украіне 2,2 %, з суфіксамі *–ін, –ын* — ад 6 % да 8,1 % і 2,5 %. Найбольш частыя прозвішчы з фармантамі *–оў, –еў* у балгарскай антрапаніміі і складаюць там 77,1 %.

Некаторыя мае землякі, выехаўшы за межы радзімы, змяняюць, падпраўляюць свае прозвішчы на гэты ўзор: *Калеснік→Калеснікаў, Лягун→Легуноў, Крупнік →Крупнікаў* і інш. Так, І. Лепешаў на матэрыялах прозвішчаў сваёй вёскі *Іскозы* Дубровенскага раёна пераканальна паказаў і ўдакладніў, як пераважна мясцовыя віцебскія мянушкі пад уплывам экстралінгвістычных фактараў ператвараліся ў афіцыйныя прозвішчы на тыповы ўзор рускай словаўтваральнай мадэлі тыпу *Лепеш→Лепяшоў (Лепешаў), Кот→Котаў, Голуб, Галубец→Галубцоў, Міна (уласнае імя)→Мінін, Каліна, Калінік→Калінін* і г. д.

Гэтая з’ява — выраўноўванне беларускіх прозвішчаў на ўзор рускай словаўтваральнай мадэлі — была тыповай і масавай, асабліва ва ўсходніх раёнах Беларусі пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай. А ў 1897 годзе, як вядома, праводзіўся ўсеагульны перапіс насельніцтва тагачаснай Расійскай імперыі і прозвішчы карэнных беларусаў фіксавалі не з улікам усталяваных рэгіянальных традыцый, а пераважна рэкамендацый, выпрацаваных у сталіцы імперыі. Перапісчыкі, якіх спецыяльна вучылі, карысталіся дасланымі з Санкт-Пецярбурга цыркулярамі з адпаведнымі інструкцыямі і ўзорамі, у якіх падрабязна тлумачылася, як запаўняць і афармляць лісты. Перапісчыкі, як правіла, валодалі формулай трохчленнага рускага ўласнага наймення і ў працэсе запісу прозвішчаў, асабліва блізкіх па структуры, надавалі роднасным беларускім найменням стэрэатыпнае агульнарасійскае аблічча. Найчасцей перавага аддавалася ўжо ў значнай меры ўсталяваным «*стандартызаваным*» рускім, радзей польскім узорам прозвішчаў (А. Супяранская). Пра гэта, напрыклад, сведчыць наступнае. У класічнай працы М. Бірылы «Беларуская антрапанімія: уласныя імёны, імёны па бацьку, прозвішчы», на якую спасылаецца І. Лепешаў, у звычайнай табліцы пра беларускія прозвішчы засведчана, што ў XVI ст. прозвішчаў беларусаў на *–овіч (–віч*) утвораных ад імёнаў па бацьку, было 83 %, а на *–ов (–ев)* — 1,75 %, на *–ін* — 1,63 %, а ў наш час, як сведчаць сучасныя даследаванні (М. Бірыла, Г. Усціновіч), такіх імёнаў тыпу *Вярхоў, Кісялёў, Адамаў* — 24 %, а прозвішчаў на *–ін (–ын*) тыпу *Пысін, Івашын* — 7,88 %,

што з’яўляецца пераканальным вынікам істотнага экстралінгвістычнага ўздзеяння рускага антрапанімікону на беларускі.

Прозвішчаў на *–овіч (–евіч)* у беларусаў у наш час усяго 7,3 %. Дарэчы, такіх некалі вельмі пашыраных і вядомых на беларускім этнаграфічным арэале прозвішчаў (*Кавалевіч, Казакевіч, Івановіч, Васілевіч, Хадкевіч, Пяткевіч, Міцкевіч, Александровіч, Ермаловіч, Караткевіч* і інш.) цяпер усяго 4102. Усіх жа прозвішчаў у Беларусі 56300. Самыя частыя — на *–оў (–еў)*: 13506; на другім месцы — прозвішчы на *–скі (–цкі), –оўскі (–еўскі)*: 5535 (9,8 %); на трэцім — *ін (–ын):* 4435. Напрыклад, прозвішча *Шамякін,* як прасочана даследчыкамі, у асноўным сустракаецца на тэрыторыі Расіі. У Беларусі гэты антрапонім у першую чаргу асацыюецца з асобай народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна, які нарадзіўся на крайнім усходзе Гомельшчыны, у вёсцы *Карма* Добрушскага раёна. У іншых рэгіёнах Беларусі гэта прозвішча не сустракаецца, за выключэннем Мінска, дзе жывуць прадстаўнікі роду знакамітага пісьменніка. І. Капылоў прыводзіць некалькі этымалогій гэтага прозвішча: яно вельмі старажытнае, вядомае як мянушка з дахрысціянскіх часоў і ўтворана з двух слоў: ад фанетычнага варыянта апелятыва *шыя* і дзеяслова *мяць* і вытворных ад яго, накшталт выраз*у шыю мяць*. Такую мянушку маглі даць моцнаму, дужаму чалавеку — адным словам, асілку («Звязда», 20 жніўня 2013, с. 6).

Прозвішчы з суфіксамі *–овіч, –евіч, –іч, –ыч* бытуюць ва ўсіх кутках Беларусі, але найбольш тыповыя яны для цэнтральнай часткі і *Гродзеншчыны.* Параўнаем таксама: *К. Міцкевіч (Я. Колас), І Луцэвіч (Я. Купала), Ф. Багушэвіч, В. Дунін-Марцінкевіч, Н. Гілевіч, Я. Непачаловіч, У. Юрэвіч, М. Ермаловіч, А. Марціновіч, Г. Далідовіч, М. Багдановіч* і інш. Гэтая мадэль беларускіх прозвішчаў, як ужо адзначалася, аказала ўплыў на фарміраванне падобных прозвішчаў у польскай і рускай мовах, якія там атрымалі значнае пашырэнне ў XVIII і наступных стагоддзях. Ва Украіне гэтая тыповая для Беларусі мадэль сустракаецца радзей — 5,37 %. Дарэчы, вельмі пераканальна пісаў у свой час пра станаўленне такіх прозвішчаў М. Бірыла: у Маскоўскай дзяржаве ў XV—XVI стст. імёны па бацьку на *–овіч, (-евіч)* маглі насіць толькі прадстаўнікі самых высокіх саслоўяў, а ўсе іншыя асобы мелі імёны па бацьку на *–оў, –ін*. У ВКЛ — зусім іншая карціна: на 1500 выпадкаў імёны па бацьку на *–овіч, (–евіч),* мелі больш як 1200 асоб і толькі 50 асоб — на *–ов, (–ев), –ін*. Паступова ўжыванне імёнаў па бацьку становіцца «*ўстойлівай кніжнай традыцыяй, якая, несумненна, адыграла немалаважную ролю ў фарміраванні адпаведных прозвішчаў на –овіч (–евіч) і –ов (–ев)»*, а беларуская і ўкраінская мадэль на *-скі, -цкі* была запазычана ў XVII—XIX стст. рускай мовай, дзе таксама атрымала значнае пашырэнне. На беларускім этнаграфічным абшары прозвішчы на *-скі, -цкі* сустракаюцца паўсюдна, аднак найбольш характэрнымі яны будуць для *Гродзеншчыны*, заходніх раёнаў *Міншчыны* і ўсходу *Віцебшчыны*: *Я. Карскі, В. Сакалоўскі, С. Прытыцкі, К. Каліноўскі, М. Раманоўскі (Кузьма Чорны), А. Вярцінскі* і інш. Як падлічана, у беларусаў частотнасць прозвішчаў на *–скі, –цкі* вагаецца ад 10 працэнтаў ад агульнай колькасці (поўдзень і ўсход) да 30 працэнтаў на паўночным захадзе рэспублікі. Між іншым, мадэль прозвішчаў на *–скі, –цкі* — самая пашыраная з усіх вядомых у Польшчы. З гэтым фармантам там носяць прозвішчы 50 працэнтаў усіх палякаў. У чэхаў прозвішчы на *–скі, –цкі* маюць усяго 3 працэнты насельніцтва, у рускіх частотнасць гэтага фарманту ў прозвішчах не перавышае 4 працэнты, хаця гэта прыкладна 5 мільёнаў расіян. На ўсходзе Украіны з такімі суфіксамі ў прозвішчах прыкладна 4—6 працэнтаў, а на захадзе 12—16 працэнтаў яе карэнных жыхароў. У македонцаў, як і ў палякаў, прозвішчы на *–скі, –цкі* ахопліваюць палову насельніцтва, значная іх доля таксама ў балгараў — 18 працэнтаў.

Прозвішчы на *–еня (–эня),* паводле М. Бірылы, не ўласцівы суседнім рускай і ўкраінскай мовам і з’яўляюцца спецыфічна беларускімі, асноўныя іх арэалы —

*Случчына, Пiншчына, часткова Пружаншчына: Пратасеня, Каваленя, Галеня, Слышэня, Краўчэня, Кляўчэня, Варвашэня* i iнш.

На ўсходзе Мiншчыны i захадзе Вiцебшчыны тыповымi будуць прозвiшчы з суфiксамi *–онак, –ёнак*, якiя амаль не ўжываюцца за межамi названага арэала: *Кавалёнак, Мiхасёнак, Васiлёнак, Малашчонак, Лаўрынёнак*.

Межы асобных тыпаў прозвiшчаў часта не супадаюць з моўнымi i дзяржаўнымi межамi. Яскравы прыклад — вялiзны адзiны масiў прозвiшчаў на *–енка*, якi праходзiць упоперак моўных межаў i аб’ядноўвае ўсходнюю частку Украiны з усходняй Беларуссю. Для прыкладу, вядомыя пiсьменнiкi i вучоныя: *I. Навуменка, Б. Сачанка, Р. Сабаленка, У. Краўчанка, К. Кiрэенка, М. Ларчанка, В. Протчанка, I. Iгнаценка, М. Пiлiпенка, У. Анiчэнка, А. Сеўчанка* i iнш. Гэтую мадэль беларускiх i ўкраiнскiх прозвiшчаў М. Грынблат лiчыў вызначальнай адносна паходжання i рассялення крывiчоў, якiя побач з дрыгавiчамi адыгралi першаступенную ролю ў фармiраваннi беларускай нацыi. Ён, напрыклад, меркаваў, што вобласць пашырэння прозвiшчаў з суфiксам *–енка* (тыпу *Бандарэнка*), што цягнецца суцэльнай непарыўнай паласой з Сярэдняга Падняпроўя ў Верхняе i ўнiз па Заходняй Дзвiне, уключаючы i Полацк, сведчыць пра дняпроўскае паходжанне крывiчоў. М. Ермаловiч, мабыць, не без падстаў пярэчыў гэтаму аргументу, спасылаючыся на тое, што аднымi прозвiшчамi, iх мадэлямi, якiя з’явiлiся параўнальна нядаўна, нельга абгрунтоўваць з’явы глыбокай старажытнасцi.

У сувязi з шырокiм ужываннем прозвiшчаў на *-енка* ў Падняпроўi i Левабярэжнай Украiне, дзе яны ахоплiваюць у асобных рэгiёнах да 60 працэнтаў карэнных жыхароў, гэтую мадэль нярэдка лiчаць тыпова ўкраiнскай, што зусiм не правiльна, бо яна тыповая i для беларусаў з усходу краiны. Падрабязна межы арэалаў прозвiшчаў на *–енка* вызначылi вядомыя вучоныя Ю. Радзько i М. Бiрыла. Мiж iншым, яны не ўстанавiлi самага iстотнага — пашырэння прозвiшчаў на *–енка* iдзе не па мяжы беларускай i ўкраiнскай моў, а з поўначы на поўдзень, аб’ядноўваючы ўсходнiх украiнцаў з усходнiмi беларусамi i адрознiваючы тых i другiх ад астатнiх. Гэтыя вiдавочныя парадоксы мiжмоўнага ўзаемадзеяння пакуль яшчэ не растлумачаны i чакаюць свайго вырашэння.

Мiжмоўны беларуска-ўкраiнска-польскi арэал на захадзе, на стыку трох дзяржаў, маюць таксама прозвiшчы з суфiксамi *–ец, –ак, –ук, –юк*: *Кавалец, Пiлiпец, Глушак, Паўтарак, Андрыюк, Трафiмук, Клiмук, Блiзнюк, Сiдарук* i iнш. Так, мадэль прозвiшчаў на *–ук, –юк*, а таксама *–чук* (тыпу *Кавалюк, Кавальчук*) аб’ядноўвае да 27 працэнтаў украiнскiх прозвiшчаў з Валынi i Падолля, з прозвiшчамi палякаў у паўднёва-ўсходняй частцы Польшчы, а таксама беларусаў брэсцкапiнскага Палесся. Мiж iншым, на Брэстчыне прозвiшчы на *–ук, –юк* маюць аж 50 працэнтаў жыхароў, на астатняй тэрыторыi крiны — меней, а ў некаторых рэгiёнах гэтая мадэль прозвiшчаў адсутнiчае.

Уладзiмiр Лякiн — калiнкавiцкi краязнаўца, пiсьменнiк, выдаў кнiгу «*Фамилии Калинового края*» (2002), у якой пададзена гiсторыка-лiнгвiстычная iнфармацыя пра 300 самых вядомых на Мазыршчыне, пераважна калiнкавiцкiх прозвiшчаў, за апошнiя 150 гадоў. Самыя масавыя — *Змушка*, яго ў рэгiёне мае больш за 200 сем’яў. Больш за сотню ў Калiнкавiцкiм раёне вядомы з прозвiшчамi *Барысенка, Дулуб, Малашчанка, Новiк,* па некалькi дзясяткаў сем’яў — *Булаўка, Буцэнка, Века, Варабей, Гаркуша, Есьман, Зiнавенка, Каваленка, Карнеявец, Мятлушка, Петрушэнка, Пiнчук, Рудзеня, Савiцкi, Севярын, Старавойтаў, Судас, Тозiк, Харлан*.

Самыя частыя ў мяне на радзiме, у *Стадолiчах,* што ў Лельчыцкiм раёне, i вядомыя ўжо з XVIII ст. прозвiшчы *Жогла, Шур, Калеснiк, Крупнiк, Маркевiч, Малец, Белька* i iнш. Пра гэта, напрыклад, сведчаць матэрыялы з «*Хронiкi Убарцкага Палесся*» i кнiгi «*Памяць. Лельчыцкi раён*», дзе прыводзяцца самыя розныя звесткi розных часоў пра гэта паселiшча, яго жыхароў, у тым лiку i спiс групы самаабароны, створанай у перыяд Вялiкай Айчыннай вайны, з якой быў

сфарміраваны першы ў раёне партызанскі атрад. У ім 15 чалавек з прозвішчамі *Жогла Ціт, Жагла Фёдар, Жогла Васіль, Шур Міхаіл, Шур Стахей, Крупнік Даніла, Крупнік Міхаіл, Маркевіч Яўхім, Калеснік Стратон, Белька Сафрон* і інш. Некаторыя з гэтых антрапонімаў засведчаны ў пісьмовых помніках з XVIII ст. і ў мясцовым фальклоры: *Шур, Колеснік і Жагло / Засновалі Стодолічы-сяло, / А фамілії не такі — / Ето нашы прымакі*. Такі краязнаўчы лінгвістычны матэрыял дазваляе прасачыць паходжанне і час узнікнення некаторых вядомых у гэтым рэгіёне прозвішчаў, асноўныя заняткі іх носьбітаў. Большая іх частка ўтворана, на нашу думку, ад былых мянушак.

З канца XVIII стагоддзя ў *Стадолічах,* як сведчаць матэрыялы «*Хронікі Убарцкага Палесся*», было 10 сем'яў з прозвішчам *Жогла*, 10 з прозвішчам *Шур*, 6 з прозвішчам *Крупнік*, 5 з прозвішчам *Маркевіч*, 5 з прозвішчам *Белька*, 2 сям'і з прозвішчам *Смык*, па адной — з прозвішчамі *Грышка, Еўка, а таксама Відуля*, *Казачка,* відаць, сучасныя *Відура, Казачэнка*. Частымі засведчаны імёны *Іван, Аляксей, Мікола, Лявон, Пятрок, Апанас, Хведар, Антон, Павел, Дзяніс, Сцяпан, Якаў, Аніська, Кузьма, Яўхім, Дзям'ян, Васіль, Хадот, Гаўрыла, Навум, Макар,* а таксама адзінкавыя, якіх у сучасных *Стадолічах* няма: *Леўка, Есіп, Пархом, Патап, Лавар, Хама, Ананія, Кірэй, Агей, Самуйла, Лук'ян, Панцялей, Сава, Карп, Яўсей, Халімон.* Гэтыя імёны выразна ілюструюць архаізацыю мясцовага антрапанімікону.

У «*Хроніцы…*» прыводзяцца найбольш частыя імёны суседняга са *Стадолічамі* маёнтка *Лельчыцы*, як мы мяркуем, адрозненні ў імёнах жыхароў *Стадоліч* і тагачасных *Лельчыц* будуць нязначныя: «150 мужчын на той перыяд (1847 г.) мелі 72 імені, з якіх найбольш пашыраныя былі *Рыгор, Іван, Хведар,* далей — *Аляксандр, Андрэй, Дзмітрый, Кузьма, Пётр;* рэдкаўжывальнымі былі *Агей, Акула, Амяльян, Гілярый, Карп, Нічыпар, Парфен, Яўмен, Яўстрат.* 144 жанчыны мелі 51 імя, з якіх найболей распаўсюджанымі былі *Марыя, Аўдоцця (Аўдзюха), Ганна,* далей — *Кацярына, Параска, Прося, Матруна, Агафія, Настаха, Таццяна, Ульяна,* сярод рэдкіх сустракаліся імёны *Вася, Домна, Марта, Палашка, Паўліна, Сынклета, Тэкля, Хвеся, Хвядора* і інш.». Сяляне Убарцкай воласці мелі амаль цалкам праваслаўныя імёны, колькасць якіх складала больш за 100. Найчасцей хлопчыкаў называлі імёнамі *Сямён, Сцяпан, Іван, Хведар, Аляксей*, а таксама *Нічыпар, Трахім, Карп, Хама, Гаўрыла* і іншымі, паўзабытымі цяпер.

Пра паходжанне некаторых прозвішчаў, вядомых у сяле, існуюць наіўныя мясцовыя версіі: «...у *Стадолічах* прозвішча *Жогла* звязанае з туркамі. Калі ў гэта паселішча наехаў турэцкі атрад, адзін чалавек схаваўся ў падпеччы (*кучцы. — В. Ш.)* курнай хаты. Яго шукаў турак, нешта гаворачы па-свойму: *«жоглы»* (штосьці накшталт *«сукін сын»*). Ад гэтага часу мужык атрымаў мянушку *Жогла*, якая перайшла на яго дзяцей». Інакш тлумачыць гэта прозвішча У. Юрэвіч: «*Жогла, Жогліч* — той, хто валодае джалам ці нагрэтым прутком, каб выпальваць адтуліны ў любым матэрыяле». Дарэчы, падобнае прозвішча *Жогаль* частае ў вёсцы *Бялёў* суседняга Жыткавіцкага раёна. Адзін з *Жоглаў* увайшоў у гісторыю Стадоліч як бунтар, які выступіў супроць царскай адміністрацыі, што засведчана ў «*Хроніцы…*».

Прозвішча *Шур*, якое таксама даволі частае ў *Стадолічах* (па нашых падліках, другое пасля прозвішча *Жогла*), можна, як мы лічым, звязваць з апелятывам *шур, шурка* — лёгкае збудаванне, своеасаблівая павець, шопа, у якім рудакопы сушылі балотную руду. Так, у «Хроніцы...», дзе даецца апісанне рудняў *Убарцкай* воласці, паведамляецца пра цяжкую працу рудакопаў. Яны жылі ў *будах*, каля рудняў — месцаў, дзе з дрыгвы выцягвалі руду і сушылі ў *шурах: «Парабкаў па адным прыняць на год да валоў і коней на паташні зімой адразу дровы вывезці, каб высахлі... ставіць, бо паташ псуецца ад ветру і вільгаці, дзеля чаго адрыну, што стаіць на гародзе, перавезці. Шуры на абедзвюх будах паставіць з локамі*

*разам, старыя паправіць можна».* Такім чынам, можна меркаваць, што тыя, хто працаваў каля *шураў,* маглі метафарычна атрымаць мянушку *Шура* (*Шур* і падобныя), што паступова сталі *прозвішчам* — найменнем цэлай групы. Гэта часты і своеасаблівы спосаб утварэння прозвішчаў ад мянушак, якія ўзнікалі ад назваў прафесій, месцаў пражывання, асноўных заняткаў. Параўнаем прыклад, які прыводзіць В. Лемцюгова з пісьмовых помнікаў XVI ст. У ім паведамляецца пра пасёлкі-дворышчы, дзе жывуць родзічы — саўладальнікі па зямлі: *«дворище Шурович, на том дворищи Грин, а Сергей, Дмих, а Малец, сыны Шуровы»* (1557 г.). У Гарадзецкім сельсавеце на Кобрыншчыне вядома вёска *Шуры*, якая магла ўзнікнуць на ўзор згаданых вышэй дворышчаў. Хутар *Шур* да 50-х гадоў XX ст. быў вядомы ў Маларыцкім раёне. Аб цяжкай працы палескіх рудакопаў, буднікоў, сярод якіх вельмі верагодна маглі быць і *«сыны Шуравы»*, іх паўсядзённых занятках пісаў В. Маракуеў у кнізе «Полесье и полешуки. Из путевых заметок» (Адэса,1897): *«По глухим местам Полесья живут почти в диком состоянии семейства будников и рудников. Первые добывают поташ, вторые — железную руду. Это большею частью беглые от помещиков с Волыни или неизвестно откуда забредшие сюда люди. Разобщенные с остальным миром непроходимыми болотами, поселившись среди угрюмых лесов, они зарабатывают здесь себе скудное пропитание, добывают золу и руду; кроме того, на небольших клочках земли в лесах сеют рожь и ячмень. Дети их нередко по несколько лет остаются некрещенными; мертвых они хоронят сами. Рудники добывают болотную руду и обрабатывают ее на месте кусками в человеческую голову; затем руда отвозится в местные кузницы, где выбивается из нее и вытягивается железо; часть железа идет в собственность рудника, он делает из него сошники и другие мелкие вещи».*

У ваколіцах *Стадоліч* знаходзілася *Стадоліцкая Рудня* (1806), якая належала графу *Якаву Сіверсу*, на той перыяд яна мела 8 двароў і 110 жыхароў. Сучасная яе назва *Альховая*. Апрача гэтай *Рудні*, у розныя часы ў межах сучаснага Лельчыцкага раёна былі: *Рудня Тонежская* (1850); хутар *Рудня* (1876) сем вёрст ад Лельчыц; *Рудня Астражанская* (1777), сучасная назва *Убарцкая Рудня*; *Буйнавіцкая Рудня* (1800), у наш час не існуе; *Рудня Каросцінская*, яе іншыя назвы *Рудня Лельчыцкая* (1800), *Рудня Лохніцкая* (1800), сучасная назва *Лохніца*; *Рудня Мілашэвіцкая* (1795), яе іншыя назвы: *Рудня* (1879), *Старая Рудня* (1840), цяпер не існуе; *Рудня Сіманіцкая* (1850), яе іншыя назвы: *Рудня Сіманоўская* (1915), *Сіманіцкая Рудня* (1899); *Рудня Убарцкая* (1777), яе іншыя назвы: *Рудня Астражанская* (1867), *Рудня* (1864), *Убарцкая Рудня* (1867); *Рудніца* (1889) — вёска, якая знікла; *Руднішча* (1909) — вёска ў *Бараўскім* сельсавеце; *Рудніца* — правы прыток *Убарці*; *Рудніковая канава* — меліярацыйны канал каля вёскі *Ветвіца*; *Рудня* — урочышча каля вёскі *Сіманічы* і інш.

У многіх раёнах нашай краіны ёсць назвы вёсак і іншых паселішчаў, у аснове якіх слова *руда*: *Рудня, Валаўская Рудня, Рудабелка, Рудзенск, Белабярэжская Рудня, Глебава Рудня, Малевіцкая Рудня, Міхалкаўская Рудня, Убарцкая Рудня, Смалегаўская Рудня, Верхняя Рудня, Ніжняя Рудня, Рудня Шлягіна* і інш. Усяго каля 80 такіх назваў. У пачатку XX ст. даследчык Рэчыцкага Палесся Часлаў Пяткевіч, аналізуючы тапанімічныя назвы гэтага тыпу ў межах усяго Палесся, прыйшоў да высноў, што там жалезны промысел быў надзвычай тыповым, пра што, на яго думку, сведчаць сляды печаў і выплаўкі ў іх жалеза з мясцовай руды, а таксама тапанімічныя назвы з асновай *руд*.

У 20-я гады XX ст. мазырскі краязнаўца А. Крукоўскі таксама пісаў: *«Калі перагледзець па даведніку назвы населеных пунктаў на Мазыршчыне, дык выявіцца, што шмат іх паходзіць ад кораня «руд», а найбольш будуць — то Рудня, то Есіпава Рудня, то Рудня Скрыгалаўская, то Новая Рудня, то Еўтушкавіцкая Рудня і г. д. У кожным раёне, за выключэннем Азарыцкага і Тураўскага, ёсць 2—4 вёскі з назвай «Рудня» (Азарыцкі і Тураўскі раёны маюць па адной в. Рудня)...*

*А ўсяго такіх вёсак па акрузе — 31».* Такім чынам, рудны промысел, які быў даволі распаўсюджаным на Мазырскім Палессі, даў пачатак шматлікім тапонімам і антрапонімам, што засведчаны ў кнігах «Памяць» і іншых краязнаўчых працах: *Руднік, Рудніцкі, Рудзянок, Жалезнік, Жалязінскі (Зелязінскі).*

Крыху інакш тлумачыць паходжанне прозвішча *Шур* П. Сцяцко. На яго думку, яно семантычна вытворнае ад назоўніка *шур* — швагер. Ад яго з такім жа значэннем і царкоўнаславянскі апелятыў *шурь* (Фасмер); утворана ад яго (з суфіксам — *–ін)*, таксама сучаснае рускае і ўкраінскае найменне сваяцтва *шурин,* якому адпавядае беларускае слова *швагер*. Магчыма таксама і ад апелятыва *шур* — птушка *стрыж*.

Ёсць і мясцовае тлумачэнне паходжання прозвішча *Калеснік*. Сярод першых заснавальнікаў *Стадоліч* не было сваіх кавалёў, цесляроў, але да адной удавы прыйшоў у прымы татарын, які адстаў ад свайго войска. Гэты татарын, па другой версіі, адзін з палонных, які ўцёк ад татараў, аказаўся здольным кавалём, па-майстэрску вырабляў і правіў сякеры, косы, нажы, але асабліва *калёсы*. За гэта яму далі мянушку *Калеснік* (мясцовае *Колеснік*). З тых часоў у *Стадолічах* пайшлі не адзінкавыя *Калеснікі.* Пра самае рознае ўзаемадзеянне беларусаў і татараў (асабліва крымскіх) сведчаць розныя мясцовыя паданні і факты, засведчаныя ў гістарычных дакументах. Сярод жыхароў *Стадоліч* жыве паданне, што частка татараў у свой час асела ў суседняй вёсцы *Ліпляны.* Жыхары-прышэльцы, хоць і змяшаліся з мясцовым насельніцтвам, адрозніваюцца зрэдку знешнім выглядам, выяўляючы мангалоідныя абрысы твару, разрэз вачэй, колер валасоў. Вядома таксама, што за перыяд з 1474 па 1569 гг. крымскія татары зрабілі 75 паходаў-набегаў на землі ВКЛ, вярталіся яны ў *Крым* праз палескія балоты.

У 1507 годзе, як сведчаць гістарычныя хронікі, тураўскі князь *Міхал Глінскі* са сваім войскам разбіў дзесяцітысячную арду прышэльцаў, захапіў многа палонных і вызваліў каля 40 тысяч землякоў. Частка іх асела ў паўднёвых раёнах Палесся, асабліва каля *Турава, Давыд-Гарадка, Століна*, дзе захаваліся нават прозвішчы, якія сведчаць, што іх першымі носьбітамі маглі быць менавіта яны: *Бут-Гусаім, Бесан, Кураш, Буглак, Канчак, Кардаш, Кабак* і інш. Пра сказанае сведчаць і ўспаміны гарадчукоў, запісаныя і па-мастацку асэнсаваныя ў «*Фрэсках Пагарыння*» Уладзімірам Глушаковым — ураджэнцам тых мясцін.

Сярод стадоліцкіх *Калеснікаў* у «Хроніцы...», напрыклад, упамінаецца сельскі староста *Самуйла Калеснік*. Пра гэта прозвішча і шматлікія на Беларусі айконімы, утвораныя ад апелятыва *калеснік*, пісала В. Лемцюгова: «...у старажытную пару *калеснікі*, як і майстры ў іншых справах, аб’ядноўваліся ў невялікія хаўрусы, звычайна жылі ў адным паселішчы, якое называлася *Калеснікі* па агульным занятку яго жыхароў, працавалі пры панскіх маёнтках і фальварках. Частка такіх паселішчаў развілася ў больш буйныя, многія з іх абязлюднелі». Пяткевіч у сваёй класічнай працы «Рэчыцкае Палессе» сведчыў: *«Назву калёснік або калесьнік адносяць да майстра, які робіць толькі колы, што вымагае ўмельства, прылад і прыстасаванняў, якія даступны не кожнаму. Такія майстры ёсць не ў кожнай вёсцы: у той жа час воз без калёс (аплень) і сані ўмее зрабіць амаль кожны мужык... Калесьнік бывае і прозвішчам такіх палешукоў, што і наогул не памятаюць, ці быў у іх родзе калі калеснік»*. Назвы такіх прафесій даволі часта станавіліся прозвішчамі па вядомай мадэлі: *калеснік* (апелятыў) → *Калеснік* (мянушка)→*Калеснік* (прозвішча).

Вёскі, хутары, назвы якіх утвораны ад прозвішча або мянушкі *Калеснік*, ёсць у Браслаўскім, Глыбоцкім, Мёрскім, Бераставіцкім раёнах. Яно даволі частае ў беларусаў. У гэтай сувязі варта прыгадаць вядомага літаратуразнаўцу, пісьменніка з Брэста *Уладзіміра Калесніка,* аўтара ўнікальнай кнігі *«Доўг памяці»*, у якой ён падрабязна прасачыў свой радавод. Яго лёс, успаміны — удалы прыклад для пераймання, помнік сваім бацькам, сялянам-працаўнікам, юнакам і дзяўчатам пакалення, якое разам з ім з першых дзён Вялікай Айчыннай вайны бараніла

Бацькаўшчыну ад гітлераўцаў і гінула за яе. Дарэчы, у Брэсце ў гонар У. Калесніка названа адна з вуліц. Гэтае прозвішча мае таксама пісьменнік *Іван Калеснік*, які нарадзіўся ў вёсцы *Грычын* Дзяржынскага раёна, аўтар паэтычных зборнікаў *«Белыя каштаны», «Пяць сузор'яў», «Калі разам мы»* і інш. Такія «прамысловыя» прозвішчы маюць і некаторыя беларускія яўрэі. Так, У. Лякін, аўтар кнігі *«Фамилии Калинового края»*, пішучы аб прозвішчах сваіх землякоў з сучаснага Калінкавіцкага раёна, адзначыў, што ім сабраны з самых розных крыніц звесткі пра 300 прозвішчаў самых распаўсюджаных у яго на радзіме. Упамінае ён і прозвішча *Калеснік*, якое, па ягонай інфармацыі, прасочваецца з XVIII ст. Яго меў у Калінкавічах уладальнік прыдарожнай карчмы *Ёсель Калеснік* (1756—1808 гг.). У наш час у г. Калінкавічы пражывае 2 сям'і з прозвішчам *Калеснік*.

Роднаснае ў семантычным плане гэтаму антрапоніму і прозвішча *Стэльмах,* якое, як сведчаць карэнныя жыхары, замацавалася ў Стадолічах у 20-х гадах XX ст., калі ў сяло да адной жанчыны прыйшоў хлапец з Петрыкава з нетыповым для гэтых мясцін прозвішчам *Стэльмах*, які выдатна шыў кажухі і боты. Яно, паводле паходжання, зменены, трансфармаваны апелятыў *штальмах* (стэльмах) — той, хто майстраваў вазы, сані, брычкі (каламажкі). Пра такіх майстроў, вядомых на Палессі ў мінулым, пісаў Пяткевіч: «*Ёсць спецыялісты па брычках (каламажках) і вазках (выязных санках), што ўжываліся для святочных паездак. Яны вырабляюць таксама грузавыя вазы і сані намнога лепшыя за тыя, што робяць дылетанты. Такі спецыяліст называецца штальмах, пра якога, калі часам дапускае памылку, кажуць:* «*Штольмах, што ступіць шаг, то дасць прамах*»*.* Параўнаем таксама вядомае ў беларускай літаратурнай мове *стальмах* — майстар, які робіць калёсы, сані. Такім чынам, прозвішча *Стэльмах* утворана лексіка-семантычным спосабам па вядомай мадэлі: *стэльмах* (апелятыў, назва прафесіі)→*Стэльмах* (мянушка)→*Стэльмах* (прозвішча). Адзінкавым было ў 50—70-я гады XX ст. у Стадолічах і прозвішча *Аксюта.* Замацавалася яно ў паселішчы ад былога вайскоўца, які перад вайной служыў у Гарадку, што быў у даваенны час на паўдарозе са Стадоліч у Лельчыцы. Ураджэнец Віцебшчыны, старшына Іван Аксюта загінуў, змагаючыся ў партызанскім атрадзе, а яго вялікая сям'я жыла ў Стадолічах (тры яго сыны былі выдатнымі баяністамі). Прозвішча *Аксюта* лексіка-семантычнага ўтварэння: у яго аснове народна-гутарковы варыянт грэчаскага ўласнага імя *Ксенія* з выкарыстаннем экспрэсіўна-эмацыянальнага фарманту — *ют* на ўзор *Ксенія→Ксюта,* на пачатку антрапоніма пры збегу зычных развіўся прыстаўны О (А) *Ксюта→Аксюта*. Параўнаем падобныя па ўтварэнні гутарковыя варыянты імёнаў, вядомыя ў беларускай і рускай мовах: *Анюта, Васюта, Мішута, Данута, Улюта* і інш. Інакш тлумачыць гэта прозвішча У. Юрэвіч. На яго думку, *Аксюта* — гэта размоўны, памяншальны варыянт грэчаскага антрапоніма *Аксён,* утворанага ад апелятыва *ауксана*, што значыць «расці».

Даволі пашыранае ў *Стадолічах* і прозвішча *Крупнік*, якое, як і папярэдняе, утворана лексіка-семантычным спосабам ад назоўніка-апелятыва *крупнік*, што ў беларускай мове абазначае *«крупяны суп, крупеню»*, а ў старажытнасці — *хмельны мядовы напітак*, шырока вядомы на ўсёй Беларусі. У якасці ўласнай назвы *Крупнік* спачатку ўжывалася, відаць, як выразная мянушка, што дакладна характарызавала чалавека, які захапляўся, магчыма, мядовым напоем. Асабліва калі ўлічыць, што *Стадолічы* славіліся на ўсё Палессе высакаякасным мёдам. Амаль усе жыхары былі выдатнымі пчалярамі-бортнікамі. Такім словам маглі характарызаваць і чалавека, у якога крупяны суп (мясны кулеш) быў у асаблівай пашане. Дарэчы, аналізуючы мянушкі жыхароў вёскі *Вулька Лаўская* Пінскага раёна, Станіслава Каралевіч растлумачыла, чаму яе дзеда празвалі *Крупнікам*: *«бабуля аднойчы занадта гучна паклікала яго есці гэтую страву»*. Прозвішчаў у беларусаў, утвораных гэтым спосабам (тыпу *Груца, Дрозд, Куль, Абух* і падобн.), болей за 8200, што складае 14, 6 % ад усіх засведчаных беларускіх прозвішчаў (56300).

У анамастыцы, як піша В. Лемцюгова, апелятыў *крупнік* ужываўся ў метафарычным сэнсе: аматар *крупніку* — крупянога супу. Паводле гэтага прынцыпу ўзніклі многія іншыя імёны-мянушкі, суадносныя з назвамі страў (*Аладка, Юха, Боршч, Верашчака, Пшонка, Кісель, Каўбаса* і інш.). Дарэчы, у суседніх са Стадолічамі паселішчах ёсць прозвішчы гэтай і падобных семантычных разнавіднасцей: *Масла* (вёска Свіднае), *Боршч* (вёска Карма), *Калеснік, Сукач, Жогла, Сечка* (сяло Стадолічы) і інш.

Частае ў *Стадолічах*, як і ў суседніх *Буйнавічах*, і прозвішча *Сукач*. Паходжанне яго можна звязваць з дзеясловам-апелятывам *сукаць* — звіваць, скручваць у адну некалькі нітак (*сукаць пражу*), рабіць дратву. Верагодней, спачатку гэта была мянушка, якой характарызавалі мужчыну, які ўмела *сукаў* пражу. Дарэчы, у *Стадолічах* некалькі сем'яў *Сукачоў* дадаткова індэнтыфікуюць таксама калектыўнай мянушкай *Прадуны*, якія сведчаць, што занятак з пляценнем кудзелі, суканнем нітак быў у асяроддзі *Сукачоў* даволі тыповым і характэрным. Відаць, у іх сем'ях пралі кудзелю нават мужчыны, што нехарактэрна для астатніх жыхароў. Дарэчы, прозвішча *Сукач*, як мы лічым, замацавалася ў *Стадолічах* у выніку міграцыі асоб з іншых паселішчаў (магчыма, з суседніх *Буйнавіч*, дзе яно і цяпер даволі распаўсюджанае. Пра гэта ўскосна сведчаць матэрыялы з «Хронікі Убарцкага Палесся», дзе на канец XVIII ст. прыводзяцца спісы жыхароў *Стадоліч* і зусім не ўпамінаецца прозвішча *Сукач*. На Беларусі ёсць некалькі паселішчаў, утвораных, відаць, ад мянушкі *Сукач,* — айконімы *Сукач, Сукачы, Сукачоўка* вядомы ў *Драгічынскім, Ганцавіцкім, Жыткавіцкім, Гомельскім* раёнах. Таксама, напрыклад, вядома, як узнікла мянушка-прозвішча таленавітага беларускага паэта 20—30-х гадоў XX ст. *Міхася Чарота* (Міхася Кудзелькі). Прадзед паэта быў прыгонным панскім ткачом у Рудзенску. За ўменне лепш за іншых апрацоўваць палатно, разбірацца ў нітках, кроснах, кудзелях ён набыў пры двары мянушку *Кудзелька,* семантычна блізкую да названага прозвішча, якая затым як прозвішча замацавалася за родам знакамітага і здольнага ткача, а потым — і за таленавітым унукам.

Некалькі сем'яў у Стадолічах маюць прозвішча *Стасенка,* утворанае суфіксальным спосабам ад памяншальнай гутарковай формы *Стась,* якая ўзыходзіць да мужчынскага імя *Анастас* (ад грэчаскага *анастас* — уваскрэслы) плюс фармант *–енка*, уласцівы для ўкраінскага і беларускага анамастыкону. Магчыма, таксама і ад памяншальнай аманімічнай формы *Стась,* утворанай ад дахрысціянскага язычніцкага імя *Станіслаў,* дзе скарочаны варыянт *Стась* — сталы, стойкі. У аснове мадэляў такіх прозвішчаў, а іх у беларусаў 2625 (4,6 %), могуць быць асабовыя ўласныя імёны: *Іван→Іваненка, Васіль→Васіленка,* а таксама агульныя метафарызаваныя назоўнікі — апелятывы: каваль→*Коваль→Каваль → Каваленка; бондар →Бондар→Бандарэнка.* У гэтую ж разнавіднасць уваходзяць і прозвішчы *Баравічэнка, Казачэнка,* характэрныя для анамастыкону Стадоліч і суседніх паселішчаў (*Лельчыцы, Ліпляны, Баравое* і інш.). Першае ўтворана ад метафарызаванага апелятыва *баравік* з семантыкай «*чалавек, які мае адносіны да бору, жыве ў бары»* або «*высокакаштоўны ядомы грыб з светла- ці цёмна-карычневай шапкай і белай тоўстай ножкай*».

Не частае ў Стадолічах і прозвішча *Бо́гдан*, якое паводле паходжання акцэнталагічны варыянт дахрысціянскага княжацкага ўласнага імя *Багдан,* утворанага ад спалучэння *Богам дадзены.* Яно — тыповая калька з грэчаскага *Theodotos* — дадзены Богам. Ад гэтага імя ўтвораны шматлікія прозвішчы, вядомыя амаль ва ўсіх славянскіх і іншых еўрапейскіх мовах, у тым ліку такія частыя ў беларусаў, як *Багдановіч, Багданкевіч, Багданчык, Багдзевіч, Багдзей, Багданаў* і інш. Па гэтай тыповай беларускай мадэлі (*Багдан→Бо́гдан*) утворана лексіка-семантычным спосабам 820 (1,4 % ад усіх засведчаных) беларускіх прозвішчаў, напрыклад, *Тарас, Агей, Протас, Герасім, Селівон, Борыс, Сяргей* і інш.

Тыповае для *Стадоліч* прозвішча *Белька*, вядомае ў гэтым паселішчы з канца XVIII стагоддзя (засведчана на той перыяд 5 сем'яў). Паходзіць гэты антрапонім ад апелятыва *белы* — «пра чалавека з белымі або сівымі валасамі». Імя-мянушка *Белы* засведчана ў старабеларускіх пісьмовых крыніцах з XVI стагоддзя. Інакш тлумачыць паходжанне гэтага прозвішча У. Юрэвіч. На яго думку, такое найменне мог атрымаць вельмі ўвішны чалавек за падабенства з *белкай* (вавёркай) — самым няўрымслівым звярком, які цэлы год скача ў лесе з галіны на галіну, шукаючы сабе корм… А магло быць і інакш. Чалавека, які паляваў на зайцоў зімою, калі футра ў іх белае, і носіць яшчэ заячую белую шапку, маглі празваць *Белькам*. Прозвішча *Белька,* магчыма, на нашу думку, звязваць таксама з ландшафтным геаграфічным тэрмінам *бель (белька)*, шырока вядомым на Мазыршчыне, якім у самым агульным плане называюць забалочаныя мясціны сярод лесу, у полі, у якіх маецца вада, што ў летнюю пару звычайна высыхае. Так, даследчыкі тапаніміі Палесся (М. Талстой, Г. Іванова, І. Яшкін і інш.) у межах Мазыршчыны вызначылі наступныя тлумачэнні да мікратапонімаў *Бель, Белька, Беліца, Белка*: *Забалочанае месца пасярод лесу, дзе ў прыродным вадаёме маецца вада; Нізіна, якая вясною і летам мокрая, парасла альховым чарналессем, яе звычайна косяць* (Г. Іванова); *Невялікае, што перасыхае летам, балотца сярод лесу*. Жытк.; *Нізкая зарослая даліна з вадой* (Лельч., Ельск) і інш. Такім чынам, мянушку, а потым прозвішча *Белька* мог набыць у выніку пэўнай метафарызацыі чалавек, які жыў каля *белі (беляў)*, валодаў зямлёю, на якой былі *белі*.

Дарэчы, у *Стадолічах*, яго ваколіцах, ёсць мікратапонімы *Цыганская Бель, Кулымбава Бель*, урочышча *Бельнае (Белнэ)* на паўднёвым захадзе ад сяла. Г. Іванова засведчыла мікратапонім *Белькаў Рог* (в. *Балажэвічы*) як назву поля, якім, па ўсёй верагоднасці, валодаў чалавек з прозвішчам *Белька*. А ў «Хроніцы Убарцкага Палесся» паведамляецца, што ў 30-я гады XX ст. каля вёскі *Ветвіца* быў хутар *Забелянец*, які ўзнік за *«беллю»* (за балотам) адносна суседняга буйнейшага паселішча *Каросцін*. Ад гэтага антрапоніма на Беларусі ўтвораны шматлікія назвы паселішчаў: *Белічы, Бялевічы, Беліца, Белькава, Бялькова, Бяльковічы, Белькі, Бялькі, Бельчыцы*.

У Стадолічах і ў суседніх паселішчах Лельчыцкага раёна (Лохніца, Буйнавічы, Сініцкае Поле і інш.) вядома прозвішча *Бялоцкі*, якое мы лічым роднасным з прозвішчамі *Белька*, *Бялько, Белы* і падобныя. Як і папярэднія, яно вытворнае ад геаграфічнага тэрміна *бель.* Узнікла суфіксальным спосабам у спалучэннях апелятыва з антрапанімічным фармантам *–цкі (–скі): Бял (Бел) + –цкі→Белоцкі (Бялоцкі*), што адпавядае выразу «*той, хто пасяліўся, жыве пры белях*». У рускай мове ў гэтую разнавіднасць уваходзяць прозвішчы *Бяляй, Бяляеў.* Першае ўяўляла сабой дахрысціянскае ўласнае імя, якое магло ўказваць на светлы колер валасоў, твару або мець значэнне «*обеленный*», што ў рускай мове ў сярэднявеччы адпавядала выразу «*вызвалены ад падаткаў*» (У. Ніканаў). Па гэтай мадэлі ўтвораны прозвішчы тыпу *Бяляўскі, Бароўскі,* вядомыя ў суседніх паселішчах Лельчыцкага і Ельскага раёнаў (Карма, Заброддзе, Лельчыцы і інш.) У беларусаў прозвішчы з фармантам *–скі, (–цкі)* распаўсюджаны пераважна на Гродзеншчыне і Міншчыне, дзе іх працэнт даволі высокі — 19 %. Асабліва ж гэта мадэль прадуктыўная ў польскай антрапаніміі — 32 %.

Адзінкавыя ў Стадолічах прозвішчы з фармантамі *–оў, (–аў): Лаўроў, Легуноў, Яськоў*. Так, *Яськоў* можна выводзіць ад уласнага імя *Іван*, якое ўзыходзіць да старажытнаяўрэйскага *Иоаннъ* — «той каго мілуе Бог». У сваю чаргу, яно ў беларусаў набыло шматлікія варыянты: І*ван, Івань, Ян, Янук, Янка, Янок, Ясь* і інш. Такім чынам, *Ясь* + суфіксы *–к, –оў→Яськоў.* Пра гэта ж пісаў і У. Ніканаў у «Слоўніку рускіх прозвішчаў: «*Яськін, Яськоў* — прозвішчы, што звязаны з беларускай (і польскай) кароткай формай *Ясь* з імя *Иоанн* праз кароткую форму з памяншальным суфіксам *–к(а) Яська, Яська*». Такім чынам, як сведчыць прыведзены матэрыял, у *Стадолічах* пераважаюць прозвішчы, своеасаблівыя метафары,

што ўзніклі пераважна лексіка-семантычным спосабам ад былых мянушак тыпу *крупнік →Крупнік, калеснік→Калеснік, сукач→Сукач* і інш. Пра іншыя частыя ў *Стадолічах* прозвішчы *Сукач, Кіпцік, Малец,* можна меркаваць, што яны трапілі і замацаваліся ў лексіконе стадалюкоў з суседніх *Буйнавіч*, дзе даволі частыя, традыцыйныя ва ўсе часы. Гэта ж можна сказаць і пра прозвішча *Жогла* — самае спрадвечнае і прадуктыўнае ў *Стадолічах*, але як мігрант вядомае і не частае ў *Буйнавічах* і некаторых суседніх вёсках. Ва ўсе часы ў *Стадолічах* не былі ўжывальнымі прозвішчы на *–оў, –аў, –ін* (*Сматроў, Лаўроў, Махоткін, Барыскін)*. Яны адзінкавыя ў паселішчы. У беларусаў жа на ўсходзе краіны такія антрапонімы даволі прадуктыўныя і складаюць 31,8 % ад агульнай колькасці. Замацаваліся падобныя адзінкі ў мове беларусаў, як лічаць даследчыкі, пад уплывам дамінуючай рускай словаўтваральнай мадэлі на *–ов, –ав, –ин, –ын*.

Пра гэта пераканальна, напрыклад, пісаў прафесар І. Лепешаў у артыкуле «*Пра прозвішчы на –оў (–аў), –ін у Беларусі»,* аналізуючы і канкрэтызуючы некаторыя моманты пра змены ў такіх антрапонімах на прыкладзе прозвішчаў сваёй малой радзімы — вёскі *Іскозы* Дубровенскага раёна. У прозвішчах, як заўважана, найвыразней, чым у іншых словах беларускай мовы, адлюстраваўся ўплыў суседніх моў — польскай, рускай і ў меншай меры ўкраінскай: *Вялюга→Вялюгін, Машэра→Машэраў, Чыгрын→Чыгрынаў, Жыгала→Жыгадла, Шыла→Шыдлоўскі, Гасціла Гастэла (Гастелло), Юха→Юхо, Казёл→Козел→Казло і інш.*

Шэраг сучасных тыпова беларускіх прозвішчаў, створаных на падставе вядомых або забытых беларускіх апелятываў, у пэўны час атрымалі неўласцівыя для іх рускія анамастычныя канчаткі: *Вожык (аў), Турбал (аў), Язэп (кін), Калеснік (аў), Крупнік (аў), Зёлк (ін), Шмуйла (аў), Куляш (оў)* і інш.

Спецыфічны вынік такога вар'іравання прозвішчаў, айконімаў у мове (у соцыуме і ў мастацкіх тэкстах) — *набілізацыя,* акультурванне, напрыклад, айконімаў, прозвішчаў, асабовых уласных імёнаў з мэтай стварэння камізму, іроніі, сарказму. Традыцыйныя, натуральныя для пэўнага соцыуму онімы падлягаюць частковым заменам або замяняюцца нейкім замежным адпаведнікам, бо мясцовы онім, як лічаць некаторыя аматары замен, нібыта ўспрымаецца немілагучным, грубым, неэстэтычным. У творах мастацкай літаратуры такая варыянтнасць прозвішчаў у якасці спецыфічнага сродку «акультурвання» онімаў выкарыстоўваецца як мастацкі прыём для лаканічнай характарыстыкі розных прыстасаванцаў, адшчапенцаў, якія выракаюцца роднасных каранёў, сваёй мовы, імёнаў, радзімы, нацыянальнасці. Набілізуючыя замены, як піша А. Супяранская, уключаюць самыя розныя выпадкі. Нямала сярод іх і актаў, прадыктаваных дрэнным густам і непавагай да натуральнага, простага, нежаданнем унікнуць у гісторыю назвы, а таксама пагоняй за часовай модай.

У ліку шляхецкіх прозвішчаў, засведчаных у розных афіцыйных і неафіцыйных дакументах з часоў ВКЛ, даследчыкі мінулага Беларусі называюць сямейныя дынастыі *Маркевічаў, Сеўрукоў, Міцкевічаў, Касінскіх, Ляшчынскіх* і інш., што вядомы ў *Стадолічах* і суседніх паселішчах. Праўда, жыхары Стадоліч з прозвішчамі *Маркевіч, Сяўрук* ніколі сябе не адносілі да шляхецкага саслоўя, заўсёды лічылі сябе простымі сялянамі. Дарэчы, А. Рогалеў у кнізе «Сцежкі ў даўніну» змясціў артыкул *«Хто такія Сеўрукі?»*, у якім тлумачыць паходжанне шматлікіх айконімаў і прозвішчаў тыпу *Сеўрукі, Сяўрук, Сеўрук, Сеўрукоўшчына*, вядомых у розных частках Беларусі, Украіны. На яго думку, *сеўрукамі* ў ВКЛ называлі тых жыхароў, якія пакінулі сваю радзіму і пасяліліся ў *Северскім княстве* (сучасная Браншчына) у XIV ст. Нашчадкі іх потым вярнуліся ў свае родныя мясціны. Магчыма, гэта проста меркаванне, здагадка.

У беларусаў нярэдка сустракаюцца прозвішчы, якія супадаюць поўнасцю ці часткова з некаторымі ўласнымі імёнамі. Такія адзінкі найчасцей у наш час успрымаюцца як архаізаваныя: *Еўтух (Яўтух)), Богдан, Халімон, Конан, Лазар, Герман, Бутрым, Спірыдон, Дзямянцей, Барыс (Борыс), Кузьма, Сяргей, Тарас,*

*Протас* і інш. У Стадолічах і суседніх паселішчах з гэтай разнавіднасці беларускіх прозвішчаў вядомы антрапонімы-прозвішчы *Богдан, Герман, Протас*.

Выданне кніг серыі «Памяць» (146 тамоў), іншыя падобныя энцыклапедыі дазваляюць прасачыць міграцыю з іншых рэгіёнаў некаторых тыповых беларускіх антрапонімаў. Так, прозвішча *Некрашэвіч* даволі частае на Петрыкаўшчыне, а ў Лельчыцкім раёне — вядомае пераважна ў вёсцы Грабяні. Вось, што можна прачытаць пра жыхароў Стадоліцкага сельсавета, з прозвішчамі *Некрашэвіч, Івашкевіч* і інш., якія засведчаны там з XIX ст. На стадоліцкіх землях прыкладна ў сярэдзіны XIX ст., узнікла і паселішча *Грабяні (Грэбені)*, (з 1881 г.) спачатку як хутар, потым засценак *Шляхт* пры пасялковай дарозе, што вяла з *Буйнавіч* і *Стадоліч* на *Валынь* да мястэчка *Славечна*. Заснавальнікамі былі тры вялікія сям'і з-пад Мінска (па другой версіі з-пад Петрыкава і Капаткевічаў) з прозвішчамі *Івашкевіч, Некрашэвіч, Казлоўскі.* Згодна з актавай паперы ад 1 ліпеня 1842 г. мясцовы памешчык *Міхаіл Добрынскі* «*паводле закладнога права на 9 гадоў пасяліў ва ўрочышчы Стары Фальварак маёнтка Стадолічы названых дваран для земляробства з правам пчалярства і палявання*». Яны пасяліліся на асобных хутарах, а іх паселішчы атрымалі калектыўную назву *Грэбень*, ад мікратапоніма *Грэбень* са значэннем — *«невялікае прадаўгаватае ўзвышша, грыўка»* (гэта пацвярджаецца і мясцовым ландшафтам), і хутар *Шляхт* — ад таго, што ён, магчыма, узнік на *шляху* пры дарозе на Украіну. Ёсць таксама меркаванне, што гэты айконім роднасны назве *шляхта* — сацыяльная група насельніцтва, што, на нашу думку, больш верагодна, бо жыхары *Грабянёў* падкрэслена называлі сябе дваранамі і ганарліва ставіліся да сялян суседніх паселішчаў, называючы іх мужыкамі, ганебна адмаўляліся ўступаць з імі ў шлюб. У савецкі час хутары зліліся ў адно паселішча, за якім замацавалася назва *Грабяні*. У ліку загінулых партызан і чырвонаармейцаў з вёскі Грабяні ў гады Вялікай Айчыннай вайны ў кнізе «Памяць. Лельчыцкі раён» засведчана 10 прозвішчаў *Івашкевіч,* 11 прозвішчаў *Некрашэвіч*. Вярнуліся з вайны пераможцамі з гэтай вёскі 28 грабенюкоў, з іх 7 з прозвішчам *Некрашэвіч*.

Некалькі сем'яў у Стадолічах маюць прозвішча *Трошка,* якое ўзыходзіць да грэчаскага апелятыва *trophimos* — кармілец, гадаванец. Ад яго і ўласнае імя *Трафім*. У беларусаў гэты хрысціянскі антрапонім засведчаны з XVI ст. Ён замацаваўся як уласнае імя ў наступных варыянтах: *Трахім, Атрахім, Атрох, Трахімік, Трафімчык, Трошка* і інш. Вядомы ад гэтага імя і разнастайныя прозвішчы: *Трафім, Трафімовіч, Атраховіч* (параўн.: сапраўднае прозвішча *Кандрата Крапівы. — В. Ш.*), *Трафімёнак, Атрошчанка, Трафімаў, Трафімук, Трафімянкоў, Трошка* і інш. (Г. Усціновіч, І. Насовіч). Даследчыца смаленскіх прозвішчаў І. Каралёва выказвае яшчэ адну версію паходжання прозвішчаў *Атрошка, Трошка* і падобных. На яе думку, семантыка гэтага імя ў старажытных рускіх (смаленскіх) гаворках рэалізоўваецца наступнымі значэннямі: атрута, яд; аб'едкі сена — *атрошка, трошка, атрушка*, *отруш* — злы, шкодны чалавек.

У Стадоліцкім сельсавеце ў вёсках *Ручное, Ліснае* і інш. распаўсюджана прозвішча *Рэвут*. Аснова яго — апелятыў *рэут (рэвут)* — вялізны звон. Даследчыкі рускай антрапаніміі (В. Ніканаў, Б. Унбегаўн) удакладняюць зыходнае значэнне, разглядаючы яго спачатку як мянушку са значэннем «шум, крык, плач, роў». На беларускім дыялектным матэрыяле тлумачыць паходжанне гэтай спачатку мянушкі, а потым прозвішча і айконіма В. Лемцюгова: «*Людзям з надзвычай гучным голасам, або занадта крыклівым, неўтаймоўным давалі мянушкі Рэвут, Рэут*». У басейне Дняпра *Рэутамі, Рэвутамі* названы некалькі прытокаў за іх бурнае цячэнне. У Кармянскім, Клімавіцкім раёнах ёсць вёскі з такімі назвамі. Дарэчы, невялікую вёску *Ручное* на правым беразе Убарці, за 6 км. ад Стадоліч, заснавалі ў сярэдзіне XIX ст. перасяленцы з-пад Мазыра і Капаткевіч з прозвішчамі *Рэвут і Гурыновіч*. Маюць мае землякі і прозвішча *Равуцкі*, роднаснае разгледжанаму вышэй *Рэвут* (вёскі *Ліснае, Першамайск* і інш.)

Уладзімір Ліпскі, працуючы над кнігай *«Я: Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод»* (1989), наведаў многія сёлы Лельчыцкага раёна, шукаючы карані разгалінаванага радаводу шматлікіх *Ліпскіх*. Суправаджаў яго Якаў Ліпскі, завуч Стадоліцкай сярэдняй школы. Карані гэтага шматлікага радаводу пісьменнік выявіў нават сярод прататыпаў-персанажаў знакамітай *«Пінскай шляхты»* В. Дуніна-Марцінкевіча. Прозвішча Ліпскі вельмі частае і ў вёсках *Убарцкая Рудня, Вусаў, Заброддзе*. Апісанню свайго прозвішча У. Ліпскі прысвяціў цэлы раздзел: «*Ліпа — маё прозвішча*», выводзячы яго ад апелятыва «*ліпа*». У беларусаў засведчана 5535 (9,8 %) прозвішчаў (М. Бірыла, Г. Усціновіч). Толькі ў Рэчыцкім раёне роднаснымі яму, як мяркуе пісьменнік, з'яўляюцца *Ліпаў, Ліплянскі, Ліпоўскі, Ліпоўскіх, Ліпчанскі, Ліпко, Ліпасаў, Ліпатаў, Ліпатнікаў, Ліпін*. Яшчэ раней, да стварэння кніг пра свой радавод, сваіх землякоў У. Ліпскі знайшоў сувязь свайго прозвішча з прозвішчам В. Дуніна-Марцінкевіча. Высвятляючы спрадвечныя карані шляхецкага роду знакамітага пісьменніка, ён устанавіў, што радаводны герб беларускага песняра мінулага стагоддзя называўся «Лебедзь».

На Палессі ёсць цэлыя вёскі з аднолькавымі або спецыфічнымі толькі для пэўнага рэгіёна прозвішчамі. Часам можна з упэўненасцю сказаць, з якіх мясцін яго носьбіт, дзе яго радзіма, а нярэдка — і чым знакамітыя яго сваякі, вёска. Напрыклад, род сусветна вядомага рускага пісьменніка *Ф. Дастаеўскага* вядзе сваю радаслоўную з палескага сяла *Дастоева*, што на Піншчыне (цяпер Іванаўскі раён).

Пісьменнік *Раман Сабаленка* быў родам з вёскі *Сабалі*, што на *Брагіншчыне*. На жаль, вёска адселена ў выніку чарнобыльскай трагедыі. А род Быкавых, з якога і сусветна праслаўлены празаік і грамадскі дзеяч *Васіль Быкаў*, бярэ свой пачатак з вёскі *Бычкі,* што на *Лепельшчыне*. Вёска *Кулакі* на Салігоршчыне — радзіма вядомага празаіка *Аляксея Кулакоўскага*. Дарэчы, у гэтай вёсцы выспяваў літаратурны талент яшчэ двух беларускіх пісьменнікаў — *Аркадзя Чарнышэвіча* і *Анатоля Дзялендзіка.* На Мазыршчыне ў вёсках *Бабры, Раеўскія, Акулінка, Козенкі* жыве многа людзей з прозвішчамі *Бобр, Раеўскі, Акуленка, Козенка* і інш. Гэтая ж анамастычная з'ява паўтараецца і ў іншых рэгіёнах Палесся. Так, у Ельскім раёне ў вёсках *Засінцы, Бякі, Казлы, Серыя* значная частка карэннага насельніцтва носіць прозвішчы *Засінец, Бек, Казёл* (у некаторых Козел), *Серы*. У Лельчыцкім раёне ў вёсках Маркоўскае, Прыбалавічы, Таргонскія (цяпер — Запясочча) многія маюць прозвішча *Маркоўскі, Прыбалавец, Таргонскі*. Гэтая ж з'ява фактычна паўтараецца ў маштабе ўсёй Беларусі асабліва ў былых хутарах з традыцыйным складам насельніцтва. Так, адзін з персанажаў нарыса А. Клышкі і Я. Сіпакова «Паэма дарог» не без гумару прызнаваўся: «Я*, хлопцы, Коўш. І вёска мая Каўшы. Пад Баранавічамі. Як адзін у вёсцы — Каўшы. Васямнаццаць хат — і ўсе Каўшы. Толькі прымакі новыя прозвішчы прынеслі...*» Пра аднастайнасць і вялікую частотнасць сярод карэнных жыхароў некаторых беларускіх прозвішчаў расказваў і пісьменнік *Мікалай Матукоўскі*, былы карэспандэнт газеты «Известия» па Беларусі, успамінаючы сваё першае знаёмства са шматлікай беларускай раднёй рускага паэта *Яўгенія Еўтушэнкі*. «У лесе кіламетраў за дзесяць да *Хамічоў* (Калінкавіцкі раён. — *В. Ш.*) мы дагналі худзенькага, падсохлага дзядка, пасадзілі ў машыну. Яўгеній Аляксандравіч задае першае «разведвальнае» пытанне: *«Дзядуля, а вы Ярмілу Еўтушэнку ведалі?» Дзед аж падскочыў на сядзенні. «Ба. Да я ж разам з ім каровы ў поле ганяў». — «А хто-небудзь з Еўтушэнкаў у жывых застаўся?» — «Ды ў нас паўвёскі Еўтушэнкі. І родныя сёстры Ярмілы — Ганна і Еўка жывыя...»*

Значная колькасць прозвішчаў трапіла да нас з іншых моў. У сваю чаргу беларускія ўласныя імёны, прозвішчы, тапонімы замацаваліся ў шматлікіх варыянтах у мовах суседніх народаў. У наш час многія беларусы маюць тыпова рускія, польскія, нямецкія, цюркскія, літоўскія прозвішчы. У самым агульным выглядзе такі

ўзаемаўплыў можна вытлумачыць, напрыклад, тым, што руская, украінская мовы ва ўсе часы былі зразумелыя для беларусаў, бо гэтыя мовы маюць агульныя вытокі, з украінцамі, літоўцамі і палякамі беларусы некалькі стагоддзяў былі ў адной дзяржаве — Вялікім Княстве Літоўскім, што таксама не прайшло бясследна. Не без уплыву літоўскага анамастыкону ў мове беларусаў замацаваліся, напрыклад, прозвішчы *Мальдзіс, Каўрус, Румас, Дайліда, Мажэйка, Цвірка* і інш.

Самыя цесныя кантакты ва ўсе перыяды сумеснай гісторыі паміж беларусамі і рускімі, беларусамі і палякамі. Гэта ўзаемадзеянне прасочваецца на самых розных узроўнях і, безумоўна, выразна выяўляецца і на фактах анамастыкі. Так, некалькі мільёнаў беларусаў жыве за межамі сваёй этнічнай радзімы. Частка з іх нават забылася аб сваіх гнасеалагічных каранях, але аб гэтым сведчаць іх прозвішчы, адметнасці мовы, фальклору. Пакідаючы радзіму, людзі на новыя землі прывозілі з сабою назвы родных для іх мясцін. Таму там лёгка тлумачацца назвы пасяленняў *Чарнігаўка, Бабруйкі, Палтаўка, Мазырскае, Гомель, Пінчукі* і інш., што сустракаюцца на некалі малазаселеных прасторах паўночнага *Казахстана*, а таксама *Алтайскага краю*, поўдня *Сібіры.* Многа такіх назваў на *Далёкім Усходзе, у Карэліі.* На рубяжы XIX—XX стст. беларусы складалі 5/6 жыхароў *Усурыйскага краю.* Асабліва шмат беларускіх сялян выехала ў *Сібір*, калі была пракладзена *Сібірская* чыгунка. За 13 гадоў (з 1896 па 1909 гг.) туды перасяліліся з Віцебскай губерні — 153, з Гродзенскай — 27, з Мінскай — 95, з Магілёўскай больш за 200 тысяч беларусаў. Паводле перапісу насельніцтва СССР за 1926 год, у некаторых акругах *Сібіры* жыло ад 13 да 16 працэнтаў нашых землякоў.

Міграцыя прасочвалася ўжо з сярэднявечча, з часоў ВКЛ... Прычынай былі таксама, як сведчаць навуковыя крыніцы, дынастычныя або палітычныя сваркі, разлады паміж прадстаўнікамі буйнейшых княскіх дынастый — *Рурыкавічаў* і *Гедымінавічаў (*напрыклад, бунт Міхаіла Глінскага). Паводле перапісу 1897 г., сярод 700 самых радавітых сем'яў Расіі толькі каля 150 вяло свой радавод ад усходнеславянскай (рускай) дынастыі *Рурыкавічаў*, пераважна князёў і баяр маскоўскіх, цвярскіх, казанскіх. А 430 сем'яў былі выхадцамі з Беларусі, Украіны, Польшчы. Гэта такія княскія і баярскія роды, як *Валконскія, Шуйскія, Курбскія, Глінскія, Дастаеўскія* і інш. Напрыклад, *Глінскія* паходзілі з тураўскіх і мазырскіх баяр.

Беларускія тапонімы-мігранты, як мы ўжо адзначалі, ёсць за межамі Беларусі. Так, сяло *Кобрына* і рэчку *Кобрынка* ведаюць пад *Санкт-Пецярбургам.* Нянька Пушкіна *Арына Радзівонаўна* была родам з сяла Кобрына, што пад Пецярбургам, якое ўзнікла сярод іжорскіх балотаў у выніку перасялення туды прыгонных беларускіх сялян з *Кобрыншчыны* як удзельнікаў паўстання пад кіраўніцтвам *Касцюшкі*. Разам з іншымі прыгоннымі, набытымі графам Ф. Апраксіным, з *Кобрына-брэсцкага* ў новае *Кобрына* былі прывезены і яе бацькі — Радзівон Якаўлеў і Лукер'я Кірылава. Якаўлеў і Кірылава — гэта не прозвішчы, а імёны па бацьку. Тады прыгонныя прозвішчаў яшчэ не мелі. Ускосна пра гэта сведчыць таксама вядомы даследчык мовы твораў Пушкіна Г. Кавалёў у кнізе «Пушкин. Ономастический комментарий. Книга для учителя» (Воронеж, 2012): «А вось *Колбінскае* — хутчэй за ўсё (з невялікімі пераробкамі) звязана з родавым памесцем Пушкіных *Кобрына*, у якім *Абрам Ганібал* вырошчваў практычна першую бульбу ў Расіі. У гэтым жа сяле нарадзілася і будучая нянька Пушкіных — знакамітая *Арына Радзівонаўна Якаўлева»*. Такім чынам, названае расійскае Кобрына можна, на нашу думку, разглядаць як тапонім-мігрант, які ўзнік пад Санкт-Пецярбургам на ўзор брэсцкага *Кобрын,* паходжанне якога пераканальна растлумачыў А. Рогалеў.

На карце Беларусі таксама можна выявіць і іншыя тапанімічныя назвы-мігранты з іншых моў, з іншых тапанімічных сістэм. Так, недалёка каля *Чэрыкава* ў перыяд калектывізацыі ўзнікла вёска *Сормава.* Яе заснавалі рабочыя *Ніжненоўгарадскага* завода «*Чырвонае Сормава»,* якія ў 30-я гады XX ст. праводзілі

калектывізацыю на *Магілёўшчыне.* Праўда, у 1977 годзе гэтая вёска *Сормава* злілася з *Чэрыкавам*. На Віцебшчыне ж ёсць вёска *Парыж,* а на Брагіншчыне айконім-амонім *Дублін*.

Гонар усім беларусам, ураджэнцам Беларусі складаюць прозвішчы, або псеўданімы сусветна вядомых нашых землякоў, не толькі беларусаў, а і прадстаўнікоў іншых народаў, якія лічаць, або лічылі яе (ВКЛ, Літву, Белую Русь) сваёй Радзімай. Нельга не сказаць пра тых беларусаў і нашых землякоў — прадстаўнікоў іншых народаў, якія нарадзіліся і выхоўваліся на Беларусі, і па розных абставінах, не маючы магчымасці памнажаць інтэлектуальныя і іншыя набыткі свайго народа, унеслі важкі ўклад у сусветную цывілізацыю — у рускую, польскую, французскую культуру, навуку. Толькі некаторыя імёны, якія вельмі яскрава і пераканальна гавораць за сябе: *Сімяон Полацкі*, *Казімір Семяновіч, Іван Фёдараў* (Федаровіч)*, Міхаіл Глінка, Восіп Гашкевіч, Фёдар Дастаеўскі, Адам Міцкевіч, Эліза Ажэшка, Чэслаў Пяткевіч, Міхаіл Агінскі, Станіслаў Манюшка, Ігнат Дамейка, Тадэвуш Касцюшка, Якуб Наркевіч-Ёдка, Софія Кавалеўская, Валянціна Церашкова, Мікалай Пржавальскі, Гіём Апалінэр, Герман Мінкоўскі, Барыс Кіт, Дзмітрый Шастаковіч, Леў Арцымовіч, Эдуард Пякарскі, Ян Чэрскі, Павел Сухі, Сямён Косберг, Іў Кусто, Шымон Перас* і інш.

На жаль, наша ранейшая сістэма выхавання была пастаўлена так, што асобныя з названых імёнаў у дачыненні да Беларусі мы адкрываем для сябе толькі тады, калі пра іх шырока загавораць у чужых і далёкіх ад нас краінах. Хаця ў крывічоў існаваў няпісаны закон: калі юнак не ведаў сваіх продкаў да пятага калена, ён не меў права звацца мужчынам. Такому чалавеку не давяралі, яго маглі выгнаць з паселішча, бо лічылася, што бяспамятны лёгка робіцца здраднікам. Дык мо паспрабуйма адрадзіць гэты звычай у нашых сем’ях?

**Мікола ДАВІДОВІЧ**

# ЗЯМЛЯ МАЛЕНСТВА СЭРЦУ МІЛА

*З цыкла «Мае землякі-бортнікаўцы»*

*Ёсць у кожнага чалавека мясціны, цёплыя ўспаміны пра якія ён праносіць цераз усё жыццё. У мяне — гэта вёска Бортнікі, што на Бабруйшчыне. Пабываю ў ёй, бы смагу наталю з чыстых крыніц. Адпачываю душой, набіраюся светлых уражанняў. У Бортніках, што ні чалавек — то асоба, непаўторны свет, душы адкрыццё. Пахвалюся: сярод маіх землякоў — два Героі Сацыялістычнай Працы, генерал, шмат іншых заслужаных людзей. Я амаль кожнага з бортнікаўцаў ведаю, але пры гэтым заўважу, што, калі ў адных жыццё роўненька складваецца, то ў іншых... І іх, бы тых птушак з падрэзанымі крыламі, болей шкада.*

## Памаўчу... і заплачу

— А мой татка, памятаю і цябе, і тваю мамку, ці ж забываюцца на тых, з кім адной сцежкай-дарожкай ходзіш? Ды ты яшчэ і родзіч. Праз дзядулю Макара, царства яму нябеснае. Добра, што мяне не прамінаеш, заязджаеш. Пытаешся, як жыву? Памаленьку. Дужа не спяшаюся, бо хто ведае, колькі мне таго жыцця засталося: як-ніяк, на восемдзесят сёмы гадок заступіла... Куточак свой маю. Хлеб ёсцека і да хлеба. Пакуль надта не гарую. Сама сябе яшчэ і абслугоўваю.

Мы да разгульнага жыцця не прывучаны. З малечых гадоў у рабоце. Старэйшая ў сям'і была. Мне болей і даставалася: тата з мамай па гаспадарцы занятыя, а я, бы тая гуска, з малодшымі братамі і сястрой. Лічы, узнімала іх. Потым і большых клопатаў зведала. Не заўважыла, як і гады праляцелі. Ужо і нявеста. Пра замужжа трэба думаць. А яно неяк само сабой і прыйшло. Якраз перад вайной мы і пабраліся з Васілём Голубам, нашынскім хлопцам. Пачалі сваё гнездзейка віць. Бусел нам дзіцятка прынёс. Хлопчыка. Лёнькам, як пажадаў муж, назвалі. Во радасці было, як я хадзіла-тупала ля сваіх мужчынкаў! Не думала і не гадала, што шчасцейка так хутка ад мяне адвернецца...

Васіля забралі на фронт. Пасля ў палон трапіў... Адгараваў сваё, бо толькі ў сорак пятым і вызваліўся. Я ж нічога пра гэта не ведала, ніякай вестачкі, але нешта падказвала: жывы мой муж! І ранічкай, і вечарам выскачу на вуліцу: ці не пакажацца раптам? Усё няма і няма... Як аднойчы даведваюся: сышоўся ён з нейкай маладзіцай і з'ехаў кудысьці на Украіну. Нават са мной і сваім сыночкам не развітаўся. А ці ж бы я не адпусціла? Упадабаўся — ну і няхай. Вось толькі б паказаўся, хоць адным вочкам глянуць, столькі ж чакалі! Там, на чужыне, небарака, і загінуў — утапіўся... «А вось каб з намі быў, мо б і цэлы застаўся», — перажывала.

Ну што паробіш — вось я і чыстая ўдавіца. Жыла ў свёкра са свякрухай, а потым пайшла ад іх, бо хто я ім? Адна-адзіненькая, як вечар — душуся слязамі... Але на людзей сваё гора не выносіла, у іх свайго хапала, бо і той не вярнуўся з вайны, і гэты, а ў каго і па двое-трое. Працай забывалася. Хоць яна і цяжка давалася: рвеш той гной, кідаеш — працадня не выходзіць. Вось і не разгіналася...

А ў сенакос? У Цітаўцы, што пад горадам, сена грэблі па пояс у вадзе, а потым на сухое выносілі. Не дзіва, што цяпер ножачкі мае, рукі выкручвае...

Жыла я ў маленькай хацінцы, дзе толькі павярнуцца. «Трэба, — думаю, — на нешта большае разжывацца, вунь жа Лёнька падрастае!» Па капеечцы, па капеечцы, трохі грошай назбірала. Кароўку прадала, ну і купілі дамок. Не новы, праўда, але на мой век хопіць... Без кароўкі доўга яшчэ заставалася. Нарэшце прывяла цялушку ў двор. Радасці было! Хаця па сена, гэта ж не цяпер, што і ў двор прывязуць, за свет ездзілі. Наймала мужыкоў, брата свайго Лёшу прасіла, які непадалёку жыў. Неяк выкручвалася. І без бульбачкі, бурачка не заставалася.

Пачаў узнімацца мой Лёнька. Дзевер, дзякуй яму, забраў яго да сябе, на Урал. Розуму даў, на правільны шлях паставіў. Ужо і пры занятку, на свой хлеб пайшоў. Потым пераехаў у Бабруйск. Ажаніўся. Кватэру займеў, усё як належыць. Ды адна бяда: не даў Бог дзетак. Можа б, ужо і з праўнукамі была, шчабяталі б во ля мяне, заспакойвалі. Часта думаю: памру я, а з кім Лёня застанецца? Ці нам у адзіночках так і наканавана быць?..

Дык трохі пераскочыла. Я ўжо і да пенсіі падабралася, але ў брыгаду яшчэ тупала. Гэта калі ўжо зусім стала няздолець, тады і засталася ў двары, пры сваіх градках. Кароўку доўга трымала. Збывала — дык плакала, як без яе? Цяпер курачкі толькі і кудахтаюць. Здаецца, усё б рабіла, але не магу...

Раней мы, удавіцы, Антоля, Полька-сербіянка, Вольга Рыгоркава, хто з нашай вуліцы, часта збіраліся разам. Сядзім, гамонім, жыццё сваё перабіраем. Адгаравалі, вой адгаравалі, а ці ж не маглі сем'ямі абзавесціся, ці не набіваліся мужыкі? Дык жа вернасць захоўвалі, пра сваіх дзетак думалі найперш. Такія вось мы... І ніякія іншыя!

Вось і ўвесь аповед, усё маё жыццё перад табой. Не ведаю, што сказаць болей, памаўчу і заплачу...

...Неўзабаве цёткі Хрысціны не стала, пайшоў за маткай і яе Лёня. Нікога не засталося, адна ўдзячная памяць...

## А на фотакартцы… з заплюшчанымі вачыма

Я прыехаў да Казловых напісаць пра іхняга сына Віталя, які загінуў у Афганістане. Прасторны, з дзвюх палавін дом, а як у ім цесна, гнятліва! Бацька, Мікалай Якаўлевіч, калі пачне расказваць, не можа стрымаць слёз, а ў маці, Галіны Рыгораўны, хоць бы адна выкацілася — яна сваё адплакала. Гаворыць, гаворыць, а потым суцішыцца...

Як усё пачыналася складна і ладна! Сышлася са сваім Мікалаем па ўзаемнай згодзе, каханні. Жылі душа ў душу. Нарадзіўся першынец. Віталікам назвалі, модным тады імем. Хлапчыну не трэба было «пасці», як іншага: усё каля дома, бацькоў, радасць імкнуўся ім несці. А тут пачалі будаваць (Наташка якраз нарадзілася) новую хату, дык Віталік, якому толькі дзясяты гадок мінуў, напрасіўся пастушком у брыгаду. Як не адгаворвалі — ні ў якую: «Вам мяне шкада, а мне вас...» Такі быў прагны да работы. Хутка і трактар павёў. «У бацьку, — казалі вяскоўцы, — во і змена расце!» Будзе ісці — вядзерца каму дапаможа паднесці, пра жыццё-быццё распытае, здароўя пажадае — усе яму рады.

А тут і ў армію падаспела. Вось так: у пачатку месяца — павестка, а ў канцы — праводзіны. Ледзь не ўсёй вёскай спраўлялі. Сталы — у тры рады. Спявалі, весяліліся. Чарку за Віталя бралі. А ён сам да спіртнога і не дакрануўся — спартсмен. Амаль кожнага, хто быў на застоллі, правёў дадому.

Яна баялася аднаго, каб сына не забралі ў Афганістан. Напачатку быццам і турбавацца не было чаго. Віталь трапіў у «вучэбку». Асвойваў бронемашыну. Гэта яго, бо не ўпершыню за рулём! Тады ж фотакартку даслаў — у ваеннай форме, узмужнелы. Але... з заплюшчанымі вачыма. І гэта яе незвычайна ўстры-

вожыла. Бы нейкі знак, перасцярога... А потым і апынуўся ў Афганістане, пад Хайратонам. Нічога асабліва не паведаміў: нясе службу, неўзабаве перавядуць у разведроту. Там шмат беларусаў. Так што, маўляў, турбавацца няма чаго. Яшчэ некалькі месяцаў праляцела... Віталь ужо меў дзве падзякі ад камандавання. Збіраўся ў водпуск. «Прыеду, — пісаў у кожным лісце, — надыхаюся домам, роднай прасторай». Ды не суджана было...

У той дзень яна прапаліла ў лазні. Прыйшла сястра. Яшчэ пажартавала: «Не была на праводзінах у твайго Віталя, дык на вяселлі «адплачу». А яна слухае і нейкія трывога, непакой ахапілі... Раптам заходзяць у двор якісьці вайсковец, яшчэ нехта з сельсавета. Яна і здагадалася, як ускрыкне: «Коля, нешта з нашым Віталем...» Нават забылася, што мужа ў гэты час дома не было. Што потым з ёй рабілася — дрэнна памятае...

Цяжка далося мне тое інтэрв'ю. Выйшаў ад Казловых бы выціснуты, пад гнётам чужога гора, бяды, да якіх міжволі дакрануўся... Гэта адчуванне не пакідае і цяпер.

## З сонцам, але без цяпла...

Рыгора Іванавіча Паслядовіча — па-вясковаму Канька — я ведаў блізка. Адно — жылі непадалёк, другое — ён таварышаваў з маім дзядулем, які таксама застаўся без сваёй палавіны. Папраўдзе, Рыгор доўгі час з'яўляўся для мяне тайнай за сямю пячаткамі... Яго за тое, што спеў «не тую» частушку, яшчэ да вайны ўпяклі на Калыму. Далі «дзясятку». Што перанёс, зведаў — адзін Бог ведае... Калі-нікалі пад настрой мог адкрыцца, нейкую падрабязнасць расказаць. Выратавалі яго, як зразумеў, прыродная кемлівасць, няўтольная прага жыцця. Але дамоў вярнуўся з падарваным здароўем, без аніводнага зуба... «Кусацца» не было чым, аднак землякі да Канька адносіліся з асцярогай. Быў ён як адарваны лісток. Адышоў у сям'і, каля сваіх дзетак — Валі, Галі, яшчэ сіл хапіла, каб «знайсці» Надзю. Дык вось з Надзі ўсё і распачалося. Расла яна зграбнай і вабнай. Рана набрала дзявочую сілу. Ужо і ў горад рушыла, а там адзін спрытнюк дый падкаціў... Паабяцаў жаніцца. Вяселле сабралі. А жаніха так і не дачакаліся...

— Каб на той момант яго, галадранца, заспеў, — казаў Рыгор, — не шкадаваў бы — прыкончыў на месцы!

Можа, так, а можа, і не. Але што адбылося, тое адбылося. Давялося нямала перажыць і нявесце, якая чакала дзіця. А неўзабаве Надзя нарадзіла хлопчыка. Ды ў адзіночках доўга не затрымалася. Напаткала суджанага, які звёз яе ва Украіну. А хлопчык, якога звалі Сяргеем, так і застаўся пры бабулі і дзядулі. Рыгор — тата, а ягоная Люба — мама. У бацьках па другому разу, але ж выцягнулі ўнука. Рыгор яшчэ дачакаўся, калі Сяргей пайшоў у армію.

— Цяпер, — казаў, — магу са спакойнай душой і на той свет...

Занядужаў Канёк раптоўна, вясной. Пачаў худзець, хутка стамляўся. Памятаю, сядзе ў двары, тварам да сонца і нібыта грэецца. Я глядзеў на яго і думаў: «Эх, дзядзька Рыгор, не хапіла табе ў жыцці цяпла...» Дзесьці за месяц-два Канёк і сышоў... Хаваць яго прыехалі дочкі. І Сяргей, якога адпусцілі з арміі. Яму было балюча больш за ўсіх, бо губляў самага дарагога чалавека.

Пасля службы вярнуўся Сяргей да роднага дому. Няма каму сняданак, вячэру згатаваць, кашулю памыць, няма з кім словам абмовіцца... Напісалі ліст маці. Тая, праўда, прыехала, забрала сына да сябе. Уладкавала на работу, нявесту знайшла. Ну і добра, што так склалася. «А толькі цягне, — казаў Сяргей, — на радзіму, хаця б на зямельку паглядзець, па якой басанож хадзіў!» Не так даўно прыязджаў зноў. Шкада, не давялося з ім сустрэцца. Некалі мы адзін да аднаго цягнуліся — падобныя…

## Васілю, і смерць ты асіліў!

...Ён адчуў: выдыхаецца. Ужо непаслухмянымі рукамі спыніў камбайн, ледзь выбраўся з кабіны. Нейкі момант стаяў, прагна хапаючы ротам паветра. А потым, чапляючы нагамі ржэўнік, пасунуўся ў бок вёскі. Але здолеў зрабіць некалькі крокаў. Раптам, нібы спатыкнуўшыся, пачаў валіцца на бок.

Васіля Пятровіча Бурака, які ў той дзень апошнім заканчваў жніво, знайшлі ўжо бездыханным... Паедзь раніцой у бальніцу, звярніся да ўрачоў — і не здарылася б трагедыі. Жонка, дзеці ўгаворвалі ўзяць хоць кароткі перадых, даць арганізму спачын. Ды не паслухаўся. Не мог — хлеб, якому аддаваў усё, што меў, трэба было ратаваць!

Такая вось моцная воля. А ведалі вяскоўцы Васіля ціхмяным, сарамяжлівым. Ніхто ад яго і слова супраць не чуў. Але за справу — гарой. Рабіў спакойна і ўпэўнена. Яшчэ будучы шафёрам, колькі дабра людзям зрабіў! Гэткі вось велікадушны сялянскі хлопец.

Нічога не паробіш: лёс... Перажывалі страту ўсім калгасам. А паэт Мікола Янчанка вершам адгукнуўся на смерць Васіля Пятровіча:

Не толькі хваробу,
І смерць ты асіліў,
Васілю, Васілю...

Дзякуй табе, браце, за памяць аб земляку! А вось да саміх бортнікаўцаў, хай не пакрыўдзяцца, ёсць прэтэнзія. Маглі б і ўвекавечыць памяць Васіля Пятровіча. Ну, хаця б адну з вясковых вуліц назвалі яго імем.

## Быццам дома і быццам у гасцях...

Колькі памятаю сябе, памятаю Нюсю. Яна жыла праз вуліцу, якраз насупраць іхняга дома калодзеж стаяў з гэткім задраным, бы ў страуса хвост, жураўлём. Усе дзеці як дзеці, а яна... Не гаворыць, а мыкае: «Ню-нюся». І зімой, і летам хадзіла ў аднолькавым адзенні: павязанай на галаве хустцы, стаптаных чаравіках. Увесь яе выгляд палохаў. Але мы, малыя, прызвычаіліся да Нюсі і ніколечкі яе не баяліся. Хадзілі ў госці. Нам было цікава. Сёй-той, праўда, спрабаваў дражніць Нюсю. Мы з Паўлікам, маім сябруком, заступаліся за яе. Адно — суседка, другое, як казалі старэйшыя, — гаротніца. І Нюся нам адказвала ўзаемнасцю. Прыйдзеш па ваду, яна дапаможа вядзерца паднесці, ласунак мае — абавязкова падзеліцца. Аднойчы абараніла ад злога сабакі, які, мабыць, добра паклычыў бы мяне...

Я паехаў вучыцца. Прыеду, Нюся будзе ісці — спыніцца, доўга стаіць, глядзіць. А потым і паклыпае далей. З кіёчкам пачала хадзіць, а мы ўсё — Нюся... Нават сапраўднага імя яе не ведалі — Анюта Рыгораўна Бурак. У апошні час Нюся жыла са сваёй маці, старой Гарпінай, якой пад дзевяноста. Абедзве безпаможныя. Але неяк трымаліся: то суседзі, то родзічы дагледзяць. І вось не стала Гарпіны. А Нюсю забралі ў дом-інтэрнат пад Бабруйскам. «Не давалася, — расказвалі, — хацела пры сваім двары застацца».

І вось нядаўна давялося мне быць у тым казённым доме. Думаю, зазірну да сваёй зямлячкі, пагляджу, як жыве. Толькі адчыніў дзверы пакоя — яна насустрач. Глядзіць, глядзіць, а потым як плясне рукамі. Пазнала, за рукаў учапілася, да пляча туліцца. Адскочыла, нешта сваім аднапакаёўкам гаворыць, на мяне паказвае: «Ню-нюся!» Пакідаючы інтэрнат, я працягнуў Нюсі пару плітак шакаладу, якія прыхапіў для яе. Яна неяк дзіўна, абедзвюма рукамі схапіла дарунак, прыціснула да грудзей. Доўга стаяла, пазірала ўслед...

Я ўжо выйшаў з інтэрната, усаджваўся ў машыну, як падалося, нібыта хто прабег па фае. Нюся! Вось яна прыпала да шклянога праёма, углядаецца... Мне

здалося, што на яе твары скацілася, бы разрэзала яго напапалам, былое і цяперашняе, слязінка. І ўспомнілася сказанае адным з інтэрнацкіх жыхароў: «Мы тут быццам дома і быццам у гасцях…»

## «Вярніце нашага бацьку!»

Дзядзька Лёша быў трэці ў шматдзетнай сям'і Давідовічаў, якую добра ведалі ў Бортніках, але першы па адукацыі. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут. Бывала, прыедзе: касцюм падагнаны, сарочка і гальштук так пасуюць да яго лабастага, з гэткімі раннімі залысінамі, твару, да ўсяго аблічча, што міжволі залюбуешся. Ніколі не павышаў голасу, гаварыў цвёрда і пераканана. Здавалася, наперад ведаў, чаго ты дамагаешся. Вось так, падсунемся з задачкай, а ён: «Крыху падкажу, а там дадумвайце самі, бо налёгцы ісці — не адчуць цяжару».

Мы ганарыліся дзядзькам. Доўга ў настаўніках ён не затрымаўся. Дырэктар Ясеньскай сярэдняй школы Асіповіцкага раёна, спецшколы-інтэрната ў райцэнтры. Неўзабаве ўжо і дырэктар Магілёўскай спецшколы-інтэрната для цяжкавыхоўваемых. Аднаго персаналу за сто чалавек. Ён навёў парадак, патрабаваў, каб да дзяцей з цеплынёй ставіліся.

— Эх, — казаў, — далі б магчымасць працаваць...

Пазней я зразумеў, што за гэтым стаяла: дзядзька Лёша не любіў паказухі. Не гнуў спіну перад начальствам, рознымі інспектарамі ды інструктарамі. Незалежнай быў пазіцыі. Але ж ці магло гэта падабацца… А тут і зачэпка знайшлася: аднойчы трое навучэнцаў накурыліся так, што трапілі ў бальніцу... Тады і давай дырэктара цягаць па інстанцыях. Праўда, аблана на чале з тадышнім яго загадчыкам Асмалоўскім адстойвала дзядзьку, але што яно магло зрабіць?

Дзядзька пячатку на стол і ціха, каб не выклікаць лішніх эмоцый, пайшоў з калектыву. Але даведаліся дзеці, сваімі маленькімі сэрцайкамі адчулі: штосьці не тое… Тры дні не выходзілі на заняткі і не елі: «Вярніце нашага бацьку!» Пра гэта расказвала радыёстанцыя «Свабода», Аляксея Сцяпанавіча назвала педагогам-наватарам. Дзядзька не быў у курсе, дык яго яшчэ абвінавацілі ў сувязях з «варожымі галасамі». Ледзь з партыі не выключылі. Уяўляеце: ішоў з дабром, а сустрэлі са злом. З тага часу і сэрца — інваліднасць…

Здавалася б, няма чаго і ўспамінаць, а пачне дзядзька Лёша ўзгадваць сваё дырэктарства ў спецшколе-інтэрнаце, тое, як высока і ганарова называлі яго выхаванцы, як рашуча ўзнімалі свой голас за яго, і асвеціцца радасцю: «нечага ж я варты!»

## Загадка Аляксея Антонавіча

Несумненна, мой зямляк, сабрат па пяры Аляксей Антонавіч Гарэлік заслугоўвае да сябе, нягледзячы на пэўныя «скрыўленні», звязаныя з чаркай, павышанай увагі. Гэта без усялякіх перабольшванняў — асоба. Шляху, які прайшоў, на дваіх-траіх хопіць…

А пачалося ўсё з вёскі, яе багатай фантазіі, непаўторнага хараства! Чуллівая натура Аляксея-Алеся, здавалася, улоўлівала самае патаемнае, бы той камертон, чуйна на яго рэагавала. Хлапчына спрабуе сябе ў паэзіі, жывапісе. Усяго толькі першыя крокі, але яны ўжо засведчылі аб яго пэўных здольнасцях. Ды было б толькі калі займацца любімай справай — памагаты ў таты і мамы, яшчэ і ў брыгаду бегаў.

Да вайны Алесь (так чамусьці завуць усе Аляксея Антонавіча) скончыў школу і два курсы моднага тады лесатэхнікума. І — вымушаны перапынак. Юнак быў звязаны з партызанамі, часта выконваў іх даручэнні, у тым ліку і Героя

Савецкага Саюза Уладзіміра Парахневіча. Пасля вызвалення родных мясцін ад захопнікаў Гарэлік — у пяхотнай дывізіі. У розных пераплётах пабываў. Быў паранены. Два ордэны Айчыннай вайны — немалая адзнака яго воінскай доблесці. Пры вызваленні Беластока сустрэўся з карэспандэнтамі цэнтральнай прэсы на передавой — Сіманавым і Твардоўскім. Гэта і адбілася на яго далейшым лёсе, павярнула да журналісцкага пяра.

Спачатку працаваў у бабруйскай абласной газеце «Савецкая Радзіма», а потым, калі вобласць расфарміравалі, — у гарадскім «Камунісце»: намеснік рэдактара, у апошнія гады — загадчык сельгасаддзела. Пасля выхаду на пенсію доўжыў свой журналісцкі шлях у шматтыражнай газеце вытворчага абяднання «Бабруйскдрэў». Цэлае жыццё ў журналістыцы. А гэта ж хлеб ой які нялёгкі: бяссонных начэй, перажыванняў, трывог!

Як прафесіянал, Гарэлік таленавіты, лёгка яму даецца слова. Як свае пяць пальцаў ведае раён, ужо не кажучы пра СВК «Гігант», ягоных людзей. Пра многіх напісаў яркія нарысы, замалёўкі. Ды і проста прыняць удзел у чыімсьці лёсе — у яго характары. Аднаго не магу зразумець: Алесь Антонавіч — публіцыст, паэт. Столькі матэрыялаў пад рукой, але як можна ніводнай кніжкі, зборніка вершаў не выпусціць? Як можна, маючы такі талент, не напісаць ніводнай (хаця на яго дачы адну бачыў) вартай увагі карціны… Што перашкодзіла, які «валун» на гэтым шляху стрэўся?

Эх, зямляк, крытыкаваць цябе мала!

## Каго прагнявілі браты?

Нядаўна ездзіў у Бортнікі. Толькі з аўтобуса — насустрач Мікалай Дзмітрыевіч, старэйшы з братоў Балыкаў. Ён праводзіў у горад сына, які гасцяваў. Абняліся, паўсміхаліся, добрыя словы адзін аднаму выказалі: землякі! Ды яшчэ суседзі, праз дом жылі. Як кажуць, адной сцежкай-дарожкай хадзілі, адным паветрам дыхалі, усялякія справы вырашалі разам.

Праўда, я болей знаўся з Паўлікам, малодшым з братоў. Мы — аднагодкі. У школу разам хадзілі, футбол ганялі, да дзяўчат, калі падрасталі, заляцаліся. Гэта пазней нашы шляхі-дарогі разышліся. Аднак не выпускалі адзін аднаго з поля зроку. Я ведаў, што мой сябра паспрабаваў працы і ў міліцыі, і на шынным камбінаце, і яшчэ недзе. А потым вярнуўся ў родную вёску. Тут знайшоў справу па душы. Вядома ж, быў пры сям'і, дзецях. Усім задаволены. На здароўе не скардзіўся. Не дзіва, такі мацак, згустак сілы.

Міхась быў на некалькі год старэйшы за Паўліка. Гэткі завадатар усялякіх гульняў, забаў. Праўда, браты-гарэзы яму нашкодзілі... Яшчэ хлапчуком. Вяртаўся той нейк дамоў прыцемкам… Яны, у вывернутых кажухах, насустрач: «Га!» Заікацца пачаў... Але не так, каб ужо яўна, калі расхвалюецца. Тым не менш, гэта не перашкодзіла яму служыць у арміі, яшчэ і застаўся там прапаршчыкам.

Пра Івана Дзмітрыевіча хацелася б сказаць асобна. Вельмі быў талковы яшчэ ў школе. Пасля скончыў танкавае вучылішча, затым Акадэмію генеральнага штаба ў Маскве. Служыў на розных пасадах. Камандзір дывізіі, намеснік камандуючага ваеннай акругі. Да генеральскага звання ўзышоў. І за мяжой прадстаўляў нашу краіну ў якасці ваеннага аташэ ў В'етнаме, Йемене. Сваё аддаў, вярнуўся на радзіму, у Бортнікі. Збудаваў дом, гаспадарчыя пабудовы, трымаў карову, свіней, іншую жыўнасць. Ніякай працы не цураўся. Дый ваенную справу вёў у школе. Быў у пашане ў вяскоўцаў.

Чаму так падрабязна расказваю пра малодшых братоў. Таму што... няма іх, нейк адзін за адным, за непрацяглы час і адышлі ў той нязведаны свет. Паўліку толькі за сорак, Міхасю нямногім больш. Іван Дзмітрыевіч таксама да шасцідзесяці не дацягнуў… «Што здарылася, — думаеш. — Такія хлопцы — волаты!

І вось, быццам хто порчу навёў… А можа, надломінай паслужыла тое, што іхні бацька ў даволі сталым узросце сышоў з сям'і? Хто ведае...»

Таму калі сустракаешся са старэйшым з Балыкоў — сустракаешся з усімі імі, сваім дзяцінствам, юнацтвам.

…І вось, даведваюся, не стала і Мікалая Дзмітрыевіча — нібы нечага не стала і ўва мне…

## Боль той твой і мой…

*Сказ пра бацьку*

Ну вось табе семьдзесят, даўно ўжо дзядуля, паснежаная галава… А я памятаю цябе маладым, усмешлівым. Ды, мабыць, вясковаму музыку, маладзёжнаму завадзілу інакш і нельга! Аднак у табе праглядвалася і нешта тужлівае, неразгаданы боль… Пазней я зразумеў ад чаго — цяжкай страты жонкі, маёй мамы. Табе не пашчасціла ў самым пачатку сямейнага жыцця. І трэба было праз гэта прайсці… Мо таму гадоў сем ты не жаніўся. А потым ужо вырашыў нагледзець сабе абранніцу з ліку маладых дзяўчат. Я, зусім яшчэ дзіця, дапамагаў у тваім выбары. Вечарынка. Перапынак, ці як казалі, перадых. Нехта просіць цябе, каб сыграў для мяне, твайго сына: «Каго ты, Мікалайка, выбераш на танец?» Я праходзіўся па крузе раз, другі — для выгляду, канешне, а потым скіроўваў да тваёй кавалеркі — будучай мачахі. Радасна-радасна і горка-горка: хто не ўтрымаецца, слязінку пусціць, разумеючы «падтэкст», далікатнасць сітуацыі, нехта знарок адвернецца ці памкнецца хутчэй выйсці з залы: разрываўся, плакаў у гэты момант твой гармонік…

Вядома, мне цябе не хапала. Цягаўся за табой, як той хвосцік. Куды ты — туды і я. На працу, усялякія гульні, забавы. Ну а калі ты заходзіў да бабулі і дзядулі, у якіх я гадаваўся, для мяне — радасць, верх задавальнення! Я слухаў твой голас, твае воклічы, звароты — гэткую несціханую мелодыю слоў і гукаў і засынаў пад іх акампанементы, і хай хто супраць цябе скажа, нават самыя блізкія людзі — за цябе гарой!

Зразумела, часта наведвацца ты не мог. Не было калі: праца, сям'я, хатнія клопаты. Ты імкнуўся трывала масціць сваё новае гняздзечка. Адбудаваў дом, надворныя пабудовы, усё заасфальтавана, клапатліва дагледжана. Суседзі з зайздрасцю казалі: «Уладзімір Сцяпанавіч — сапраўдны гаспадар!» А яшчэ ж і на сваіх братоў і сясцёр, якіх аж дзевяць было, не забываў, дапамагаў, чым мог.

Быў ахвочы да працы, асабліва з тэхнікай ваджацца. Нездарма ж табе аднаму з першых у калгасе даверылі збожжаўборачны камбайн «СК-3», з адчапным капніцелем, не чырвонага як цяперашнія стэпавыя караблі колеру, а блакітнага. Яшчэ нявопытны жнец, а добра выручаў у жніўную пару. Ды і ты, ягоны гаспадар, не выбіраў, дзе лягчэй. А там, дзе больш патрэбны. Пастаянна — у перадавіках. Твае фота змяшчаліся ў газетах, ты — удзельнік разнастайных сельскагаспадарчых выстаў. Неўзабаве і першая ўзнагарода — медаль «За працоўную доблесць», бы тая знічка, упала на твае грудзі. Я хадзіў у школу і ганарыўся табой: «Вось які ў мяне тата!»

А потым мы … вучыліся. Так — так! Абодва паступілі ў тэхнікум, толькі ў розныя. Цяпер па вартасці ацэньваю твой крок. Бо, маючы за плячыма немалыя гады (да вайны скончыў сем класаў), ты вырашыў павышаць адукацыю, стаць дыпламаваным спецыялістам. У нас было негалоснае саперніцтва. І адзнакі ты меў не горшыя, а можа, і лепшыя, чым у мяне. Асабліва падабаўся мне твой почырк — размераны, каліграфічны, пад твой характар. Вось так і выйшаў у інжынеры. Механізацыяй працаёмкіх работ займаўся. Лічы, закладваў падмурак тэхнічнага аснашчэння жывёлагадоўчых ферм, машынных двароў, іншых калгас-

ных вытворчасцей. Не хапала матэрыялаў, запчастак. Самі выраблялі, праяўляючы кемлівасць і выдумку. Ужо і не адзін, а з брыгадай добраахвотных памочнікаў. Узнялі галіну на патрэбную вышыню.

Шмат ты зрабіў для роднай гаспадаркі, сваіх землякоў, а потым і вырашыў ісці ў «адстаўку», так бы мовячы, завяршаць свой працоўны век. Без лішніх слоў, паказушных мерапрыемстваў, якіх ты не любіў, — на заслужаны адпачынак. Хаця яшчэ колькі вяртаўся на вытворчасць: безадказны, калі прасілі дапамагчы, бездакорны пры выкананні сваіх спраў.

А яшчэ ты — і вайны, фронту «паспрабаваў», у свой час узначальваў групу народнага кантролю калгаса, выконваў іншую грамадскую работу — чым не дапаўненне біяграфіі?

Здавалася б, усё добра. Аднак, ведаю, праз усё жыццё ты пранёс пякучы боль — страту першай жонкі… Ды ці толькі гэта, а страту двух унукаў, сынавага і даччынога сыноў, як было перанесці? І чаму столькі гора выпала на тваю долю, чым правінаваціўся перад Усявышнім?

Вядома, усё гэта не магло не адбіцца на здароўі майго бацькі. Няма яго ўжо на гэтым свеце, а вось цёплы ўспамін застаўся. І няхай ён будзе гэткім славесным помнікам яму на доўгія гады!

## *Апошні шанц*

Лютаўскім днём 1944-га ў Вялікіх Бортніках і суседніх вёсках немцы арганізавалі «хапун». Падагналі крытыя брызентам грузавікі і зганялі туды маладых хлопцаў. Даставілі іх у Бабруйскую крэпасць. Прыдзірлівы медагляд, анкета, фатаграфаванне... Працэдура цягнулася да вечара.

Іван Маёраў разам з сябруком Віктарам вырашылі ўцякаць. Пад калючым дротам папаўзлі па снезе. Але іх дагналі аўтаматчыкі з аўчаркамі.

Пад канвоем прывялі ў хату, загадалі сесці на лаўку. Прыкладна праз паўгадзіны на вуліцы пачуўся шум аўтамабіля, і на парозе з’явіўся нямецкі афіцэр, які агітаваў на работу ў Германію. Ён падышоў да Івана і Віктара, выняў з унутранай кішэні дзве фотакарткі, зверыў іх з хлопцамі, а затым рэзкім узмахам рукі пачаў наносіць удары. Калі сябры апрытомнелі, афіцэра ўжо не было.

Ахоўнікі-паліцаі вывелі Івана і Віктара за ваколіцу.

— Ну што, супчыкі, зарабілі сабе царства нябеснае, ідзіце, капайце вечны домік...

Няўжо расстрэл?

«Ікласты» паліцай, які абяцаў царства нябеснае, падбег да Віктара і рыдлёўкай стаў вымяраць яго рост. Затым акрэсліў на снезе прамавугольнік: «Капайце!» Канваіры пагрозліва наставілі зброю. Тупы адчай, які ахапіў сяброў, змяніўся такой жа тупой абыякавасцю. Зноў насоўваўся вечар... Нечакана аднаго канваіра паклікалі ў дом. Выкарыстаўшы гэты момант, Віктар агрэў фрыца рыдлёўкай, і той выпусціў з рук аўтамат. «Ікласты» паліцай істэрычна закрычаў і адхіснуўся ў бок.

Хлопцы беглі, глыбока правальваючыся ў снег. Яны не чулі стрэлаў, што раздаваліся ўслед, іх воля была падпарадкавана аднаму — інстынкту самазахавання. Віктара напаткала куля, а Іван рэзка мяняў напрамкі: то ўлева, то ўправа, то зноў улева. Стомлены, ён паваліўся ў сумёт. Потым ускочыў і, перасільваючы сябе, рушыў наперад. Калі азірнуўся, не ўбачыў ні вёскі, ні пагоні. Толькі цяпер заўважыў: адна нага ў валёнку, а другая… босая. Валёнак давялося абуваць то на адну нагу, то на другую. Болю і холаду Іван быццам не адчуваў. Ішоў і ішоў па заснежанай prasторы, якой, здавалася, не будзе канца.

Наперадзе сталі вымалёўвацца контуры лесу. «Значыць, — падумаў ён, — справа шаша на Магілёў. Вёрст за дзесяць адсюль вёска Букіно, дзе жывуць дзядуля з бабуляй».

На світанні хлопец ціхенька пастукаў у акенца.

— Ваня, ты?.. — рыпнулі дзверы, і насустрач выйшаў дзядуля. — Праходзь, унучак, адкуль ідзеш?

— Ад самой смерці, дзеду, бягу, во ногі абмарожаны...

Бабка запрычытала, а дзядуля строга зірнуў на яе і загадаў хутчэй кіпяціць ваду і рабіць адвар з сушаных зёлак. А сам узяўся адціраць абмарожаныя ступні ўнука снегам. Неўзабаве Іван адчуў пацяпленне і боль. Боль станавіўся нясцерпным...

Так-сяк падлячыў Іван ногі. Хоць і з цяжкасцю, але хадзіў. І не здагадваўся, што чакае яго яшчэ адно выпрабаванне. Вясной таго ж года яго забралі з родных Бортнікаў у Азарыцкі лагер смерці. Здавалася б, безвыходная сітуацыя. Аднак і на гэты раз ён змог выратавацца...

Пасля вайны Іван Мікалаевіч Маёраў жыў у суседняй вёсцы Міхалёва. Ажаніўся, выгадаваў дваіх дзяцей — сына і дачку, яшчэ і ўнукаў дачакаўся. Вось такая гісторыя.

## *«Памятаем цябе, тата!»*

У тыя чэрвеньскія дні 41-га Уладзімір Старавойтаў, галоўны бухгалтар калгаса «Чырвоны партызан-1», адчуваў: гітлераўская Германія паводзіць сябе надта нахабна — ушчыльную наблізілася да савецкай граніцы. У раёне хадзілі чуткі, што то аднаго нямецкага шпіёна злавілі, то другога. Маўляў, разнюхвалі яны дыслакацыю воінскіх часцей, збіралі звесткі пра аэрадром, дзе базіравалася авіяцыя дальняга дзеяння. Адным словам, у паветры пахла порахам...

Старавойтаў ведаў: калі раптам вайна, ён будзе мабілізаваны. Але калі прынеслі павестку тэрмінова з'явіцца ў ваенкамат, разгубіўся. Жонка замітусілася, забегалі каля яго трое дзяцей-падлеткаў, заплакала ў люльцы трохмесячная Таська. «Збірай, Уля, у мяне мала часу», — сказаў ён і пачаў складваць у рэчмяшок чыстую бялізну, кубак, лыжку, акраец хлеба ды кавалачак сала.

На спадарожнай машыне дабраўся да Бабруйска. Старавойтава разам з іншымі мабілізаванымі адвезлі ў ваенны гарадок Кісялевічы. Там выдалі зброю, абмундзіраванне і папярэдзілі: «Вораг блізка...»

Зводны атрад з сямідзесяці чалавек закінулі на паўднёвы захад горада, за раку Бярэзіну. Старавойтаў радаваўся: да дому рукой падаць. Разам з земляком з суседняй вёскі ён знаходзіўся ў саставе невялікага падраздзялення, усяго з пяці чалавек, якое акапалася на ўзвышшы побач з чыгункай. Дзень, другі — ціха. Быццам няма ніякай вайны, толькі манеўры. Але вось пачало нешта вухкаць у горадзе. Гэта немцы бамбілі аэрадром і чыгуначную станцыю. А потым ворагі наблізіліся да іх пазіцый. Спачатку з боку горада паказаўся адзін танк, потым другі, імкліва рухалася па чыгунцы дрызіна. Завязаўся кароткі, але жорсткі бой. Старавойтаў прыкрываў таварышаў. Адстрэльваўся да апошняга, стаў перабягаць — і яго прашыла варожая куля. Непаслухмянымі рукамі дастаў з бакавой кішэні гімнасцёркі невялікую, складзеную надвое паперку і хімічным алоўкам, перасільваючы сябе, вывеў: «Паміраю. Муж...» Сілы на большае не хапіла...

Так і ляжаў на месцы смяротнай схваткі, у адной руцэ — «трохлінейка», у другой — запіска... Першай цела загінуўшага воіна заўважыла жыхарка пасёлка Зялёнка Сілівончык. Хто ён? Адкуль? Запіска не магла даць адказу. А вось медальён, які ляжаў побач, сведчыў дакладна: з вёскі Бортнікі. «Дык там жа мой сын старшынёй сельсавета працаваў!» — адразу падумала жанчына. Яна тут жа напісала запіску ў Бортнікі, сям'і Старавойтава яе перадалі разам з медальёнам і перадсмяротным пасланнем.

Добрыя людзі разам з Сілівончык пахавалі салдата на месцы яго гібелі. Ульяна Старавойтава з дзецьмі пабывала на магіле мужа. Трэба было неяк жыць, дзя-

цей узнімаць... Хадзіла ў калгас, даражыла кожнай палачкай-працаднём. А думкі не давалі спакою: муж загінуў, ёсць сведкі, ёсць медальён, запіска, але афіцыйна ён лічыцца прапаўшым без вестак. Паехала ў раённы ваенкамат. Там цярпліва выслухалі, пазнаёміліся з дакументамі, аднак... Спасталіся на выпіску з архіва Міністэрства абароны СССР: «Прапаў без вестак».

З вялікай крыўдай у душы жыла ўдава... Праўда, землякі з роднага калгаса «Гігант» ёй спачувалі, чым маглі, дапамагалі. А галоўнае, дзеці грэлі душу! З дзецьмі жанчыне пашанцавала. Раслі яны, цягнуліся да вучобы. А як канікулы — працавалі ў паляводчай брыгадзе.

Першым вылецеў з роднага гнязда Мікалай, паступіў у вышэйшае Ваеннамарское вучылішча імя Фрунзе. Затым Леанід паспяхова здаў экзамены ў Гомельскі інстытут чыгуначнага транспарту. Аркадзь узяў прыклад са старэйшага брата, таксама абраў прафесію ваеннага, скончыў напачатку вучылішча, а потым Акадэмію Генеральнага штаба, дaслужыўся да палкоўніка... Ну а малодшая Тася была пры маме, яе галоўнай памочніцай.

Здавалася, наладзілася жыццё. Бывала, збяруцца браты разам, дзеляцца навінамі, а потым гаворка сама сабою заходзіць пра помнік бацьку: «Няўжо не заслугоўвае?» Леанід, які ўжо працаваў начальнікам дэпо Чарняхоўска, што ў Калінінградскай вобласці, узяўся вырабіць помнік па ўласным праекце. Мікалай і Аркадзь дапамаглі грашыма.

Неўзабаве помнік даставілі ў Бабруйск, далей — у Зялёнку. Два кіламетры сыны неслі яго на руках праз забалочаныя мясціны, але не адчувалі цяжару, наадварот, лёгкасць, радасць: нарэшце споўнілася іх даўняя мара — ушанаваць памяць бацькі, які загінуў, абараняючы Радзіму. А тут яшчэ падключыліся работнікі гарваенкамата, Бабруйскай дыспетчарскай станцыі пуці: добраўпарадкавалі тэрыторыю вакол помніка, устанавілі агароджу. І цяпер ён бачны здаля, хто не ідзе, прыпыніцца ў маўчанні, тут заўсёды кветкі. Ну а што дзеці Старавойтава задаволены, дык і гаварыць не даводзіцца: «Мы памятаем цябе, тата!»

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# КАМІЛЬ КАМАЛ МАЛЮЕ КІТАЙ



*Фота Канстанціна ДРОБАВА.*

У Беларусі, ды і не толькі ў Беларусі, добра ведаюць таленавітага мастака Каміля Камала. За апошнія дзесяцігоддзі прайшло некалькі яго персанальных выставак. У тым ліку — і ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.

Азербайджанец па нацыянальнасці, ён даўно жыве і працуе ў Мінску. Дый калі вучыўся ў Санкт-Пецярбургу (тады яшчэ — Ленінградзе), быў самым непасрэдным чынам звязаны з нашай старонкай. Праз увагу да творчасці славутых мастакоў з Беларусі, напрыклад, да графікі Анатоля Каплана. Але повязь Каміля Камала ў тыя гады з Беларуссю найперш — праз увагу да творчасці ўраджэнца Уваравіч, што на Гомельшчыне, Яўсея Майсеенкі, які быў яшчэ і чулым для маладога мастака настаўнікам.

…Ужо праз гады пасля засваення Камалам Гаджыевым (сапраўднае прозвішча творцы) «ленінградскіх урокаў» пытаюся пра асноўны змест вучобы ў Майсеенкі, змест яго падказак. І вось што адказвае Камал: «А я і не ведаю дакладна, як акрэсліць нашы з настаўнікам стасункі… І, канешне ж, памятаю, што ўрокаў у класічным разуменні не было. Любімы мной Яўсей Яўсеевіч вучыў сваім прыкладам стаўлення да мастацтва і да жыцця ўвогуле. І не ў тым плане, што выклаў процьму запамінальных гісторый… Не, усё было шмат прасцей, а мо і шмат складаней… Я запамінаў толькі выпадкова выкладзеныя запаветы, якія з часам асэнсаваў як вялікія ісціны… Мяркуйце самі. Вось што казаў Яўсей Яўсеевіч пра рэалізм у мастацтве: «Навошта маляваць жыццё, якое перад намі навідавоку?!. Яго

ж ужо намалявала рука Усявышняга. А ты паспрабуй выкласці пэўную тэму, пэўныя рэаліі ў сваёй, так бы мовіць, аўтарскай, няхай сабе і суб’ектыўнай перадачы, у сваім уласным пераказе. Пакажы, дакажы ўсім, што ты сапраўдны мастак. Што здольны на эксперымент, пошук. І што ты не толькі і не гэтулькі мастак-прыдумшчык, а і найперш — філосаф, творца, які ўнікліва зазірае ў сутнасць прадмета, з’явы. Тады і глядач будзе прыкаваны да карціны, партрэта тваімі адкрыццямі. Вобразаў, колераў, адценняў, сімвалаў… Толькі тады і ўсталюецца тая галоўная сувязь творцы і гледача, без якой няма твора, няма самой сутнасці мастацтва…» Магчыма, я крыху недакладна перадаю яго словы. Але па сутнасці ніякіх памылак не дапускаю.

І другое, што было знакавым у вучобе, настаўніцтве, — уласны прыклад жывапісца. Не было б Майсеенкі — не ведаю, ці змог бы я адбыцца як Асоба… Мастак навучыў мяне вылучаць сапраўднае, заглядаць у розныя часіны. Ад Майсеенкі маё захапленне жывапісцамі Сярэднявечча. Ад яго — і маё жаданне разгледзець розныя мастацкія Сусветы і іх стваральнікаў… Мо адтуль, з Ленінграда — Санкт-Пецярбурга, — і мая сённяшняя зацікаўленасць Кітаем…»

Каміль Камал, якога ў Беларусі ведаюць як жывапісца, скульптара, да асэнсавання Кітая і кітайскай культуры, саміх кітайцаў прыходзіць найперш праз заняткі ў галіне кніжнай графікі. Тут хацелася б заўважыць, што ў дадзеным выпадку шчасліва сышліся клопаты, патрэбы выдавецтва і жаданні мастака. Пачынаючы з 2014 года, у Выдавецкім доме «Звязда» выходзіць адмысловая, нечаканая для Беларусі серыя «Светлыя знакі. Паэты Кітая», калі праз адну кнігу чытачу ў перакладзе на беларускую мову прадстаўляюць аднаго паэта. Такі вопыт засваення кітайскай паэзіі носіць характар унікальны — як для Беларусі, так нават і для Расіі ці Украіны. Не чуваць пра выданне серыі кітайскай паэзіі і ў перакладах на іншыя славянскія мовы. За 2014—2017 гады ў Мінску ўбачылі свет зборнікі Ван Вэя (2014), Ду Фу, Лі Бо, Ай Ціна (усе — 2015), Лі Хэ, Лі Цінчжаа, Ван Гачжэня (усе — 2016), Мэн Хаажаня (2017). Падрыхтавана да друку кніга Сюй Чжымо. Над перакладамі вершаў гэтых творцаў розных стагоддзяў працаваў вялікі атрад беларускіх паэтаў-перакладчыкаў — Мікола Мятліцкі, Навум Гальпяровіч, Леанід Дранько-Майсюк, Алена Раманоўская, Таццяна Сівец, Валерыя Радунь, Юлія Алейчанка, Алесь Бадак, Рагнед Малахоўскі. Складаючы кнігі серыі, выдаўцы ўключылі ў некаторых выпадках і пераклады ранейшых дзесяцігоддзяў: беларускае прачытанне кітайскіх класікаў Рыгорам Барадуліным, Анэляй Тулупавай, Яўгеніяй Янішчыц, Нінай Загорскай, Вольгай Іпатавай, Валянцінай Коўтун. Вядомы кніжны мастак Анатоль Званароў распрацаваў серыйнае афармленне, выкарыстоўваючы слынныя мастацкія работы кітайскіх жывапісцаў і графікаў. У А. Званарова быў ранейшы вопыт. У 2012 годзе Выдавецкі дом «Звязда» выпусціў аўтарскую анталогію лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Міколы Мятліцкага «Пад крыламі Дракона: Сто паэтаў Кітая».

Здавалася б, лепшага мастацкага рашэння, чым было абрана, і не трэба. Але, маючы вопыт выдання пяці кніг (уключна да зборніка Лі Хэ), «звяздоўцы» пачалі разважаць, як спалучыць паэзію і выяўленчае мастацтва. Для Кітая было традыцыяй, калі паэты з’яўляліся каліграфамі, не толькі ў словах выяўлялі свой светапогляд на рэчаіснасць, але і малявалі, асэнсоўвалі фарбамі розныя з’явы, падзеі, уражанні. І таму, канешне ж, важна адчуваць вершы праз жывапіс ці графіку.

Была і раней у «звяздоўцаў» спроба дадаць у кнігу адпаведныя зместу ілюстрацыі. Размова — пра зборнік Ду Фу. Ілюстрацыі прапанаваў вядомы кітайскі перакладчык і каліграф, добры знаўца беларускай літаратуры Гао Ман (ён, між іншым, уваходзіць у міжнародны рэдакцыйны савет серыі «Светлыя знакі. Паэты Кітая»). Але задума, на жаль, не была рэалізавана.

А для работы над кнігай Лі Цінчжаа «Мост цераз Млечны Шлях» было прынята рашэнне запрасіць беларускага мастака. Выбар выпаў на Каміля Камала.

Бяскрайняя вясновая нуда.
І валасы прыбраць няма жадання.
Казала сліве: «Вецер — як вада,
Не давярайся, скруціць — і падмане…»

Нашто квітнець, калі такая кара?
Нашто за месяцам ганяцца хмарам?
Нашто, нашто? Сама сябе схаваю
Пад полагам з жамчужнымі махрамі.
Чырвонай вішняй лямпа даспявае,
А птушка сонца ўжо не за гарамі.

Не веру я, каб зараз дапамог
Хвалёны цудадзейны рог.

Гэта — верш Лі Цінчжаа «Вясновая нуда». Пераклад Анэлі Тулупавай. Як гэта намаляваць? Ці здольны чалавек, няхай сабе і таленавіты, унікнуць да кітайскага сюжэта?.. Дарэчы, «цудадзейны рог» — гэта рог міфічнага аднарога, які даваў незвычайную сілу свайму ўладальніку… Часам кітайскія вершы без каментарыяў і не асіліш…

У выпадку Каміля Камала, пэўна, спрацавала тое, што ў беларускім выяўленчым мастацтве ён засведчыў сваю прывязанасць да тэмы Усходу. Камал і ў Беларусі настойліва, паслядоўна малюе свой фантазійны (а мо і рэальны?!) Азербайджан. Праўда, былі і сумненні. Каміль Камал, здольны ўвогуле да смелых эксперыментаў у выкарыстанні розных матэрыялаў, у выбары розных формаў і метадаў, адным словам, досыць смелы, скіраваны да выяўлення новага мастак, меў дагэтуль не дужа і вялікі вопыт як кніжны графік. Хаця і ў яго былі розныя спробы далучэння да кніжнага мастацтва. Каміль Камал аформіў кнігі рускага празаіка, таджыка па нацыянальнасці Цімура Зульфікарава, беларускага пісьменніка курда Ганада Чарказяна, зборнік вершаў чачэнскага паэта Зелімхана Яндарбіева, выдадзены ў перакладзе народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, часопісную публікацыю прозы Васіля Быкава, краязнаўчую кнігу Алеся Карлюкевіча «Літаратурная карта Пухаўшчыны». Праўда, часцей у якасці ілюстрацыйнага матэрыялу, у якасці афармлення выкарыстоўваліся ўжо існуючыя карціны, партрэты ці малюнкі мастака. Так, Каміль Камал імкнуўся прасачыць увесь працэс іх выкарыстання, падрыхтоўкі, рабіў заўвагі па дызайне, вёрстцы таго ці іншага выдання. І, канешне ж, прапаноўваў да рэалізацыі тыя мастацкія ідэі, якія дапасоўваліся непасрэдна да афармлення кніг і публікацый у перыядычным друку. Мастак быў знаёмы з тэкстам, унікліва падыходзіў да зместу тых ці іншых твораў.

Прапаноўваючы Камілю Камалу аформіць зборнік Лі Цінчжаа, выдаўцы спадзяваліся ўсё ж непасрэдна на работу, якая будзе справакавана мастакоўскім прачытаннем паэзіі вялікай кітайскай жанчыны-паэтэсы.

Млечны Шлях над зямлёй векавечны.
Ціха-ціха. Завешаны вокны.
І цыноўка выстуджае плечы,
Ўся падушка ад слёз прамокла.

Распранаюся — строі здымаю.
Ноч прыйшла ці ўжо дзень?
Задрамала…

Дзіўны лотас. Такая краса!
Ізумрудныя фарбы пладоў.
Залатое шыццё па атласе —
Як адбіткі шчаслівых гадоў.
Тыя ж рэчы і неба тое ж.
Толькі радасць чамусь яны тояць.

Гэтыя радкі — з верша Лі Цінчжаа «У нябёсах праварочваецца Млечны Шлях». Самае простае, што можна было ўявіць: Каміль Камал паспрабуе намаляваць свой Млечны Шлях. На памяць прыходзіць кніга выбраных паэтычных твораў народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі «Млечны Шлях», выдадзеная «Мастацкай літаратурай» у 1980 годзе. Аформіў кнігу ў досыць рэалістычнай манеры славуты Барыс Забораў.

А вось у выпадку з першым падыходам беларускага азербайджанца да асэнсавання кітайскай паэзіі «эксперымент» не зусім атрымаўся. Каміль Камал, як верны вучань Яўсея Майсеенкі (успомніце падыходы нашага земляка да вызначэння рэалістычнага ў мастацтве), застаўся самім сабою. Яго ўсходнія, каўказскія, захапленні распаўсюдзіліся і на прачытанне кітайскай класічнай паэзіі. Кітай і яго прырода, Кітай і яго народ, Кітай і Сонца ды Месяц над ім паўсталі ў вобразе жанчыны з усходнімі раскосымі вачыма, выцягнутым тварам, танюткім станам. Кітайцы, якім давялося пагартаць беларускі зборнік Лі Цінчжаа «Мост праз Млечны Шлях», тактоўна прамаўчалі. Пэўна, і беларусы не разгледзелі на малюнках кітаянку…

І якім было маё асабістае здзіўленне, калі Каміль Камал у рабоце над daveraным яму другім зборнікам (размова пра беларускую кнігу Ван Гачжэня) прыўзняўся над сабою, зрабіў выразны крок наперад. Сапраўды графічным прачытаннем менавіта «Мелодый адкрытага сэрца» становяцца яго новыя малюнкі. Думаю, што ліній, новых сімвалаў, жадання быць у нечым новым і разам з тым заставацца са сваім мастацкім, эстэтычным светапоглядам Камалу дадало разуменне, што ён працуе над афармленнем твораў амаль свайго равесніка: беларускі мастак нарадзіўся ў 1954 годзе, кітайскі паэт — у 1956-м… Равесніка, які здолеў, захаваўшы традыцыю, даказаўшы свету, што паэзія, друкаванае слова не знікаюць, паспрабаваць гаварыць са сваім пакаленнем на адной мове. Дарэчы, тыражы кніг Ван Гачжэня (на жаль, ва ўзросце 59 гадоў ён пакінуў гэты свет) сягнулі за 10 мільёнаў асобнікаў (пагадзіцеся, лічба ўражвае!)… Мастак, відавочна, быў захоплены і тым, што Ван Гачжэнь так пранікліва і ўзнёсла піша пра каханне, выводзіць яго на новыя сацыяльныя вышыні, разглядае галоўную праяву ў шчырых, чалавечых зносінах не толькі як шчасце памкненняў да адзінства, супольнага спасціжэння таямніц жыцця, але і як вечнасць чытання, разумення адзін аднаго, як вечнасць жаданняў…

Так хочацца нешта зрабіць для цябе,
Так хочацца шчыра аддзячыць!
Ты быццам надзея ў глыбокай журбе,
У роспачы чорнай — удача.

Так хочацца грэць цябе
шчырым святлом,
Але я не сонца на небе.
Так хочацца лашчыць
спорным дажджом,
Як зерне ў ворыўнай глебе.

Ды не! Не магу я таго абяцаць!
Жаданне — таксама пакута.
Я толькі паэт. Што з мяне ўзяць?
Як раб, я да слова прыкуты.

Верш Ван Гачжэня так і называецца — «Так хочацца!» Каміль Камал дадаў да паэтычных радкоў пра жаданні каханага чалавека свае колеры кахання. І ў іх — грунт шчырасці і адкрытасці, які дазваляе двум відам мастацтва паяднацца і праявіць большыя сілы ў судакрананні з нашай, чытацкай, свядомасцю.

Ужо ўважлівае знаёмства з кнігай Ван Гачжэня ў афармленні Каміля Камала настройвае і на асэнсаванне ўражанняў чытача і гледача ў такім вось кірунку. Ілюстрацыі беларускага мастака да кніг кітайскай паэзіі варта выдаваць асобным альбомам і ладзіць выстаўку іх арыгіналаў. Гэта дазволіць скласці больш поўнае ўяўленне пра здзейсненае, ажыццёўленае кніжным графікам. І калі выданне асобнага паўнавартаснага альбома — справа досыць няпростая па сённяшнім часе, то арганізацыя выстаўкі, далучэнне да працы Каміля Камала ў кітайскім кірунку большага кола гледачоў дапамаглі б пашырыць прастору рознабаковых беларуска-кітайскіх стасункаў у галіне культуры, у галіне мастацтва і літаратуры. Падштурхоўвае да такой прапановы і знаёмства з кнігай вершаў «Мудрасць гор маўклівых» Мэн Хаажаня ў афармленні Каміля Камала. А яшчэ ж мастак завяршыў працу над ілюстрацыямі да кнігі паэзіі Сюй Чжымо. Відавочна, што як кніжны графік беларускі творца паўнакроўна жыве перакананнямі звязаць сябе напоўніцу з кітайскай тэмай. І вось што ён сам гаворыць аб гэтым:

— У поле зроку да мяне трапляе ўсё больш цікавых і адметных кітайскіх тэм… Я шмат чытаю пра Паднябесную, успамінаю свае ранейшыя ўяўленні пра Кітай і і кітайцаў. Зараз, напрыклад, чытаю раман вялікага кітайскага пісьменніка Лао Шэ (1899—1966) «Запіскі пра кацiны горад». Уражаны кнігай, яе надзвычайнай неабходнасцю для ўсіх часін і для ўсіх краін. І не толькі таму, што глыбокая сатыра робіць яе чытэльнай, вылучае ў кітайскай літаратуры лінію сацыяльнай фантастыкі. Справа ў іншым. Талент Лао Шэ пераканаўча развівае вартасці гуманістычнага характару. Лао Шэ на прыкладзе марсіянскіх катоў-чалавекаў, да якіх выпадкова трапляе ў выніку аварыі міжпланетны карабель, паказвае: цывілізацыю нават з гісторыяй у 20 тысяч гадоў страціць зусім і зусім лёгка. Для гэтага трэба толькі саступіць ляноце, тупасці, шэрасці, гультайству, іншым заганам і дурнотам. Такая вось вострая палітычная сатыра на імператарскі Кітай для многіх краін можа паказацца на дзіва сучаснай. Прагрэс чалавецтва ідзе вельмі марудна. А вось рэгрэс — імгненна. Варта толькі страціць гуманнасць — і ты зноў дзікун. Вось бы праілюстраваць такую кнігу!.. Застаецца спадзявацца на яе выданне ў Беларусі… Але мала кіравацца толькі спадзяваннямі, думаць, што нешта адбудзецца само па сабе… Каб спасцігнуць Кітай, зразумець цывілізацыйныя вышыні адрознай ад нас культуры, трэба прайсці доўгі шлях. Не ведаю, ці ўдасца мне агараць такую няпростую дарогу, але ўпэўнены, што і далей буду па ёй ісці… У кітайцаў ёсць такі крылаты выраз: «Разбіць катлы, патапіць лодкі». Гэта прамы пераклад вельмі значнага фразелагізма. І сэнс яго такі: праявіць надзвычайную рашучасць пры выкананні пэўнай справы, дайсці да канца. Іначай кажучы, змагацца не на жыццё, а на смерць. Можна і так сказаць — ісці напралом, прыняць канчатковае рашэнне, атрымаць перамогу… І мой шлях, пры ўсёй яго, паўтаруся, няпростасці, пры ўсіх складанасцях — дарога да вышынь за даляглядамі.

Відаць, такая рашучасць і дапамагае Камілю Камалу захапіцца, загарэцца многімі справамі ў асэнсаванні кітайскага ўчора і сёння. Беларускі мастак ілюструе і творчасць Лао Цзы… Дакладней — выканаў некалькі работ па матывах прачытання выслоўяў Лао Цзы. Тут трэба, пэўна, крыху патлумачыць. Гісторыя па-рознаму ставіцца да самога магчымага існавання Лао Цзы. Адны лічаць, што ён нарадзіўся ў 604 годзе да нашай эры. Не ўсе нават з прыхільнікаў даосізму ўпэўнены, што «Кніга шляху» належыць яго пяру. І тым не меней імя Лао Цзы трывожыць памяць кітайцаў і ўсіх, хто хоча зразумець Кітай, на працягу многіх і многіх стагоддзяў. Класік рускай літаратуры ў 1909 годзе напісаў артыкул, у якім проста і выразна ясна патлумачыў сутнасць вучэння Лао Цзы. А сутнасць такая: сузіральная пасіўнасць — вось галоўнае, што павінна намі рухаць. Паслухайце Лао Цзы: «Калі хто-небудзь жадае авалодаць светам і маніпуліруе ім, таго спасцігне няўдача. Бо свет — гэта святы сасуд, якім нельга маніпуліраваць. Калі

хто ж хоча маніпуліраваць ім, знішчыць яго. Калі хто хоча прысвоіць яго, страціць яго». І ўсё ж нельга прамалінейна разглядаць даосізм і выказаныя Лао Цзы перакананні як жаданне нічога не рабіць, аддавацца ўцехам жыцця і развіваць у сабе залежнасць ад «дываннай хваробы». Нядзеянне — ёсць менавіта дзеянне. А галоўныя крытэрыі жыццёвай свабоды, гарманічных суадносін чалавека з усім светам: даверлівасць, дабрыня, клопат пра народ.

Каміль Камал, даўно прачытаўшы кнігу «Изречения китайского мудреца Лао-Тзе, избранные Л. Н. Толстым» (на вочы патрапіла тоненькае факсімільнае перавыданне 1911 года, якое ў 1992 годзе здзейснілі ў Маскве), доўга шукаў фармат свайго творчага вырашэння тэмы. Як вынік — серыя графічных малюнкаў, паяднаная з партрэтам самога Лао Цзы. Што прываблівае ў гэтым цыкле, гэтай серыі?.. Каміль Камал здолеў прыўзняцца над словамі і паспрабаваў сягнуць у іх нябесны кантэнт. Ці атрымалася? Меркаваць гледачам. У адным упэўнены дакладна: з дапамогай Лао Цзы беларускі мастак шукае вечную гармонію, імкнецца пасунуць уяўленні чалавека пра вартасці развіцця асобы ў кожным з нас з дапамогай гуманістычнага разгляду рэчаіснасці. Паслухаем жа Лао Цзы: «Клапаціцца пра малое значыць быць адукаваным. Следаваць мяккасці значыць быць моцным»; «Ведаць, што не ведаеш, ёсць вышэйшае. Не ведаць, што не ведаеш, ёсць хвароба»; «Няма большага няшчасця, як не ўмець задавальняцца»; «Калі сам сабе не верыш, то і табе ніхто не паверыць» і г. д.

— Уважлівае шматразовае чытанне-перачытванне Лао Цзы, які некалі шчасліва прыйшоў да мяне танюткай і таннай кніжачкай, — расказвае Каміль Камал, — падштурхнула мяне больш пільна і ўважліва ўгледзецца ў кітайскі свет. Мяне пачалі цікавіць многія неўміручыя, знакавыя імёны з кітайскага пантэона асветнікаў, мысляроў… Уражвае тое, што з даўніх часін дайшлі да нас занатаваныя думкі многіх з гэтых празорліўцаў… Так пачала нараджацца серыя графічных партрэтаў… Лао Цзы, Сюй Чжымо, Гао Ман, Ван Гачжэнь, Канфуцый, Мо Янь, Лао Шэ, Цюнь Юань, Вэнь Індо… Калі пачала ўжо выбудоўвацца плеяда гістарычных персанажаў у маім разуменні, маёй свядомасці, то я падумаў і пра тое, што абавязкова пастараюся пашукаць паралелі для арганізацыі «сустрэч» постацяў Беларусі і Кітая ў межах аднаго партрэта. Тым болей, што ў некаторай ступені такі вопыт у мяне ёсць. Летась я намаляваў агульны партрэт легендарнага азербайджанскага паэта Мікаіла Мушвіга і класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча... Шчаслівы, што партрэт быў выдрукаваны асобнай афішай, якой знайшлося месца ў Цэнтры азербайджанскай культуры ў Беларускім педагагічным універсітэце імя Максіма Танка. У многім гэта адбылося дзякуючы тагачаснаму кіраўніку цэнтра літаратуразнаўцу і перакладчыку Салатын Мірзаевай… Між іншым, нагадаю такі досыць цікавы факт. У 1936 годзе ў Мінску праходзіў вечар азербайджанскай паэзіі. У ім прымалі ўдзел Мікаіл Мушвіг і Гусейн Джавід. У хуткім часе, вярнуўшыся ў Баку, яны абодва патрапілі пад каток сталінскіх рэпрэсій і былі расстраляны. Але народ памятае сваіх класікаў, сваіх прарокаў. Іх чытаюць і перавыдаюць зараз, пасля стольксіх гадоў забыцця.

…Мы шмат і падоўгу размаўлялі з Камілем Камалам пра яго кітайскія зацікаўленні, якія мне асабіста падаюцца сапраўднымі мастацкімі адкрыццямі, маючымі вялікую творчую сілу. Здаралася, што размова неспадзеў пераходзіла на родныя для Камала азербайджанскія нацыянальныя матывы. І высветліліся і іншыя глыбокія інтарэсы мастака. Гэта і графічныя ілюстрацыі да паэзіі Гусейна Джавіда. Мастак выканаў літаральна сотні малюнкаў на гэтую тэму. Яшчэ Каміль Камал старанна робіць занатоўкі для стварэння цыкла малюнкаў «Адрасы азербайджанскай культуры ў Беларусі». Збіраецца праз гэтыя работы расказаць пра сваіх суродзічаў, лёсы якіх так ці іначай знітаваны з Мінскам, Магілёвам, Брэстам, Гродна… «І думаць пра мой Азербайджан, азербайджанскую далучанасць да Беларусі мне дапамагаюць кітайскія паэты», — сцвярджае беларускі азербай-

джанец. І следам за выкладзенай думкай раскрывае кнігу «Мелодыі адкрытага сэрца» Ван Гачжэня. Разам мы і чытаем верш «Успаміны мінулага»…

Я хацеў пераплысці, маўляў, раку,
Гэты час, бы шлях у краіну мрой.
Ды забыўся раптам, прыйшоў адкуль
І куды іду я начной парой.

Хто пакінуў след на сцяжыне той?
Не адкажа дзень, не падкажа змрок.
Я іду далей, я шукаю штось,
Ды ў мінулы дзень не знайсці дарог.

Як шкада, што час не вярнуць назад.
Хоць бяжы хутчэй, хоць чакай гады.
Лепей нітку лёсу свайго звязаць
Між старым сабою — і маладым.

«Шуканне чужых слядоў, — дадае мастак пасля прачытання верша, — захапляльны занятак. Але ўжо не аднойчы пераконваешся, што за ўвагай да чужога неўспадзеў разглядаеш сваё, свайго народа памкненні. І хаця ў маім лёсе столькі ўсяго перасеклася, паяднался, я добра памятаю, з дня ў дзень гавару, што жыву ў Беларусі, жыву як адзін з мільёнаў яе дзяцей. І таму, гледзячы на шырокі свет, спасцігаю ўласныя, усебеларускія памкненні да святла і святынь…»

Таму, пэўна, гранічна шчыры і цёплы верш прысвяціў Камілю Камалу народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін — «Развітанне з рэхам»: «Край скалы — / Пачатак палёту / Ці ў нябёсы а ці ў прадонне. / Край, / Дзе роспач пасе ахвоту, / Дзе вітаюцца заўтра й сёння. / Дол / Няможа прагнаць нікога. / Страх / Прыбілі маланкі цвікамі. / Напалоханая дарога / Ад сябе самой уцякае».

І Каміль Камал шчыра вітае ў Беларусі кітайскую паэзію, дапамагае яе ўваходжанню на беларускую глебу. Час яму за гэта, несумненна, аддзячыць.

**Казімір КАМЕЙША**

# І КОЖНЫ ШЛЯХ ПРАЙСЦІ НАНОВА




*Васіль МАКАРЭВІЧ*

**«СВЯТЛО ІМЁНАЎ ДАРАГІХ»**
**Творчыя партрэты беларускіх пісьменнікаў.**

*Мн.: Чатыры чвэрці, 2016.*

Калі мець на ўвазе шлях жыццёвы, дык прайсці яго нанова ў тым жа жыцці і ў тым жа фармаце, вядома ж, немагчыма. А вось тыя, хто звяртаецца да творчасці пэўнага аўтара, даследуе і вывучае яе, такую магчымасць, безумоўна, маюць. Прайсці след у след за любімым і паважаным аўтарам, перачытаць нанова, ужо калісьці прачытанае, — усё гэта не толькі вяртае смак некалі ўпадабанага і адчутага, але і не пазбаўляе нас права новаадкрыцця. У даўно адшуканым і засведчаным, як правіла, знойдзецца месца і таму, што некалі не захацела выбліснуць нейкай сваёй адметнасцю, засталося за межамі тваёй увагі. Хай гэта будзе адкрыццё даўно адкрытага, ды ўсё адно яно будзе тваім, такім, як ты яго ўбачыў і засведчыў сваім успрыняццем. Але ж мы тут заўсёды павінны ўлічваць і вочы самога першаадкрывальніка, якім з'яўляецца аўтар.

Большасць з тых, каго згадвае ў сваёй кнізе «Святло імёнаў дарагіх» Васіль Макарэвіч, я ведаў асабіста, з некім нават сябраваў, пра іншых даводзілася і пісаць. У такім разе прачытанне бывае, як правіла, не толькі зацікаўленым, але і ў пэўным сэнсе скрупулёзным, нават, калі хочаце, прыдзірлівым: «А ці здолеў аўтар адчуць тое, што адчуваў ты, ці заўважыў нейкі яго падтэкставы намёк, ці спатыкнуўся там, дзе спатыкаўся ты?» А паэт, пішучы пра іншага паэта, заўсёды шукае ў свайго сабрата і нешта блізкае, а то і роднаснае, нават радуецца, калі нейкія адчуванні і ўспрыманні іх дзесьці супадаюць. Варта адзначыць, што В. Макарэвіч у кожным сваім жыццяпісе імкнецца быць аб'ектыўным, кожную сваю думку, як і належыць, падмацоўвае ў якасці прыкладу радкамі, а дзе патрэбна, звяртаецца да біяграфічных фактаў. Партрэт і мусіць быць партрэтам. У ім не павінна быць нейкай расплывістасці, невыразнасці, пустога ваколхаджэння. У партрэце павінен быць пазнавальны твар таго, каго мы малюем.

Дваццаць адно імя — для адной кнігі, думаецца, не так і мала. Гэта ўжо своеасаблівая галерэя. Што тычыцца выбару імён, дык ён у В. Макарэвіча, як і ў кожнага аўтара, свой, але зусім невыпадковы. Усе яны вартыя ўвагі,

кожны ўнёс свой належны ўклад у айчынную літаратуру. Іншая справа, што не кожнаму са згаданых творцаў хапіла ў свой час увагі літаратуразнаўцаў. Пісьменнікаў у нас, дзякуй богу, шмат, а вось кніг, нават друкаваных матэрыялаў пра пісьменнікаў паранейшаму малавата. Ці не гэтая думка прачытваецца і ў прадмове да кнігі старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца. І тут трэба толькі вітаць шчыры клопат В. Макарэвіча ды і не лішне падзякаваць выдавецтву «Чатыры чвэрці» ў яго зацікаўленні і спрыянні справе прапагандавання роднай літаратуры.

Як прызнаецца В. Макарэвіч, кніга стваралася нібыта двума захадамі. У свой час яе аўтар працаваў у рэдакцыі літаратурна-драматычнага вяшчання Беларускага радыё, і большасць творцаў, згадкі пра якіх мы сёння з цікавасцю чытаем на старонках кнігі, былі добрымі субяседнікамі ў студыі і эфіры. І сваім, і іхнім голасам, то ў форме дыялогу, то аналітычнага расповяду, зацікаўлены вядучы даваў магчымасць адчуць усю насалоду адметнага паэтычнага слова, звяртаў увагу на нейкія неардынарныя жыццёвыя акалічнасці, далучаў слухача да сакрэтаў самага патаемнага ў творчай працы. А з некаторымі паэтамі аўтара паяднала добрае сяброўства. У канцы 90-х гадоў мінулага стагоддзя голас В. Макарэвіча даволі пераканаўча і прывабліва гучаў у айчынным радыёэфіры. Сёння многіх з тых суразмоўцаў ужо няма на гэтым свеце, а вось старонкі іх біяграфій, засведчаныя калісьці ў эфіры, засталіся. І звяртаючыся да іх, аўтар, ужо з пазіцыі памяці, часу і адлегласці многае дапоўніў, перайначыў, на многае глянуў больш аналітычным позіркам, яскравей акрэсліў неакрэсленае, а штосьці і занава перапісаў, а дакладней — дапісаў ужо знаёмыя партрэты.

Адкрываецца кніга грунтоўным артыкулам «Верасовы ўзятак» пра слыннага майстра айчыннай паэзіі Анатоля Вялюгіна. Постаць гэтая сапраўды ўнікальная ў нашай літаратуры. Ужо сама мянушка, якая пажыццёва замацавалася за паэтам — «адмірал паэзіі» — шмат пра што гаворыць. А гэта ж яшчэ па вялікім рахунку і настаўнік паэтычнай моладзі, і вядомы кінасцэнарыст, і перакладчык. Два, можа, і тры паэтычныя выраі, некалькі пакаленняў таленавітых паэтаў выраслі пры яго бацькоўскай падтрымцы і пакінулі свой адметны след у літаратуры. Не надта ўдаючыся ў агульныя разважанні, В. Макарэвіч аддае перавагу падрабязнаму разгляду некаторых, здавалася б, непрыкметных вершаў паэта, да якіх наша крытыка ніколі і не падступалася. Аднак менавіта там часта і разгледзіш тое характэрнае, без чаго немагчыма ўявіць усяго іншага, што падкрэслівае саму велічыню паэта. Малюнак — вось што самае галоўнае ў вершы А. Вялюгіна. Даць такі малюнак, каб «зоры зарыдалі» — гэтага перш за ўсё дамагаецца паэт. А на ўсё тое ідзе цэлы арсенал мастацкіх сродкаў. Гэтую рысу справядліва і адзначае В. Макарэвіч, засяродзіўшыся на вершы «Вёрсты», дзе гаворка тычыцца вяртання Пушкіна з высылкі. Справядліва адзначае даследчык, што Вялюгіну-паэту шчодра і плённа дапамагае Вялюгін-кінасцэнарыст. Ухвальна і тое, што В. Макарэвіч падрабязна спыняецца на творах апошняй кнігі А. Вялюгіна «Заклён на скрутны вір». Зборнік гэты застаўся па-за ўвагай літаратурнай крытыкі. А ён зусім па-іншаму, нават з нечаканага боку, высвеціў талент паэта. Кніга, на жаль, з'явілася толькі пасля смерці аўтара, але да друку ён рыхтаваў яе сам.

Пра творчасць чарадзея роднага слова Аркадзя Куляшова напісана шмат. Здавалася б, усе старонкі яго жыцця і творчасці чытачу даўно вядомыя. Тым не менш, В. Макарэвіч сканцэнтроўвае сваю ўвагу на «Новай кнізе», даволі вызначальнай у творчасці знакамітага паэта, падкрэсліваючы пры гэтым не толькі «касмічнае», куды часцей за ўсё сягае думка творцы, але і зямное, да чаго моцным вузлом прывязана яго душа. В. Макарэвіч і ў ролі літаратуразнаўчай застаецца ўсё ж паэтам і часта, забываючыся, што ён дэталёва аналізуе нейкі твор на прадмет яго мастацкай значнасці, тут жа цалкам аддаецца

захапленню: «…учытваючыся ў чарговыя вершы паэта, здаецца, трапляеш на перадсвітальную, росна-дымную ад начной свежасці паляну ці пожню, дзе гэтулькі прастору для звонкіх птушыных галасоў, цэлыя азёры гаючага азону, прапахлага медуніцай і іншымі гаючымі травамі, а побач смалісты, па-святочнаму прыбраны сасновы бор, што акунаючыся сваімі вяршынямі ў глыб нябёс, гаворыць з ім пра вечнае і непраходнае. Ад гэтага ўсяго душа робіцца акрыленай…» Даволі паэтычнае і малюнкавае вытлумачэнне значнасці верша. І ўсё гэта не падаецца нам нейкім лірычным адступленнем, а добрым чынам ажыўляе гаворку пра значнасць паэтычнага слова А. Куляшова.

Часта гаворка пра паэзію таго ці іншага аўтара не патрабуе для саўдзелу нейкіх жыццяпісных старонак, бо з вершаў ды і іх падтэксту добра праглядваюцца і лёс, і жыццё самога творцы. Тут важна па-свойму, сваім разуменнем і адчуваннем прачытаць тыя творы. А вось у размове пра творчасць такіх паэтаў, як Адам Русак, Сяргей Грахоўскі, неабходнасць нейкіх біяграфічных згадак проста відавочная і неабходная. Пачынаючы сваё слова пра С. Грахоўскага, аўтар кнігі згадвае запіс паэта на радыё, які меў месца ў канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя: «Паэт ахвотна згадзіўся выступіць перад усесаюзнымі слухачамі. Пры запісе на магнітафонную стужку ва ўступным слове ён адкрыта заявіў: «Я былы зэк ГУЛАГА, які адсядзеў за калючым дротам дзесяць гадоў…» Такая смеласць, прызнацца, мяне здзівіла. Хаця пра рэпрэсаваных гаварылі на той час многа і без ніякіх дазіровак, журналісты рабілі спачатку дзясяткі, як ім здавалася, тонкіх дыпламатычных адступленняў, а потым пераходзілі да незаконных арыштаў, здзеклівых допытаў і судоў, на якіх асуджаныя атрымлівалі доўгія тэрміны зняволення…

Праўда, хваляванне маё было дарэмным. Перадача прагучала поўнасцю і атрымала шырокі розгалас. А паэт — тысячы лістоў з усіх канцоў тагачаснай неабдымнай краіны. Дарэчы, знайшліся і адклікнуліся некаторыя з тых, хто разам з паэтам цягнуў зэкаўскую лямку». Пасля такога ўступу і размова адпаведна набывае свой трагічны накірунак. Толькі пасля гэтага зразумелы і асаблівы сэнс набываюць наступныя радкі:

Мяне ўзважвалі і мералі,  
Здымалі  
Ў профіль і анфас,  
Але ні разу  
Не праверылі  
Душы наяўнасць  
І запас.

І справядліва зазначае В. Макарэвіч, што вершы паэта прадыктаваны самім жыццём, таму і здаюцца такімі суровымі, а не «спрошчанымі і прамалінейнымі», як назваў іх адзін з маладзейшых крытыкаў. Якое жыццё — такія і вершы. Менавіта жыццёвыя, нявыдуманыя старонкі і дапамагаюць, і спрыяюць праўдзіваму прачытанню паэтавых радкоў. Уся арганічнасць паэзіі С. Грахоўскага і бачыцца ў тым самым праўдзівым жыццяпісанні.

Паэт ужо іншага, маладзейшага, пакалення Сцяпан Гаўрусёў паўстае перад намі са старонак кнігі В. Макарэвіча ў сваёй непадобнай і адметнай велічы і сваім абаянні. Быў час, калі вершы яго разыходзіліся на цытаты, бо ў іх добра пазнаваўся твар цэлага пакалення, на дзяцінства якога выпалі суровыя і пагрозныя гады Вялікай Айчыннай вайны: «Я вырас пад гарматнымі ствалами, я мераў час секундай, а не днём, я вызначаў свой рост не пад сталамі — пад расчахлёнай пашчай, пад агнём». Гэта і ў сталага паэта магло б прагучаць яшчэ як унушальна, а тое ж напісаў зусім малады чалавек. Ніякая віртуознасць і мастацкая вынаходлівасць не можа спаборнічаць з жыццёвай праўдай. Тым больш, калі гэта праўда засведчана вачыма дзіцяці. Яшчэ ў ранніх сваіх вершах С. Гаўрусёў здзіўляў сваёй дакладнасцю радка і афарыстычнасцю. «Пад старасць гукну маладосць — і ўсюды яна адгукнецца» — не хочацца і верыць, што гэтак мудра і ўпэўнена мог сказаць пачынаючы паэт. І як зарок сабе на будучае, напісаліся яшчэ на пачатку творчай дарогі такія,

хай і ўзнёслыя, але шчырыя, амаль праграмныя радкі: «Жыццё нашы словы праверыць, ці шчырая сказана праўда. Калі ў іх сягоння паверацъ — паверацъ у іх і заўтра».

Творчы партрэт С. Гаўрусёва, як мне здаецца, найбольш выразны і пераканаўчы ў кнізе В. Макарэвіча. Па ўсім адчуваецца, што і паэзія таленавітага аўтара дужа блізкая і, магчыма, роднасная сэрцу даследчыка. І пра яе ён вядзе гаворку з добрай мерай разважлівасці, не хаваючы сваёй замілаванасці і чалавечай павагі. Крок за крокам прасочвае аўтар творчы шлях паэта, робячы дзесьці пэўныя акцэнты, спыняючы нашу ўвагу на найбольш значным ці галоўным. Кожны накірунак у творчых росшуках С. Гаўрусёва, усе найбольш важныя моманты і зрухі ў карысць гэтых росшукаў, заўважаны і нават акрэслены шляхам удумлівага прачытання вершаў і паэм, з улікам і тых змен, якія пастаянна адбываюцца ў часе і жыцці. Выдзеліць нейкую адну, магістральную тэму ў творчасці С. Гаўрусёва амаль немагчыма. Паэт канцэнтруе ўсю сваю ўвагу на праявах самога жыцця. А яно, жыццё, рэч неабдымная і разнастайная. І калі ўжо зыходзіць ад перажытага, дык не малое месца ў ім будзе займаць і яго вялікасць, каханне. Гэтая тэма для паэта зусім не пабочная. З глыбокай павагай, пашанотай і нейкай асаблівай любасцю піша С. Гаўрусёў пра жанчыну. Зусім не прызнанне ў каханні хвалюе ўдумлівага паэта, а той самы боль, які можа падсцерагаць яго сэрца пасля таго, як гэта спрадвечнае пачуццё раптам выбухне. У гэтай сувязі В. Макарэвіч згадвае даўняе: «Мне помніцца выпадак, калі аднойчы пасля пасяджэння літаратурнага аб'яднання была наладжана вечарынка з танцамі і сярод дзяўчат аказалася нейкая вабная асоба. Паэт прымоўк, здаецца, адасобіўся і пагрузіўся ў сябе, зрэдку пазіраючы на вабную постаць, якая ўвесь час кружылася з цыбатым дзецюком, які крэмзаў бездапаможныя вершы, але на службе сядзеў у высокім крэсле. Няцяжка было здагадацца, што гэта ён прывёў з сабой красуню і ўсім сваім выглядам паказваў, што яна з ім, і ён не ўступіць яе нікому нават на адзін танец. Не помню, як мы разышліся. Але назаўтра паэт быў у мяне, паставіў на стол бутэльку, і калі мы прыгубілі па кілішку, ён, разварушыўся, і прызнаўся, што не можа ачомацца пасля ўчарашняй вечарынкі: «Разумееш, прымільгалася ўчарашняя ластаўка, і цяпер перад вачыма стаіць». На маё здзіўленне, што ён так перажывае, услед за гэтым і на маё запытанне, чаму ён не запрасіў на танец і не пазнаёміўся з ёю, ён толькі глыбока ўздыхнуў: «Дык яна ж была…» Магчыма, гэта адзін з тых выпадкаў, якія маглі падарыць паэту і адпаведныя радкі: «Відаць, ад радаснага болю цябе б любіў да скону я, і непачутая ніколі, і неспазнаная мая!»

Да кожнага партрэта ў кнізе В. Макарэвіча, як правіла, і свой зачын. Няма тут звыклага, дзе нарадзіўся, дзе хрысціўся. Усё гэта можна прачытаць і ў біяграфічным пісьменніцкім даведніку. Расповед пра таленавітага пісьменніка Уладзіслава Нядзведскага, у лёсе якога шмат трагічнага, аўтар, напрыклад, пачынае са знешняга партрэта, дазваляючы сабе і долю іроніі: «З выгляду быў ён падобен да касалапага і нетаропкага пушчанскага мядзведзя, які валюхаецца сабе па лясной глушы, думаючы пра мёд ці іншае пушчанскае смакоцце, напрыклад, салодкую маліну ці чарніцы. У. Нядзведскі быў няспешны ў гаворцы і высновах, любіў пажартаваць і ў ахвоту пасмяяцца. Але большасць часу заставаўся ўдумлівы, паглыблены ў самога сябе, і нярэдка, нават тады, калі знаходзіўся ў сяброўскім гурце, пачуваў сябе неяк адасоблена, крыху замкнута і аддалена ад усіх». Што ж, партрэт досыць пазнавальны. Усе, хто добра ведаў Уладзіслава Іосіфавіча, пагодзяцца з такой знешняй абмалёўкай і характарыстыкай нашага героя. Ведаючы, што сам У. Нядзведскі амаль ніколі не згадваў сваё блакаднае ваеннае дзяцінства, сямейную трагедыю, бо гэта быў яго асабісты незагойны боль, В. Макарэвіч свядома не спыняецца на тым часе, згадваючы толькі некалькімі фразамі далёкую блакадную зіму. Карнікі везлі тады сям'ю Нядзведскіх на смерць. Бацьку неяк удалося спіхнуць

малога Уладзіка з тых страшных саней, і ён застаўся жыць. І пра гэта, наколькі я памятаю, нідзе ніколі ў прысутнасці паэта не прамаўлялася. Ніякай у гэтым загадкавасці няма. Проста ёсць незагойны боль, патрывожыўшы які, можна зрабіць чалавеку яшчэ больш балюча. Вось адкуль тыя маўклівасць і задумлівасць. Хоць многія памятаюць У. Нядзведскага і чалавекам вясёлым, гатовым не толькі да вясёлых слоў, але і ўчынкаў. Прыкладам можа служыць і той камень насупраць будынка міліцыі, які ўзгадвае В. Макарэвіч. Адчуўшы аднойчы ў сабе больш чым Сізіфаву сілу, той камень, які дапякаў вочы ўсяму райцэнтру, дужы юнак не толькі зрушыў з месца, але і прыкаціў яго ў падворак. Той камень падарыў хлопцу верш, з якога і пачалася ўся яго творчасць.

Аўтар кнігі даволі падрабязна спыняецца на дзетдомаўскім дзяцінстве і юнацтве, бо яны досыць вызначальныя ў творчым і жыццёвым станаўленні будучага паэта. Зусім не бегла, а ўдумліва і засяроджана, перачытвае В. Макарэвіч старонкі паэтычных і празаічных кніг У. Нядзведскага, даючы ім сваю не навязлівую, але даволі справядлівую чытацкую ацэнку. Можна было б абмежавацца толькі пераказам нейкіх біяграфічных фактаў ці дэталяў, і яно б чыталася як даволі своеасаблівы і непаўторны твор. Аднак аўтар не забываецца пра тое, што гаворку ён вядзе пра асобу творчую, а асабістае ў дадзеным выпадку лёгка, нават ярка, прачытваецца ў таленавітых радках У. Нядзведскага. Свой, у многім, аналітычны расповед аўтар урэшце падводзіць да наступнага абагульнення: «Творчасць Уладзіслава Нядзведскага ўяўляе сабой адну з жывых старонак летапісу, што ствараўся паэтычнымі радкамі ў меру сваіх сіл і здольнасцей прадстаўнікамі пакалення, дзяцінства якіх прайшло «ў шумным святле парашутнай ракеты», і яны, сіраты і дзетдомаўцы, ішлі ў жыццё, несучы ў сваёй памяці боль і горыч, спавядаючыся па-крынічнаму чыстымі і празрыстымі радкамі паэзіі, адкрывалі перад чытачамі душэўнае і духоўнае багацце, што дасталося ў спадчыну, і тымі падзеямі, сведкамі якіх яны былі».

Большасць з тых, пра каго расказвае ў сваёй кнізе В. Макарэвіч — гэта дзеці вайны, ці тыя, хто нарадзіўся пасля яе, гэта і аднагодкі паэта, з вельмі падобным жыццёвымі дарогамі. Сярод іх Анатоль Сербантовіч, Хведар Чэрня, Уладзімір Карызна, Мікола Маляўка, Мікола Мятліцкі, Алег Салтук. Да іх аўтар падыходзіць з тымі ж самымі патрабаваннямі, як і да творцаў старэйшага пакалення. Паэзія там, дзе яна сапраўды існуе, ніколі не звяртае ўвагі на ўзрост. Для яе важным з’яўляецца хіба што вопыт ды яшчэ талент. Гэтым і кіруецца аўтар у сваім даследчым расповедзе. Дзесьці ён нават адступае ад правіл партрэтнага жанру, заглыбляючыся ў сутнасць паэтычнага майстэрства, аддаючы ўвагу значнасці пэўнай кнігі ці твору. Тады біяграфічнае як бы зусім застаецца не запатрабаваным. Ёсць толькі старонкі біяграфіі. Усхвалявала мяне ў свой час радыёперадача В. Макарэвіча пра майго земляка. таленавітага паэта Міколу Маляўку. Было ў біяграфіях абодвух паэтаў нават сваё падабенства. Абодва пасля школы папрацавалі на лесанарахтоўках Поўначы. Потым, напэўна, усё тое згадвалася ў вясёлых універсітэцкіх калідорах. Абодва вучыліся ў БДУ і жылі ў адным інтэрнаце па вуліцы Свярдлова. У гэтым жа выпадку В. Макарэвіч аддаў перавагу кнізе санетаў М. Маляўкі «Старая зямля», зусім не кранаючыся біяграфіі аўтара. Варта прызнаць, што кніга даволі знакавая і для самога М. Маляўкі, і для ўсёй нашай літаратуры. І гэта, бадай, першае яе грунтоўнае прачытанне. Іншай мэты даследчык, напэўна, і не ставіў перад сабой.

А імя Васіля Гадулькі зусім маладомае ў нашай літаратуры. Адразу смела і непаўторна заявіўшы пра сябе ў паэзіі, ён раптоўна пайшоў з жыцця. Трагічнае і драматычнае, што даволі падкрэслена гучала і паўтаралася ў яго радках, нібыта знайшло сваё жыццёвае пацвярджэнне.

Знаёмячыся з біяграфіямі, што сабраны пад адной вокладкай, наогул заўважаеш, як трагічнае, што здараецца ў самыя мірныя нашы дні, вельмі часта

перагукваецца ў лёсах паэтаў, нібыта тое рэха, якое па многу разоў паўтарае знаёмы нам лес.

Не абышоў сваёй увагай В. Макарэвіч і празаічны цэх нашай літаратуры. На такую ўвагу пашанцавала Уладзіміру Федасеенку і Алесю Дзятлаву. І гэта не выглядае як нейкае выключэнне. Зноў жа гэта асабісты аўтарскі выбар, патрэба сказаць добрае слова на адрас тых, хто гэтага заслугоўвае. Як тут не згадаць даўнія словы славутага Пімена Панчанкі:

> Цаніце чалавека
> Заўсёды пры жыцці.
> Калі заплюшчыць векі —
> Ён згіне ў небыцці.

У чатыры раманы — «Дубовая града», «Віхры на скрыжаваннях», «Пасля смерчу», «Мутныя росы» — укладваецца творчы лёс Уладзіміра Федасеенкі. Яшчэ зусім зялёным падлеткам трапіў будучы пісьменнік у партызанскі атрад, узяў у рукі зброю. І біяграфія яго пачынаецца менавіта з вайны. Першы раман «Дубовая града» падтрымаў у свой час вядомы празаік Аркадзь Чарнышэвіч. Раман у скарочаным выглядзе друкаваўся на старонках газеты «Чырвоная змена». А рыхтаваў яго да друку малады тады супрацоўнік Васіль Макарэвіч. Магчыма, і гэта паўплывала на аўтарскі выбар?

А завяршаецца гэта цікавая кніга артыкулам «Сямейная малітва» пра сямейны, сэрцам з'яднаны саюз двух паэтаў — Соф'і Шах і Ізяслава Катлярова.

Што б яшчэ хацелася дадаць, перагортваючы яе апошнюю старонку. А тое, што кніга гэта патрэбная. Яе з цікавасцю прачытаюць і вучні, і студэнты, і настаўнікі, і самі пісьменнікі. Як усё ж прыемна прайсці шляхамі знаёмых і малазнаёмых табе творцаў, асабліва калі падарожжа гэта цікавае. Аўтар кнігі, здаецца, добра справіўся са сваёй задумай. З мноства жыццёвых фактаў, якія меліся ў яго арсенале, ён выбраў толькі самае істотнае, характэрнае і адметнае. Ён не толькі звяртаўся да твораў агульнавядомых, але дазволіў сабе перачытаць і вершы маловядомыя, якія часта заставаліся як бы незаўважанымі, хоць для кагосьці яны адзначыліся пэўнымі вехамі ў творчай хадзе. Памятаў аўтар і яшчэ адно правіла: паэты ўсе розныя, а таму і падыход павінен быць розным у разглядзе іх творчасці. Прасачыць і данесці да чытача адметнасць і асаблівасць творчага почырку кожнага з творцаў — і такую задачу ставіў перад сабой удумлівы аўтар. І з гэтым, як нам здаецца, ён паспяхова справіўся. Думаецца, дапамагала В. Макарэвічу ў стварэнні яго творчых партрэтаў і тое, што большасць са сваіх герояў ён ведаў асабіста, з многімі нават сябраваў. Ну а ўсё астатняе з ліку асабістых аўтарскіх сакрэтаў. А тое, што некаторыя матэрыялы кнігі нагадваюць эсэ ці нават рэцэнзійныя замалёўкі, зусім не змяншае вартасці кнігі. Напісаны яны з той жа зацікаўленасцю і патрабавальнасцю, як і ўсё астатняе ў кнізе. Астатняе, напэўна, дапіша сам час.

**АД РЭДАКЦЫІ. Незадоўга да падпісання нумара ў друк палымянцы пачулі сумную навіну: аўтар кнігі «Святло імёнаў дарагіх», пастаянны аўтар часопіса Васіль Макарэвіч пайшоў з жыцця... Калектыў рэдакцыі шчыра смуткуе і выказвае спачуванні родным і блізкім пісьменніка.**

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# ДЗЕ ШУКАЦЬ СКАРБЫ?




*Мікола МЯТЛІЦКІ*

**СКАРБ БЯЗДОННЫ**

*Мн., Выдавецкі дом «Звязда», 2016.*

Мабыць, кожны паэт маштабнага мыслення, з тых, хто думае катэгорыямі вечнасці, на пэўным этапе развіцця звяртаецца да глыбінь гісторыі і міфалогіі свайго народа. Зварот гэты заканамерны як пераход ад мікра- да макракосма, як адчуванне сваёй традыцыі часткай традыцыі сусветнай.

Мікола Мятліцкі, паэт глыбока філасофскі, прычым філасофія яго найперш народная, спрадвечна беларуская. Ды апошнім часам гэта ўсё больш канкрэтныя, ясна акрэсленыя тэмы. Узгадаем хаця б яго выдатны верш «Зноў купальская ноч…» Колькі ў ім непрыкрытай, дахрысціянскай праўды:

Зноў купальская ноч  
запаліла агні над ракой.  
Я згадаў,  
          што калісь  
                    нашы продкі  
Часінай такой  
Уступаліся, голыя,  
ноччу ў цёмнае рэчкі ваду  
І рукамі, дзябёлыя,  
          там лавілі дзяўчат, маладух.  
І да самага рання  
          ў прыбярэжнай гушчэчы травы  
Іх таміла каханне,  
          і было не падняць галавы.  
Песня чулася дзесьці.  
          І дзявочы задзірысты ўскрык.  
Нараджаліся дзеці  
          у наступны ужо сакавік.

Сёння на суд чытача прадстаўляецца новая кніга паэта — «Скарб бяздонны». Гэта, па-сутнасці, падрабязны экскурс у даўнюю гісторыю Беларусі. Экскурс не сухі, энцыклапедычны, а па-мастацку пераасэнсаваны, увасоблены ў квяцістых вобразах. Але і дакладных, абсалютна рэальных звестак укласці ў паэтычныя радкі Міколу Мятліцкаму ўдалося багата! Тут і акалічнасці каранацыі Міндоўга, і асада Турава, і заснаванне Навагрудка. Да таго ж, на многія традыцыйныя сюжэты паэт глядзіць па-свойму, падае іх з нечаканых ракурсаў. Напрыклад, гісторыя Рагнеды бачыцца яму найперш гісторыяй няспраўджанага кахання, на

першы план выходзяць падзеі да захопу Уладзімірам Полацка…

Удала пераасэнсоўвае паэт і цалкам міфалагічныя сюжэты. Рамантычна, адухоўлена апісвае ён «раман» вялікай беларускай ракі і яе прытока:

Аж да снежнае парошы —
Чуў над плёсам куст лазовы, —
Як галубіў Нёман Лошу,
Як шаптаў уцехі словы!

Даволі не проста дабіцца гарманічнага паяднання зместу і формы ў творах пра мінуўшчыну. Аўтараў непакоіць магчымасць выдаць фальш, збіцца на шматслоўны пафас. Але Мікола Мятліцкі, добры знаўца і беларускай гісторыі, і сакавітай народнай мовы, знаходзіць сакрэт гэтай гармоніі. Як аб'ёмна гучыць, напрыклад, апісанне змагання чалавека і жывёлы, аркестраванае яўна чутнай алітэрацыяй:

Асядае звер ля дуба,
Гону коціцца віхура.
Са стралой дапяла згуба,
Віхрам князь ляціць да тура.

Папулярызацыя айчыннай гісторыі — вельмі важная і неабходная справа ў сучасным глабалістычным грамадстве. «Скарб бяздонны» можа стаць добрай дапамагай настаўнікам літаратуры і гісторыі, каб паказаць вучням яскравыя вобразы тых асоб, завучванне біяграфій якіх патрабуе школьная праграма. Але і дарослыя, што даўно пераступілі школьны парог, многае згадаюць, а нешта і адкрыюць наноў у мудрых радках кнігі «Скарб бяздонны». Бо яна пра тыя скарбы, што не вымяраюцца грашыма і ўладай. А, значыць, кошту не маюць.

*Этгар КЕРЭТ*

**СЕМ ДОБРЫХ ГАДОЎ**

**Пераклад з іўрыту і англійскай С. Шупы**

*Мн., Логвінаў, 2016.*




Ці шмат мы, заглыбленыя ў маскульт ды стэрэатыпы, ведаем пра сучасны Ізраіль? Чым жывуць, што глядзяць, чытаюць, ядуць яўрэі сёння? Як будуюць адносіны з бацькамі, дзецьмі, каханымі? Як ратуюцца ад вайны, тэрарыстычных пагроз? «Падгледзець у замочную шчыліну» за сапраўдным жыццём цікавага чалавека і пісьменніка Эдгара Керэта запрашае нас перакладчык Сяргей Шупа.

«Сем добрых гадоў» — кніга памежна шчырая, не прычасаная. Сам аўтар, які ўпершыню за дваццаць пяць гадоў пісьменніцкага вопыту публікуе нонфікшн, прызнаецца: «гэтая кніга надае мне як пісьменніку, новую, незнаёмую ролю, у якой я адчуваю сябе аголеным і безабаронным». Сем гадоў для Эдгара Керэта — важны перыяд ад нараджэння сына да смерці бацькі. Але сямейныя гісторыя ўдала ўплятаецца ў кантэкст складанай гісторыі сучаснага Ізраіля, яго становішча ў свеце.

Гумар у кнізе Керэта — своеасаблівы. Той, які псіхолагі называюць абарончай рэакцыяй на стрэс. Але з-за гэтага ён не робіцца прэсным і безгустоўным, наадварот… Ды і як не абараняцца чалавеку, маці якога правяла дзяцінства ў гета, сын якога нараджаецца ў дзень тэракту, а невылечна хвора бацьку ўжо не магчыма выратаваць.

Пры ўсім гэтым — кніга «Сем добрых гадоў» зусім не песімістычная! Яна хутчэй выклікае журботную ўсмешку, чым слёзы. А часам прымушае і смяяцца ўголас! Асабліва, калі аўтар распавядае пра «тактоўнасць» тэлефонных прадаўцоў: «“Рэч у тым, што хвіліну таму я ўпаў у яму, разбіў лоб і вывіхнуў нагу, дык цяпер насамрэч не ідэальны час для размовы”», — тлумачу я. “Разумею, — кажа Дэвора. — А калі, вы думаеце, будзе добра? Праз гадзіну?”».

Пісьменнік не баіцца пашыраць геаграфічныя межы свайго існавання і, адпаведна, межы ўласнай (а, магчыма, і чытацкай?) свядомасці. Этгар Керэт часта вандруе па свеце, прадстаўляючы ўласную творчасць ды літаратуру сучаснага Ізраіля на літаратурных фестывалях і кірмашах. Нават у тых краінах, дзе пра гэта не вельмі хацелі б пачуць… А яшчэ ён пакутліва шукае карані, аднаўляючы ўспаміны сваёй сям’і праз уласныя зрокавыя асацыяцыі. Разглядаючы здымак, зроблены ў Варшаве, Керэт рэфлексуе: «Калі б я мог ажывіць майго двайніка на фотцы, ён бы выйшаў з кадра і, напэўна, знайшоў бы дом, у якім нарадзілася мая маці. Калі б яму хапіла смеласці, ён мо нават пастукаў бы ў дзверы. І невядома — хто б яму адчыніў: бабуля ці дзед, якіх я зусім не ведаў, а можа, нават усмешлівая дзяўчынка, якая яшчэ не ўяўляе той жахлівай будучыні, што яе чакае».

Этгар Керэт — дасціпны, самакрытычны, незласлівы, мае, аднак, выразна акрэсленую сацыяльную, грамадзянскую пазіцыю. Ён за сапраўдную барацьбу замест «тых вычарпальных гадоў інтыфады, калі няма ні чорнага, ні белага, а ёсць толькі шэрае». Ён супраць гвалту, але за справядлівасць. А яшчэ — зычыць усім нам быць крыху «прасветленымі», як яго маленькі сын Лев. Не трымаць у сэрцы злосці, не баяцца будучыні, быць свабоднымі ад уласнага эга…

Трапная беларуская мова ў перакладзе Сяргея Шупы ўдала набліжае нас да вялікіх і маленькіх праблем далёкага Ізраіля. Шчырасць, права быць слабым, магчымасць заставацца мужным, пачуццё і абавязак — пра ўсё гэта ў цікавай кнізе чалавека, які ўведаў, на што ён здольны.




*Змітрок БЯДУЛЯ*

**БЛІНОЧАК З НЕБА**
**Уклад. А. Спрынчан**

*Мн., Мастацкая літаратура, 2016.*

Казкі Андэрсена, Перо, братоў Грым… Неўміручая класіка дзіцячай (і не зусім дзіцячай) літаратуры. Адпаведныя кнігі знойдуцца ў шафах многіх сем’яў, перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Але і перавыдаюцца часта, бо попыт ёсць. І хто пасля гэтага скажа, што класіка не актуальная?

Але разам з класікай сусветнай добра збіраць у сямейную бібліятэку і класіку айчынную. Багата цікавага, арыгінальнага і, часам, недаравальна забытага напісана ў нас для дзяцей. Крыўдна, што многія не ведаюць цудоўныя казкі Змітрака Бядулі. Каларытныя,

з выдатна распрацаваным сюжэтам, якія ў многім апераджалі стан развіцця беларускай літаратуры першай трэці мінулага стагоддзя!

Прыгожае выданне «Бліночак з неба» прадстаўляе розныя казкі Самуіла Плаўніка: празаічныя, вершаваныя, з традыцыйным сюжэтам і наватарскія, сімвалічныя… Казка, што дала назву зборніку, павучальная, філасофская. Але напісаная мовай, даступнай для дзяцей, простай. А колькі мудрасці за той прастатой: «… калі плача каралеўская дачка, дык гэта не жарты. Кожная слёзка яе можа затапіць, загубіць сотні людзей»! Нельга жадаць шчасця толькі сабе — сонца свеціць усім!

Тэма Арфэя з народа, самотнага пастушка — таксама добра зразумелая і любімая многімі. Прытым у казцы «Музыка» яскрава праяўляецца талент Бядулі-імпрэсіяніста, выдатнага майстра пейзажу: «З-пад аксамітнай і пурпуровай хмаркі ўзышло яно гарачае і бліскучае. Узышло ды ўсміхнулася. Усміхнулася ды яшчэ вышэй паднялося і абсыпала сваімі праменнямі зялёны ўзгорак, дзе стаяў пастушок. Пастушок выглядаў не то сярэбраным, не то залатым. Праменні красавалі, як агнёвыя васількі, на яго галаве. Праменні пырскалі яму ў твар дыяментавымі снапамі. Праменні сыпаліся бліскучымі іскрамі, каляровым макам з яго вачэй. Здавалася, што ў пастушковых вачах драбнюткія хохлікі крэсяць агонь беспярастанку».

З гумарам, захапляльна піша Змітрок Бядуля і пра беларускага Мурамца, Івана-прасцячка, і пра Саўку-шукальніка скарбаў… Добра запамінаюцца вобразныя радкі вершаванай «Мурашкі Палашкі»…

Асобна трэба казаць пра фантастычную аповесць-казку «Сярэбраная табакерка». Без аніякага перабольшання менавіта яе можна назваць адным з вяршынных твораў усёй творчай спадчыны Змітрака Бядулі. З фантастычным, сімвалісцкім сюжэтам, глыбокай распрацоўкай адвечных пытанняў жыцця і смерці, дабра і зла, жывымі і пазнавальнымі партрэтамі галоўных герояў, яна ў многім пераўзыходзіць нават біяграфічную аповесць пісьменніка «У дрымучых лясах». Маштабнасцю падзей, народным каларытам «Сярэбраная табакерка» нагадвае «Шляхціца Завальню» Яна Баршчэўскага… Мастацкі свет яе развіваецца па сваіх законах, заселены напаўрэальнымі, напаўказачнымі персанажамі, існуе ў некалькіх вымярэннях адначасова. Прашчур сям’і, Дзіда-дзед, здольны схаваць смерць у табакерцы. Зайцы (як сямейная мянушка ці амаль што татэмныя звяры роду) жывуць як людзі: гатуюць ежу, апранаюцца, нюхаюць тытунь… А колькі зноў-такі падтэкставых сэнсаў прыхавана ў казачнай плыні аповеду: «…паколькі цяпер людзі будуць вечна жыць, заблытаны ўвесь кодэкс законаў і выпаў зусім пункт аб кары смерцю. Крымінальных і іншых злаўчынцаў будзе менш, дык юрыстам застанецца адна толькі праца — пасвіць камароў на балоце»! Аповесць «Сярэбраная табакерка» па-рознаму ўспрымаецца дзецьмі і дарослымі. Першыя будуць захоплены пакручастым сюжэтам, знойдуць сяброў сярод маляўнічай галерэі персанажаў, дарослыя ж здзівяцца глыбінёй думкі і сур’ёзнасцю тэм, што так арганічна ўпісаныя ў казачныя калізіі…

Верыцца, што кніга «Бліночак з неба» будзе таксама зачытана «да дзірак», як і тамы сусветнай дзіцячай класікі. Дарэчы, чым Бядуля — не сусветная класіка? Магчыма, яго кніга казак распачне традыцыю чытання беларускіх казак і ў вашай сям’і?

АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэл.: галоўнага рэдактара — 263-80-12,
намесніка галоўнага рэдактара — 319-79-85,
аддзелаў прозы,
крытыкі і літаратуразнаўства — 224-66-74,
аддзела паэзіі — 263-80-12.
polymya@bk.ru

*Падпісныя індэксы:*

*00471 — індывідуальны льготны*
*для настаўнікаў*

*74985 — індывідуальны*

*749852 — ведамасны*

*00727 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 9 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка
*С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар
*М. М. ГІЛЕВІЧ*

Падпісана да друку 14.06.2017 г. Фармат 70×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,4. Ул.-выд. арк. 15,62. Тыраж 1457 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

*Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь*
*для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках (літаратуразнаўства)*